


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**7** (1053)

ЛІПЕНЬ

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2017

## *ЗМЕСТ*

*ПАЭЗІЯ І ПРОЗА*

3 **Уладзімір СЦЯПАН.** Малькі. *Запісы.*
16 **Георгій КІСЯЛЁЎ.** Узіраюся ў начную Беларусь… *Вершы. Пераклад з рускай Міколы Мятліцкага.*
22 **Зоя ПАДЛІПСКАЯ.** Маналог у паўстагоддзя... *Раман-споведзь.*
72 **Таццяна БУДОВІЧ-БАРАДУЛЯ.** Апавяданні.
78 **Сяргей ДАВІДОВІЧ.** Якімі мы былі з народзін? *Вершы.*
84 **Анатоль РАЗАНОВІЧ.** Чаканне жанчыны. *Апавяданне.*
100 **Тамара МАЗУР.** Лецішча. *Вершы.*

*ГАЛАСЫ СВЕТУ*

104 **Руста БАХТАРЫ, Джаліль ВАДЖДЗІ, Мухамад Азам Рахнавард ЗАР'ЯБ, Саід Іхсанула ХЭЙР.** *Афганскія апавяданні. З пушту. Пераклад Ірыны Качатковай.*

*НАВУКОВЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ*

119 **Юлія АЛЕЙЧАНКА.** Савецкія паэмы Янкі Купалы: метр і сэнс.
126 **Нурыех ГАРБАНІ ЭБРАХІМІ.** На шляху да свайго Узвышша: дзейнасць іранскага літаратурна-мастацкага часопіса «Бахара» ў новай культурнай сітуацыі.

*КРЫТЫКА І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА*

134 **Зінаіда ДРАЗДОВА.** Душа беларуса ў гутарках і вершах Уладзіслава Сыракомлі.

*ДЗЕНЬ ПІСЬМЕНСТВА*

139 **Зіновій ПРЫГОДЗІЧ.** Крыніцы Прыдзвіння. *Пачатак.*

*НАШ КРАЙ*

156 **Вера МІЦКЕВІЧ.** Мястэчка Новы Свержань: да каго завітвалі ў госці Якуб Колас і Янка Купала.

*КНІГАРНЯ*

161 **Мікола БЕРЛЕЖ.** Уводзіны ў вялікую тэму.
163 **Мікола ТРУС.** Славацкі падарунак.
165 **Арцём ЛАГОДА.** Як Скарына падказаў… казацкую рэспубліку.
168 **Юлія АЛЕЙЧАНКА.** Словы і ружы.

*ХРАНАТОП*

171 **Анатоль РУБЛЁЎ.** Характар.

**Уладзімір СЦЯПАН**



# МАЛЬКІ

*Запісы*

### Гадзіннік

Гэты ўспамін выглядае нейкім архаічным, амаль стогадовым, але гэта ўсё было са мной.

Мяне, малога, раз на месяц, выпраўлялі пасвіць кароў. Я за імі бегаў, пугай ляскаў, пераймаў, не пускаў у шкоду і гэтак далей. Статак трэба было прыгнаць у вёску ў дзевяць гадзін, а гадзінніка ў мяне не было. І дзед навучыў мераць крокамі ўласны цень. Ён казаў: «Калі будзе твой цень пяць крокаў, дык і гані кароў дамоў, а калі чатыры, то няхай яшчэ ходзяць». Вось такі ў мяне быў гадзіннік. Адно кепска, што працаваў ён толькі тады, калі свяціла сонца.

Калі ў мяне на руцэ з’явіўся ўласны гадзіннік, то кароў у вёсцы не стала...

### Маляўка

Бывае, зойдзеш у раку, і стаіш нерухома. Глядзіш у чыстую ваду на слупкі каламуці, на паўпразрыстых малькоў, якія тыцкаюцца ледзь чутна ў белыя ногі. Хуткія цені на пяску разглядаеш, ці мігатлівы бляск дробненькіх рыбак поглядам ловіш, ці вывучаеш зялёную травінку, якая трапечацца, выгінаецца, але застаецца прыкутай да свайго месца. Потым пачынаеш спрабаваць злавіць хоць адну паўпразрыстую рыбінку. Апускаеш далоні, складаеш іх і чакаеш. Робіш гэта так, быццам у гэтым дзеянні вялікі сэнс. Нарэшце малькі з’яўляюцца з ніадкуль, спыняюцца па-над далонямі. Раз! Падымаеш далоні, поўныя вады, а рыбінкі няма... І яшчэ некалькі спроб. Пачынаеш злавацца на малькоў, на сябе няўмеку, на аблачыну, што схавала сонца і зрабіла нябачнымі малюсенькіх рыбак. А потым зловіш і нясеш хутчэй на бераг. Вада цячэ з рук, між пальцаў цячэ…

«Злавіў рыбку, глядзі!» — гаворыш незнаёмым голасам і пачынаеш спяшацца.

---

*__Сцяпан Уладзімір (Сцепаненка Уладзімір Аляксандравіч)__ нарадзіўся 22 студзеня 1958 года ў гарадскім пасёлку Касцюкоўка на Гомельшчыне. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя А. К. Глебава (1977) і Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (1983). Служыў у войску. Працаваў мастаком, рэдактарам на тэлебачанні, займаўся кніжнай графікай.*

*Аўтар кніг прозы «Вежа» (1990), «Сам-насам» (1990), «Адна капейка» (2012). Піша таксама вершы, п’есы, сцэнарыі дакументальных і мастацкіх фільмаў.*

Бацька падымецца з травы, падыдзе. Убачыць, што ў ракаўцы далоняў няма вады, а рыбінка, меншая за семку, ляжыць нерухома. І папросіць, каб ты занёс яе, каб вярнуў у раку. Ідзеш. Апускаеш і сочыш. Плынь сцягвае, змывае, забірае рыбінку з далоні. Вось яна варухнулася, перакулілася, выраўнялася, і рака панесла яе па-над пяском, каменьчыкамі і травой…

Успамін ні пра што… Пра нейкіх малькоў, нават пра таго адзінага — злоўленага. Але памяць яго захоўвае, быццам ён каштоўны і важны. А якая ў ім важнасць, якая каштоўнасць? Гэтага, як ні намагайся, а так ніколі і не зразумееш… Час ад часу гэты кароценькі ўспамін будзе ўзнікаць з ніадкуль і тыцкацца, як тыя маляўкі. А сэрца пачне сціскацца.

## Песня

Мой бацька спяваў кепска. Але на добрым падпітку мог прагаварыць два куплеты з песні на словы Ніла Гілевіча «Вы шуміце, бярозы...» Бо такі ж гасцінец з бярозамі вёў ад лесу праз поле да нашай вёскі. Праўда, дарога ішла побач, а на месцы таго самага панскага гасцінца была толькі сцежка, па якой мы з ім любілі хадзіць. Старыя бярозы шумелі. Пад імі, у траве, па восені, трапляліся баравікі і падбярозавікі. Бацька іх збіраў у кепку і шчасліва ўсміхаўся кожнаму грыбу.

Ён глядзеў на грыбы і мармытаў: «Вы шуміце, шуміце нада мною, бярозы...»

Учора я пазнаёміўся з Эдурдам Ханком. Мы сядзелі ў буфеце філармоніі і пазіравалі фатографу. Пра знакамітую песню не гаварылі.

## Дзед

Дзеду ішоў дзевяноста другі. Ад хаты ён далёка не адыходзіў. То ў двары трэскі зграбе, то падмяце, то паляжыць трохі на сваім ложку побач з печчу, то дроў прынясе. Мы з бацькам падаліся ў лес, хоць вяскоўцы казалі, што грыбоў няма. Абышлі ўсе свае месцы, але грыбоў не было. Можа, з паўдзясятка прынеслі, на дне кошыка.

Дзед паглядзеў і скрушна так сказаў: «Каб я мог да лесу дайсці, дык набраў бы… Але ж не дайду…» Мы з бацькам крыху пакрыўдзіліся і сабраліся пачаць расказваць, дзе шукалі баравікі. Дзед узяў кіёк, паклікаў мяне за сабой. Завёў на агарод, на мяжу, дзе раслі слівы і куст ляшчыны. Там развёў кійком траву. Пад малодой слівай сядзела чатыры ладныя баравікі.

## Баба

Я палуднаваў. Баба глядзела на мяне. «А я вось прачнуся, бывае, ляжу і думаю, што і таго хачу і гэтага… А нагатую, лыжку з’ем і сяджу… Думаю, а навошта я ўсё гэта рабіла… А ты мяне старую не слухай, закусвай!»

## Прыгажуня

«У гэтай жыццё не склалася... І ў гэтай развалілася... А гэтая бландзінка выглядае сёння, як старая... А Каця мінулай восенню памерла... — Указальны палец павольна сунуўся па слізкім чорна-белым фотаздымку і спыніўся. — Але ў іх, ва ўсіх, ёсць дзеці».

## Пра любоў

У чужым лесе мне і грыбы збіраць нецікава. Ходзіш, глядзіш вакол і нічога не ведаеш. Нават, калі і трапляюцца баравікі, то вялікай радасці няма. Іншая справа — хадзіць па сваім лесе, дзе кожнае дрэва ведаеш, кожная лагчынка і сцежка — сяброўкі. Нават пні — старыя знаёмыя. І за кожным месцам — свая гісторыя. Тут гадзюка з-пад босых ног слізганула пад куст. Тут вавёрку-дурніцу шапкай да сасны прыціснуў. Гэтае месца бацька паказаў, а вось тое, за канавай, сам знайшоў гадоў пяцьдзясят назад. І кожны раз тут мяне парачка баравікоў чакае… А за гэтым пагоркам сачылі з дзедам за сівагракам. Вы хоць ведаеце такую птушку?

Я разумею людзей, якія адпачываць ездзяць у адно і тое ж месца… З году ў год. І там ім цікава і добра. Так добра, як мне ў сваім лесе, ці на сваёй рэчцы, дзе кожную закабаліну ведаю, кожную купку чаратовую, кожны гарлачык і лілею. І не толькі тое, што ў вадзе, але і берагі ўсе знаёмыя. Вось два дні таму ўбачыў мёртвую варону. Ляжала ў аеры і смярдзела, а сёння адно жменька чорных пёраў. А праз пару дзён і іх не будзе. Знікнуць і следу не пакінуць… А я пра тую варону буду памятаць, колькі буду ўздоўж рэчкі хадзіць. Нават, калі плыць стану ў сваёй надзіманцы, дык пра варону згадаю.

Так доўга па лесе і каля рэчкі хадзіў, вам невядомых, каб толькі сказаць, як і чаму люблю свой Менск.

## Размова

Аднойчы, у доўгі восеньскі дождж, калі ў лес не пойдзеш, сядзелі з бацькам у дзедавай хаце і палілі грубку. Я еў яблыкі і курыў у грубку. Бацька расказаў, як у 50-я гады абклалі падаткамі дрэвы: яблыні, грушы. Суседзі пачалі высякаць сады, каб падаткі не плаціць, а дзед, наадварот, пасадзіў пяць яблынь. І сваякі, і суседзі казалі дзеду, што гэта — глупства, калі яшчэ тыя яблыкі будуць, а грошы давядзецца плаціць і плаціць. Дзед маўчаў, адмахваўся, не стрымаўся і сказаў, што садзіць і даглядаць яблыні — глупствам не можа быць. Думалі пра дзеда, што ён здурнеў, нораў паказвае, бо ўсім насуперак робіць.

«Вось ты ясі штрыфель... Смачны?! Гэта з той самай яблыні, што твой дзед тады пасадзіў...» — сказаў бацька і пайшоў у сенцы паглядзець на неба.

Яму, як дзіцяці, хацелася ў грыбы. Але дождж ліў і ліў.

## Кветкі

Сёння ішоў па веснавым праспекце. Людзі насустрач, побач, за мной, паперадзе, вакол. Ідуць, стаяць, чакаюць, размаўляюць, едуць…

…хусткі розныя, пальчаткі, шалікі, сукенкі, кофты, чаравікі, каралі, цукеркі, духі — дарыў маме.

І ні разу, ніколі, за ўсё жыццё — не прынёс ёй кветак…

Аднойчы прыехаў дамоў зімой, а яна курыцу замерзлую з балкона прынесла, каб згатаваць. Стаіць побач з рукамыйнікам, задумалася. Курыца тая вісіць уніз галавой, мама яе за лапы трымае, а лапы тыя з кіпцямі з яе рук тырчаць. Я кажу: «Ма, курыныя лапы, як кветкі!» «Скажаш, якія ж гэта кветкі… Адрэжу і выкіну», — адказала мама, а на жоўтыя лапы паглядзела, як на кветкі.

## Слова

Па маім гэпэ ездзілі гадоў пяцьдзясят таму вельмі каларытныя дзядзькі — Віктар і Юзік. Ездзілі яны на конях, з вясны да позняй восені. Коні былі запрэжаныя ў калёсы. На тых калёсах стаялі скрыні з розным багаццем: свістулькі, батарэйкі, маленькія лямпачкі для ліхтарыкаў, кручкі для рыбалкі, грабеньчыкі, сшыткі, алоўкі, накрыўкі на слоікі і гэтак далей. Усю гэтую драбязу можна было памяняць на старыя анучы.

Звалі Віктара з Юзікам — *каравачнікамі*, бо збіралі яны карэлае рыззё.

У аднаго каравачніка конь быў чорны, а дуга чырвоная. У другога конь белы, а дуга блакітная. Такімі ж колерамі былі пафарбаваныя і скрыні з таварам. У каго якім, не памятаю, бо быў я тады малым.

Бег па лесвіцы дамоў і крычаў: «Каравачнік, каравачнік, чуеш, мама!»

А мама пытала: «Юзік, ці Віктар?»

## Карась

Ішоў дождж, і каравачнік Юзік сядзеў на калёсах, на скрыні. Конь, калёсы і Юзік у чорным цыратавым капелюшы і цёмным брызентавым плашчы хаваліся пад каштанам. Віцька Руды, мой аднакласнік, прыбег да сваёй бабы Евы, нешта ёй сказаў, а калі выходзіў, то зняў з цвіка ў калідоры камуналкі бабіну куфайку. З ёй прыбег да Юзіка і памяняў на дванаццаць маленькіх кручкоў. Не на «заглотышы», бо іх у Юзіка тым разам не было, але на крышку большыя. Яшчэ бабінай куфайкі хапіла і на чырвонага цукровага пеўніка на палачцы. Кручкі Віцька атрымаў загорнутымі ў крафтавую паперу. Адзін адразу закалоў пад каўнер кашулі, астатнія схаваў у кішэню. Віцька быў шчаслівы, хоць і змок трохі, пакуль праводзіў абмен. Я зайздросціў аднакласніку, бо пеўніка ён смактаў доўга. Кручкі Віцька згубіў на будоўлі. Калі прыйшоў дамоў, то Баба Ева плакала па сваёй куфайцы. Бацька насварыўся на сына і добра надраў вушы.

Куфайку вярнуць не атрымалася, бо Юзік даўно з’ехаў.

Але той адзіны кручок, які Віцька закалоў у каўнер, аказаўся шчаслівым. Праз некалькі дзён на Гаўнянцы Віцька злавіў на яго здаравеннага карася. Прыкладна такога, як ягоная кепка.

Было гэта напрыканцы траўня, у 1967 годзе.

## Мова

Ішлі з жонкай у мастацкі музей праз пераход, які побач з ГУМам. Там бывае музыкі розныя граюць, жабракі жабруюць, жанчыны букеты чэзлыя прапануюць купіць каханым.

Карацей, ведаеце, бачылі, чулі...

Але сёння там стаяў мужчына і гучна паўтараў: «Каму паслугі рэпетытара англійскай мовы! Рэпетытара! Рэпетытара англійскай мовы!»

## Толік Казёл

Шмат разоў чытаў-чуў, што нехта, недзе, школьны настаўнік, бухгалтар, доктар, інжынер, прафесар, пастух авечак — ведае на памяць усяго «Яўгенія Анегіна». Ведае і лёгка можа прачытаць з любога месца. Чытаў, чуў, але на свае вочы такога чалавека не бачыў.

А вось салдат Толік Казёл мог прачытаць «Новую зямлю» Якуба Коласа, а следам «Курган» і «Бандароўну». Мы з Толікам у адной роце служылі. Голас у яго быў глухаваты, месцамі ён збіваўся, прасіў дазволу вады глынуць ці

перакурыць, а потым чытаў далей. Калі які салдат выходзіў з казармы ў прыбіральню і бачыў нас у калідоры, «на тумбачцы», то на момант прыпыняўся, слухаў, чухаў бок, ці спіну і сыходзіў.

Ноч. Масква. Толік Казёл чытае і чытае «Новую зямлю».

О, як бы я хацеў спачатку
Дарогу жыцця па парадку
Прайсці яшчэ раз, азірнуцца,
Сабраць з дарог каменні тыя,
Што губяць сілы маладыя, —
К вясне б маёй хацеў вярнуцца…

## Чорны колер

Два разы ў войску давялося пісаць на чорных жалобных стужках. Раз белай фарбай, а другі — залатой... Я прыбіваў тую стужку на доўгім стале маленькімі цвічкамі, а потым выводзіў пэндзлікам акуратныя літары. Курыў і пісаў. Хлопцаў, якія загінулі на пажарах, я не ведаў.

## Дзённік

На чыстай палове дзедавай хаты, пад акном, месціўся чорны куфар. Ён быў цяжкі, не падняць, не скрануць. У ім — бабіна багацце: сувоі белага ды шэрага льнянога палатна, спадніцы, кашулі, рушнікі розныя, фіранкі белаблакітныя, як сакавіцкі снег, хусткі, новая сіняя кофта, хвартухі… А збоку, у маленькай загарадцы, — клубкі ды шпулькі нітак, іголкі, шыла, напарсткі, зашчапкі і вялікі клубок рознакаляровых матузоў. Яшчэ там былі лекі — у скрыначках і бутэлечках, яны стаялі асобна.

Самым цікавым, але гэта я сёння разумею, у тым куфры быў адваротны бок цяжкога века. Там, жоўтыя дошкі пакрывала павута надпісаў, зробленых звычайным алоўкам, хімічным, каляровым сінім, а дзе-нідзе — вугалем. Гэта — дзедаў дзённік. Усе тыя кароткія надпісы з датамі тычыліся жыцця. «Апарос. Кнур. Злучка. Ацёл. Пасеяў жыта. Пасадзілі бульбу. Паганялі бульбу. Зжалі жыта. Купіў парася. Прадаў парасят. Пасадзіў дзве яблыні наліў і штрыфель…» Запісы тыя вяліся з сорак шостага года па семдзесят восьмы.

«Слухай, дзед, вось табе сшытак…» — прапанаваў і даў дзеду альбомчык для малявання. «Сшытак можа згубіцца і не знойдзеш. Скрасці яго можна… А бабін куфар, як стаяў, так і будзе стаяць. Хто яго возьме?» — дзед паклаў руку на чорнае века.

Шкадую, што не перапісаў, не перамаляваў, не сфатаграфаў усе тыя надпісы, якія накладаліся адзін на адзін, змяняліся, а некаторыя і прападалі, выцертыя дзедавай рукой…

## Сюжэт

Прагульваюся побач з музеем Янкі Купалы...

Позна, толькі адно акно гарыць. Там вартаўнік. Мне цікава пра яго думаць. Уяўляць, як ён там сядзіць, ці з пакоя ў пакой пойдзе, ці на другі паверх... Кніжку можа ўзяць і пагартаць, тую, што сам Купала ў руках трымаў, на крэсле старым пасядзець. А яшчэ, і гэта мне прыемна ўяўляць і прыдумляць, як вартаўнік піша ў вялікім сшытку, крыху высалапіўшы язык. А піша ён розныя гісторыі пра беларускіх пісьменнікаў, якія яму расказваюць прывіды. Павінны ж у музеі быць прывіды нашых пісьменнікаў. Яны прыходзяць да Янкі Купалы і да яго жонкі пагаварыць… Прыходзяць з вуліцы, у дзверы ціха грукаюць.

Аднойчы абяцаўся зайсці Валера Маракоў. Вартаўнік пачуў нядужы грукат, дзверы адчыніў, а там злодзеі. Самыя сапраўдныя. Забілі яны вартаўніка. А раніцай побач з музеем стаялі міліцэйскія машыны… Музей у той дзень не працаваў. Сшытак агульны, старонкі густа спісаныя рукой вартаўніка, трапіў у «Нашу Ніву», дзе й быў часткова надрукаваны...

Вось пра гэта, бывае, і думаю, калі гуляю па вечарах у парку, калі гляджу на адно жоўтае музейнае акно праваруч ад дзвярэй.

## Запіс

Ішоў праз адліжны парк. Падумаў, што зіма апускаецца на зямлю, а вясна падымаецца ад зямлі... Далей пра гэта думаць не захацеў, бо заўважыў лыжнікаў. Але гэта аказаліся аматары скандынаўскай хадзьбы.

## Вясна

На беразе Свіслачы сусед з унукам спрабуюць карміць качак.

«Не трэба ім наш хлеб...» — кажа сусед.

«А чаму?»

«Вясна...» — мужчына адварочваецца, каб закурыць.

Хлопчык працягвае крышыць батон.

## Будзённае

Сёння раніцай ледзь здолеў увайсці ў метро на «Кастрычніцкай» — так цяжка паварочваліся шкляныя дзверы. Купляю жэтон, гляджу, дзядок, сухі, як трэска, штурхае дзверы, прыціскаецца да іх, а яны не паварочваюцца. Вярнуўся, дапамог. Дзядок агледзеўся і кажа: «А куды гэта я трапіў... Мне сюды не трэба. Мне на аўтобус...»

## Сапраўдны час

Вечар. Апошні пакупнік замаўляе пляшку гарэлкі і выбірае гатунак цыгарэт. Прадавачка прыспешвае, кажа, што праз тры мінуты зачыняюцца. Мужчына просіць «Ротманс» і падае картку. Гучыць пяць пікаў. Праз паўмінуты прадавачка кажа: «На вашай картачцы не хватает срэдств».

А пакупнік бутэльку ў кішэнь схаваў.

Прадавачка чырванее і кажа: «Заўтра можаце прынесці грошы?»

«Так, так... Заўтра змагу. З мяне шакаладка!»

Вечар. Аптэка побач з «Цэнтральным». Да закрыцця тры мінуты. Малады чалавек набывае лекі. Радуецца, што ў гэтай аптэцы яны ёсць. Падае картку. Пяць пікаў. На картцы не хапае сродкаў.

Маладзён разгублены. Аптэкарка пачынае забіраць лекі, а ён трымае кардонку з ампуламі і кажа: «У яе трыццаць дзевяць... дзевяць...»

«Багі глядзяць на нас і забаўляюцца», — чытаў некалі ў кніжцы.

## Карл Гальдоні

Позні вечар. Мароз. Са знаёмым акцёрам у цёмным парку гаворым пра Карла Гальдоні і яго знакамітыя п’есы. Ён сыпле ў кармушкі семкі і кажа, выдыхвае пару: «Гальдоні ставілі і будуць ставіць, а вось птушкі, птушкі... Добра, калі да вясны дажывуць...» Я прытрымліваю кармушку, зробленую з пластыкавай бутэлькі, каб не гайдалася.

## Капейка

Учора ў «Цэнтральным» у чарзе да касы, у жанчыны выпала адна капейка. Жанчына махнула на яе рукой, падымаць не стала. І ўсе, хто стаяў у чарзе, не паднялі. Капейка засталася ляжаць. А я падняў...

Я — беларус.

## Два малюнкі

За Жлобінам свет за акном цягніка змяніўся непазнавальна. За лясамі палі, за палямі лясы і снягі-снягі… Паміж лясамі, на поле выскачыў лось. Вялізны, з шырокімі рагамі. Ён бег па глыбокім снезе, узбіваў яго, правальваўся. Потым за ім выскачылі чатыры сабакі. Лось бег і не азіраўся… Падумаў, што і сто і дзвесце гадоў таму, вось так, як сёння раніцай, гналі сабакі сваю здабычу, а за імі ляцелі вершнікі. Па белым полі, па глыбокім снезе… Вершнікаў я не ўбачыў, але пра іх падумаў. Цягнік імчаў хутка, а выразная карцінка засталася адно ў маёй памяці, адбілася на сятчатцы вачэй.

Бліжэй да Буда-Кашалёўскай, паміж цёмнымі лясамі, у полі стаяў хутар, па самыя вокны засыпаны снегам. У шэра-сінім ранішнім змроку ён глядзеў на свет адным акном — яркім, цёпла-залатым… Адзінае цёплае ў халодным свеце. Я падумаў пра людзей, якія там, у маленькім доме пад цёмнымі дрэвамі. Падумаў, што яны глядзяць на цягнікі, якія праносяцца на краі поля і прападаюць за лясамі. Тыя людзі не ведаюць мяне, не здагадваюцца, што я пра іх думаю. Так было да майго нараджэння, да нараджэння маіх бацькоў, сто гадоў, а можа, і трохі больш.

Лось, сабакі, паляванне і хутар замецены па самыя вокны…

За лясамі палі, за палямі лясы і снягі-снягі-снягі.

## Дома

Думаў хутка засну. Дома, у мамы, на вялікай падушцы — роднай і любімай. Засну і ўбачу дзіцячы сон. Але не атрымалася. Круціўся-варочаўся... Падушка здавалася цвёрдай і мулкай. І не дапамаглі родныя сцены.

## Мама

З вагона званю маме... Пытаю, што яна робіць. «Паплакала трохі, памалілася, посуд памыла, а цяпер сініц пакармлю... Каб ты толькі бачыў, колькі ж іх прыляцела».

## Агонь

Пакуль быў жывы бацька — нажы дома былі, як агонь, вострыя. Прыязджаю да мамы, і яна заўсёды просіць: «А нагайстры, сынок, усе нашы нажы». Нагайстрыў. Цяпер баюся, каб мама пальцы не парэзала.

Нажы сточаныя, старыя. Да болю родныя нажы...

## Маладосць

Я ішоў у «Цэнтральны», і снег ішоў. На плошчы, побач з «нулём», стаяў маладзён з кветкай. Праз паўгадзіны я вяртаўся, а ён усё стаяў. Яго шчокі былі ружавейшыя, чым ружа ў руках, а вочы сумныя. «Шчаслівы», — падумаў я.

## Пара

Згубіш пальчаткі — расстройства. Потым адну знойдзеш, але радасці ад той знаходкі вельмі мала, а павінна быць, як мінімум, палова.

Страціш зрок — бяда-гора. Потым адно вока падлечаць. Радасць неверагодная — быццам на свет нарадзіўся…

## Двор

Стаяў і глядзеў. Двор. Вішня — галлё тонкае і гнуткае, як мокрыя чорна-чырвоныя валасы. Пад вішняй нешта ўмерзлае ў лёд старанна выдзёўбвае дробная сінічка. Яна занятая сваёй справай, яна галодная, стараецца, спяшаецца. Да вішні ад трансфарматарнай будкі асцярожна ідзе шэры кот. Ён амаль сцелецца, прыціскаецца да зямлі. Вось ён дайшоў да тонкіх, як тушшу намяваных галінак вішні… Можна крыкнуць, тупнуць, свіснуць… Але я стаю і гляджу і не жадаю парушаць парадак падзей.

Сінічка, кот, вішня, двор…

## Запіс

Ідзе ад аўтобуснага прыпынку Рая. Паперадзе бяжыць невялікі чорны цуцык па мянушцы Калмык. Насустрач, рукі за спінаю, Данілаўна. Цуцык Калмык пачынае брахаць на Данілаўну. Старая крычыць: «Рая, што гэта ён на мяне брэша, хіба здурнеў!»

«Добры сабака і на Бога брэша!» — адказвае Рая…

## Апельсінка

Мама ўспомніла зіму 1962...

«Мы тады на Акцябарскай жылі. Табе гады тры, а можа, чатыры — малы яшчэ. І дужа ж ты той зімой захварэў. Думала, што пакладуць у бальніцу. Пайшла я да Любы, да хроснай тваёй, а яе суседка Аня толькі што з Масквы вярнулася. Дала мне тая Аня апельсін. Я прыбегла дамоў. Спачатку ты з ім гуляў, а потым я аблупіла той вялікі апельсін. Ты яго з’еў і паправіўся. Тэмпература прайшла, кашаль… Зусім здаровы. На другі дзень я да Ані, каб падзякаваць, а яна яшчэ дзве апельсінкі дала… А мне так няёмка, яна ж за імі ў Маскву ездзіла…» — расказвала мама, калі глядзела, як я рэжу лімон.

## Лета

*Запіс у сшытку 2005 года.*

Сядзяць пад плотам на лаве старыя Антуніна з Данілаўнай і гамоняць. Я прыпыніўся, слухаю. «Ты бачыла, гэтыя маладыя хутка ўсе добрыя месцы на могілках пазаймаюць-пабяруць, каля дарогі і не легчы будзе… А на пагарок жа і лезці не хочацца, ветрана там і гола…» — сярдзіта кажа Данілаўна.

«Дык, а чаго ты тут расселася, Данілаўна, не зявай, хутчэй займай!» — трохі злосна адказвае Антуніна.…

## Халодная вада

*Запіс у сшытку, зроблены ў кастрычніку 2005 года.*

Ішоў мне адзінаццаты год. Лета. Вёска. Налётаўся з хлопцамі, нагойсаўся, забег у свой двор. Дзед складае дровы. Я да калодзежа. Там вядро, як вока, поўнае. Нагнуўся і п’ю халодную ваду. Дзед кажа: «Нагбом не пі — карэц

вазьмі!» А я яму адказваю сур'ёзна: «Нічога, дзед, мы людзі рускія — нам і так добра!» Дзед з абярэмкам пасечанага галля на руках спыніўся, на мяне паглядзеў, быццам да гэтага не бачыў: «Ну якія мы з табой рускія, унук?» «А якія мы?» Дзед пастаяў, занёс дровы ў паветку, вярнуўся: «Вось праз тыдзень Настасея са сваёй маткай з Ленінграда прыедзе, яны — рускія. Пойдзеш з імі ў лес — паглядзі, як яны грыбы збіраюць… Бяруць усе ўзапар, а мы з табой выбіраем, ведаем, які грыб добры, які дрэнны…»

(Настасея — жонка старэйшага дзедавага сына Паўла, які загінуў пад Ленінградам у 43-м. А яна з малымі сынамі, як прыехала ў чэрвені 41-га пагасцяваць, так і прабыла ў дзеда ўсю вайну, да 45-га.)

### Певень

*Запіс у сшытку, зроблены ў чэрвені 2005 года.*

«Прыйшла фельчарка, паслухала, таблетак дала і сказала, каб я булён ела з курыцы. Я злавіла пеўня, ногі яму матузом звязала, узяла яго і пайшла да Віцькі, каб ён галаву майму пеўню адсек. Прыйшла, а Віцька як паехаў першым аўтобусам у бальніцу, так і не вярнуўся. Я дамоў ледзь дайшла. Снежная зіма была. Пеўня развязала, пусціла да курыц… А праз тры дні паправілася, так ён і застаўся жывы… А Віцька памёр у бальніцы. Во як! А певень добры, такі добры — не расказаць. Можа, калі раззлуецца, і дзеўбануць, але ж добры…»

Так казала Данілаўна пра пеўня, які хадзіў па двары.

Я ж адразу зіму тую снежную ўбачыў. І старую Данілаўну ў чорным кажуху і шэрай хустцы, якая нясе свайго пеўня са звязанымі чырвоным матузом залатымі лапамі. Снег рыпіць, Данілаўна войкае і ўздыхае.

### Бэрка

Калі чую, што некага сагнулі ў бараноў рог, ці мяне абяцаюць скруціць, то адразу бачу сапраўдны рог барана, які вісіць пад страхой хлява на тоўстым іржавым цвіку. Побач з рогам рэзвіны, каб траву і снапы насіць… Авечак у дзедавай гаспадарцы я не заспеў, але яны былі. Галоўным над усімі авечкамі быў вялікі чорны баран па мянушцы Бэра. Пра яго і дзед казаў, як пра істоту разумную. Баба ж згадвала чорнага барана часцей. «Як той Бэрка!» — казала баба, калі я нечага не хацеў рабіць і ўпарціўся.

Гэта яго магутны, двойчы скручаны рог вісеў на цвіку. Рог быў важкі, парэпаны, ад яго адломлівалася касцяное лушпінне. Мне падабалася той рог трымаць у руках, разглядаць, наліваць у яго ваду, ці насыпаць пясок… Калі нагуляюся, то абавязкова павешу яго на цвік.

Той невядомы чорны баран здаваўся мне казачным, бо быў ён аднарогім.

### Светлы дзень

У дзеда была стрэльба, і яна мне падабалася. Аднойчы зімой дзед сказаў, што бачыў на полі цецерукоў. Прынёс з другога пакоя стрэльбу і пачаў яе чысціць. На наступны дзень раніцай, пасля сняданку, мы выправіліся на паляванне. Баба мяне пускаць не хацела, але я моцна прасіўся, ледзь не плакаў — так хацеў ісці з дзедам... Калі я апрануўся, то мяне яшчэ і падперазалі паверх зімовага паліто скураным раменьчыкам.

І мы пайшлі. Цецерукоў дзед бачыў на полі, пад Лугінскім лесам. Летам да таго лесу дабегчы лёгка, бо сцежкі-дарогі, а зімой снег — ні сцежак, ні

дарогі. Ішлі па хвалістых сумётах. Дзед паперадзе, а я за ім. Прайшлі не шмат, але я так стаміўся, што ледзь дыхаў. Хацелася развязаць шалік, расшпіліцца, шапку зняць. Дзед сказаў, што хутка дойдзем. Перад самым лесам снегу было яшчэ больш. Дзед мяне падхапіў на рукі і панёс. Цецерукоў я заўважыў першым. Яны цямнелі на пагорку, там снегу было мала, а трава з яго вытыркалася, як чубы. Дзед паставіў мяне, аддаў свае рукавіцы і пачаў зараджаць стрэльбу. Далей мы ішлі ціха. Калі да пагорка з рудымі чубамі заставалася недалёка, цецерукі паляцелі. Нізка, па-над белым снегам, па-над травой. Я чуў, як лапочуць іхнія крылы. Дзед апусціў стрэльбу, паглядзеў на мяне, выцер рукавом нос і мокрыя вусы: «Светла, яны нас першымі ўбачылі. Трэба раней выходзіць, пакуль цёмна…»

Па сваіх слядах мы вярнуліся дамоў. Мне тады і сямі не было, а цецерукоў запомніў, як і тое месца на полі, побач з Лугінскім лесам.

### Галубы

Жабрак у інвалідным вазку побач з Камароўкай, пад сцяной. Вакол яго і на ім — галубы. Ёсць два снежна-белыя, астатнія — шэрыя. Цёмная разяўленая торба стаіць побач з колам, на снезе. Жабрак нешта ціха мармыча і незаўважна выцягвае з кішэні зімовага паліто крупы і падсыпае ў складкі тканіны на каленях. Галубы задаволена вуркочуць...

Хацеў сфатаграфаваць, але перадумаў.

### Восень

Маленькі павучок па нябачнай павуціне бяжыць на неба, каб там адпачыць — на Божай руцэ. Так мне расказвала старая Ганна, якую лічылі вядзьмаркай.

### Золата

Падумаў…

Як шмат у дзяцінстве было ўсяго залатога. Прасяная каша ў глыбокай талерцы і цёплы пясок на дарозе. Звараныя кіяхі кукурузы і бульба з залатымі скваркамі, масла, пенка на гарачым малацэ, яблыкі, слоік з першым летнім мёдам, сланечнік… Штакетнік, новы ганак і вароты, маленькі ўслончык… Цыбуля, якая сохла ў сенцах, а потым вісела пры печы… Мая сяброўка Ленка была залатагаловая, а яе твар і плечы, шыя і спіна — спрэс у залатых кропках… І дажджы сыпаліся залатыя… І часта трапляліся цельпукаватыя карасі, таксама залатыя. І сябар Валодзька быў залатавалосы, і аднакласнік Віцька па мянушцы Руды. І пра сябе неаднойчы чуў, што я — залаты хлопчык.

Але лепш пра гэта не думаць.

### Твая мая

Падобныя да мастакоў мужчыны, адзін барадаты, другі лысы — стаялі пры дзвярах вагона і гаварылі. Пачуў частку п’янай размовы.

— Жонка твая?

— Мая!

— Жонка твая, а дачка мая!.. Як яна там?

— Не крыўджу.

— А мая дачка — не твая?

— Адкуль ты ведаеш?

На «Кастрычніцкай» я выйшаў, а мужчыны падобныя да мастакоў, паехалі на вакзал.

### Гарадскі раманс

Мне нават цёмныя акуляры давялося зняць.

Каб не ледзь заўважная бэзавасць вакол шыі, то я і не пазнаў бы дзіўную птушку.

Вы бачылі калі-небудзь чорнага голуба?

Чорны голуб, як чорная кветка — палохае…

Голуб выдзёўбваў са шчылін брукаванкі патрушчаныя побач з лавай чыпсы.

Мне падалося, што ён адчувае сваю адметнасць, выродлівасць, і мне зрабілася шкада чорнага птаха… Але да яго падляцела брудна-белая галубка.

І ўсё ў іх склалася, дарма я перажываў: вуркатанне, лапатанне крыламі…

Шкада толькі, што дзеці народзяцца самыя звычайныя — шэрыя, гарадскія…

### Размова

«Раней як было… Памёр чалавек, яму крыж дубовы паставяць... А калі той крыж згніе — новы ніколі не ставілі. Прыбяруць пад елку ці якое там дрэва, ці пакладуць побач, а магілку даглядаюць. І ты мне ніякіх помнікаў не рабі. Не хачу. Можаш толькі пліткай магілку выкласці, каб трава не расла, каб падмёў лісце — і чыста… Глядзі, каб так і зрабіў!» — прасіла ўчора мяне мама.

А потым расказала, як здавала пасля вайны малодшага брата ў дзіцячы дом і зменшыла Шуру ўзрост на два гады, каб яго ў войска трохі пазней забралі.

Вось такая размова…

### Пра каханне

Гарадскі рыбак расказаў, што заўчора, калі ішоў дождж і вецер дзьмуў з Поўначы, злавіў...

Тут ён пачаў прыкурваць цыгарэту. Злавіў за мостам бабскую сумачку. Думаў — рыбіна. У той карычневай сумачцы: каляровыя фотаздымкі, гадзіннік жаночы і квіткі «Мінск—Масква» і «Масква—Мінск». На ўсіх фотаздымках — мужчына цёмнавалосы і жанчына. Цалуюцца, абдымаюцца, ядуць-выпіваюць, стаяць у розных месцах нашага горада... Рыба пасля той знаходкі і перастала брацца. Зусім... «Вось такое яно — каханне. Хто каго кінуў? А так у іх усё складна ішло-ішло...» — сказаў гарадскі рыбак і плюнуў у раку.

### Прыпынак

Хацеў напісаць тры радкі пра бусла, якога бачыў на полі, крокаў за сем ад шашы, побач са стандартным бетонным прыпынкам. Ішоў дождж. Бусел выглядаў паныла, быў брудны і мокры. Зрэдку ён ківаў дзюбатай галавой у дробную зялёную траву. Па шашы вясковы дзядзька каціў ровар. Дзядзька быў мокры і злосны. Ён спытаў у мяне закурыць... Паглядзеў на бусла, уздыхнуў: «Нічога, абцярэбіцца, адбсушыцца, жаб наловіць і будзе як на паштоўцы! Пабачыш».

Панылы бусел кіўнуў.
Дзядзька пакаціў ровар.
Дождж ліў ад Полацка да Мінска.

### Вобраз

«Выйшла на вуліцу, а ён ззаду як наляцеў, ды такі халодны, мокры. Так бы й дала яму ў морду!» — сярдзіта расказвала цырульніца пра вецер і надвор’е.

### Зайздрасць

*Нядзеля. Кастрычнік. 2008 год.*

Учора сусед па пад’ездзе вярнуўся з лесу. Я яму паспачуваў, бо чалавек нахадзіўся, вымак, змерз. Але грыбоў набраў два вядры. Пачаў ён мяне частаваць, а я давай адмаўляцца. Прыйшоў дамоў і пашкадаваў, што ён не моцна ўгаворваў, а я ўпарта адмаўляўся. А мне так хацелася баравікоў смажаных...

Ледзь заснуў ад нянавісці да сябе. Уяўляў, як сусед іх еў, а ў мяне слінкі цяклі.

А ноччу «хуткая» суседа-грыбніка з атручваннем у бальніцу забрала.

А так тых грыбоў хацелася...

### Арэхі

Да мяне прыйшла васьмідзесяцігадовая суседка ў футры з шэрага каракулю. Яна абышла пад’езд і прыклыпала на сёмы паверх. Яна прапанавала і мне падпісаць ліст у Адміністрацыю Прэзідэнта. Гэта не першы яе ліст. Першы быў пра лядоўню ў нашай краме. Лядоўня быццам па начах гудзе і выпраменьвае шкодную энергію. Потым дырэктарка крамы скардзілася, што давялося заплаціць, каб прыехалі спецыялісты з прыборамі і ўсё абмералі. Лядоўня аказалася самай звычайнай і несапсаванай. Цяпер суседка напісала, што па начах вартаўнік крамы разбівае малатком арэхі. Пачынае ў дзве гадзіны ночы, а ў чатыры перастае, бо наядаецца. Я ведаю, што вартаўніка ў нашай краме няма і не было. Суседка паверыць у гэта адмаўляецца…

Кватэра суседкі на пятым паверсе, праз пад’езд ад крамы.

Пра арэхі мне спадабалася, але падпісваць скаргу адмовіўся.

### Вайна

Адна знакамітая мінская падпольшчыца здолела здабыць каштоўную карту. Як і што, пры якіх абставінах, таго і не ведаю, а выдумляць не хачу.

У падпольшчыцы была дванаццацігадовая дачка, якую яна моцна любіла. Тую каштоўную карту трэба найперш з акупаванага горада вынесці, каб партызанам перадаць. Падпольшчыца распранула дачку, абгарнула карту вакол дзявочага цела, а потым апранула дзіцёнка цёпла… Ісці далёка…

Тройчы жанчыну з дачкой спынялі патрулі. Двойчы жанчыну абшукалі, абмацалі. Карта трапіла да партызан, а потым у Маскву.

Падпольшчыца атрымала ордэн.

Вы што-небудзь разумееце ў патрыятызме?

### Шапка

Убачыў учора мужчыну. Крыху маладзейшы за мяне. Зайшоў у «Акварыум», няспешна зняў карычневую дублёнку — павесіў на гачык, потым

шапку — павесіў. Шапка! Вось што найперш спыніла маю ўвагу, прымусіла трохі паназіраць за ім. Зімовая шапка з карычнева-залацістай норкі. Высокая такая шапка, круглая, поўсць бліскучая, пералівістая, і шоўкавае нутро чорнае… Карацей, заглядзенне, а не шапка…

Я тут жа згадаў сваю старэнькую маму. Яна ўсё жыццё хацела, каб і ў мяне была цёплая зімовая шапка з норкі. Каб былі: сур’ёзная дублёнка, дарагі касцюм і гальштук строгі, партфель і машына… А ў мяне шапкі з норкі не было… І гальштукі я завязваць не ўмею і не нашу… І машыны няма.

Але шапка — галоўнае.

Шапка з норкі робіць мужчыну важным, самавітым, сур’ёзным.

Шапка з норкі — шапка «відзімка».

Можа купіць?

### Дзевачка

Ён з’яўляўся пад закрыццё крамы. Кепска паголены, у камуфляжным бушлаце з генеральскімі пагонамі. Прадавачка яго ведала, але на ўсялякі выпадак пытала: «Як заўсёды?» Ён схіляў галаву. Яна ставіла на прылавак дзве бутэлькі гарэлкі і адлічвала рэшту. Ён хаваў бутэлькі ў кішэні, бушлат рабіўся цяжкім, і сыходзіў. І так амаль паўгода, пасля таго, як у яго памерла жонка.

Тыдзень пакупніка не было. За вокнамі ішоў красавіцкі снег. Генерал з’явіўся ў сваім бушлаце за колькі мінут да закрыцця крамы. Левую руку ён прыціскаў да грудзей. Прадавачка на ўсялякі выпадак спытала: «Як заўсёды?» Ён крыху разгубіўся, а яна наважылася паставіць дзве бутэлькі на прылавак. У гэты момант ён і сказаў: «Не! Мінералку, калі ласка». Пад афіцэрскім бушлатам нешта заварушылася, а потым пад кепска паголеным падбароддзем узнікла вушастая галава шчанюка. «Дзевачка», — сказаў генерал.



**Георгій КІСЯЛЁЎ**

# УЗІРАЮСЯ Ў НАЧНУЮ БЕЛАРУСЬ...

* * *

Бор хваіны галіну ў цішы варухне
Над стралой абеліска.
Вы гушкаеце, быццам калыска, мяне,
Курганы Ваўкавыска!

Узбягу на курган, пазірну з-за пляча
На чырвонае сонца,
Чаравік мне распора абломак мяча
Крыжаносца-тэўтонца!

Згукі сечаў даносіць з любой стараны
Далеч свету вятрыста.
Пахавалі усіх вы ў сабе, курганы,
Курганы Ваўкавыска!

Ганарліва на свет пазіраеце вы
І маўчыце задоўга,
Сведкі вечна жывыя старэчай Літвы,
Цені князя Міндоўга!

---

***Кісялёў Георгій Іванавіч*** *нарадзіўся 28 сакавіка 1939 года ў вёсцы Епіфанка на Валагодчыне. Сярэднюю школу скончыў у Разані. Працаваў цесляром-бетоншчыкам у Омску, токарам у Разані. У 1961—67 гг. вучыўся ў маскоўскім Літаратурным інстытуце імя А. М. Горкага на аддзяленні паэзіі (творчы кіраўнік: паэт Ілья Сяльвінскі). Пасля заканчэння інстытута працаваў журналістам у газетах і на радыё. З 1983 года жыве ў Беларусі. Займаецца крытыкай і перакладамі з беларускай, нямецкай і французскай моў.*

*У 1968 годзе ў выдавецтве «Московский рабочий» выйшла першая кніга вершаў «Прозрение». Друкаваўся ў часопісах «Сибирские огни», «Дальний Восток», «Молодая гвардия», «Нева», «Наш современник», «Всемирная литература», «Нёман», «Белая вежа». Творы ўвайшлі ў шматлікія калектыўныя зборнікі, выдадзеныя ў Разані, Омску, Арэнбургу, Мінску, Гродне і Ваўкавыску.*

Упаду на курган, і ў той міг прад вачмі
Мне адкрые прырода
Рэшту гільзаў іржавых — у жменю вазьмі! —
Сорак першага года.

* * *

Не па-за Волгаю ці Донам,
Цяпер жыву я за кардонам.
І за Дняпром, і за Дзвіной
Жыву, як за сваёй віной.

Жыццё мы адчынялі дзверы
Ў адным вялікім СССР-ы.
І не ўспрымаецца душой,
Што ўжо радзіма — за мяжой.

Хоць не абы-які туземец,
Я для Расіі — чужаземец.
Ды ўсім без розных пашпарцін
Па твары бачна — славянін.

І добра, што калісьці справы
Не завялі аж за Даўгаву,
Бо там, напэўна, латышы
Мяне б душылі ад душы.

І, дзякуй богу, каля Нёмна
Мяне не стрэлі вераломна:
І Стась, і Янка, і Кандрат —
Быў кожны мне сардэчна рад.

І як тут кажуць, ганаруся
Прыгожай, слаўнай Беларуссю,
Да сэрца ў краі белых рос
Я прыхінаю рэчку Рось.

А чуйнай памяццю сваёю
Лунаю здаўна над Акою.
І мне здаецца усур'ёз —
Ў Аку ўпадае рэчка Рось.

* * *

Ўзіраюся ў начную Беларусь
З пяшчотай сына ўсцешана-раўніва,
І, можа быць, раз соты паўтару
Прызнання сказ лясам яе і нівам.

Праносяцца без ліку да цямна
Ў дарожнай несупынлівай гайданцы
За шклінаю вагоннага акна
Яе пасёлкі, гарады, паўстанкі.

І што ні стрэну — вёску, хутарок,
У полі трактар і бусла ля хаты, —
Ўсё гэта сёння край маіх трывог,
Чарнобылем няскмечана працяты.

Ды зноў мяне дарогі прывялі
У кут, дзе ўсіх маіх пачуццяў сховы,
З паклонам ад ясенінскай зямлі,
З вітальным словам ад зямлі Рубцова.

Лясы, палі — нясу ў сваіх вачах.
І пад блакітам сонечнага ранку
Пасцеле мне бясконцы пыльны шлях
Зямля Купалы, Коласа і Танка.

І Белавежскай пушчы не чужы,
Бываючы у снежні тут і ў маі,
Пакуль жыву, на лёсу рубяжы
Я дзве Русі, як мост, сабой яднаю.

* * *

І повен храм, і повен рынак.
Ды помніць зборышча дзялкоў,
Як Сам Хрыстос у міг адзіны
Павымеў з храма гандляроў!

Я прычыню ледзь чутна дзверы,
У храм ступлю, дзе люд прыціх.
Адны крадуць даўно без меры,
Другія моляцца за іх.

І грэшнік даўні, і пакутнік —
Тут кожны ўздрыгне прад канцом
І не пазбегне той мінуты —
Паўстаць з адказам прад Тварцом.

За ўсё, чым лёс вірыў удалы,
Чым быў скаваны свет душы, —
За дывідэнды, капіталы,
За гвалт-крадзеж, за барышы.

Перад табой, самотны Божа,
Як завіхляць двурушным ім,

Хто ні на ёту не прымножыў
Дабра прад Іменем Тваім.

* * *

Я той, хто для сытых — галота ўдвайне,
Ды долю сваю не кляну я.
Напэўна, так лёсам наўрочана мне,
Што рэчы памерлых нашу я.

Ў сарочку з чужога пляча апрану
Я плоць сваю ў вецер і сцюжу,
Нібыта ў чужыя грахі агарнуць
Душу сваю чыстую мушу.

Штаны, чаравікі сышоўшых мужоў
За так аддаюць, і абновы,
Паплакаўшы з жонкай маёй ля крыжоў,
Сяброўкі — нядаўнія ўдовы.

Ну што ж, я апрануты ў веях нягод
І цёпла сябрую з пагодай,
І кожная рэч прыбаўляе мне год
Таго, хто раней ёй валодаў.

Таму, знаць, душа чуе хвалю дабра,
Што я апрануты штодзённа
У боты Івана, сарочку Пятра,
Ў касцюм з камізэлькай Сымона.

Магчыма, павінен па волі Тварца
У часе, на восьмым дзясятку,
Прадоўжыць іх лёс за парогам канца
Жыццём сваім сам без астатку.

За ўсіх недажыўшых мне трэба дажыць,
За іх, абяздоленых рана.
Глядзіш, дацягну я ў абноўках чужых
Да год немалых Аўраама.

## КВЕТКІ РАСІІ

Асенняя флора Расіі!
Як знак прыгажосці былой —
Яе лугавыя жывыя
Не скрытыя кветкі імглой.

Як толькі пакінеш пагорак,
Па чорнай ідзеш баразне —
Расіі асенняя флора
Расою калені кране.

Пад ветрам сцюдзёным, сірочым,
На холадзе ранішніх рос
Не журыць барвяны паўночнік
Самотны свой восеньскі лёс.

І ў дождж ён, і ў морак вячорка
Ўсё ловіць, красун, здаляка
Гуляўніка жоўтыя зоркі
І сіні прамень васілька.

Прыветнай часінай вясновай
Сумее красу паўтарыць —
Над былкай сухой палыновай
Агеньчык ірдзіста гарыць.

Ён ведае — згасне у сцюжах!
І ў срэбры марозу згараць
Сабрацці, што смела і дужа
Пад слотай-макрэчай стаяць.

Сцінаючы глебу ў карэнні,
Пад ветрамі будзе звінець
З сябрамі яго пакалення,
Сустрэне суровую смерць.

Ўзыдзі на ўтравелы пагорак!
І зноўку ўсміхнецца табе
Расіі асенняя флора —
Як выклік слаце і журбе.

А з ёю і дожджык пастылы
Іскрыстай красой зазіхціць,
Як думкі пра кут, сэрцу мілы,
Насенне па ветры ляціць.

Каб толькі хапіла сіл гэткіх,
Што гоняць рух сокаў жывы, —
Прабіцца запозненай кветкай
Ў Расіі вянок палявы.

## ПАЯДЫНАК

Устань, лянгуз панылы,
Бражнік, наліты сном,

Пакуль не прываліла
Бяда, як хваля, ў дом.

Устань, не строй грымасу,
Будзь промню сонца рад,
Бо толькі страта часу
Страшней ўсіх іншых страт.

Устань жа, жменя праху,
У ложку кінь ляжаць —
Устань прад зданню страху,
Што прыйдзе час не ўстаць.

О, сховішча шкілета,
Ляноце насупроць
Устань з душой паэта,
Пераадолей плоць!

Устань, трыбух двухногі,
Пашлі вітанне дню.
Устань, язык убогі
Свяшчэннага агню!

Да подзвігу ахвочы,
Дык рупна дзень пры дні
Крадзі яго у ночы,
У службы і радні!

Ты — зіхата ільдзінак,
Што стане рухам вод.
Са смерцю паядынак
Вядзі свой з году ў год!

Здасіся ёй лядачы!
Хай плоць згарыць датла.
Далей жа мы пабачым,
Сябры, чыя ўзяла!

***Пераклад з рускай***
***Міколы МЯТЛІЦКАГА.***



Зоя ПАДЛІПСКАЯ

# МАНАЛОГ У ПАЎСТАГОДДЗЯ*...

*Раман-споведзь*

***Светлай памяці мамы — Ганны Канстанцінаўны Янучок (Пятровіч)***

## Ліст да Маці

Дзякую табе, Божа. Я нарэшце дачакалася таго моманту, калі «пачула» Ваш голас, мама. Голас, які напружана старалася ўзгадаць усе гэтыя гады. Пасля таго як Вы, адляцеўшы ў вырай, нечакана пакінулі мяне, назаўсёды пасяліўшыся ў маім сэрцы.

Прыйшоў час, і я адчула жыццёвую неабходнасць запісаць нашу з Вамі доўгую і шчырую размову за больш чым сорак гадоў.

Я гаварыла з Вамі кожны дзень, раілася, сумнявалася, скардзілася на жыццёвыя няўдачы і сціпла распавядала пра поспехі, свае і дачушак, Вашых унучак, — Ганны і Анастасіі. Я прасіла Бога, каб Вы прыйшлі да мяне ў сне, каб хоць на хвілінку адчуць сябе той сямігадовай дзяўчынкай, якую Вам горкім лёсам было наканавана так рана пакінуць.

І Вы зрэдку прыходзілі да мяне на спатканне, але сон заканчваўся. Рэаліі дня зноў адбіралі ў мяне адчуванне таго найвялікшага шчасця для кожнага чалавека, калі мама — побач.

---

*__Падліпская Зоя Іванаўна__ нарадзілася 7 кастрычніка 1964 года ў вёсцы Сярагі Слуцкага раёна Мінскай вобласці. Скончыла Слуцкае медвучылішча (1983), Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка (1994), аспірантуру пры ім (2004). Працавала ў сістэме адукацыі на розных пасадах. У 2007—2009 гг. — галоўны інспектар упраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Цяпер — галоўны рэдактар часопіса «Роднае слова».*

*Аўтар паэтычных кніг «Палон нябёсаў» (1998), «У вэлюме завей» (2005), «Малюся зорам. Выбранае» (2014), кнігі прозы «Нашчадкі выбранцаў» (2017); творы друкаваліся ў калектыўных паэтычных зборніках: «Прызнанне ў любові і каханні» (2004), «Краіну родную люблю» (2010), «На мове сэрца» (2013), «На прасторах любай Беларусі» (2013), «Па праву жывога. Кніга-прызнанне сучасных беларускіх паэтаў да 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў» (2014), «Неделимое русло» (2014), «Разам з Радзімай: песні беларускіх кампазітараў і паэтаў» (2016).*

---

* Часопісны варыянт.

Дзіўна і незразумела, што дзіцячая памяць на доўгія гады сцерла да болю родныя рысы Вашага твару, родны голас, постаць, пяшчоту рук. А ўрэшце, што тут дзіўнага… Усяму віною тая страшная ноч, горкае сірочае ранне і жалобны чорны дзень 24 жніўня 1972 года. Гэта ўсё навечна захавалася ў памяці, да самых драбніц. А яшчэ чырвоныя і жоўтыя вяргіні, што пышна цвілі ў нашым гародчыку і якімі так шчодра быў высыпаны Ваш апошні шлях, ад роднага парога да самых могілак. Захаваўся ў памяці і вялікі букет чырвоных вяргінь, з якім я тою ж сцяжынкаю праз тыдзень крочыла ў першы клас. І чорныя жалобныя стужачкі, уплеценыя ў мае светлыя тонкія косы. І многае іншае, што парою ўвогуле хацелася б забыць назаўсёды…

Столькі дзясяткаў вёснаў і зім я пражыла без Вас, мама. З кожным годам, пакрысе сталеючы, я ўсё часцей у думках вяла сваю ціхую размову з Вамі, па-дзіцячы спадзеючыся, што некалі пачую ў адказ: «Дачушка, я ганаруся табою…»

І гэты дзень, 13 лютага 2013 года, настаў. Нічога асаблівага не здарылася: пазваніла мая былая выкладчыца з універсітэта, прафесар Ніна Васільеўна Гаўрош, з якой мы супрацоўнічаем да гэтага часу і якую не толькі паважаем, але і любім за чалавечнасць, павагу да кожнага студэнта, дабрыню і шчырасць. Пахваліўшы за ўдала праведзенае мерапрыемства, Ніна Васільеўна па-мацярынску назвала мяне дачушкаю. А мяне, колькі сябе памятаю, ніхто, акрамя Вас, ніколі так не называў… Гэтае слова — дачушка — стала, відаць, ключавым у нашай размове. Цяжка перадаць пачуцці, якія перажыла ў той момант: моцнае хваляванне, узрушанасць, адчуванне таго, што быццам пагаварыла з Вамі, мама. І паплылі, нахлынулі ўспаміны, нейкім чынам сцёртыя з памяці на доўгія гады…

І цяпер я кожны раз малюся небу, высокаму прыстанку Вашай светлай і шчодрай душы, мама, і дзякую Богу, што злітаваўся і паслаў мне міласць сваю: вярнуў у памяці Ваш голас.

Дай толькі сілы, Божа, выкласці на паперы мой амаль у паўстагоддзя маналог. Слухайце, мама. І даруйце мне.

Ваша Зоя.

***Час усё непатрэбнае крышыць.***
***Дарагога — нішто не кране.***
***Свеціць золата на папялішчах,***
***Бо яно не згарае ў агне.***

Л. ГЕНІЮШ

## Два клёнікі

Каля нашай сяражскай хаты, колькі сябе памятаю, зелянелі, цягнуліся ўгару два клёнікі. Іх пасадзілі мае старэйшыя сёстры Ларыса і Алена ў кастрычніку 1964 г. у гонар майго нараджэння. Здавалася, што мы расцём з дрэўцамі навыперадкі. Мне падабаласяназіраць вясною за выпырснутымі зялёнымі лісточкамі, слухаць майскімі вечарамі, як над дрэўцамі зумкаюць то складваючы, то распускаючы перламутравыя крылцы бліщчастыя майскія хрушчы. Восенню я любіла збіраць чырванаватыя зоркападобныя лісты, каб паставіць на стол асенні букет, а адзін-два лісточкі абавязкова засушыць, паклаўшы ў адну са сваіх любімых кніг. Зімою я даставала кляновы лісток, і мне адразу ўзгадваліся тыя летнія ці асеннія дні… Пасля таго, як сыдзе снег, я спяшалася паглядзець, наколькі падраслі мае зеленавокія сябры, і заўсёды радавалася іх поспехам.

Ніхто і не думаў тады, што праз гады ў мяне з’явіцца верш пад назвай «Два клёнікі» і што дрэвы абароняць хату ад пажару падчас навальніцы. Страшны ўдар грому прыняў на сябе адзін з маіх клёнаў…

Цяпер сябра майго дзяцінства — другі клён — у адзіноце вартуе бацькоўскую хату, але ў вершы мае дрэўцы разам.

**Два клёнікі**

Іх пасадзілі ў той дзень,
Калі я нарадзілася…
Гладзіў ім галінкі
Лагодны ветрык,
Здымаў парою дзённую стому
Вясёлы дождж ык.
Так і раслі мы. Навыперадкі —
Я і клёнікі.
…Не стала матулі.
Не стала роднай хаты.
Сюды вяртаюся
У снах і ў думках.
І кожны дзень малюся небу —
Высокаму прыстанку
Светлай мамінай душы.
І ім, двум клёнікам, —
Апекунам майго маленства.

## Падручнік па матэматыцы

…Ну вось і ўсё, мама. Надышоў першы дзень без Вас. Марудна цягнецца час. Мае старэйшыя сёстры збіраюцца ад’язджаць. Ларыса — на працу ў Засульскую бальніцу, што недалёка ад Стоўбцаў. Таіса — на вучобу ў Мінскае педвучылішча. Тамара, якая чакае дзіцятка, таксама збіраецца з мужам дадому, у Мінск. Алена пайшла дахаты яшчэ ўчора — яна жыве ў прыгарадзе Слуцка. А брат Грыша ўвогуле не змог прыехаць на пахаванне: сумная тэлеграма знайшла яго ў далёкай Манголіі, куды яго з калегамі накіравалі на будаўніцтва дамоў, са спазненнем на пяць дзён. Але ён прыедзе, мама, абавязкова прыедзе, толькі праз тыдзень.

У нашай новай прасторнай хаце нам трэба прывыкаць жыць утраіх — бабулі, бацьку і мне.

Я стаю на ўзмежку і ўглядаюся ў пажухлы бульбоўнік. Хутка восень. Думкі зусім не дзіцячыя. Праз некалькі дзён мне ісці ў першы клас. Не страшна. Толькі нецікава. Чытаць і пісаць я даўно ўмею. Нават ведаю шмат слоў па-англійску: Ларыса ўжо некалькі месяцаў вучыць мяне правільнаму вымаўленню. Пачала чытаць «Трывожнае шчасце» Івана Шамякіна. Кнігу цяжка ўтрымаць у маіх худзенькіх дзіцячых руках, але гэта дробязь у параўнанні з той незвычайнай асалодай, якую я атрымліваю ад чытання. Якія ўжо тут «палачкі і кружочкі»!

Вы ж памятаеце той цікавы выпадак, як некалькі тыдняў таму бацька завёў мяне ў Сяражскую сярэднюю школу «на падрыхтоўку». Будучая мая першая настаўніца, Марыя Лаўрэнцьеўна Амбражэвіч, загадала нам намаляваць кружочкі, палачкі, квадрацікі. Бацька, які стаяў каля акна ў класе разам з іншымі бацькамі, усміхнуўся і кіўнуў мне галавою, маўляў, выконвай. Хоць дакладна ведаў, што да школы даўно падрыхтаваная. Я старанна і хутка выканала ўсё, што сказала настаўніца. Крыху счакаўшы, вырашыла, што, пэўна,

трэба яшчэ нешта зрабіць. Здавалася, таго, што выканала, было для мяне мала. І я напісала наступнае: «Мяне завуць Зоя Янучок. Мой бацька Іван Паўлавіч працуе ў школе настаўнікам. Я буду вучыцца ў першым класе». Пасля я часта згадвала тое першае сваё сачыненне. Хто ведае, можа, з гэтага і пачаліся мае літаратурныя спробы пяра? Настаўніца тады была вельмі здзіўлена. Я толькі не зразумела, чаму яна ледзь не заплакала. А Марыя Лаўрэнцьеўна ўжо адчувала, якія выпрабаванні чакаюць яе будучую выдатніцу ў самым хуткім часе.

…Да мяне падыходзіць заплаканая Тамара, абдымае і дае ў рукі, мабыць, першую кнігу, якая трапілася ёй на вочы, з купленых бацькам для мяне падручнікаў — падручнік па матэматыцы для 1-га класа. Просіць, каб я не сумавала: «Не плач. Калі будзе вельмі цяжка — чытай кніжачку. Запомні, сястрычка, ніколі не расставайся з кнігай. Чытай. Старайся вучыцца, Зоечка».

І я старалася. Клопатам і дабрынёю саграваla мяне мая настаўніца пачатковых класаў. Пройдуць гады, і я прысвячу адзін са сваіх ранніх вершаў менавіта ёй, Марыі Лаўрэнцьеўне. Яна атрымае мой ліст, прачытае і дашле мне таксама ліст у адказ са шчырымі словамі падзякі. Але гэта ўсё будзе значна пазней…

## 1 верасня 1972 года

Раніца. Сястра Таіса заплятае мне косы. І прыгадвае, як Вы, мама, умелі надзвычай прыгожа заплятаць сваім дзяўчаткам валасы ў «каласок». На жаль, мне ўжо ніколі не адчуць на сваіх валасах дотык Вашых рук і не насіць такіх «жытнёвых каласкоў»…

Усё прыгожае і новенькае на мне: светла-карычневыя сандалікі, карычневая школьная сукенка ў складачкі, беленькі атласны фартушок. Толькі капронавыя стужачкі ў светлых валасах, купленыя старэйшай сястрою Аленаю, чорныя. Сёння я іду ў першы клас, мама. Бабуля хрысціць мяне, і я разам з бацькам і Таісай, якая прыехала, каб правесці мяне ў школу, выпраўляюся ў дарогу.

Іду той жа сцяжынкаю, па якой некалькі дзён таму, моцна трымаючыся за Ларысіну руку, ішла, праводзячы Вас у апошні шлях. На ёй яшчэ шмат крыху падвялых вяргінь. І мне ўяўляецца, што Вы побач. Ведаеце, мама, мною пройдзена ўжо нямала дарог, але кожную з іх я вывяраю тою сцяжынаю — Вашай апошняй і маёй першай. Першай у дарослае жыццё.

Вось і школа. Прыгожы двухпавярховы цагляны будынак. Шумна. Мора кветак. Усе ўсхваляваныя, асабліва бацькі першакласнікаў. Віншавальныя словы з новым навучальным годам дырэктара школы Аляксея Мікалаевіча Новіка, настаўнікаў. І вось ужо ў мяне ў руках цікавая рэч — школьны званок.

Аказваецца, даць першы званок на ўрачыстай лінейцы 1972/1973 навучальнага года даручана мне. Я, трошкі саромеючыся, выходжу на сярэдзіну спартыўнай залы, дзе адбываецца свята, і пачынаю з усёй сілы трэсці званком. Яго медны голас раздаецца нечакана звонка і радасна. Усхвалявана б’ецца сэрца, і я, шчаслівая, усміхаюся насустрач новаму школьнаму жыццю. А многія настаўнікі і бацькі, гледзячы на мяне, бясконца выціраюць вочы…

**Случчыне**

Я нізка пакланюся той
зямлі,
Дзе першы крок свой некалі
ступіла.
Дзе слёзы барвінкамі прараслі

Праз вечны боль —
матуліну магілу.
Дзе сум і радасць у адным
вянку
Спляталіся ў дзівосны час
вясновы.
Шчыміць душа — сасмяглую
раку,
Як і раней, лічу жыцця
асновай.
Тут родныя трымаюць карані
І салаўі співаюць гэтак дзіўна.
Мой лёс, прашу, мяне абарані,
Не дай чужою стацца
на радзіме.
Куды б мяне дарогі ні вялі,
Я з кожным днём, як з кожным
новым вершам,
Ўсім сэрцам прырастаю
да зямлі,
Дзе некалі зрабіла
крок свой першы.

## Першыя пяцёркі

Хутка мільгаюць вучэбныя дні. Тужліва. Сумна мне. Але я стараюся вучыцца. Даецца ўсё лёгка. У сшытках маіх толькі пяцёркі. У першым класе нам адзнакі пачалі ставіць, здаецца, з другой чвэрці. Бабуля радуецца маім поспехам. Кожны дзень моліцца і хваліць мяне, малую.

Аднойчы прапанавала сходзіць да Вас, мама, расказаць пра ўсё.

— Не забудзь, вазьмі з сабою сшытачкі. Хай мама паглядзіць.

— А яна, што, убачыць? — спытала я.

— Убачыць, дзіцятка. Усё яна бачыць.

Могілкі знаходзяцца недалёка ад нашай хаты, апошняй на ўскрайку вёскі. Калі ісці цераз поле, то і зусім побач. Нават Ваша, мама, магілка відаць з нашага двара. Надвячоркам, калі пачынае цямнець, жоўтым пясочкам свеціцца ўзгорачак, чарнеюцца жалобныя вянкі, глуха шумяць вершаліны старых соснаў. І тады становіцца трывожна і вельмі самотна на душы. Прызнацца, я вечарамі баюся адна выходзіць з хаты. Так і цягне паглядзець у той бок, дзе Вы цяпер, мама. А пагляджу — і мне робіцца страшна.

І вось сёння пасля школы, днём, «повідну», як кажа бабуля, мы ідзём на могілкі. Бабуля вучыць, што трэба абавязкова перахрысціцца, калі заходзіш туды. Я зусім па-даросламу перахрысцілася. Знаёмаю сцежачкаю падышлі да магілкі. Бабуля прачытала «Ойча наш» і папрасіла мяне пакласці на магілку тое, што прынеслі. Я вылажыла з торбачкі, якую захапілі з дому, некалькі цукерачак і кавалачкаў пячэння (так сказала бабуля) і два сшыткі.

— Хай паляжаць трошкі, а мы давай сходзім да маіх, пераведаем іх.

І мы з бабуляю пайшлі да вялікага, адзінага такога на ўсе сяражскія могілкі, драўлянага крыжа. Там пахаваны бабуліны бацькі Кацярына і Адам Шахновічы, а таксама сястра Аксеня, якая памерла ў 16 гадоў «ад іспанкі». Пастаялі там, памаліліся. Бабуля, як і кожны раз, у гэты дзень таксама не прамінула папрасіць, каб у будучым ніколі не забывалі наведваць магілы яе родных. Той наказ, мы, ужо дарослыя, свята выконваем і цяпер.

Вярнуўшыся праз некаторы час да Вашай, мама, магілкі, мы заўважылі дзіўную рэч: са сшытачкаў былі зняты цэлафанавыя вокладкі. Сшыткі ляжалі так, як мы іх пакінулі, а сінія папяровыя вокладкі былі чамусьці высунуты з цэлафанавых.

Можа, гэта вецер? А можа… Так хацелася верыць, што Вы ўбачылі мае першыя пяцёркі…

**Прыйдзі**

***Маме***

Мне б да цябе прыйсці,
Пазваць у госці…
А я не памятаю зусім
Ні твар, ні постаць.
Матулечка мая,
Павер мне, мама,
Што не было і дня,
Каб я не ўспамінала.
І кожны раз прашу
Цябе, адзіная,
Прыйдзі у сон, прыйдзі
Хоць на хвіліну.
Не расплюшчу вачэй
Да самай раніцы,
Каб мне з табой даўжэй
Пабыць, пабачыцца.
Хто зразумее, хто?
Ці дапаможа гору?
Ужо столькі год прайшло,
А мне здаецца — ўчора…

## Бабуліна малітва

Бабуля Арына, як заўсёды, моліцца кожную раніцу і вечар. За ўсіх. За жывых і за мертвых, вымаўляючы гэтае слова на царкоўна-славянскі манер без націскнога «ё». Калі вельмі цяжка на душы, спявае ціхенька царкоўныя песні. Здаецца, і сёння бачу, як ціха коцяцца слязінкі па яе старэчым маршчыністым, але нейкім урачыста прасветлым у тую хвіліну, твары.

Кожны раз перад сном моліцца пасля поўнай малітвы коратка: «Дай, Божа, добрай ночы. Усім людзям і нам».

Мне бывае трошкі страшнавата, але я іду з бабуляю (бярэ мяне з сабою), калі яе часам увечары клічуць пачытаць Псалтыр па памерлым вяскоўцы. Бабуля чытае на стараславянскай мове. Яна, бадай, адна ў вёсцы толькі і ўмее. Я ціхенька сяджу і слухаю. Запамінаю. Вучуся супераджываць чужому гору. Іншая рэч, ці патрэбны гэты боль дзіцяці, але так было.

Прайшлі гады, і падчас вучобы на філалагічным факультэце педуніверсітэта ў мяне не было ніякіх праблем з прадметам «Стараславянская мова». На лекцыі шаноўнага выкладчыка кандыдата філалагічных навук Алеся Аляксандравіча Каўруса ішла заўсёды са светлым хваляваннем у душы. Здавалася, што чую знаёмае з дзяцінства, роднае, бабуліна: «Азъ, буки, вѣди, глаголь, добро…»

А яшчэ я нечакана зразумела, што, кладучыся спаць, прагаворваю тую ж бабуліну малітву: «…усім людзям і нам…»

Можа, так і прыходзіць яна, сталая мудрасць, да чалавека. З бабулінай ці матулінай малітваю, што перадаецца з пакалення ў пакаленне… І я ўсцешана,

што мае абедзве дачушкі і Вашы ўнучкі, мама, Ганначка і Насцечка ведаюць малітвы сваёй прабабулі Арыны Адамаўны і нясуць у сваіх дзявочых маладзенькіх сэрцах дабрыню і спагаду да людзей.

## Кісель

Сёння да нас прыехаў брат Грыша з нявесткай Надзеяй і сваім першынцам, сыночкам Вадзімам — Вашым унукам, мама. Вынеслі посцілку, разаслалі яе на поплаве каля хаты. Вадзімка, мабыць, самы жвавы з Вашых унукаў, бегае па мяккай зялёнай траўцы, зрывае кветачкі, нешта радасна прамаўляе. Яму нядаўна споўнілася два гадочкі.

Добры настрой братавай сям’і нечакана сапсавала я, калі моўчкі, глытаючы гарачыя слёзы (барані божа, каб пачулі суседзі), выйшла да іх, каб расказаць пра сваю крыўду.

Справа ў тым, што з прыходам у сям’ю мачыхі ў нас, мама, з’явіліся замкі: у клеці, дзе стаяў кубёлак з салам, у шафе, дзе ляжала яе бялізна. Можа, і яшчэ дзе, сёння ўжо не ўзгадаю. І трэба было абавязкова спытаць дазволу, перш чым узяць у рукі нейкую рэч ці нават кавалак хлеба з салам.

А ў той дзень, мама, мне так захацелася кісялю, які стаяў у каструлі ў сенцах на стале, што я наліла сабе кубачак і выпіла. І кубачак за сабою памыла. І накрыўку закрыла. І нідзе ні кропелькі не разліла. Але мяне адлупцавалі, бо не спытала дазволу…

* * *

Як цяжка жыць, матулечка,
на свеце.
Як горка нам, тваім сіротам
дзецям.
Бы тыя касачы, схіліліся
пад ветрам.
Як месяц уначы, ты нам
патрэбна.
Як сонейка удзень, глыток
паветра.
Ты кожнаму з дзяцей
Жывой патрэбна…

## Льняное мора

З дзяцінства люблю назіраць, як цвіце лён. Тысячы блакітных маленькіх кветачак разам утвараюць суцэльнае шаўковае покрыва. Падзьме ветрык — і закалышацца нябеснага колеру хваля.

Спрактыкаваныя льнаводы сцвярджаюць: «Лён два тыдні цвіце, чатыры тыдні спее, на сёмы насенне ляціць». Насенне лёну, бліскучае, цёмна-карычневае, звычайна саспявае ўжо ў жніўні. У кругленькай каробачцы прыкладна з дзясятак прыплюснутых зярнятак. Захопіш жменькаю некалькі сцяблінак, страсянеш — і зашастае, зашамаціць сваёй непаўторнай мелодыяй спелае дзіва.

У Антычнасці лён быў сімвалам святла, чысціні і вернасці. Льняное семя чалавек выкарыстоўваў у ежу яшчэ з часоў бронзавага і жалезнага вякоў. Цікава і тое, што льняная тканіна ўпершыню была выраблена ў горных раёнах

Індыі каля 9 тысяч гадоў таму. Затым каштоўная старажытная культура трапіла ў Вавілон, а пасля ў Егіпет. Старажытныя егіпцяне лічылі лён першым дабрадзеяннем багоў, а неўраджай яго — найвялікшым бедствам. З Егіпта лён трапіў у Грэцыю і Рым, а адтуль — у Заходнюю Еўропу. Да часу ўтварэння Кіеўскай Русі льнаводствам займаліся ўсе славянскія плямёны Усходняй Еўропы.

З XVI ст. ільнаводства стала традыцыйным промыслам ва ўсходніх славян. Народ нават мае нябесную ахоўніцу гэтай справы — Святую Параскеву.

Далёка за межамі краіны славіцца наш беларускі лён. Вырошчвалі яго ў нашай вёсцы і ў часы майго дзяцінства. Нярадаснымі дзіцячымі ўспамінамі той лён і дагэтуль цвіце ў маёй душы.

Ужо не памятаю, якой гэта было парою, хутчэй пад восень. Брыгадзір загадаў «узбіраць» лён. Вясковыя жанчыны, захапіўшы сярпы, выйшлі ў поле. Льняное поле было ў той год недалёка ад нашай хаты. Мачыха не пайшла. Яна амаль ніколі не выходзіла на працу ў паляводчую брыгаду. Выправіла мяне. Я ў свае адзінаццаць гадоў ніколі не ўпраўлялася з сярпом, але адмовіцца не магла — ад хаты павінен быць работнік.

Пад страхою ў істопцы вісела два сярпы: адзін большы, крыху заржавелы, другі лягчэйшы і меншы. Вось яго мне і далі ў рукі.

Праз некалькі хвілін я была ўжо каля балотца, а за ім і поле. Лён ляжаў роўненькімі радочкамі і, здавалася, урос у траву. Жанчыны яшчэ разглядвалі размеркаваныя дзялянкі, лічылі свае рады. Наша праца заключалася ў тым, каб узняць з поля патрэбную колькасць сцяблін, перахапіць на згіб левай рукі, зрабіць з больш тонкага пучка перавясла і перавязаць сноп. Не памятаю, колькі трэба было саставіць разам снапкоў, здаецца, шэсць, а зверху на іх надзець сёмы. Так атрымліваліся мэндлікі.

Жанчыны былі вельмі здзіўлены, убачыўшы мяне на полі. Хто змаўчаў, а нехта і не прамінуў адпусціць пару «гарачых» слоўцаў у бок нашай хаты. Адна з жанчын паказала мне, як пры рабоце правільна ў правай руцэ трымаць серп, кончыкам падчэпліваючы сцябліны. Як скручваць тугое перавясла…

Давялося працаваць мне нядоўга. Як ні старалася, а ўсё ж не змагла без здарэнняў адпрацаваць дзень. Чарговы раз узмахнула сярпом і не паспела азірнуцца, як мая левая рука залілася крывёю. Нават болю не адчула. Толькі нечаканасць і страх: што ж будзе? Гэта ж трэба так асарамаціцца перад людзьмі…

А жанчыны ўжо спяшаліся да мяне. Адна на хаду скінула з галавы хустку і, разарваўшы яе напалам, хутка пачала перавязваць мой вялікі палец на левай руцэ. Мяне адправілі дадому.

Якімі ж доўгімі былі для мяне, мама, тыя паўкіламетра! Баялася, як сустрэнуць дома, што скажуць. Але там на гэты раз моцна не сварыліся: кроў ішла доўга. Бацька сам начыста перавязаў рану, трохі паўшчуваў. І на гэтым скончылася. А вось шрам на левай руцэ застаўся на ўсё жыццё.

І ўсё ж, калі зацвітае лён, я доўга і з задавальненнем гляджу на гэтае сіняе шаўковае льняное мора…

## Татаршчына-1976

Мамачка, я сёння такая шчаслівая! Муж Ларысы, Іван Аляксандравіч Пшанічны, забраў мяне на лета да сваіх бацькоў у вёску Татаршчыну, што за дваццаць пяць кіламетраў ад Стоўбцаў.

Вадзіцель хутка імчаў нас на заводскім уазіку. Іван, Ваня, як мы яго звалі, усю дарогу пра нешта нам расказваў, нават спяваў свае любімыя і модныя на той час песні.

Справа ў тым, што ў 1974 годзе на экраны выйшаў фільм «Аніскін і Фантамас», зняты на Цэнтральнай кінастудыі дзіцячых і юнацкіх фільмаў імя Максіма Горкага. Песні з фільма ў выкананні Генадзя Бялова адразу палюбіліся шматлікай глядацкай аўдыторыі. Глядзелі і мы з Ларысай «Аніскіна…» у Засульскім вясковым клубе і амаль імгненна вывучылі на памяць песні з гэтага фільма.

Несумненна, любіў іх спяваць і наш Ваня, і цяпер, пад вуркатанне матора, ён прыгожым голасам напяваў песню «Травы, травы…» Гэтая песня кампазітара Уладзіміра Шаінскага на словы Івана Юшына і сёння адгукаецца ў сэрцы светлым шчымлівым сумам і пераносіць мяне ў тыя імгненні бесклапотнага і шчаслівага дзяцінства, якія я ўсё ж адчула дзякуючы сям’і Пшанічных.

…Каля татаршчынскай хаты нас сустрэлі бацькі Вані — Яніна Канстанцінаўна і Аляксандр Васільевіч, з якімі пэўны час жыла і наша Ларыса, цяпер ужо іх нявестка, якую яны бясконца любілі і шанавалі. Бабуля адразу абняла мяне, пацалавала, а затым і дзядуля. На стале нас чакала вялікая гара аладак з малаком і мёдам (дзед трымаў пасеку), смачная шынка (так тут называюць вэнджаны кумпячок) і шмат іншых прысмакаў. А галоўнае — дабрыня і душэўная цеплыня панавалі навокал.

І пачалося маё райскае жыццё. Няхай сабе толькі на летнія месяцы, але гэтыя дні будуць саграваць мяне найсвятлейшымі ўспамінамі ўсё жыццё.

Ларыса прыходзіла з Засульскай бальніцы, дзе працавала тады старшай медсястрой, рукі прыемна пахлі эфірам і рознымі лекамі, абдымала мяне. А калі ў сястры не было дзяжурства, мы хадзілі на рэчку, купаліся, загаралі, збіралі ў рове цёмнагаловыя крамяныя баравічкі, шмат чыталі, развучвалі песні. Бабуля вучыла мяне «пацерам» (малітвам) і вершам на польскай мове, якія ведала яшчэ «за польскім часам».

Я ўпершыню была «бобкаю», «сонейкам», як ласкава называла мяне бабуля Яніна. Калі я па звычцы ўставала зранку, каб нешта рабіць, яна гаварыла: «Паспі яшчэ, бобка. Адпачні. Тады паснедаеш. Я табе ўжо аладачак напякла. З млечкам ці смятанкаю надта смачна…» І я зноў засынала спакойным дзіцячым сном. Прачыналася гадзін каля дванаццаці дня. І — во дзіва! — ніхто на мяне не сварыўся, нікому я не замінала.

Увечары разам з вясковымі дзецьмі я хадзіла «на касцёр», дзе збіралася моладзь і дзетвара. Тут, у Татаршчыне, я ўпершыню ўбачыла зорнае неба, захапленне якім так і засталося на ўсё жыццё.

Пазней, маючы ўжо дзвюх дачок, я кожнае лета прыязджала сюды з дзецьмі. І не толькі я. Бывала, нас адпачывала тут летам па васямнаццаць чалавек, ажно даводзілася ставіць брызентавую вайсковую палатку ў двары.

Так, мама, сям’я Пшанічных стала роднай для кожнага з Вашых дзяцей і ўнукаў. Сюды мы прыязджалі, як дадому. Тут, каля сасновага лесу, які пераходзіць у Налібоцкую пушчу, дзе самае чыстае ў свеце паветра і самая смачная крынічная вада, дзе самае высокае неба і самыя салодкія лясныя ягады, павырасталі Вашы ўнукі. Бо ў новай сяражскай хаце, якой Вы так і не паспелі нацешыцца, з той пары, як не стала бабулі Арыны, нас ужо ніхто ніколі не чакаў.

…А лета праляцела імгненна. Трэба было збірацца ў Сярагі. Хутка ў школу. Сэрца трывожна сціскалася. І хацелася прыехаць і ўцячы з дому, каб ніколі туды больш не вяртацца. Але бабуля Яніна супакойвала: «Хутка зноў лета. І мы цябе забяром да сябе. А хочаш, хадзі ад нас у Засульскую школу».

Толькі хто ж мяне адпусціць… Трэба рабіць выгляд, што ў сям'і ўсё добра. І я вяртаюся ў халодны і чужы для мяне родны дом.

А Татаршчына, верыцца мне, яшчэ не раз прыветна сустрэне і нас, і нашых дзяцей, і нашых сяброў. І, спадзяюся, нашых унукаў і праўнукаў. І назаўсёды застанецца для мяне найлепшай у свеце мясцінай — маёй радзімай.

* * *

Стаўбцоўшчына! Мой любы сэрцу край.
Яшчэ адзін куток у Беларусі,
Куды душой збалелаю імкнуся,
Дзе так прыветна стрэне шумны гай
І здыме стому ціхая Сула,
Як верная дачка сівога Нёмана.
І ногі панясуць мяне нястомна
Да некалі шматлюднага сяла.
…Жыццё гартае вечны каляндар.
Сыходзяць людзі — патухаюць зоры.
Спатоль тугу, мой дзедаўскі абшар.
Дай птушцы крылы лётаць на прыволлі.

## Сяброўства са словам

Яшчэ ў першым класе я перачытала шмат кніг з дамашняй бібліятэкі і вельмі любіла ў той час творы Івана Шамякіна. Бацька, бачачы, што я чытаю кнігі не па ўзросце, аднойчы прынёс мне «Канька-гарбунка» Пятра Яршова. Я прачытала з цікавасцю. Але ўсё ж мне больш падабаліся сур'ёзныя мастацкія творы беларускіх пісьменнікаў. (У свае сем гадоў я была надзвычай дарослая для казак. Парадаксальна, але захапленне імі прыйдзе да мяне значна пазней, калі сама стану мамаю.)

Яшчэ адной любоўю і на ўсё жыццё для мяне сталі творы Івана Мележа. Так атрымалася праз гады, што сваю дыпломную працу ў педуніверсітэце я пісала на тэму «Няўласна-простая мова ў творах Івана Мележа». Таму «Людзі на балоце» і «Завеі, снежань» вывучыла амаль на памяць.

А ў Сяражскай сярэдняй школе, дзе я правучылася 8 класаў (на той час базавая адукацыя), я з цікавасцю наведвала ўрокі беларускай літаратуры, тым больш што родную мову і літаратуру выкладаў у нашым класе мой бацька, Іван Паўлавіч Янучок.

Кожны з урокаў беларускай літаратуры нагадваў міні-спектакль. Іван Паўлавіч, які меў, акрамя філалагічнай, яшчэ адукацыю рэжысёра народнага драматычнага тэатра, выдатна дэкламаваў. Ведаў на памяць мноства вершаў беларускіх і рускіх паэтаў.

Усе захоплена слухалі настаўніка і нават некаторым школьным хуліганам сваволіць на ўроку не хацелася. Усім было цікава. Бацька не любіў ставіць двоек. Ён даваў тым, хто не вывучыў, дадатковае заданне дадому і абавязкова выклікаў вучня на наступны ўрок. Таму ўсе ведалі, што вывучыць давядзецца. Ну, а калі выходзіла да дошкі я, то ўсе маглі спакойна сядзець і слухаць, таму што амаль трыццаць хвілін Іван Паўлавіч «дапытваў» мяне. Задаваў дадатковыя пытанні, а ў канцы абавязкова пытаўся ў класа:

— Як думаеце, якую адзнаку заслугоўвае вучаніца?

— Пяцёрку! — чулася дружнае ў адказ.

Я вучылася на выдатна, і бацьку вельмі важна было, каб аднакласнікі бачылі, што адзнакі мае заслужаныя.

Вось так паступова і ўзнікала любоў да ўсяго беларускага і ў прыватнасці да роднай літаратуры. Стаўшы сама настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, я часта прыгадвала тыя бацькавы ўрокі і да сённяшняга дня ўдзячная яму за выхаваную любоў да роднага слова. Гэта былі першыя крокі. Затым вялікі ўплыў на маё прафесійнае станаўленне аказала сястра Ларыса Іванаўна Пшанічная, якая акрамя медыцынскай, мела яшчэ дзве вышэйшыя адукацыі — настаўніка беларускай мовы і літаратуры і дэфектолага-лагапеда — і аддала педагагічнай працы трыццаць два гады.

Пройдзе час, і мы з Ларысай Іванаўнай будзем працаваць разам настаўнікамі беларускай мовы і літаратуры ў слуцкай СШ № 10 імя С. Ф. Рубанава. Менавіта ў той школе, дзе наш бацька ў 1948 годзе быў на педагагічнай практыцы…

А пакуль што любоў да кнігі, чытання, цікавыя школьныя ўрокі, без сумневу, паўплывалі на тое, што ўжо ў першым класе я пачала, як некалі казаў незабыўны Алесь Пісьмянкоў, «думаць вершы». І гэтыя вершаваныя дзіцячыя радкі давалі надзею на маё далейшае сяброўства са словам.

## Студэнцкае жыццё

Верасень 1980 года. Падчас вучобы на першым курсе Мінскага медыцынскага вучылішча № 2 жыву ў сям'і сястры Тамары, на вуліцы Галадзеда. І хоць самі яны на той час месціліся з маленькімі дзецьмі ў «палутарцы», знайшлося там месца і мне. Родныя вырашылі прыглядзець за мною, пятнаццацігадовай, дапамагчы на першым часе адаптавацца ў вялікім горадзе, за што я ім вельмі ўдзячная.

За першы год неабходна было не толькі адолець агульнаадукацыйныя прадметы, але і добра вывучыць лацінскую мову, каб пасля не рабіць памылак пры выпісванні рэцэптаў, не проста вывучыць, а «выгрызці» анатомію, прычым назву кожнага органа, кожнай костачкі не толькі па-руску, але і на латыні. Карацей, хто вучыўся ў медыцынскім, той мяне разумее. Было няпроста, асабліва на пачатку. Дапамагала цікавасць да будучай прафесіі. Не паверыце, але радавалі вочы нават насценныя і настольныя пластмасавыя муляжы, сапраўдныя чалавечыя косці, некаторыя нават з «мазалямі» пасля пераламу, перасыпаныя спецыяльным белым парашком, ад якога рукі доўга мелі спецыфічны пах.

Стыпендыя мая на той час была невялікая — 30 рублёў, але пры рэжыме страшэннай эканоміі хапала на ўсё — сціплыя абеды, касметыку, бялізну, якую хацелася мець самую прыгожую. Добра, што не было вялікай патрэбы ў адзенні: усё роўна з раніцы да вечара мы хадзілі як на заняткі, так і на практыку ў белых халатах. І таму большую частку стыпендыі мы з сяброўкамі трацілі на білеты ў тэатры. Не заставалася ніводнай прэм'еры ў Нацыянальным тэатры імя Янкі Купалы, Тэатры оперы і балета, дзе б мы ні пабывалі.

Адкрывалі для сябе паэзію Марыны Цвятаевай, Ганны Ахматавай, перапісвалі і вучылі на памяць песні Уладзіміра Высоцкага, часта хадзілі ў кіно. Больш за ўсё любілі наведваць кінатэатры «Кастрычнік» і «Перамога». Захапляліся нямецкай дыска-групай «Boney M.», улюбёныя ў салістку Элізабет Мітчал, шведскім квартэтам «ABBA», што былі асабліва папулярныя ў пачатку 1980-х гадоў.

У канцы першага года навучання мне далі месца ў пакоі ў інтэрнаце для медыцынскіх работнікаў Гарадской клінічнай бальніцы хуткай дапамогі

г. Мінска. Жылі ў новым дзевяціпавярховым будынку па адрасе: Кіжаватава, д. 60А, п. 903. Для студэнтаў тады было адведзена некалькі паверхаў. Спачатку прывыкалася няпроста, а пасля мяне пасялілі ў адзін пакой з дзяўчынай з групы — Ларысай Палянскай. Мы пасябравалі. Дзяліліся апошнім. Я — са стыпендыі, яна — калі прыедзе ад бацькоў, з вёскі. Так і сябруем да гэтага часу. Ларыса стала хроснай маці маёй старэйшай дачкі Ганны.

…На ўсё жыццё запомніла прозвішча сваёй першай хворай, якую давялося прымаць на агульнай медыцынскай практыцы ў пульманалагічным аддзяленні 9-й мінскай бальніцы — Туміловіч. А падчас практыкі ў аддзяленні гнойнай хірургіі 2-й савецкай бальніцы, як мы называлі яе і якая тады размяшчалася ў будынку па вул. Максіма Багдановіча, наўпрост з акна другога паверха, з перавязачнай, я назірала за адкрыццём помніка Максіму Багдановічу. Праўда, толькі паспела кінуць вокам: неабходна было тэрмінова скончыць перавязку. Працавала ў пары з доктарам-інтэрнам. Ён ставіў дрэнаж, я перавязвала…

Потым была грунтоўная практыка пасля першага курса ў гінекалагічным аддзяленні Гарадской клінічнай бальніцы хуткай дапамогі г. Мінска. Вось тут я працавала амаль месяц. Усе студэнты раз'ехаліся на канікулы, а мне не было куды спяшацца, і я папрасіла дазволу затрымацца на практыцы даўжэй. Так і працавала цэлы чэрвень. Толькі за раніцу трэба было зрабіць больш за 80 уколаў.

Мае стаpанні не прайшлі дарэмна. У канцы месяца загадчыца аддзялення паклікала ў ардынатарскую, шчыра пагаварыла са мною, распытала пра далейшыя планы і прапанавала, у выпадку маёй згоды, пры размеркаванні зрабіць на маё прозвішча запыт для далейшай працы ў іх аддзяленні. Аўтаматычна за мною замацаваўся б не проста ложак, а пакой у інтэрнаце. Я дала згоду. Аднак гэтаму не суджана было збыцца: лёс распарадзіўся так, што на трэцім курсе, незадоўга да дзяржаўных экзаменаў, мне давялося па сямейных абставінах пераводзіцца ў Слуцкае медвучылішча, якое скончыла паспяхова, здаўшы на выдатна ўсе дзяржаўныя экзамены.

З асаблівай цеплынёй успамінаецца і час навучання ў Слуцку. Так атрымалася, што маім класным кіраўніком стала Марыя Сцяпанаўна Мяцельская, якой, на жаль, ужо няма сярод нас. Яна была класным кіраўніком і ў сястры Ларысы, падчас яе вучобы на медсястрынскім аддзяленні Слуцкага медвучылішча. Мабыць, было наканавана лёсам, каб мы пасябравалі з Марыяй Сцяпанаўнай на ўсё жыццё. І на тое было шмат прычын, але не пра гэта размова.

А ў групе Марыі Сцяпанаўны, як яна мне расказвала праз гады, з маім прыходам жыццё актывізавалася. Перад дзяржаўнымі экзаменамі ў медвучылішчы праводзілі конкурс прафесійнага майстэрства, для ўдзелу ў якім ад нашай групы вылучылі мяне. Усе практычныя этапы конкурсу прайшла бездакорна: «Першасная апрацоўка нованароджанага», «Унутрымышачныя ін'екцыі», «Унутрывенныя ін'екцыі», «Накладванне павязак», «Накладванне шын (імабілізацыя пераломаў)». Зрабіла толькі дзве памылкі ў кантрольнай рабоце (на гэта былі свае прычыны), з якой пачынаўся конкурс, і апынулася ў першай пяцёрцы ўдзельнікаў. А марыла ж пра першае месца…

Марыя Сцяпанаўна тады мяне шчыра супакойвала. Яна, як ніхто, ведала прычыну, што перашкодзіла мне перамагчы ў конкурсе, да якога я рыхтавалася цэлы месяц, адпрацоўваючы навыкі маніпуляцый з секундамерам…

На жаль, па аб'ектыўных прычынах мне не давялося стаць урачом, пра што я заўсёды марыла і нават скончыла падрыхтоўчае аддзяленне Мінскага медыцынскага інстытута, але да гэтага часу не пакідае любоў да прафесіі медыцынскага работніка і захоўваецца мой самы прыгожы і дарагі сэрцу ўбор — белы халат і белая шапачка.

Але ведаеце, мама, я ні пра што не шкадую. Філалогія стала маім жыццём. Сёння я маю гонар і вялікую адказнасць кіраваць лепшай сярод лепшых рэдакцыйных устаноў і кожны месяц, трымаючы ў руках свежы нумар часопіса «Роднае слова», радавацца нашым сумесным з калегамі поспехам. А прафесія медыцынскага работніка, атрыманая ў юнацтве, дапамагае мне пачалавечы ставіцца да людзей, суперажываць чужому гору, успрымаць чужы боль як свой і радавацца, калі радуюцца іншыя…

## Перад вяселлем

Заўтра маё вяселле. Людзі кажуць, «у маі жаніцца — век маяцца». Тады пра гэта не ведала. Нечакана для сябе выходжу замуж за хлопца са сваёй вёскі. Пазнаёмілася з ім прыкладна год таму, калі ў нашай школе быў выпускны вечар. Як толькі ўбачыла, сэрца падказала: ён будзе маім мужам. Чаму так інтуітыўна адчула, і сёння не ведаю. Яшчэ зусім не збіралася замуж. Наперадзе была вучоба ў мединстытуце. Ды і ўсё было супраць гэтага шлюбу. Мне б добра падумаць, угледзецца ў факты і знакі, якіх было больш чым дастаткова. Можа, гэта Вы, мама, так аберагалі мяне. А я, зусім маладзенькая, тады не зразумела гэтага.

…І вось заўтра вяселле. З нашай групы медсястрынскага аддзялення выходжу замуж першай. Дзяўчатам не верыцца: занадта сур’ёзнай я была на свае гады. І ўсе ведалі пра маю мару паступіць у мединстытут, стаць урачом, а тут ні з таго ні з сяго — вяселле.

Бацькі будучага мужа Міхаіл Сцяпанавіч і Надзея Васільеўна, якія прынялі мяне ў сваю сям’ю як родную дачку, з самага пачатку прапаноўвалі згуляць вяселле толькі ў іх, але чамусьці розуму не хапіла прыслухацца. Ды і як жа так, у нас новая бацькоўская хата! І мы зрабілі яшчэ адну памылку, пагадзіўшыся ладзіць першы дзень вяселля ў доме бацькі і мачыхі.

Забягаючы наперад скажу, што незвычайныя метамарфозы адбыліся і з вясельным караваем, дзе ў самым цэнтры красаваліся два лебедзі. Засталося толькі дзівіцца, каму спатрэбілася адрэзаць і выкінуць аднаго лебедзя з каравая, які захоўваўся ў новым, чыстым бетонным склепе і куды доступ мелі толькі бацька і мачыха. Калі прыйшла пара дзяліць каравай, яго прынеслі з адной птушачкай. Які трывожны знак! А на раніцу некуды знік і кавалак каравая маладых, які мы з мужам, паклаўшы на стол, з-за хвалявання і няведання народных традыцый, нават не пакаштавалі. А між тым, гэта быў наш першы сямейны хлеб…

…Напярэдадні вяселля я іду на могілкі. Доўга стаю адна каля Вашай, мама, магілкі. Расказваю пра свае планы, каханне і трывогі. Неспакойна ў мяне на душы. І, як пасля пакажа час і нават святочны вясельны дзень, — недарэмна.

**Віралэ**

Ласкавы позірк любага,
Убору белле шлюбнага.
Вясельны вечар.

Не стала жонкай любаю,
Сустрэлася са згубаю.
А словы — вецер.

**Адзінота**

Адзінота. Адзінота. Адзінота.
Як развеяць змрочную тугу?
Подых ветру, летні шэпт лістоты
Ў сэрцы назаўсёды зберагу.

Цёплыя дзяնькі усё радзей,
Ліст апошні стыне на бярозе —
Цёмны вугалёк з кастра надзей.
Шчасце затрымалася ў дарозе.

Восеньскі марозік лашчыць слота,
Студзіць сэрца горкая пяшчота.
Цяжкая душэўная работа —
Адзінота. Адзінота. Адзінота.
Адна нота…

## Участковая медыцынская сястра

1 жніўня 1983 года — мой першы працоўны дзень у якасці ўчастковай медыцынскай сястры Слуцкай гарадской дзіцячай паліклінікі. Прыйшла працаваць на ўчастак пад № 13, які абслугоўваў цэнтральную частку горада — вуліцы Леніна, Жукава, Канановіча, Ленінскую, Віленскую, Капыльскую, частку Чыгуначнага праезду… Участковым педыятрам была ў той час Валянціна Пятроўна Журкоўская, якой я вельмі ўдзячная за разуменне і падтрымку маіх першых прафесійных крокаў.

У гэты перыяд пачалі будаваць новую цэнтральную раённую бальніцу прыкладна на 800 ложкаў. Прызнаюся, мама, я марыла, як толькі здадуць бальніцу ў эксплуатацыю, то абавязкова перайду на працу ў стацыянар. У паліклініцы мне не надта падабалася: здавалася, што мала практычнай работы. Я, якая рыхтавалася да працы хірурга і марыла пра медыцынскі інстытут, гатова была на многае: рабіць уколы, ставіць кропельніцы, дрэнажы, апрацоўваць раны, нават шыць, калі патрэбна, накладваць павязкі, прымаць роды, вызначаць дыягназы і многае-многае іншае, чаму мяне навучылі найлепшыя выкладчыкі-практыкі дзвюх навучальных устаноў.

Без адрыву ад працы я скончыла падрыхтоўчае аддзяленне Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута. Але для таго, каб вучыцца на лячэбным факультэце, трэба было жыць у сталіцы. Мой яшчэ адзін няправільны крок (вяртанне па патрабаванні мужа з Мінска ў Слуцк) паўплываў на далейшы лёс.

Цэнтральная раённая бальніца была дабудавана ў 1986 годзе, але ў мяне ўжо былі іншыя планы на жыццё…

Аднак вярнуся да працы ў паліклініцы. Многім медыкам было за шчасце там працаваць. Тры гадзіны ў кабінеце на прыёме, затым патранаж (медсёстрам тады па плане неабходна было наведаць за дзень 14 дзетак. — *З. П.*) і запаўненне картак. Трэба было якасна весці па ўстаноўленых формах медыцынскую дакументацыю, своечасова рабіць справаздачы таксама па формах зацверджанага ўзору, дакладна запаўняць карткі пасля патранажу. І менавіта гэтая «бухгалтэрыя» мне тады не зусім падабалася. Хацелася паболей «жывой» працы…

Увага супрацоўнікаў паліклінік заўсёды скіравана на своечасовае выяўленне паталогій, дыспансерызацыю і лячэнне. Маёй асноўнай задачай было

аказанне кваліфікаванай амбулаторнай медсястрынскай дапамогі маленькім жыхарам горада.

Разам з Валянцінай Пятроўнай мы павінны былі арганізоўваць і праводзіць прафілактычную работу, скіраваную на зніжэнне захворванняў, інваліднасці і смяротнасці сярод дзіцячага насельніцтва, на гігіенічнае выхаванне дзяцей і падлеткаў; аказваць лячэбную дапамогу…

Трыццаць гадоў таму ў нас яшчэ не было аднаразовых шпрыцаў. І гэта вельмі ўскладняла працу. Мне выдалі невялікі прамавугольны (прыкладна 10х20 см) медыцынскі стэрылізатар, некалькі шпрыцаў («двоечку» на 2 мл, «пяцёрачку», «дзясятачку»), пінцэт і некалькі тупаватых іголак. Усё гэта трэба было за кожным разам стэрылізаваць. Часта, зрабіўшы ўколы, прыходзілася ў кватэры пацыента прасіць дазволу прастэрылізаваць шпрыцы, каб ісці да наступнага дзіцяці. Ні многа ні мала працэс стэрылізацыі займаў 45 хвілін. Зразумела, гэта значна павялічвала час, адведзены на патранаж.

Укладку ўчастковай медсястры, дзе ў падпісаных ячэйках ляжалі ампулы для першай і неадкладнай дапамогі, стэрыльныя бінты, вата і іншае неабходнае начынне, я пашыла з кавалка блакітнай медыцынскай цыраты сама. Самае цікавае, мама, што тая ўкладка з усім начыннем захоўваецца ў мяне і сёння. З той пары засталася звычка заўсёды насіць з сабою лекі для аказання першай дапамогі.

На прыёме таксама хапала клопату. Бясконцыя чэргі, хваляванне мам… Адзін дзень, аўторак, у нас быў адведзены для прыёму здаровых дзетак. Ён так і называўся — Дзень здаровага дзіцяці. Ім трэба было своечасова рабіць пробу на туберкулёз (рэакцыя Манту); прышчэпкі супраць ветраной воспы, коклюшу, адру, дыфтэрыі, краснухі, поліяміэліту…

Знаёмства з маленькімі пацыентамі ў нас пачыналася яшчэ да іх нараджэння. У мае абавязкі ўваходзіў і дародавы патранаж цяжарных на ўчастку. Затым першы патранаж нованароджанага, кансультацыя бацькоў па доглядзе за немаўляткам…

Тыя шчаслівыя імгненні майго медыцынскага мінулага на ўсё жыццё засталіся ў сэрцы. Раніца. Прыходжу ў паліклініку на працу. Адчыняю дзверы кабінета. Апранаю белы халат. І я ўжо не тая, якой была некалькі хвілін таму. Я — медыцынская сястра дзіцячай паліклінікі, якой сёння давядзецца прафесійна, дакладна выконваць усе распараджэнні ўрача, сустракацца з маленькімі пацыентамі і іх бацькамі, радавацца і засмучацца, абмерваць і ўзважваць дзетак, выпісваць рэцэпты, спяшацца на дапамогу, ісці на патранаж, рабіць уколы, мазаць зялёнкай пупавіну нованароджаных… Адным словам — жыць!

## Нараджэнне першай дачушкі Ганначкі

Стаяў марозны лютаўскі дзень 1984 года. Мы жылі тады на кватэры ў Слуцку непадалёк ад Свята-Міхайлаўскай царквы па вуліцы Чырвонаармейскай, 54. Пераехалі туды ў снежні 1983 года, амаль за месяц да маіх родаў. Здымалі пакойчык у Алены Савельеўны Сяргеевай. Абаграваўся пакой печкай, а дроў мы на зіму не нарыхтавалі, бо нават не думалі, што давядзецца жыць у прыватным сектары. Выкарыстоўваць гаспадыніны я шкадавала, дзе ёй, старэнькай, пасля браць: самой трэба было штодзень паліць у печы. Я глядзела на гаспадыню, і ў памяці ўсплываў вобраз бабулі Арыны…

Алена Савельеўна была цудоўным і добрым чалавекам. Жылі мы з ёю душа ў душу.

Якраз днём 6 лютага старэйшая сястра Алена выпісала на заводзе прычэп драўнінных адходаў. Прыйшла цяжарная дачкою Сашкаю Ларыса і мы ўчатырох — сёстры Ларыса і Алена, Алена Савельеўна і я насілі гэтыя, як мы называлі, «шчэпкі». Муж мой быў на працы, ды і, папраўдзе, яго ніколі не цікавілі дамашнія клопаты.

Старэйшыя берaглі мяне, не давалі памногу падымаць, вельмі перажывалі, як-ніяк праз два дні ў мяне быў тэрмін родаў. Але на каго перакінеш гэтую работу: на Ларысу, якой самой праз месяц нараджаць, на гаспадыню кватэры, якой 85 гадоў, ці на Алену, якая пасля начной змены сама была вельмі стомленая. Таму я і старалася працаваць нароўні з усімі…

Ужо бліжэй да вечара ў мяне забалела спіна, пачаліся рэдкія схваткі, але ўсё ж нам удалося разгрузіць той памятны прычэп.

Муж, вярнуўшыся з работы, адвёз мяне ў радзільнае аддзяленне Слуцкай ЦРБ… І прыехаў праведаць толькі праз два дні…

Так 6 лютага 1984 года я стала мамаю. Роўна ў 24 гадзіны, пад гукі гімна Савецкага Саюза (радыёкропка была побач з радзалай), я ўпершыню пачула галасок сваёй дачушкі. Цяпер дзіця адразу не забіраюць ад маці, а тады дачку мне нават не паказалі.

Праз недарэчную ўрачэбную недакладнасць — чамусьці палічылі, што ў нас розныя рэзус-фактары, — яе не прыносілі да мяне карміць ажно два дні. І толькі на трэці, калі я ўжо не магла больш жыць абяцанкамі акушэрак, а цвёрда запатрабавала прынесці маё дзіцятка, мне прынеслі адразу чацвёра: два беленькія тугія скрутачкі на адной руцэ, і яшчэ два — на другой. З прыязнай усмешкай медсястра прапанавала:

— Выбірайце сваё, калі пазнаеце.

А што ж тут выбіраць! Тут сэрцам адчуваеш — твая! Зразумела, што я беспамылкова паказала на сваю дачушку. Яна была вельмі падобная да мяне ў маленстве — тыя ж вочкі, той жа носік, вусны. Крывінка мая…

Я ўжо ведала, што назаву яе Ганнай, Анюткай — у Ваш гонар, мама.

## Адзінаццацікласніца

Дзіва дзіўнае, але адзінаццацікласніца — гэта я. У дваццаць адзін год.

Зразумеўшы, што з мараю пра медыцынскі інстытут мне давядзецца развітацца, я пачала думаць пра дэфекталагічны факультэт педінстытута. Аказалася, што прынялі б пры ўмове наяўнасці накіравання, а яго ніхто ў нашым невялікім горадзе Слуцку мне даць не мог: спецыялістаў хапае, вакансій няма. А не вучыцца было нельга. Мне здавалася, што гэта будзе здрада ў адносінах да Вас, мама. Ваша Зоя, выдатніца, якая ў пяць гадоў ужо чытала (няхай і амаль нічога не разумеючы) асобнай кніжачкай работу «Лев Толстой как зеркало русской революции» У. І. Леніна (?!), абавязкова павінна была атрымаць вышэйшую адукацыю. Інакш нельга. І тады выйшла на першы план яшчэ адна любоў — любоў да роднай мовы і літаратуры. Аднак паступіць у педінстытут з медыцынскай адукацыяй было няпроста.

Пасля смерці Генеральнага сакратара ЦК КПСС Л. І. Брэжнева, а затым Ю. У. Андропава, Цэнтральны Камітэт узначаліў К. У. Чарненка, які вырашыў распачаць рэформы ў адукацыі. У 1984 годзе ім была ўнесена прапанова змянення школьнай структуры і павелічэння тэрміну навучання. Цяпер замест 10 класаў трэба было вучыцца 11, дзяцей прымалі ў школу з шасці гадоў, некаторыя змены былі і ў вышэйшай школе. Пэўна таму, калі я пачала кан-

сультавацца наконт паступлення на базе сярэдняй спецыяльнай медыцынскай адукацыі, мне адказалі проста: паступайце ў медінстытут. А вось каб была агульная сярэдняя адукацыя, або педагагічны стаж…

І я іду на неардынарны крок. Змаўчаўшы пра медыцынскую адукацыю, паступаю вучыцца ў вячэрнюю школу. Здаю экстэрнам экзамены за 9-ы і 10-ы класы, і мяне залічваюць у 11-ы. Праўда, настаўнікі рассакрэцілі мяне хутка, бо я ніяк не магла сарыентавацца, што я павінна ведаць, а якую тэму быццам яшчэ і не вучыла. Зразумеўшы маю сітуацыю, на дзіва, паставіліся да мяне надзвычай прыязна.

Заняткі ў вячэрняй школе былі арганізаваныя ў дзве змены — раніцай і ўвечары. Паколькі маёй Ганначцы было толькі паўгода, увечары вучыцца я не магла. Давялося выбраць ранішні час…

Вячэрнюю школу я закончыла даволі паспяхова — з некалькімі чацвёркамі. Здавалася б, нарэшце можна паступаць, але мой муж «прыклаў намаганні», і свае атэстат аб сярэдняй адукацыі і ваенны білет я ўбачыла толькі праз некалькі гадоў, і то з дапамогай супрацоўнікаў абласной пракуратуры.

Сцяўшы зубы, пайшла іншым шляхам. Каб зарабіць педагагічны стаж, я іду на працу ў дзіцячы садок № 20 «Казка». У маёй групе ранняга ўзросту (ад года да трох) было ажно трыццаць дзетак. Клопатаў хапала.

Аднойчы да мяне зайшла калега па паліклініцы Ірына, медсястра, якая змяніла мяне на ўчастку.

— Як ты тут выжываеш? Не шкадуеш, што пайшла з участка?

— Не шкадую. Не той генерал, што салдатам не быў.

Школа педагагічнага майстэрства ў нашым дзіцячым садку сапраўды была моцная. Кожнае святочнае мерапрыемства ці адкрытыя заняткі прадумваліся да самых дробязяў. І заўсёды ўсё праходзіла паспяхова. Набыты вопыт вельмі спатрэбіўся мне і пазней. Дзе б ні працавала, заўсёды ўзгадвала ўрокі нашай загадчыцы дзіцячага садка паважанай Марыі Міхайлаўны Рэмізавай. Лёгка мне было і на пасадзе арганізатара аддзела адукацыі, і на пасадзе галоўнага інспектара міністэрства адукацыі выязджаць на праверкі. Я ведала асаблівасці працы і ў дзіцячым садку (пачынаючы ад прамаркіраваных прылад да планавання і непасрэднай работы з дзецьмі), і ў школе, і ў аддзеле адукацыі…

Увогуле, колькі жыву, пераконваюся, што для чалавека лішніх ведаў не бывае. Усё, што з намі адбываецца, пэўна, даўно нейкай вельмі значнай сілай запланавана ў касмічнай прасторы. Пражытае, хоць часам і занадта горкае, ідзе чалавеку на карысць у будучым. Як і тая мая вучоба ў адзінаццатым класе пасля надзвычай паспяхова закончанага медвучылішча. Вось як яно бывае ў жыцці…

## Экзамен на сталасць: мая малодшая дачушка Насцечка

Трыццаць першага мая 1987 года ў Мінскім абласным раддоме ў мяне нарадзілася другая дачушка — Анастасія. За тыдзень да гэтага я прыехала ў Мінск, спынілася ў брата Грышы з нявесткай Надзеяй, паступала ў педінстытут імя Максіма Горкага (з 1993 года — Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка) на беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта.

Сямейнае жыццё маё канчаткова разладзілася. Аднак, даведаўшыся, што другі раз стану мамаю, я з радасцю ўспрыняла гэтую вестку. Неяк у той год навіны ішлі адна за адной: цяжарнасць, блізкі развод, паступленне ў інстытут…

Са Слуцка ў Мінск мяне прывезлі на сваёй машыне пляменніца Ірына з мужам. Я сабрала два чамаданы: адзін, старэнькі, але памятны (з ім Ларыса пасля заканчэння Слуцкага медвучылішча паехала на сваё першае працоўнае месца, у Засульскую бальніцу) — з кнігамі, а ў другі паклала шмат новенькіх пялёнак, дзіцячую коўдрачку, нават новенькую бутэлечку для малака, некалькі пустышак, медыцынскія прылады і шмат якіх дробязяў для будучага дзіцяткі. А раптам… каб усё было з сабою. Я павінна была прадугледзець многае на выпадак родаў, якія чакаліся яшчэ толькі праз два тыдні.

Трыццатага мая адбылася агульная нарада з абітурыентамі ў педінстытуце, і я, спяшаючыся, нават падбягала, каб не спазніцца. Сярод абітурыентаў адна я была цяжарная, таму адчувала сябе няёмка…

Вечарам таго дня, 30 мая, мы святкавалі дзень нараджэння нашай Надзеі, братавай жонкі. Яна хараша спявала і была надзвычай гасціннай, таму ў іх двухпакаёвай кватэры на праспекце Ракасоўскага, 81 было заўсёды людна, весела і ўтульна, на кожнае свята гучалі песні, якіх яна ведала мноства. Кожнаму з нас там заўсёды былі рады і ўсім хапала месца.

Пасля таго як разышліся госці, я яшчэ некаторы час паўтарала пытанні да экзаменаў. Мне дапамагала сястра Ларыса, якая таксама жыла ў той час у брата, здаючы апошнюю сесію ў педінстытуце на дэфекталагічным факультэце. Хутка, праз дзень, у мяне першы ўступны экзамен. Але ўжо раніцай 31 мая я адчула, што мяне чакае іншы экзамен. І вечарам, у 21.20, у мяне нарадзілася другая дачушка.

Калі забіралі ў бальніцу, брат Грыша ўсё ніяк не мог зразумець, чаму я не крычу. Ажно пытаўся: «Гэта так нараджаюць? А чаму ты не крычыш?» А я трымалася з усіх сіл, не разумеючы, што ж будзе? Заўтра — экзамен. І чаму ж менавіта сёння такое са мною, чакалася ж яшчэ праз два тыдні. Святая наіўнасць маладосці!

Цяпер трэба было думаць пра іншы экзамен — другі галоўны экзамен у жыцці. На права яшчэ раз стаць мамаю.

Урачы хуткай дапамогі прывезлі мяне ў абласны раддом і, як пасля высветлілася, я стала там апошняй пацыенткай: бальніцу закрывалі на пэўны час на дэзынфекцыю і рамонт. Парадзіх было мала, і мяне паклалі ў асобную светлую палату, чаму я была вельмі рада. Праз акно было відаць, як па чыгунцы ідуць цягнікі. Каб неяк адагнаць невыносны боль, я пачала лічыць вагоны: адзін, два, тры, пяць… Чамусьці ніяк не магла ўспомніць, якая лічба ідзе пасля лічбы «тры». Успомніла, што гэта «чатыры», толькі пасля таго, як нарадзіла.

Доўга адна ў палаце я не ўседзела: не дазволіла медыцынская адукацыя і павышаны ўзровень эмпатыі. Чуючы, як крычаць у суседняй палаце парадзіхі, пайшла да іх.

— Дзяўчаты, хто яшчэ можа нешта ўспрымаць і разумець, глядзіце на мяне і паўтарайце за мной, як трэба дыхаць. Будзеце правільна дыхаць — хутка пройдзе боль. Спакайней будзеце чакаць наступнай схваткі.

Спачатку нехта не звярнуў увагі, нехта адвярнуўся, але знайшліся і такія, хто паслухаў. У хуткім часе ўжо амаль усе ў палаце прыціхлі, стараючыся правільна дыхаць. Паспакайнелі. Пачалі нават усміхацца. Адчыніла дзверы акушэрка, глянуць, што адбываецца тут. Здзівіўшыся, пахваліла мяне і выйшла.

Амаль адразу ж за ёю і я пайшла ў сваю палату. Трошкі счакаўшы, сама выйшла да ўрачоў:

— Мне пара. Вядзіце.

— Не можа быць. Яшчэ пагуляйце трошкі.

— Гавару вам, пара.

— Ну, калі пара, то хадзем, — прыязна ўсміхнулася доктар.

Аказалася, што я ўсё правільна адчувала. І праз некалькі хвілін на свет з'явілася мая дзяўчынка. Мне адразу яе паказалі, нават паклалі каля мяне на маленькі столік, так, каб магла яе не толькі бачыць, але і дакранацца да яе. Завяршаючы ўсе неабходныя справы, доктар пахваліла мяне і сказала вельмі знакавую ў маёй сітуацыю фразу:

— Ставім вам за паводзіны ў нас пяцёрку.

— Першая пяцёрка, — прашаптала я і нечакана для сябе заплакала.

— Што-што? — не зразумела доктар. — Вы чаго? Радавацца трэба, такое прыгожае, здаровенькае дзіцятка.

— А я і радуюся, — адказала я і пачала разглядваць сваю Насцечку.

Зразумела, што для кожнай мамы сваё дзіця самае прыгожае. Не выключэнне і я. Углядалася ў свой найдаражэйшы на свеце скарб і не магла наглядзецца на чорненькія вейкі, смугла-ружовенькі колер тварыку, маленькія, як вытачаныя, вуснячкі. Прыгажуня мая!

Дачушка спакойна спала, увогуле трэба сказаць, што яна расла спакойным дзіцем. У адрозненне ад Ганначкі, з якою я ўпершыню змагла заснуць ноччу, калі ёй было крыху больш за годзік, Насцечка паводзіла сябе заўсёды спакойна і роўна. І плакала вельмі рэдка.

«Вось і ў мяне ўжо дзве дачушкі, — паступова пачынала ўсведамляць я. — І ў кожнай з іх свая сцяжына, свая дарога. Божа, як я хачу, каб мае дзеці былі шчаслівыя. Здаецца, захінула б іх ад усіх нягод, каб толькі магла…»

…Выпісалі нас на чацвёрты дзень. Усіх сустракалі мужы. А мой мала таго, што ні разу не пазваніў, не пераведаў, дык і забіраць з раддома не прыехаў. У бальніцы, мабыць, лічачы мяне маці-адзіночкай, карэктна пра мужа не пыталіся. Забіралі нас з дачкою сёстры Тамара з Ларысай. Усё як трэба — з цукеркамі, кветкамі…

Дык вось, яшчэ адзін экзамен здадзены. Наперадзе — наступныя — уступныя экзамены ў інстытут.

Мама, я цвёрда вырашыла не здавацца і верыць у сябе.

**І лёсу веру я…**

Імкнуся не растраціць
дабрыню,
Хоць выпалі на долю
на маю,
І горыч, і вялікая любоў
Праз холад спапяляючы
снягоў.
А лёс пацІху шэпча,
як замову:
«Ўся сіла ў дзецях, там
твая аснова —
Развага, розум, шчасце,
дабрыня»…
І лёсу веру я.

**Дзве сцяжынкі**

Дзве дачушкі —
дзве сцяжынкі,
Долі Бог вам дай
І на кволыя сцяблінкі
Сонейкам заззяй.

Як ад горкае самоты
Мне вас зберагчы?
Вы ў часіну адзіноты
Верце ў касачы,
Што цвілі ля нашай хаты
З даўняе пары.
Верце ў песню, што
дзяўчаты
Спявалі на зары.

## Паступленне ў педінстытут

Сёння, з пазіцыі пражытых гадоў, мне застаецца толькі здзіўляцца з той мяне, маладой і адчайнай. Але не ў маім характары адступаць. І праз некалькі дзён пасля нараджэння дачкі я іду здаваць уступныя экзамены ў інстытут.

…Раніцай 1 чэрвеня 1987 г. я павінна была здаваць першы ўступны экзамен на філалагічным факультэце, а напярэдадні ўвечары, як я ўжо распавядала, у мяне нарадзілася другая дачка — Анастасія. Я ляжала на бальнічным ложку і думала пра ўсё адразу: добра, што з дачушкай і са мною ўсё ў парадку, калі ж нас выпішуць і як паспець на экзамены з другім патокам.

Ларыса занесла на філфак даведку, што я ў раддоме, а ў дэканаце не адразу нават зразумелі, дзе ж знаходзіцца абітурыентка. Так і спыталі:

— А чаму сама не прынесла даведку? Дзе ж сама абітурыентка?

— Я ж і кажу вам: у раддоме. Просіць дазволу здаваць экзамены з другім патокам. Вось заява і даведка.

Мне дазволілі. На ўсё жыццё я запомніла той, можа, у нечым і неардынарны, але бясконца чалавечны ўчынак тагачаснага прарэктара па завочным навучанні сп. Васіля Варывончыка. І хоць, як аказалася, у гісторыі філфака такога прэцэдэнту не было, ён сказаў, што ёсць пісаныя законы, а ёсць законы чалавечыя, і дазволіў мне здаваць уступныя экзамены. Хоць ведаў, што калі паступлю, мяне адразу трэба будзе адпраўляць у акадэмічны адпачынак. Так і адбылося.

На вялікі жаль, Васіля Іванавіча хутка не стала, і я не паспела выказаць яму словы ўдзячнасці. Прайшлі гады, і, ужо будучы прарэктарам па вучэбнай рабоце Мінскага гарадскога дзяржаўнага інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў адукацыі, падчас правядзення гарадской прадметнай алімпіяды сярод школьнікаў, мне выпала сустрэцца з кандыдатам гістарычных навук, сынам гэтага незабыўнага чалавека. Яму я і падзякавала за тое даўняе дабро яго бацькі, Васіля Іванавіча Варывончыка, — даць шанц незнаёмай яму абітурыентцы і паверыць у яе. Невядома, як склалася б маё далейшае жыццё, не прымі ён тады лёсавызначальнае для мяне рашэнне. Такое не забываецца…

### Зноў жыццё ўсміхаецца мне

Чулі жаўранка спеў па вясне?
Столькі вёснаў спяваў,
Ды не мне.
…Кладкай вузкай раку перайду.
Страх і холад — наперад іду.
Пада мною вада бурліць,
Дай, Бог, сілы, хоць крок ступіць.
Не стаміцца, не стаць, ісці.
Бераг той — як збавенне ў жыцці.
Крок. Яшчэ… Ну, яшчэ адзін…

Сэрца шэпча: «Смялей ідзі».
Сэрца ведае: перайду.
Там каралі з бурштыну знайду:
Слёзы соснаў, як слёзы мае,
Сушыць сонейка па вясне.
Крок, нарэшце, апошні. Ўсё.
За спіною не метры — жыццё.
Я змагла. Перайшла! Сустрэнь,
О прыгожы і сонечны дзень!
Сінь нябёсаў і зелень траў
Для мяне ты ў вянок сабраў.
Зіхаціць у рацэ вада,
Назаўсёды сплыла бяда.
Зноў жыццё ўсміхаецца мне
Песняй жаўранка па вясне.

## Былых настаўнікаў не бывае

Вучоба ў інстытуце мне давалася лёгка. Столькі было радасці ад таго, што нарэшце я стала студэнткаю, што мара атрымаць вышэйшую адукацыю паступова збываецца. Адразу мяне прызначылі старастай групы, і выконвала я гэтыя абавязкі ўсе пяць гадоў да дня атрымання дыплома.

У нас на беларускім аддзяленні філалагічнага факультэта была такая слаўная кагорта выкладчыкаў! Кім Уладзіміравіч Скурат, Эвеліна Данілаўна Блінава (некалі яны прымалі ў мяне ўступны экзамен, які я здала на «выдатна»), Алена Казіміраўна Юрэвіч, Алесь Аляксандравіч Каўрус, Міхась Станіслававіч Яўневіч, Ніна Васільеўна Гаўрош, Марыя Фёдараўна Шаўлоўская, Іван Сцяпанавіч Шпакоўскі, Алена Сяргееўна Гурская, Тамара Мікалаеўна Трыпуціна, загадчык аспірантуры і дактарантуры Лідзія Барысаўна Варабей…. І гэты пералік трэба доўжыць і доўжыць. Жанчыны-педагогі не толькі цудоўна выкладалі свой прадмет, добра ведалі сваю справу. Кожная з іх стала ўзорам, сапраўдным прыкладам для нас і ў паводзінах, і ў манеры апранацца і падбіраць упрыгожанні пад той ці іншы ўбор, і ў манеры весці размову, і ў многім іншым, што з кожным днём паступова «ляпіла» з нас прыгожых адукаваных людзей.

Дэканам факультэта ў той час быў Алесь Іванавіч Лугоўскі. Замежную літаратуру выкладала Галіна Яўгенаўна Адамовіч — чалавек энцыклапедычных ведаў, незвычайна захоплены сваім прадметам. Дзякуючы ёй мы спазналі дзівосны свет твораў Шэкспіра, Дантэ, Гётэ…

Адам Антонавіч Грымаць, выкладаючы педагогіку, сам быў узорам сапраўднага педагога. З першых гадоў навучання, заўважыўшы мае даследчыя здольнасці, прапанаваў рыхтавацца ў аспірантуру і выказаў жаданне быць маім навуковым кіраўніком. Нават тэму курсавой работы падказаў нестандартную «Адмоўныя маральныя якасці на літару *л* у творах беларускай літаратуры». Ох і папацела ж я, перачытаўшы, перагартаўшы «горы» празаічных твораў беларускіх пісьменнікаў. Аказваецца, вельмі рэдка сустракаюцца ў нас такія словы, як *лянівы*, *лайдакаваты* і інш. Ды і адкуль ім узяцца, калі народ наш працавіты і руплівы! Ацаніўшы маю курсавую на «выдатна», Адам Антонавіч яшчэ раз нагадаў пра аспірантуру. А праз некалькі гадоў, на вялікі жаль, вядомага вучонага Адама Грымаця не стала…

Нашы Настаўнікі вучылі нас не проста прафесійнаму майстэрству. Дасканала ведаючы свой прадмет, будучы патрабавальнымі і чалавечнымі, яны навучылі нас многаму, галоўнае — выхавалі ў нас павагу да прафесіі, якую

абралі, навучылі бачыць у кожным са сваіх вучняў найперш чалавека, асобу з яе клопатамі, радасцямі і праблемамі.

Ведаючы, як мне няпроста адной з двума маленькімі дзецьмі, мае выкладчыкі заўсёды з разуменнем і павагай ставіліся да мяне як да студэнткі. Пры гэтым скідак ніколі не рабілі: стараліся навучыць, паболей даць інфармацыі, абавязкова падказаць, дзе можна купіць ці ўзяць у бібліятэцы тую ці іншую кнігу.

Уяўляеце, мама, аднойчы адкрываю паштовую скрыню, а там ліст з педуніверсітэта. Канверт, падпісаны рукою нашага паважанага і любімага студэнтамі метадыста Святланы Міхайлаўны Аляксандравай, і спіс пытанняў да экзамену па беларускай мове (пунктуацыя) з подпісам выкладчыцы Алены Казіміраўны Юрэвіч. Як мне тады гэтая ўвага Настаўніка дапамагла! Вядома ж, я сур'ёзна рыхтавалася да экзамену, але толькі па тэмах, бо неяк так атрымалася, што пытанняў у мяне не было. Сёння ўжо не памятаю, па якой прычыне. Мая выкладчыца не ведала, ёсць у мяне тыя пытанні ці не, але яна ведала маю сітуацыю і маю адказнасць…

Экзамен я тады здала на «выдатна». І да гэтага часу памятаю тактоўнасць выкладчыка, яе па-мацярынску цёплую, шчырую ўсмешку. Мне здавалася, што яна нават любуецца мною падчас адказу на пытанні білета. Ну якраз як некалі Марыя Лаўрэнцьеўна, мая першая настаўніца, калі выклікала мяне да дошкі…

Да гэтага часу, як паказчык чалавечнасці Настаўніка, захоўваю той канверт і два лісткі паперы з пытаннямі да экзамену з подпісам «А. К. Юрэвіч»…

А якія ў нас былі лекцыі па беларускай літаратуры загадчыка кафедры Мікалая Іванавіча Мішчанчука! Захоплены сваім прадметам, далікатны і тактоўны, шаноўны прафесар, на той час яшчэ кандыдат філалагічных навук, дацэнт, мог гадзінамі трымаць нашу ўвагу. Мы абсалютна не заўважалі, як хутка ляцеў час на яго лекцыях. А некаторыя невядомыя нам вершы мы нават перапісвалі ад рукі і перадавалі адно аднаму.

Мікалай Іванавіч адкрыў для нас свет эмігранцкай літаратуры, пра якую мы тады амаль нічога не ведалі… Ён напісаў для нас патрэбную кнігу «Настаўніку пра настаўніка», якая стала, асабліва першыя гады працы, настольнай. Да кожнага са студэнтаў ён ставіўся шчыра, клапатліва, сардэчна і разам з тым патрабавальна.

Аўтар многіх манаграфій, падручнікаў, доктар філалагічных навук Мікалай Іванавіч Мішчанчук доўгі час быў навуковым кансультантам і членам рэдкалегіі навукова-метадычных часопісаў «Роднае слова» і «Беларуская мова і літаратура». Да ўсяго, ён аўтар зборнікаў паэзіі «Вернасць», «Трывожуся за белы свет», «Струна надзеі».

Ведаючы яшчэ падчас вучобы свайго шаноўнага Настаўніка як паэта, аднойчы я рызыкнула паказаць яму свае вершы. Некалькі набраных на друкавальнай машынцы стандартных лістоў з вершамі на рускай і беларускай мовах. Ужо на наступную лекцыю Мікалай Іванавіч прынёс тыя лісточкі з пазнакамі амаль на кожнай страфе: «добра», «цуд!», «калька з рускай», «штамп»… А пасля лекцыі дэталёва разабраў кожны мой радок, адзначыўшы метафарычнасць бачання з'яў, што вельмі важна для паэта. Параіў абраць для напісання вершаў родную мову, калі я хачу сцвердзіцца як творца на сваёй зямлі. Столькі сілы мне надала тая размова, і ўпэўненасці, і роздуму, і жадання вучыцца майстэрству ў класікаў, і жаданне апраўдаць давер свайго Настаўніка… Мікалай Іванавіч кіраваў навуковымі працамі многіх аспірантаў. На жаль, падчас майго паступлення ў аспірантуру шаноўны прафесар ужо жыў у

Брэсце, дзе працаваў ва ўніверсітэце імя А. С. Пушкіна. Ён пагадзіўся быць навуковым апанентам пры абароне маёй дысертацыі. Але гэтаму не суджана было збыцца…

Узгадваючы пра сваіх выкладчыкаў, нізка схіляю галаву перад кожным. Светлая памяць тым, каго ўжо няма сярод нас. Дзякую, што навучылі найперш майстэрству і чалавечнасці. Без чаго, якімі энцыклапедычнымі ведамі ні валодаў бы выкладчык, яму не адбыцца як Настаўніку.

Доўгіх гадоў жыцця ўсім нашым педагогам, хто па-ранейшаму працягвае аддаваць цеплыню свайго сэрца студэнтам ці пайшоў на заслужаны адпачынак. Як вядома, былых Настаўнікаў не бывае…

## Выпускны вечар

У апошні год маёй працы ў школе я была класным кіраўніком выпускнікоў. Са сваімі вучнямі я «падрастала» з пятага класа. І вось яны, такія дарослыя, прыгожыя і самастойныя.

Выпускны вечар 11-га філалагічнага, які, дарэчы, заканчвала і мая Ганначка, адбываўся ў чэрвені 2001 года. Гэта быў свайго роду і мой «выпускны». Я завяршала працу ў школе, дзе пакінула толькі 9 гадзін, каб давесці свой выпускны клас, і ў Слуцкім гарадскім аддзеле адукацыі, дзе працавала арганізатарам. Завяршаўся і мой этап жыцця ў Слуцку. У канцы жніўня мы з дзецьмі пераязджаем у Мінск…

А сёння я з лёгкім смуткам развітваюся са сваімі вучнямі. Усе яны мне як родныя дзеці. Тым больш што некаторых я ведала ад нараджэння — яны былі маімі пацыентамі на 13-м участку дзіцячай паліклінікі, потым (так склаўся лёс) выхаванцамі ў групе дзіцячага садка. Пасля прыйшлі да мяне ў 5-ы клас, і я стала іх класным кіраўніком. Таму сапраўды мне яны былі вельмі блізкія…

Мы пайшлі сустракаць узыход сонца на гістарычнае месца горада, дзе сёння размяшчаецца гарадскі Дом культуры. Мне важна было, углядаючыся ў світальнае неба і чакаючы першыя сонечныя промні, расказаць сваім выпускнікам пра наш горад, пра мужную зямлячку княгіню Анастасію Слуцкую.

Вучням я расказвала, пэўна, многае з таго, што яны ўжо ведалі. Пра першае ўзгадванне Слуцка каля 1116 г. у «Аповесці мінулых гадоў». Пра тое, што ў пачатку XIV ст. Слуцкае княства ўвайшло ў склад Вялікага Княства Літоўскага і наш горад амаль 200 гадоў быў адным з палітычных і культурных яго цэнтраў. Нават у 1441 г. атрымаў Магдэбургскае права.

Я гаварыла пра тое, што ў Слуцку заўсёды жылі мужныя людзі. У 1410 г. Слуцкае апалчэнне прымала ўдзел у бітве з крыжакамі пад Грунвальдам. Не раз на Слуцк нападалі татары, але так і не змаглі захапіць горад.

Кіравала ў той час горадам згаданая мною княгіня Анастасія — дачка Івана Юр'евіча, князя мсціслаўскага. У 1490-я гады яна стала жонкаю Сямёна Міхайлавіча Слуцкага, князя слуцкага і капыльскага. Князя праз некаторы час не стала. Іх сын Юрый быў яшчэ малы, і Анастасіі давялося кіраваць княствам да сынавага паўналецця. Больш за тое, у пачатку XVI ст. слуцкая княгіня ўзначаліла войска і мужна абараняла горад ад нападу крымскіх татар на чале з Баты-Гірэем.

У маладую ўдаву быў закаханы князь Міхаіл Львовіч Глінскі, але яна адмовілася выйсці за яго замуж. І тады ў 1508 г. войскі князя напалі на Слуцк, але княгіні Анастасіі ўдалося абараніць горад. (Некаторыя даследчыкі лічаць, што на Слуцк нападаў не Міхаіл, а яго родзіч Андрэй Дрождж.)

Праз некаторы час Міхаіл Глінскі з братамі перайшоў на службу да вялікага князя маскоўскага Васіля ІІІ. А княгіня Анастасія занялася аднаўленнем разбуранага падчас нападаў горада. Дарэчы, тагачасная планіроўка цэнтральнай часткі Слуцка ў агульных рысах захоўвалася прыкладна да сярэдзіны XIX стагоддзя…

Мае выпускнікі з цікавасцю слухалі пра княгіню-зямлячку. Тады мы яшчэ не ведалі, што праз два гады, у 2003 годзе, на кінастудыі «Беларусьфільм» здымуць выдатны фільм «Анастасія Слуцкая», дзе ролю княгіні Анастасіі выканае Святлана Зелянкоўская.

Не стала Анастасіі каля 1526 года. Горадам кіраваў яе дарослы сын Юрый, у якога нарадзіліся дзеці: сын Юрый і дачка Сафія. Пройдуць гады і Сафія выйдзе замуж за Януша Радзівіла (у 1612 г. Слуцкае княства перайшло да яго).

Княгіня Сафія мужна адстойвала праваслаўе на слуцкай зямлі. Памерла яна ва ўзросце 26 гадоў ад цяжкіх родаў. Беларускай праваслаўнай царквой княгіня Сафія Слуцкая далучана да ліку святых. Святая Сафія лічыцца ахоўніцай беларускай сям'і. Я расказала выпускнікам, што мошчы святой праведнай Сафіі знаходзяцца ў Мінску ў Свята-Духавым кафедральным саборы. Каб моладзь ведала, куды ісці прасіць заступніцтва ў цяжкую хвіліну жыцця. Бо, як вядома, святая Сафія не раз ратавала наш горад ад вялікай бяды…

У той вечар мы гаварылі і пра слуцкія паясы, і пра пісьменнікаў-землякоў, і пра асаблівую Слуцкую зямлю, дзе, як кажуць, «усё па-людску». Добра памятаю, як на развітанне я наказвала сваім вучням заўсёды заставацца чалавечнымі, якія б праблемы ні здараліся на іх доўгім жыццёвым шляху. І словы народнага паэта Пімена Панчанкі мне былі ў падмогу: «Без чалавечнасці не будзе вечнасці».

Мае выпускнікі з цікавасцю, як заўсёды, слухалі мяне, жартавалі, весяліліся і адначасова сумавалі перад расстаннем. Заўтра іх чакала дарослае і нязведанае жыццё.

Надыходзіла раніца, і мы фатаграфаваліся, падставіўшы далоні пад залаціста-чырвоны кружочак, які паціху ўздымаўся на ўсходзе над лініяй гарызонту. На здымку падобна, быццам трымаем у сваіх далонях сонейка.

Няхай жа яно заўсёды ветла свеціць і маім дачушкам, і ўсім маім вучням і выхаванцам, з якімі пашчасціла сустрэцца ў жыцці!

## Выбранцы

Мяне заўсёды цікавіла гісторыя Вашай, мама, роднай вёскі Падліпцы Слуцкага раёна. Там, у хаце з белымі аканіцамі, адной такой на ўсю вёску, Вы нарадзіліся. У Падліпцах усё сваё жыццё пражыў мой дзед Канстанцін Адамавіч Пятровіч і бабуля Марыя Есіпаўна (да замужжа Пунчык) — Вашы бацькі. Цяпер там жывуць нашы родзічы па лініі Пятровічаў і па лініі Янучкоў. Там, на могілках, у нас больш за два дзясяткі родных магіл…

Некалькі гадоў таму я пачала вывучаць свой радавод. Яшчэ з дзяцінства ведала, што нашы продкі і з роду Пятровічаў, і з роду Шахновічаў паходзяць з «выбранцаў», так называлі жыхароў шасці выбранецкіх вёсак у Слуцкім раёне — Лучнікі, Бранавічы, Варкавічы, Сярагі, Агароднікі, Падзер. Цікавыя звесткі, атрыманыя з Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі, сведчаць, што Ваш, мама, дзед, а наш прадзед Адам Сямёнавіч Пятровіч, як і яго жонка,

наша прабабуля Усціна Іванаўна, нарадзіліся ў вёсцы Бранавічы на Случчыне. У рэвізскай сказцы вольных хлебапашцаў выбранецкай вёскі Бранавічы Слуцкага павета ад 20 красавіка 1834 г. значыцца Пётр Астапаў Пятровіч (1789 г. н.) і яго брат Герасім (1792 г. н.). Там жа запісаны нованароджаныя сыны іх брата Івана — Самуіл і Фёдар. У Фёдара потым нарадзіўся сын Сямён. Атрымліваецца, што мне ўдалося адшукаць звесткі пра Вашага, мама, прадзеда Сямёна Фёдаравіча Пятровіча (1840 г. н.); прапрадзеда Фёдара Іванавіча Пятровіча (1818 г. н.) і яго жонку, прапрабабулю Ганну Цімафееўну (да замужжа Васілевіч); прапрапрадзеда Івана Астапавіча Пятровіча (памёр да 1828 г.) і яго жонку, прапрапрабабулю Матрону (1788—26.12.1839); прапрапрапрадзеда Астапа Нікіфаравіча Пятровіча і яго жонку, прапрапрапрабабулю Наталлю (1766—11.02.1828); прапрапрапрапрадзеда Нікіфара Пятровіча і яго жонку, прапрапрапрапрабабулю Марыю (1724—24.11.1799).

Колькі цікавых рэчаў адкрылася мне! З ведамасці Лучнікоўскага сельскага таварыства казённага маёнтка Выбранцы ад 26 ліпеня 1858 г. аб колькасці заможных дамаўласнікаў, якія могуць быць пераведзены ў вышэйшыя разрады, даведалася, што ў жыхара вёскі Бранавічы, Вашага мама, прапрадзеда Фёдара Іванавіча Пятровіча (цяглых) на той час было: рабочых душ — 3 мужчынскія, 1 жаночая; жывёлы: рабочай — 4, буйной — 3, дробнай — 6. Сям'ю прапаноўвалася «перасяліць у Варкавічы на надзелы, што засталіся ад «несостоятельных», дзе *каждаю* надзяліць па 2 палавіны надзела» (НГАБ, ф. 27, воп. 5, спр. 1234, арк. 11).

Прасочваючы лёс свайго прапрапрадзеда Фёдара Іванавіча Пятровіча, з рэвізскай сказкі вольных хлебапашцаў, «названых выбранцамі» Лучнікоўскага сельскага таварыства Слуцкага павета, падпарадкаваных ведамству Міністэрства дзяржаўных маёмасцей ад 10 мая 1858 г., даведалася, што ў сям'і Фёдара Іванавіча і Ганны Цімафееўны нарадзіліся сыны: Дзмітрый, Сямён (наш прапрадзед), Мікалай (памёр у 1853 г.) і дочкі: Аўдоцця і Марыя. Выхоўваўся ў сям'і Фёдара таксама і дваюрадны брат Нікіфар Гарасімаў Пятровіч (1842 г. н.), сын Гарасіма Астапава Пятровіча. Гарасім (Герасім) — родны брат Фёдаравага бацькі Івана (НГАБ, ф. 333, воп. 9, спр. 1055, арк. 741 адв. — 742).

Адшукаліся звесткі і пра некаторых іншых родзічаў. З выпісу з метрычных кніг Слуцкай сабornай Мікалаеўскай царквы аб тых, хто нарадзіўся, браў шлюб і памёр за 1799 — 1840 гг. сталі вядомыя даты знакавых падзей у жыцці маіх продкаў, прозвішчы святароў, якія засведчылі тыя падзеі, і многае іншае.

Шмат цікавых гісторый даведалася пра прадстаўнікоў нашага роду. Напрыклад, Ваш, мама, дзядзя Іван Адамавіч Пятровіч, ваенны ўрач, палкоўнік медыцынскай службы, атрымаў медыцынскую адукацыю пасля заканчэння духоўнай семінарыі.

Ваш бацька, а мой дзед, Канстанцін Адамавіч Пятровіч, цудам пазбег высылкі пасля раскулачвання, аддаўшы сваю новую хату пад сельскі савет, а яшчэ раней у яго забралі сеялку і веялку. І віна яго была ў тым, што мае вялікую гаспадарку, а на тое, што вялікая сям'я вымушала яе мець, ніхто не звяртаў увагі. [У маіх дзядулі Канстанціна і бабулі Мар'і (іх не стала ў 1948 г.) было дзевяць дзяцей: Насця (1919 г. н.), Ганна, наша мама, (1921 г. н.), Іван (1923 г. н.), якога доўга лічылі прапаўшым без вестак; Аляксандр (1926 г. н.), Алена (1930 г. н.), Мікалай (1935 г. н.), Леанід (1937 г. н.), Анатоль (1938 г. н., памёр маленькім), Уладзімір (1940 г. н.).]

Акрамя родных дзяцей, у сям'і гадаваўся пляменнік Ахрэм, сын памерлай Параскі, сястры бабулі Мар'і. Дарэчы, гэтая добрая справа амаль не загубіла

дзедаву сям'ю: Ахрэмаў бацька Паўлюк, як яго звалі ў Падліпцах, адчуваючы няёмкасць перад сваякамі, што гадуюць яго сына, які ў яго новай сям'і раптам стаў лішнім, напісаў данос на нашага дзеда Канстанціна Пятровіча, што ён трымае парабка. Пра тое, што хлопчык — пляменнік бабулі Мар'і, сірата, улады не сталі нават і слухаць. Сям'ю даўно «прыберагалі» для наступнай хвалі раскулачвання, калі патрэбны будуць паказчыкі. Крыху раней нечакана выключылі з калгаса, але дзед паехаў з заявай у Слуцк, у раён, і там яго зноў прынялі. А пасля, у гэтай і так няпростай сітуацыі, пступіў Паўлюкоў данос… Сям'я трапіла пад раскулачванне. Цудам пазбеглі высылкі, магчыма, спрацавала тое, што новую прасторную хату дзед аддаў пад кантору, а самі перасяліліся ў невялічкія сенцы…

Цікавая гісторыя жыцця і маёй прабабулі Ганны Пунчык (у дзявоцтве Караневіч), маці бабулі Мар'і. Родам прабабуля была з Падліпцаў. Як мне расказвалі, статная, прыгожая з твару, з доўгімі цёмнымі косамі. Васямнаццаць разоў да яе засылалі сватоў, а яна ўсё адмаўляла. Апошнія сваты раззлаваліся і, ад'язджаючы, завязалі вяроўкай брамку, зрабілі шмат вузлоў, каб дзяўчына ніколі не выйшла замуж. Праўда, мая прабабуля Ганна 19-м сватам не адмовіла. Выйшла замуж за не зусім прыгожага, з васпаватым тварам, але добрага хлопца-аднавяскоўца Есіпа Пунчыка. Муж вельмі шанаваў Ганну. У іх нарадзіліся тры дачкі — Таццяна, Марыя і Параска. Сярэдняя з іх, Марыя Есіпаўна, Мар'я, як яе звалі ў Падліпцах, выйшла замуж за Канстанціна Пятровіча, хлопца з выбранецкай сям'і. Гэта была мая бабуля…

Увесь назапашаны матэрыял цяпер я старанна апрацоўваю. І ганаруся, што паходжу з «выбранцаў». Зразумела, што мне вельмі хацелася больш даведацца, хто ж такія выбранцы. Яшчэ ў юнацтве я прачытала кнігу «Древний город на Случи» вядомага краязнаўцы, доктара гістарычных навук, прафесара Анатоля Пятровіча Грыцкевіча, які таксама паходзіць з «выбранцаў». Прайшоў час, і аднойчы я натрапіла на сайт «Наследие Слуцкого края», дзе даволі падрабязна распавядаецца гісторыя слуцкіх выбранцаў. Дзякуючы гэтым крыніцам, а таксама архіўным матэрыялам, цяпер я больш ведаю пра сваіх продкаў, ваенна-служылых людзей — выбранцаў, правы якіх былі запісаны ў княжацкіх і каралеўскіх граматах.

За сваю службу выбранцы атрымлівалі на вечнае карыстанне зямлю, іх сем'і вызваляліся ад усіх падаткаў і павіннасцей. Служба пераходзіла ў спадчыну ад бацькі да сына. Тыдзень служылі, а тыдзень працавалі на зямлі, якая іх карміла. Самі куплялі зброю і абмундзіраванне. Падпарадкоўваліся камандзіру сваёй «выбранецкай» роты — капітану. У выбранецкіх вёсках гаспадарчымі і адміністрацыйнымі справамі кіравалі капралы, якіх прызначаў камендант крэпасці, ваенны губернатар Слуцкага княства. Як аказалася, капралам выбранецкай вёскі Сярагі быў наш продак па лініі бабулі Арыны Адамаўны з роду Шахновічаў…

Даўно няма на свеце нашых прадзедаў — вольналюбівых выбранцаў, нашых дзядуляў і бабуль. Яны памерлі яшчэ да майго нараджэння, таму я ніколі іх не бачыла, акрамя бабулі Арыны, бацькавай маці, якая нас гадавала. Але тады, у дзяцінстве, у бабулі мы рэдка пыталіся пра мінулае, ды і ўспрымаліся тыя расповеды не так, як успрымаліся б сёння. Цяпер, на жаль, ужо і спытаць няма ў каго. Але мне пашчасціла.

Аднойчы ў рэдакцыю часопіса «Роднае слова» пазваніў наш сваяк Іван Васільевіч Барцэвіч, урач-пенсіянер, ураджэнец Падліпцаў. Ён падрыхтаваў вельмі важныя для мяне ўспаміны пра Вашу родную вёску, шмат апавядаў пра пачатак Вялікай Айчыннай вайны і жыццё на акупаванай тэрыторыі (яму

тады было адзінаццаць гадоў). Іван Васільевіч расказваў мне і пра Вас, мама, ён памятае Вас. Я ўслухоўвалася ў кожнае яго слова, для мяне была важная любая, нават самая нязначная, дэталь з мінулага. Тыя ўспаміны таксама ляглі ў аснову майго аповеду.

## З гісторыі вёскі Падліпцы Слуцкага раёна
***(на аснове ўспамінаў Івана Васільевіча Барцэвіча)***

Вёска Падліпцы знаходзіцца на адлегласці 10 км на захад ад Слуцка.

У пачатку XX ст. да вёскі Падліпцы адносілася адна вуліца ў Манькове і хутар Шклярэўскага ў лесе Звярынец. Да Вялікай Айчыннай вайны ў вёсцы было каля 100 хат. У канцы 1930-х гадоў пачалі будаваць новую вуліцу. Першую хату паставіў Сяргей Гусак, якраз на месцы, дзе раней праходзіла дарога наўпрост ад Падліпцаў да пасёлка Манькова і якую потым аднеслі далей ад вёскі. І гэтая дарога праходзіла па новай вуліцы, якую празвалі чамусьці Чапячкі. Цяпер ужо і дарога не мае таго значэння, як да рэвалюцыі, калі па ёй вазілі збожжа ў панскі вятрак, якім, дарэчы, карысталіся і ў гады вайны, і ў пасляваенны час…

У 1940-х гадах вёска складалася з дзвюх вуліц, а пасля вайны з'явілася трэцяя. Яна аб'ядноўвала дзве першыя вуліцы, і ў вёсцы яе называлі Афіцэрскай. Там пабудавалі хаты старшыня калгаса Леановіч, старшыня сельскай спажыўкааперацыі Янковіч, бухгалтар Шэлег ды іншыя.

Пабудавана вёска з поўначы на поўдзень. За гародамі па аселіцы (так называюць луг вёскі) на адлегласці 200—300 м ад Падліпцаў працякае рэчка Лакнея, што апаясвае вёску з захаду і поўдня ў бок вёскі Бязверхавічы. Цераз раку зроблены два масты. На поўначы ад вёскі праз мост праходзіць гравійка, на поўдні — чыгуначны мост. У месцы павароту рэчкі на ўсход у яе ўпадае прыток Лакнеі, які цячэ каля вёскі Старцавічы (цяпер Знамя).

На поўнач ад вёскі размяшчалася кузня, дзе працавалі і ў ваенны час. А ў пасляваенныя гады яе знеслі, пабудавалі новую, за вёскай, на калгасным двары. Першым кавалём працаваў Хведар Янковіч (Кавалёвых), які жыў непадалёк ад кузні.

Побач з кузняй размяшчалася школа, якая складалася з аднаго пакоя. Пасля, яшчэ да вайны, яе перанеслі на ўсход ад вёскі. Да рэвалюцыі 1917 г. дзеці хадзілі ў школу толькі зімою, а вясною і летам дапамагалі бацькам па гаспадарцы. Таму і казалі, напрыклад, «я скончыла адну зіму школы». Маці Івана Барцэвіча, Таццяна Гурбо, скончыла тры зімы царкоўна-прыходскай школы, а наша бабуля Арына Шахновіч — дзве.

Новая школа мела два класныя пакоі і пакой для вясковага настаўніка. У той школе вучыўся Іван Барцэвіч, Іван Ляткоўскі і іншыя вясковыя хлапчукі і дзяўчаткі.

Побач са школай быў клуб з калгаснай канторай, а паміж імі — дзіцячы сад-яслі, які размясцілі ў панскім доме, перанесеным з Манькова (туды адзін год таксама хадзіў маленькі Янка Барцэвіч).

У пасляваенныя гады за новай школай пачалі будаваць і новыя хаты. З'явілася яшчэ адна вуліца, якая цягнулася да вясковых могілак. Хаты ў Падліпцах былі аднатыпныя, стаялі па абодва бакі вуліцы. Пад адной страхой знаходзіліся хата, сенцы, прыклетнік, клецць, падпаветка, хлеў (пагонная забудова). Некаторыя сядзібы з другога боку двара мелі яшчэ склеп, падпаветку. На новых вуліцах ставілі ўжо хаты з верандамі, а хлявы — асобна.

Паміж вясковымі агародамі і рэчкай размяшчаўся луг. Тут расла мяккая трава, усеяная прыгожымі рознакаляровымі кветкамі. Рэчка рабіла дугападобныя павароты. Берагі, асабліва вясною, былі забалочаныя. Да агародаў даходзіла балота, якое доўга не высыхала.

Бераг Лакнеі каля агародаў быў цвёрды і сухі. Называлі яго «поплаў». На ім людзі бялілі палотны. Займаліся гэтай справай у асноўным дзеці. Палатно складалі «гармонікам», неслі да рэчкі і апускалі ў ваду, а потым слалі на поплаве. Так паўтаралася, пакуль грэла сонца. За лета палатно станавілася бялюткім.

У рэчцы Лакнеі любілі купацца дзеці і дарослыя. Дно рэчкі было жоўтае, пясчанае. У вадзе, якая за дзень добра награвалася, было відаць, як плаваюць маленькія рыбкі.

Глыбіня Лакнеі была неаднолькавая, дзе-нідзе — глыбокія мясціны, «ямачкі», там дарослы мужчына, апускаючыся ў ваду, не мог дакрануцца нагамі да дна. Каля Падліпцаў былі тры такія ямачкі: Каранейчавых, з паўночнага канца вёскі, далей на поўдзень — Ярмачковых ямачка, і трэцяя — Убранцавых (нашых родзічаў).

Поле за рэчкай называлі Карыціна, а недалёка ад Карыціна знаходзілася поле Паленава. На поўнач ад вёскі размяшчаўся луг, які называлі Маргі. Там была крыніца з чыстай халоднай вадою. За Маргамі — яшчэ адзін луг. Яго перасякаў забалочаны ручай. Гэтае месца называлі Конскае плёса. Вясною праз яго можна было праехаць толькі вярхом на кані (вада даставала каню да жывата).

За Конскім плёсам распасціраліся вялікія абшары балот. Яны таксама мелі назву — Далёкія. Там нарыхтоўвалі сена, якое складалі ў стагі, а зімою звозілі ў вёску. На ўсход ад Далёкіх знаходзіліся Капані — альховы лясок на балоце. Капані лічыліся «балотным гарадзішчам». У ім хаваліся на працягу некалькіх вякоў у часы ліхалецця ад набегаў татар, шведаў і іншых заваёўнікаў. Сенакосу на Далёкіх было амаль 70 гектараў.

На паўднёвы захад ад вёскі Падліпцы расце невялікі лес пад назвай Востраў. Калісьці ён быў акружаны вадою. І цяпер вясною з-за забалочанасці да яго нельга дайсці. З аднаго боку лесу расло шмат валяр'яну, які вяскоўцы капалі, а сушаны корань здавалі ў слуцкую аптэку.

У 1937 г. на Востраве адбылася Рэспубліканская маёўка. Прысутнічалі на ёй чыноўнікі з раёнаў і з Мінска. Адкрываў маёўку Мікалай Галадзед, старшыня Савета народных камісараў БССР.

З гэтай нагоды лес упрыгожылі плакатамі, напісанымі на фанеры, прымацаваўшы іх да дрэў. На лясных сцежках стаялі гандлёвыя latkі, дзе прадавалі квас, сітро і іншыя напоі, цукеркі, пячэнне. Дзецям цікава было збіраць прыгожыя абгорткі ад цукерак, і яны радаваліся, калі камусьці ўдавалася назбіраць іх больш за іншых. Пасля маёўкі некаторыя маглі праехаць на цягніку да мяжы з Польшчай, да станцыі Цімкавічы. Адсвяткаваўшы, вяскоўцы здымалі з дрэў тыя плакаты з фанеры, наводзілі парадак у лесе.

Час быў трывожны. Як ўзгадвае Іван Васільевіч Барцэвіч, восенню папаўзлі чуткі, што Мікалая Галадзеда арыштавалі як ворага народа… Цяпер ужо мы ведаем, што 14 чэрвеня 1937 г. падчас чарговай «чысткі» М. Галадзед сапраўды быў арыштаваны ў Маскве і абвінавачаны як удзельнік нацыянал-фашысцкай арганізацыі. У 1956 г. савецкі дзяржаўны і палітычны дзеяч Мікалай Мацвеевіч Галадзед рэабілітаваны і адноўлены ў партыі.

…На паўднёвым баку Падліпцаў у балоце было шмат торфу. Кожная сям'я, у тым ліку і наша, працавала на сваім надзеле. Капалі торф адмысло-

вымі разакамі, цаглінкі торфу складалі ў «хаткі» па дзве штукі. А калі торф падсыхаў, то «хаткі» рабілі большыя — па шэсць цаглінак у кружок на 5-6 паверхаў. Звозілі торф у канцы лета на конях, а ў пасляваенны час — на валах, бо коней у калгасе не хапала. На шыю вала надзявалі ярмо і запрагалі ў воз.

У 1950-я гг. балота асушылі. У выніку знікла тое разнатраўе, якое вабіла вока. Цяпер усе балоты ўзараны. Пасля заканчэння меліярацыі праз асушанае балота праклалі дарогу паміж Старцавічамі і Падліпцамі. Пабудавалі масты на рэчцы Лакнеі і яе прытоку. Дарога спачатку была насыпная, а праз некалькі гадоў яе заасфальтавалі.

У Слуцк ездзілі па «стаўбавой» дарозе. Яна так называлася таму, што з аднаго боку стаялі слупы з тэлефонным дротам. Цяпер драўляныя апоры спілены. Дарога гэтая страціла сваё значэнне, бо пабудавалі новую асфальтавую праз вёску Сярагі. А былая «стаўбавая» выкарыстоўваецца цяпер аграфірмай «Лучнікі» для палявых работ…

## Вернасць

У 1991 г. мы з сяброўкай, калегай і хроснай маці маёй Насцечкі Інай Уладзіміраўнай Тамай паехалі ва Украіну да яе родзічаў. Наведалі Івана-Франкоўскую, Хмяльніцкую, Цярнопальскую вобласці.

Пабывалі ў Шапятоўцы ў музеі Паўкі Карчагіна, галоўнага героя твора «Як гартавалася сталь» Мікалая Астроўскага. Бачылі звычайны жалезны ложак, на якім прайшлі апошнія гады жыцця героя грамадзянскай вайны, машынку, на якой быў надрукаваны той добра вядомы нашаму пакаленню раман.

У старажытным украінскім горадзе Ізяславе я пазнаёмілася з бабуляй Іны, удавой чырвонаармейца, камісара марской пяхоты. У пакоі на стале стаяў фотаздымак маладога афіцэра. І вось гэтая пажылая жанчына кожны дзень віталася з фотакарткай: «Доброго ранку!» І гаварыла: «Дабраніч!»

Няпроста склалася жыццё Марыі Мікітаўны. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, яе муж служыў начальнікам Аркадзіеўскага раённага ваенкамата ў Адэсе. У першыя дні вайны сем'і вышэйшага каманднага саставу спешна эвакуіравалі. Сям'я Якава Пятровіча не ўваходзіла ў гэты спіс. Але афіцэр знайшоў машыну і ноччу, амаль тайна, вывез жонку з дзвюма дачушкамі — трохгадовай Алай і гадавалай Тамарай — на вакзал і пасадзіў у цягнік, які накіроўваўся з Адэсы ў Сталінград. Жанчына яшчэ не ведала, што яна цяжарная трэцім дзіцем: дачка Святлана народзіцца ў пачатку 1942 года ў эвакуацыі. У дарозе ці інтуіцыя спрацавала, ці вышэйшыя сілы спынілі, але Марыя Мікітаўна вырашыла выйсці з цягніка. «Навошта ехаць у Сталінград. Лепш да родных, на Урал», — падумалася ёй.

Бацька Марыі, Мікіта Карнеевіч, жыў у пасёлку Чусавая ў Пермскім краі, куды ён быў высланы ў 1929 г. разам з жонкай Анастасіяй і старэйшай дачкой Ефрасінняй.

За старанную працу яго перад вайной абралі брыгадзірам, а дачка Ефрасіння працавала загадчыкам фермы. Але Марыя пра іх пакуль нічога не ведала, як не ведала і таго, што яе маці ўжо няма на свеце, а бацька жыве з другой, маладой жонкай.

…Жанчына доўга сядзела на незнаёмай станцыі. Цягнікі праносіліся не спыняючыся. Яна пачала ўжо вагацца, ці правільна зрабіла. Раптам да яе падышоў чалавек у цывільнай вопратцы, які ўжо даўнавата назіраў за ёю. Спытаўся, ці ёсць у яе «ліцера». Марыя адказала, што не ведае, што гэта

такое. Хоць насамрэч муж забяспечыў яе неабходнымі дакументамі, але яна баялася наклікаць на мужа бяду.

…Здарылася нечаканае. Незнаёмец змог пасадзіць жанчыну з дзецьмі на цягнік, які рухаўся на Урал, у Салікамск. Сказаць, што ў дарозе з дзецьмі было нялёгка — гэта нічога не сказаць.

За Масквою цягнік спыніўся. Скамандавалі пакінуць вагоны — пачыналася бамбёжка. Марыя схапіла Алу за руку, а гадавалую Тамару падхапіў вайсковец і яны выбраліся з цягніка. Пакуль беглі, хаваліся ад бомбаў — згубілі адзін аднаго. Цэлую ноч жанчына не ведала, дзе яе дзіця. І толькі раніцай, калі пачалі збірацца каля сваіх вагонаў, жанчына ўбачыла знаёмага вайскоўца з яе дачкою на руках…

Даехалі да Салікамска, адкуль яе з дзецьмі забраў Мікіта Карнеевіч. Марыя пражыла ў бацькі з мачыхай літаральна пару дзён і перайшла на кватэру да старэнькай жанчыны па прозвішчы Папова. Жылі з ёю дружна. Бабулька дапамагала гадаваць дзяцей, якіх стала ўжо трое. Рызыкуючы ўсім, старалася і сястра Марыі, Ефрасіння, якая прыносіла дзецям па кроплі малака. Сама ж жанчына амаль кожны дзень хадзіла за 10 км па талерку супу, які спецыяльна варылі для афіцэрскіх жонак і дзяцей. Дзякуючы гэтаму і выжылі.

У 1944 годзе, пачуўшы па радыё, што родная Шапятоўка вызвалена Савецкай Арміяй, Марыя Мікітаўна адразу сабралася ў дарогу. Да Масквы дабраліся больш-менш нармальна. Застаўшыся ў тапачках, абмяняла на хлеб дзве пары чаравікаў, якія ўдалося зберагчы ў эвакуацыі. Выехаць ва Украіну было амаль немагчыма, ішлі толькі грузавыя цягнікі. І жанчына рашаецца на крайняе — садзіцца на металічную счэпку паміж вагонамі. Уладкаваўшы шасцігадовую Алу паміж сваіх ног, загадала ёй моцна трымацца за нагу, а сама рукамі абхапіла чатырохгадовую Тамару і двухгадовую Святлану. Трэба было сядзець і не варушыцца, моцна ўпіраючыся нагамі — інакш упадзеш і загінеш. Больш за суткі не звяла вачэй. Бачыла трагічны выпадак, калі жанчына, якая сядзела насупраць, толькі на хвілінку задрамала — і тут жа апынулася пад коламі цягніка.

З Божаю дапамогаю, мужна вытрываўшы цяжкасці, дабраліся да Шапятоўкі. А там свае праблемы. Да канца вайны яшчэ было далёка, а тут хапала «бандэраўцаў», якія не шкадавалі сем'яў савецкіх афіцэраў. Уначы даводзілася трымаць каля ложка дзве сякеры:

— Хто паткнецца, засяку адразу!

Абышлося. А пасля Перамогі стала спакайней. Наладжвалі жыццё, чакалі з фронту родных. Марыя ведала, што ёй няма каго чакаць: пахавальны ліст атрымала яшчэ на Урале, дзе гаварылася, што яе муж, Якаў Пятровіч Вінакураў, загінуў пры высадцы марскога дэсанта ў 1943 годзе.

Марыя Мікітаўна адна выгадавала трох дачушак, дапамагла кожнай з іх атрымаць вышэйшую адукацыю. Так і не выйшла замуж, хоць сваталася шмат прыстойных кавалераў. Дажыла да 90 гадоў, лічачы, што муж патануў падчас абстрэлу ў моры. Дарэчы, яшчэ ў маладосці паспрабавала адзін раз адпачыць на моры, але не змагла. Увесь час жанчыне здавалася, што вада вось-вось выкіне на бераг яе мужа. А таму праз дзень сабралася дадому і на мора ніколі больш не ездзіла: балюча. Не стала Марыі Мікітаўны ў 2006 годзе.

А ў 2008 годзе, калі ў Падольску адкрыліся звесткі архіва Міністэрства абароны РСФСР, стала вядома, што Якаў Пятровіч Вінакураў загінуў на караблі і пахаваны з усімі ўшанаваннямі на вайсковых могілках у Новарасійску…

Але Марыя Мікітаўна так і не даведалася пра гэта, кожны дзень размаўляючы з партрэтам, як з жывым.

Гэтая жаночая вернасць, пранесеная праз гады, настолькі мяне ўзрушыла, што вяртаючыся ў Мінск, яшчэ ў цягніку, я запісала свае думкі. І нічога не правіла ў гэтым вершы…

**Вернасць**

***Удаве камандзіра Чырвонай Арміі***
***Марыі Мікітаўне Сапранюк***

Пра гэта ведаў толькі
Бог,
Як ты чакала Перамогі.
І як маліла ўсе
дарогі
Вярнуць яго на свой
парог.
Пра гэта ведаў толькі
Бог.
Яшчэ — маленькія дачушкі.
Душылася слязьмі
ў падушку
І лёс маліла, каб зберог.
Ды не пачуў малітвы Бог.
У дваццаць сем ужо ўдава…
Навошта словы суцяшэння,
Жанок вясковых
галашэнне?
Пакрыта срэбрам галава.
У дваццаць сем ужо ўдава.
…Чарнела сонца
ў вышыні,
І сохлі мальвы каля хаты.
Дамоў вярталіся
салдаты,
А ты не бачыла
вясны:
Магутны Бог,
яго вярні!
І з той пары
да гэтых дзён
Пранесла вернасць
у расстанні,
Святое, чыстае каханне,
Як светлы і чароўны сон.
І войнам жудасным праклён.

*P. S.* Прайшло два гады пасля таго, як сям’я даведалася, што ёсць месца пахавання бацькі, дзеда і прадзеда. Дочкі Ала, якая жыве ў Ізяславе, Тамара, што ў Кіеве, і Святлана з Ноўгарада-Валынскага планавалі сабрацца разам і наведаць магілу бацькі. Але жыццёвыя абставіны не дазволілі паехаць адразу, потым у адной з іх памёр муж і паездка зноў адклалася.

Наша калега, настаўнік гісторыі слуцкай СШ № 10 імя С. Ф. Рубанава, Наталля Аляксандраўна Сівідава, якая паехала наведаць маці ў Славянск Краснадарскага краю, вырашыла адшукаць магілу дзеда Іны Тамай.

9 мая 2010 года Іне Уладзіміраўне пазванілі з Новарасійска: «Іна, я стаю каля магілы твайго дзеда. Я прывезла яму ружы і паклон ад цябе…»

Так і сябруем мы па жыцці: Пшанічныя і Падліпскія — беларусы, Тамаі — украінцы, Сівідавы — рускія, з Кубані. Наталля Аляксандраўна пра-

ехала са Славянска больш за 100 км, каб адшукаць магілу невядомага ёй вайскоўца з Украіны і пакланіцца яму. Вось і ўся палітыка. Чалавечнасці, жыцця і вернасці.

## Дом творчасці «Іслач»

1 сакавіка 1999 года. Сёння я прымаю ўдзел у творчым пісьменніцкім семінары, які адбываецца ў Доме творчасці «Іслач». Выехала вельмі рана са Слуцка. І ўжо каля 8 гадзін раніцы была ў Мінску. Адразу паехала ў Дом літаратара, на Фрунзе, 5. Там нас, маладых і творчых людзей, сталыя пісьменнікі сустрэлі вельмі прыязна. Было яшчэ багата вольнага часу, і я паступова пазнаёмілася з астатнімі ўдзельнікамі семінара. У 12 гадзін дня мы на двух аўтобусах накіраваліся ў «Іслач». Так атрымалася, што ад Мінскай вобласці ў семінары ўдзельнічала я адна. Пасялілі мяне ў цудоўным, двухузроўневым нумары, чамусьці запомнілася — № 45.

На першым паверсе — гасцёўня з пісьмовым сталом і тэлефонам. Тут, на ўтульнай канапе, мы вечарамі размаўлялі, дзяліліся ўражаннямі ад работы секцый з маладымі творцамі з Віцебскай і Гомельскай абласцей, дзяўчатамі, некаторыя з якіх былі маімі калегамі, таксама настаўнікамі беларускай мовы — Аленай Гінько, Аленай Несцяронак, Вольгай Шкурдзюк, Інесай Буднік… Выбіралі вершы, каб аддаць іх у часопісы «Маладосць» і «Полымя», штотыднёвік «ЛіМ».

Другога сакавіка пачалася работа па секцыях. Секцыю паэзіі, куды размеркавалі і мяне, праводзіў Леанід Дранько-Майсюк. Ён даваў час кожнаму з нас, маладых, на прачытанне тых твораў, якія мы прапаноўвалі на разгляд секцыі. Тактоўна разбіраў кожны твор, кожны вобраз, далікатна падказваў. І мы, нанава перачытаўшы радок, бачылі, што так, як сказаў сталы і таленавіты аўтар, наш старэйшы сябар, сапраўды лепш.

Такія семінары былі сапраўднай школай майстэрства для нас, будучых творцаў. І не толькі ў Іслачы. Раз на два гады літаратурныя семінары праводзілі ў купалаўскіх Акопах, на Лагойшчыне. Шкада, што цяпер гэтая традыцыя перапынена.

З другой групай паэтаў працавала Галіна Каржанеўская, а секцыю празаікаў вёў Генрых Далідовіч. Два дні ішла работа секцый. Вядомы журналіст Пятро Сабіна запісаў нас, маладых літаратараў, на радыё.

Чацвёртага сакавіка работа семінара завяршалася. Мне даручана было выступіць са словам у адказ прадстаўнікам Саюза пісьменнікаў. Ад імя маладых творцаў я падзякавала за цікавы і неабходны семінар, за майстар-класы, праведзеныя для нас, за магчымасць надрукавацца ў часопісах, за запісы на радыё. Увогуле, скажу шчыра, дзякаваць было за што. Усе мы пакідалі семінар акрыленыя і гатовыя тварыць далей.

…У гэты ж вечар, выйшаўшы каля Дома літаратара з аўтобуса, я пачула, як мяне паклікаў Яўген Каршукоў. І праз некалькі хвілін я трымала ў руках бланкі заяў і пералік дакументаў, якія нам з сястрой Таісай Трафімавай неабходна было сабраць для ўступлення ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.

Вось такая гісторыя толькі аднаго семінара, а іх, перш чым стаць сябрам СПБ, мне пашчасціла наведаць дзясяткі.

…На жаль, сёння мы ўжо не можам пахваліцца, што ў нас, пісьменнікаў, ёсць свой Дом адпачынку. Далёка ў мінулым засталася наша «Іслач», але яна была.

**Паэткам**

Журбой калін,
святлом бяроз
Асвечана зямля мая…
Шчаслівы лёс —
зайздросны лёс! —
Сцвярджаць сябе
зямлянамі.
Тутэйшыя і моцныя
Карэннямі і кронамі.
І слову маці —
верныя,
І дрэвам —
сёстры кроўныя.
І іншага не дадзена,
Бо прамаўляем душамі.
Агнём каліны
спраўджваем,
Святлом бяроз —
абуджваем.

## «Боль той даўні…»

Мама, я вельмі рада, што змагла спазнаць у сваім жыцці «вялікае, зямное» каханне. І нават калі яно падарыла мне не толькі найвялікшае шчасце, але і найвялікшы боль, усё роўна я шчаслівая. Не кожная жанчына можа смела сказаць: так, я кахала і была каханаю.

Гэтае пачуццё заўсёды дае сілы жыць і тварыць, робіць самай прыгожай жанчыну, а калі жанчына — паэт, то нараджаюцца новыя вершы. Быццам пра мяне некалі трапна сказала шаноўная Раіса Баравікова: «Боль той даўні — мой найлепшы верш!»

А пра ўсё астатняе, мама, лепш я скажу радкамі…

**Бывай**

Яшчэ нядаўна цешыла цяпло,
А зараз — толькі холадам і вее.
Зноў нашы сцежкі снегам замяло —
Над горадам — каторы дзень! — завея.

Пара было б прывыкнуць да зімы.
Пара… І не трывожыцца у скрусе.
І даць магчымасць светлай завірусе
Завеяць сны, пачуцці і шляхі.

Даверыць ёй, мяцеліцы-кудасе,
Наладзіць баль расстайны, не памінкі.
Кахання боль непадуладны часу.
Ён нам заўсёды — вечным напамінкам.

Маім кастрам рабінавым гарэць.
Ды, мабыць, і стагоддзяў мне не хопіць,
Каб сэрца заінелае сагрэць.
Бывай… У шчасця літасці не просяць.

**Горкі пацалунак**

Я разумею: ты — даўно не мой,
Не трэба шчасця нізкага гатунку.

Стараешся зрабіць мяне нямой,
Апёкшы вусны горкім пацалункам.

Што ж, прамаўчу. Хоць вельмі
прыкра мне,
Што стала нам і холадна, і цесна.
Хай журавы загадкавай вясне
Спяюць самотна развітання песню.

На вальс запросіць жоўты лістапад…
Адорыць срэбрам снежань пасівелы
І замяце шляхі ў дзівосны сад,
Дзе прыпамін жыве цнатліва-белы.

Жыла табой. А ты — даўно не мой.
Паэзія — адзіны паратунак.
Гарыць рабіна снежнаю зімой,
Як той апошні, горкі пацалунак.

## Памятны 2004 год

1 верасня 2004 года. Гэтую дату памятаюць цяпер многія. У той дзень падчас урачыстай лінейкі адбыўся тэракт у сярэдняй агульнаадукацыйнай школе № 1 горада Беслана, што ў Паўночнай Асеціі. Тры дні тэрарысты трымалі дзяцей і дарослых у замініраванай школе, з першага дня расстрэльваючы заложнікаў, якіх, па некаторых звестках, загінула 338 чалавек. У першы дзень былі забіты ўсе дарослыя мужчыны. Заложнікаў не падпускалі да кранаў з вадой, забаранялася праносіць у школу ежу і ваду.

На другі дзень у выніку перамоў удалося вывесці з будынка школы 12 жанчын з груднымі дзецьмі.

3 верасня прагрымелі выбухі, праз некаторы час абваліўся дах школы і пачаўся вялікі пажар…

Бой доўжыўся каля 13 гадзін. Байцы падраздзяленняў спецыяльнага прызначэння «Альфа» і «Вымпел» як маглі дапамагалі заложнікам выбірацца з будынка, ахопленага агнём, выступаючы жывым шчытом, закрывалі сваімі целамі дзяцей ад куль. 10 вайскоўцаў загінулі. Іх родныя дзеці так і не дачакаліся бацькоў у той дзень са службы. Самаму старэйшаму з герояў было 39, самаму малодшаму — 23, тыдзень таму ажаніўся…

Вечная памяць ахвярам і вечная слава героям Беслана!

Цяпер 2014-ы. І тыя першакласнікі, якім пашчасціла выжыць, сёлета закончылі школу. Жыццё працягваецца. Ды боль мінулай трагедыі не адпускае. У горадзе ўсталяваны помнік загінулым у тыя трагічныя вераснёўскія дні — «Дрэва смутку»: чатыры матулі, узяўшыся за рукі, узнялі іх увысь, а над імі, як птушкі, ляцяць у неба душы страчаных дзяцей. І ў кожнага з іх за спінаю крылы, нібы ў анёлаў.

Прайшло дзесяць гадоў, а мая душа не пакідае балець. І за гэтых ні ў чым не вінаватых асецінцаў, і за простых чачэнцаў, якім даўно хочацца міру і спакою. Я ведаю гэта. Я была там.

Так, мама, 6 верасня 2004 года, калі яшчэ не былі пахаваныя ўсе загінулыя, воляю лёсу я апынулася паблізу Беслана, у невялікім чачэнскім пасёлку, а праз дзень — у Ханкале. Мне давялося бачыць слёзы на вачах у суровых камандзіраў і дзікі, нечалавечы боль на тварах родзічаў пацярпелых у той бесланскай трагедыі. І слухаць расказы афіцэраў, якія толькі што вярнуліся з Беслана, як амаль па кожнай вуліцы плывуць пад крыкі і галашэнне труны…

Тут, у Ханкале, дзе чатыры гады таму была адкрыта база расійскіх войскаў, жывуць сваім асаблівым жыццём аэрадром, шпіталь і першая праваслаўная на тэрыторыі базы капліца. Тут яшчэ не забыліся пра верасень 2001-га і збіты над Ханкалой верталёт Мі-8 з камісіяй Генштаба, калі загінулі два генералы і восем палкоўнікаў. Яшчэ свежыя, балючыя ўспаміны двухгадовай даўніны, калі ў жніўні 2002-га пры пасадцы ракетай з ПЗРК «Ігла» быў збіты ваенна-транспартны верталёт Мі-26, які ляцеў з Маздока. 124 чалавекі са 154-х загінулі.

Тут не забыліся і пра многае іншае, што было ўчора, пазаўчора ці год таму… Тут развітваюцца за руку, калі па службе трэба ад’ехаць на паўгадзіны, і зноў за руку вітаюцца па вяртанні. Тут ніколі не прамаўляюць слова «апошні». Тут трэцяя чарка выпіваецца не за каханне, як там, на радзіме, а за тых, каго ўжо няма сярод іх, за загінулых сяброў. Тут не хаваюцца за чужыя спіны, а закрываюць сабой. Тут ведаюць, што такое кодэкс афіцэрскага гонару. Тут… Тут я стала іншай і ўжо ніколі не буду ранейшай…

Рубежнае, Наурская, Надцерачная, Мінеральны, Калінаўская, Чарвлёная, Знаменскае, Талстой-Юрт, Гудэрмес, Аргун, Ханкала, Грозны, Урус-Мартан, Шалі — гэтыя назвы чачэнскіх мясцін, дзе давялося быць і адкуль пашчасціла вярнуцца, і сёння жывуць зарубкай на сэрцы.

Ідуць гады. І яшчэ больш прыходзіць усведамленне ўсяго перажытага. Да гэтага часу ўважліва сачу за падзеямі там, дзе засталіся мае сябры, з асцярожнасцю ступаю на траву і берагу як свяшчэнную памяць атрыманую з рук генерала дарагую для мяне ўзнагароду — знак «За службу на Каўказе».

**Ты вернешся!**

Наш тэлефон маўчыць
каторы дзень…
Усім багам малюся
ў спадзяванні,
Што ворага жахлівы
чорны цень
Адступіцца, адыдзе і —
растане.
Ты вернешся. Ты выжывеш.
Не зломяць баевікі
твой афіцэрскі дух.
А горы смерць-неспадзяванку
тояць…
А горы — сыплюць кулямі
наўкруг!..
І вобраз Яраслаўны праз
гады
Мне стаў такі да болю
зразумелы.
О, адгукніся, любы,
дарагі!
Я ўжо ад невядомасці
нямею.
О неба, сведка войнаў,
перамог,
Твой Млечны Шлях, я ведаю, —
ад Бога.
Вярні! З усіх крывавых
пройдзеных дарог
Вярні майго… Вярні яго…
Жывога.

## Дзень Перамогі

Да 65-годдзя Вялікай Перамогі мне ўдалося пагаварыць з бацькам і нават запісаць яго ўспаміны. Інтэрв'ю з ветэранам Вялікай Айчыннай і ветэранам педагагічнай працы Іванам Паўлавічам Янучком убачыла свет у навуковым і метадычным часопісе «Роднае слова», які наш бацька, настаўнік роднай мовы і літаратуры, выпісваў з першага нумара.

Доўгімі зімовымі вечарамі, калі клопатаў па гаспадарцы было няшмат, бацька напісаў для нас, яго дзяцей ад першага шлюбу, некалькі сшыткаў успамінаў, якія сёння проста бясцэнныя.

…Нарадзіўся наш бацька ў 1923 г. у вёсцы Сярагі Слуцкага раёна Мінскай вобласці. Хата была старэнькая, таму бацькі купілі ў суседняй вёсцы зруб, перавезлі яго і заснавалі хутар паміж вёскамі Сярагі і Падліпцы. Недалёка, каля лесу, знаходзіўся пасёлак Манькова, у якім налічвалася дзевяць гаспадарак.

Так сталася, што нашага бацьку Івана і яго малодшага брата Пятра матуля Арына Адамаўна выхоўвала адна. Старэйшы сын Іван імкнуўся да ведаў, марыў стаць настаўнікам. Маці аддавала апошняе, каб вывучыць сына.

Вясной 1939 г. Іван закончыў 7 класаў Сяражскай няпоўнай сярэдняй школы, а восенню паспяхова здаў уступныя экзамены і паступіў у Слуцкае педвучылішча. Да Вялікай Айчыннай вайны паспеў закончыць толькі два курсы. Як успамінае бацька, вучоба давалася лёгка, хоць студэнты жылі бедна, галаднавата. Грошай не хапала на самае неабходнае. Стыпендыю атрымлівалі толькі выдатнікі, а іх налічвалася ў групе 2-3 чалавекі.

Слуцкая электрастанцыя працавала тады на торфе, таму нярэдка здараліся перабоі са святлом. Часта вечарамі ў інтэрнаце яго проста не было, а таму навучэнцы адчувалі цяжкасці ў падрыхтоўцы дамашніх заданняў. А вучыцца вельмі хацелася. І моладзь старалася, аднак планы перакрэсліла вялікае гора, што абрынулася на людзей.

…Вайна пачалася амаль у бацькаў дзень нараджэння. 21 чэрвеня 1941 г. яму споўнілася 18 гадоў. Хлопцаў 1923 года нараджэння на пачатку вайны не мабілізоўвалі ў рады Чырвонай Арміі. Усе тры гады акупацыі Івану давялося жыць і працаваць у пасёлку Манькова на сельскай гаспадарцы, трымаючы сувязь з партызанамі. І праз дзясяткі гадоў бацьку было страшна пра гэта ўспамінаць. Ён часта здзіўляўся, як застаўся, ацалеў іх маленькі лясны пасёлак Манькова. Ён мог бы стаць другой Хатынню…

Бацька часта ўспамінаў той дзень, калі 30 чэрвеня 1944 г. Чырвоная Армія вызваліла Слуцк. З вялікай радасцю, хваляваннем і слязьмі на вачах сустракалі жыхары Случчыны нашых байцоў і камандзіраў, абдымалі і цалавалі сваіх вызваліцеляў.

Стаяла гарачая летняя спёка. Ваенныя падраздзяленні ўсімі дарогамі рухаліся па слуцкай зямлі на Захад. Байцы Чырвонай Арміі, стомленыя, запыленыя, з перасохлымі вуснамі, стараліся хутчэй дапасці да калодзежа, каб напіцца халоднай вады. У кожнага на грудзях зіхацелі баявыя ўрадавыя ўзнагароды.

Бацька прыгадваў, як аднойчы надвячоркам, калі ўжо прыйшлі каровы з пашы, з'явіліся вызваліцелі ў Манькове. Яны рухаліся прасёлачнай дарогай з Сяраг на Падліпцы. Многа салдат ішло пешшу, некаторыя ехалі на грузавіках. Спявалі ваенныя песні, смяяліся.

Бабуля Арына толькі што падаіла карову, увайшла ў хату, каб працадзіць малако. Раптам у хату заскочыла трое радавых. Бабуля прапанавала ім выпіць

па кубачку сырадою. Двое салдат напіліся, а трэці не паспеў: трэба было тэрмінова рухацца наперад па ўказаным маршруце.

Малады лейтэнант заўважыў у бабуліным двары авечак (іх было чатыры). Ён папрасіў у бацькі дазволу ўзяць адну з іх на вячэру салдатам. Той прапанаваў любую з чатырох. Салдаты ж пакінулі ў двары маладую, вельмі змучаную паходам кабылу. Бацькаў брат Пятрок даглядаў яе, вадзіў на пашу, і праз некаторы час кабыла пайшла на папраўку. Пазней яе здалі ў калгас, яшчэ да бацькавага вяртання з фронту.

Пасля вызвалення Слуцка мужчын адпаведнага ўзросту, якія жылі на акупаванай ворагамі тэрыторыі, прызвалі ў армію. 7 ліпеня 1944 г. усе мабілізаваныя з вёсак Сярагі, Падліпцы, пасёлка Манькова павінны былі да 11 гадзін прыбыць на зборны пункт, што размяшчаўся ў вёсцы Старцавічы (цяпер вёска Знамя), якая знаходзілася за Падліпцамі. Акрамя бацькі з Манькова на фронт пайшло яшчэ шэсць чалавек: Іван Чыжэўскі, Ярафей Шахновіч, Андрэй Яўсеенка, Міхаіл Амбражэвіч, Васіль Пушкарэнка, Яўген Бараноўскі.

За ноч бабуля Арына пашыла сыну паходны мяшок, які да раніцы быў напоўнены няхітрым скарбам. Раніцай 7 ліпеня 1944 г. уся сям'я хвалявалася, збіраючы салдата ў дарогу. Маці надзела сыну на шыю бліскучы срэбны крыжык, пацалавала, заплакала, благаславіла, каб Бог збярог у паходзе і на фронце, каб жывым вярнуўся да сваёй сям'і.

Да драбніц запомнілася бацьку тое развітанне. Ён падзякаваў матулі за ўсё і пацалаваў яе правую маршчыністую руку. Разам з фотакарткамі паклаў у запісную кніжачку маленькі абразок Мікалая Цудатворцы. Вопратка на прызыўніку была зусім старая, зацыраваная. Лепшае адзенне пакінуў свайму брату Пятру. Селі за стол снедаць. Крыху перакусілі, і бацька пачаў збірацца. Плакалі ўсе…

Іван ускінуў на плечы рэчавы мяшок. Маці глянула яму ў вочы і са слязьмі сказала: «Дарагі мой сынок, выканай маю маленькую просьбу. Перахрысціся і пацалуй кожную ікону». Іконы размяшчаліся ў старэнькай манькоўскай хаце на сцяне. Іх было пяць. Сын не стаў пярэчыць, выканаў матуліну просьбу.

Неўзабаве ўся сям'я выйшла на вуліцу. Трэба было праходзіць паўз хату дзеда Паўла. І будучы салдат вырашыў усё ж зайсці развітацца, хоць той ужо даўно жыў у іншай сям'і. Яго бацька, наш дзед Павел, сказаў тады: «Сынок, калі ты будзеш паранены, няхай рана будзе несмяротнай». Ніхто і не падумаў, што гэтыя дзедавы словы стануць прарочымі.

…На зборным пункце, праводзячы родных на фронт, плакалі ўсе: і падлеткі, і старыя. Людзі благаслаўлялі блізкіх, жадалі здароўя і салдацкага шчасця ў паходах і на вайне.

Праз некаторы час давялося развітацца з роднымі, бо прызыўнікоў хутка пастроілі і павялі ў Слуцк. Там размясцілі ў былым ваенным гарадку па вуліцы Валадарскага. Заснуць будучыя салдаты ў тую ноч не змаглі, бо нямецкія самалёты бамбілі горад.

Раніцай 8 ліпеня 1944 г. іх павялі са Слуцка ў кірунку Сіняўкі.

Бацька прыгадваў, што тады іх размясцілі непадалёк ад Сіняўкі, у лесе. Дарэчы, гэта былі родныя мясціны нашага дзеда Паўла, які родам з вёскі Туча, што недалёка ад Сіняўкі Клецкага раёна. Там прастаялі амаль тыдзень. Жылі ў шалашах. Трэба сказаць, што жанчыны, даведаўшыся, дзе спыніліся навабранцы, прыязджалі да іх, а некаторыя, каб праведаць сваіх мужоў, увогуле дабіраліся пехатою.

Мы ведаем, мама, што і Вы таксама наведалі бацьку. У той трывожны ваенны час змаглі яшчэ раз убачыцца з мужам перад адпраўкай на фронт, прывезлі салдату самае неабходнае — бялізну, сыр, кавалак сала… Бацька

гаварыў нам, што пра гэта ён памятаў усё сваё жыццё і быў вельмі ўдзячны Вам за клопаты.

Потым ізноў рушылі ў дарогу. Ішлі салдаты доўга. Днём адпачывалі, лячылі на нагах крывавыя мазалі, а ноччу рухаліся, робячы невялікія прывалы. Як пасля аказалася, іх вялі на вызваленне польскай сталіцы Варшавы. Бацька добра памятае падліпскіх хлопцаў, якія ішлі побач з ім: Уладзімір Долбік, Іван Кірута, Іван Барцэвіч, Сямён Дубовік, Павел Шуманскі, Аляксей Жук, Іван Ляткоўскі, Анатоль Ляткоўскі, Іван Пятровіч (малодшы брат мамы, якога доўгі час пасля вайны лічылі прапаўшым без вестак. — *З. П.*), Васіль Кітун, Пётр Канончык, Грыша Канончык, Грыша Жук, Васіль Пунчык, Уладзімір Ажэўскі, Леанід Янковіч, Міхаіл Янковіч, Мікалай Паўлейчык, Іван Янковіч, Мікалай Пятровіч са сваім бацькам і многія іншыя.

На шляху былі гарады: Бяроза, Кобрын, Жабінка, Сядлец, Макабоды, Янаў-Мазавецкі, Венграў, Лосіцэ.

Некаторы час Іван Янучок знаходзіўся ў 197-м армейскім запасным стралковым палку, адкуль і трапіў на перадавую. Ваяваў у складзе 52-га стралковага палка 50-й гвардзейскай стралковай дывізіі 3-га Беларускага фронту, якім камандаваў І. Д. Чарняхоўскі.

Далёка на захад часці іх злучэння не пайшлі. Ім давялося ўдзельнічаць у незвычайна жорсткіх баях ва Усходняй Прусіі. З баямі бралі гарады Інстэрбург (Чарняхоўск), Велау, Домнау.

***З бацькавых успамінаў:*** *«Пад Варшавай мы ў бой не ўступалі, а пайшлі ў зусім процілеглым кірунку, назад. Дайшлі да Пружан, Ваўкавыска, прайшлі правей Гродна, затым — Каўнас, Вільнюс, Алітус, Кібартай, Эткунен, Марыямпаль, Інстэрбург. Такім чынам, прайшлі па тэрыторыі Літвы і апынуліся ва Усходняй Прусіі. Хутка ноччу нас накіравалі на пярэдні край, дзе давялося капаць траншэі, некаторы час стаяць у абароне, а затым па ўказанні камандавання з цяжкімі баямі рухацца па тэрыторыі Усходняй Прусіі (цяпер Калінінградская вобласць).*

*Праз некаторы час мне прысвоілі званне малодшага сяржанта. Я стаў камандзірам аддзялення. На перадавой людзі доўга не затрымліваліся. У час баёў салдаты і камандзіры хутка выходзілі са строю.*

*У маім аддзяленні ваявалі байцы розных нацыянальнасцей: Уладзімір Чыж (в. Вялікая Сліва Слуцкага раёна), Субоцін, Карымаў, Бальшакоў, Ягораў, Сахараў, Бернутайціс, Татарадзэ, Пятрок Грыцкевіч, Раман Гапановіч. Камандзір роты Хамза Гарыфавіч Сабітаў. Камандзір узвода малодшы лейтэнант Кучаран. Усе мы жылі дружнай сям'ёй франтавікоў, бо мэты і задачы ў нас былі адны: перамагчы ворага. На дарогах і ў населеных пунктах, праз якія мы праходзілі, размяшчалася наглядная агітацыя: плакаты, на якіх было напісана: «Путь домой только через Берлин», «Дойдем до Берлина!». У маім аддзяленні некаторы час знаходзіліся два землякі: Гапановіч Раман Раманавіч (1925 г. н.) і Грыцкевіч Пётр Пятровіч (1924 г. н.). Яны загінулі ў баях пад Кёнігсбергам 17 студзеня 1945 г.*

*Каля Знаменскай бальніцы ў Слуцкім раёне высіцца помнік загінулым воінам. Не раз я падыходзіў да яго і ўглядаўся — залатымі літарамі сярод іншых прозвішчаў значылася: Гапановіч Р. Р. (з вёскі Сярэднікі).*

*Побач з Лучнікоўскай школай Слуцкага раёна таксама стаіць помнік загінулым у барацьбе з фашыстамі. Я ніколі не праходжу міма, а здымаю шапку і іду каля кветніка па высыпанай сцежцы. З болем у сэрцы сярод шматлікіх прозвішчаў прачытваю: Грыцкевіч П. П. (з вёскі Варкавічы).*

*Часта прыгадваю той світанак 17 студзеня 1945 г. перад апошнім для іх боем. Мы адкрылі кансервы, укусілі па аднаму разу, Гапановіч Раман першы паклаў сваю лыжку ў свой рэчавы мяшок і выказаўся коратка: «Не хочацца есці, нас усё роўна паб'юць, а кансервы забяры, Янучок, у свой рэчавы мяшок, калі сустрэнемся пасля бою, тады і перакусім». Яго словы паўтарыў і салдат Грыцкевіч Пятрок. На вялікі жаль, не прыйшлося мне больш сустрэцца з імі пасля таго страшнага бою. Яны абодва загінулі. У час зацішша на перадавой я развязаў свой рэчавы мяшок, седзячы ў траншэі, глянуў на тую бляшанку кансерваў і адчуў, як нечакана пасыпаліся з вачэй слёзы. Я падумаў: «Вечная памяць вам, дарагія таварышы». Зняў шапку, перахрысціўся і пачаў даядаць тыя кансервы. Яшчэ доўга па твары цяклі слёзы. У хуткім часе я напісаў дадому ліст, у якім паведаміў, што не стала маіх баявых таварышаў Грыцкевіча і Гапановіча».*

…У баях з фашыстамі наш бацька быў двойчы паранены. Першы раз — асколкам міны ў правую руку вышэй за локаць, калі іх падраздзяленне дапамагала польскім сялянам збіраць ураджай на пачатку жніўня 1944 г. Было гэта ў польскім пасёлку Люта, дзе байцы спыніліся, рухаючыся на Варшаву.

Другі раз атрымаў раненне ў твар пры наступленні на тэрыторыі Усходняй Прусіі. Нямецкі снайпер пацэліў якраз у пераноссе. За секунду да гэтага салдат крыху павярнуў галаву. Магутная Боская сіла ўратавала байца: куля ўвайшла ў пераноссе і выйшла пад ніжняй сківіцай. Гэта здарылася 21 студзеня 1945 г. пад горадам Гумбінен (Усходняя Прусія). Амаль тры месяцы бацька праляжаў у шпіталі ў Каўнасе (Літва).

Прайшлі гады, але ніколі не забываў гвардыі малодшы сяржант ўмелыя рукі хірургаў. Асабліва часта прыгадваў загадчыка афтальмалагічнага аддзялення Лілію Лазараўну — вялікай душы чалавека, якая зрабіла ўсё магчымае і немагчымае, каб вярнуць маладому байцу зрок. Ці ж не цуд, што наш Іван Паўлавіч ніколі не карыстаўся акулярамі і меў зрок «адзінку»!

Лёсам было наканавана бацьку зноў вярнуцца на фронт у 202-і запасны полк у горадзе Аліпштэйн. Ваяваў у складзе 11-й гвардзейскай арміі ў 5-й дывізіі. Малодшы сяржант, камандзір кулямётнага аддзялення… А яшчэ ўсім падабаўся выдатны бацькаў почырк. Не засталіся па-за ўвагай камандзіраў і яго адукаванасць і выхаванне. Таму гвардыі малодшы сяржант Янучок быў прызначаны камсоргам роты, адначасова выконваў абавязкі ротнага пісара.

***З бацькавых успамінаў:*** *«Праз некаторы час я зноў трапіў на перадавую. Баі ішлі жорсткія. Неўзабаве былі вызвалены гарады Кёнігсберг (Калінінград), Пілау.*

*Пераправіўшыся на лодках, шэсць дзён наступалі на Касе (паўвостраў, які ўразаецца ў Балтыйскае мора). Пасля баёў часць размясцілася ў г. Тапіау (Усходняя Прусія) на кароткі адпачынак, дзе і сустрэлі доўгачаканы Дзень Перамогі. Цяпер гэта горад Гвардзейск Калінінградскай вобласці.*

*Дарэчы, назва Тапіау ў перакладзе з прускай мовы азначае «цёплае поле». Мы і сапраўды ўпершыню за доўгія ваенныя гады адчулі вясну. Я падумаў, што дома, напэўна, зацвілі сады…»*

…Наш бацька Іван Паўлавіч быў інвалідам Вялікай Айчыннай вайны другой групы. Меў урадавыя ўзнагароды: медалі «За адвагу», «За ўзяцце Кёнігсберга», «За перамогу над Германіяй». У мірны час да іх далучыліся ордэн Айчыннай вайны II ст. і шматлікія юбілейныя медалі.

У канцы 1945 г. бацька скончыў трохмесячныя шафёрскія курсы. Летам 1946 г. іх часць перавялі ў Полацк, дзе малодшаму сяржанту Янучку давялося працаваць шафёрам спачатку на грузавой машыне ЗІС-5, а потым — на ГАЗ-2А, але мара стаць настаўнікам не пакідала яго.

28 лютага 1947 г. Іван Янучок быў дэмабілізаваны. Пайшоў працаваць у калгас «Чырвоны маяк», куды ўваходзілі вёска Падліпцы і пасёлак Манькова. У 1948/49 навучальным годзе прадоўжыў вучобу ў Слуцкім педвучылішчы. Восенню 1949 г. бацьку накіравалі на працу ў Сяражскую школу Слуцкага раёна настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, дзе ён адпрацаваў больш за 40 гадоў. У працоўнай кніжцы — толькі адзін запіс.

У 1954 г. скончыў завочна Баранавіцкі настаўніцкі інстытут (беларускае аддзяленне). У 1958 г. — Гомельскі дзяржаўны педінстытут імя В. П. Чкалава. Потым тэатральны факультэт Маскоўскага народнага ўніверсітэта мастацтваў па спецыяльнасці «рэжысёр драматычнага тэатра». Падчас вучобы веды Івана Янучка па рэжысуры ацэньвалі вядомыя артысты маскоўскіх тэатраў І. Я. Трубнікаў, В. В. Грыднева.

Усё жыццё Івана Паўлавіча было прасякнута любоўю да сцэны: спяваў у хоры, вёў у школе драмгурток, у якім з настаўнікамі і вучнямі паставіў такія спектаклі, як «Цуд» паводле твора Эдуарда Валасевіча, «Прымакі» паводле Янкі Купалы. А ў «Калінавым гаі» паводле твора Аляксандра Карнейчука бацька быў не толькі рэжысёрам, але і артыстам, які прафесійна стварыў вобраз пісьменніка — галоўнага героя спектакля.

…У сям'і нас шасцёра. Мы ўжо самі маем дзяцей, а хтосьці з нас — нават унукаў, і ўсе перад бацькавым лёсам схіляем галовы. Ён заўсёды з цікавасцю ставіўся да нашай з сястрой Таісай творчасці, з радасцю вітаў кожны новы верш, публікацыю ці чарговы зборнік паэзіі. Любіў пасля працоўнага дня пабыць у садзе, агледзець дрэвы, паслухаць спевы птушак. І марыў толькі аб адным: каб не было больш вайны, не гінулі людзі, каб былі шчаслівыя дзеці, унукі і праўнукі.

На вялікі жаль, не дачакаўся наш Іван Паўлавіч і не змог парадавацца за аднаго са сваіх праўнукаў, унука дачкі Алены, дэсантніка, які годна прадоўжыў традыцыі прадзеда-франтавіка ў мірны час, несучы вайсковую службу ў асобнай мабільнай 103-й брыгадзе сіл спецыяльнага рэагавання ў Віцебску. Сімвалічна, што ў 2015 г. гвардыі сяржант Арцём Анцыповіч меў гонар і вялікую адказнасць прымаць удзел у сталічным юбілейным парадзе, прысвечаным 70-годдзю Вялікай Перамогі.

…Пятага жніўня 2011 года мы асіроцелі канчаткова. Нашага бацькі не стала. Пакінуў нас ён на 89-м годзе жыцця. Развітацца з ім прыйшлі аднавяскоўцы, былыя вучні, шматлікія родзічы.

Слуцкі раённы ваенкамат накіраваў зводнае падраздзяленне з ліку сяржанцкага саставу для правядзення пахавальнай цырымоніі ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Івана Паўлавіча Янучка.

Я ўпершыню за доўгія гады пераступіла парог роднай хаты. Немагчыма перадаць увесь боль і шкадаванне, што агарнулі душу. Слёзы, даўкія, гарачыя, засцілалі вочы. Столькі недагаворана, столькі недалюблена… столькі розных перашкод і недарэчнасцяў раздзялялі нас… І хоць мы сустракаліся даволі рэдка, і не па нашай віне так здарылася, што мы, дарослыя дзеці ад першага яго шлюбу, даўно адышлі на задні план, усё ж мы заўсёды ведалі, што бацька ў нас ёсць, жывы і здаровы. І мы, ужо сталыя людзі, як ні дзіўна гэта гучыць, адчувалі сябе абароненымі. Як на нялёгкім жыццёвым фронце.

А цяпер наш абаронца пакінуў нас. І свет стаў адразу іншым — пустым і шэрым, хоць шчодра свяціла жнівеньскае халоднае сонца.

Лёс двойчы зрабіў для нас жнівень месяцам непамернай страты.

...У выкананні ваеннага аркестра загучаў гімн нашай краіны і было дзіўна, што бацька ў гэты час ляжыць. А ён жа сам вучыў кожнага з нас пад гукі гімна стаяць «смірна». Не варушыцца, апусціць рукі і стаяць, пакуль не закончыцца гэтая святая для кожнага грамадзяніна мелодыя. Для яго гэта было вельмі важна. Не мог ён па-іншаму. І раптам — ляжыць. І рукі складзеныя. І розум адмаўляецца верыць таму, што адбываецца.

Тройчы прагрымелі сухія і кароткія залпы развітальнага салюту. І ўсё... і толькі грудочак жоўтага жвіру... і безліч кветак, як у тым пераможным маі 1945-га...

...Будучы на канферэнцыі ў Вільнюсе ў Літве, я знайшла магчымасць наведаць Каўнас. Доўга шукала будынак, дзе ў 1945 г. мог размяшчацца шпіталь. Дапамагалі жыхары Каўнаса, але, на жаль, знайсці яго за тыя кароткія некалькі гадзін мне не ўдалося. На вуліцах старажытнага горада я старалася ўявіць, што адчуваў мой дваццацідвухгадовы бацька, калі быў тут на лячэнні. Здавалася, вось зараз сустрэну яго, маладога, спакутаванага, з перабінтаванай галавой і тварам... Дапамагу, пашкадую, абдыму...

Вечарам у вільнюскай гасцініцы я шмат думала пра няпросты бацькаў лёс, пра яго незвычайнае салдацкае шчасце, пра нашу сірочую долю і пра Вас, мама. І пра нас, Вашых з бацькам шасцярых дзяцей... і пра Вашых унукаў: Ірыну і Валерыя — Аленіных дзяцей, Вадзіма і Дзяніса — Грышавых, Пятра і Наталлю — Тамарыных, Наталлю і Аляксандру — Ларысіных, Сяргея і Таццяну — Таісіных, Ганну і Анастасію — маіх. Думалася, што так ні разу і не ўдалося нам сабрацца, хоць аднойчы, усім разам у нашай сяражскай хаце, Вашым дзецям, унукам... Праўнукам — Яне, Арцёму, Лізавеце, Сямёну, Марыне, Дзмітрыю, Анастасіі, Арыне, Наталлі, Кацярыне, Раману і маленькаму Івану, унуку Таісы, які нарадзіўся 9 мая 2012 г., у Дзень Перамогі...

**Мая Айчына**

Да болю родная зямля,
Лугі і пералескі.
І шэпт ляснога ручая,
І ўсмешка першае пралескі.
І зорак вечны карагод
У шчодрым небе.
І працавітых душ узлёт
У лусце хлеба.
Сюды вяртаюся з дарог.
І ёсць прычына:
Паходняй свеціць мне здалёк
Мая Айчына.

## Незабыўны Іван Данілавіч

Лёс звёў мяне з Іванам Данілавічам — Янкам Сіпаковым, беларускім паэтам, празаікам, перакладчыкам, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі, у 2008 г. падчас маёй працы ў якасці галоўнага інспектара Міністэрства адукацыі. Мы разам думалі, як давесці да нашых школьнікаў дарагую яго сэрцу кнігу эсэ «Зялёны лісток на планеце Зямля. Партрэт Беларусі».

Іван Данілавіч заўсёды па-бацькоўску падтрымліваў мяне, асабліва пасля прызначэння на пасаду галоўнага рэдактара часопіса «Роднае слова».

Праз некалькі дзён маёй працы ў рэдакцыю прыйшла бандэроль, дзе была кніга «Наталенне смагі» Янкі Сіпакова з дарчым надпісам: *«Вельмі паважаная Зоя Іванаўна! Па-мойму Вам абоім пашанцавала! Так што віншую і Вас, і «Роднае слова» з сустрэчаю! Веру, што Ваша дружба дасць цудоўны плён і будзе Вам (і нам таксама!) толькі ў радасць! Шчыра Ваш — Янка Сіпакоў. 21 чэрвеня 2009 г.»*

Сапраўдным крытыкам і дарадцам быў для нас Іван Данілавіч. Кожны нумар часопіса на працягу некалькіх гадоў прачытваўся ім ад першай да апошняй старонкі. А мы, супрацоўнікі рэдакцыі, з нецярпеннем чакалі ад яго званка. Ён тэлефанаваў і аналізаваў кожную публікацыю, хваліў часопіс, часам нешта падказваў, з нечым не пагаджаўся, але такое здаралася вельмі рэдка.

Іван Данілавіч гаварыў, што «сапраўдны пісьменнік павінен абавязкова стварыць сваю літаратурную сістэму каардынат, прапанаваць свой лад творчых каштоўнасцяў…» Ён вучыў, «што пісьменнік павінен быць пазнавальным. Нават па адным сказе, адным радку. Па стылі ж, па манеры пісьма не зблытаеш вялікіх Талстога і Дастаеўскага, Чэхава і Буніна. Ды і нашых Купалу і Коласа, Барадуліна і Гілевіча, Вярцінскага і Пісьмянкова. Пісьменнік павінен быць своеасаблівым, арыгінальным, не падобным ні да кога не толькі тым, як ён піша, але і тым, як ён думае, разважае, бачыць. Вось гэта і ёсць тая «сістэма каардынат», пра якую я згадаў раней».

Янка Сіпакоў быў сярод іншых запрошаных на нашым з Таісай творчым вечары ў Інстытуце пагранічнай службы. Пасля вечарыны патэлефанаваў і выказаў добрыя шчырыя словы, пажадаў творчых поспехаў. Тэлефонная размова доўжылася больш за паўгадзіны, але час праляцеў імгненна. Я не магла паверыць, што сам Янка Сіпакоў, аўтар «Веча славянскіх балад» і «Усміхніся мне», «Зялёнага лістка…» і «Зубрэвіцкай сагі», кнігі перакладаў з літаратур свету «На волю птушку выпускаю» (і многага іншага, што яшчэ будзе па-сапраўднаму ацэнена нашчадкамі!), дае станоўчую ацэнку маёй творчасці, ставіць на першае месца не колькасць напісаных мною вершаў, а якасць кожнага з іх.

Ён быў далікатным і вельмі сціплым чалавекам. Адораным і таленавітым. Дзіця вайны. Прадстаўнік філалагічнага пакалення…

На маю просьбу расказаць, як прыходзіла моладзь у літаратуру ў пасляваенны час, Іван Данілавіч адказаў наступнае: «Дзякуй, Зоя Іванаўна, за гэтае цудоўнае пытанне. Мне самому даўно карціць сказаць добрае слова пра дарагіх маіх паплечнікаў, сяброў, выдатных пісьменнікаў XX стагоддзя.

На мой погляд, дзеці вайны — магутнае літаратурнае пакаленне, якое працавала ў беларускай літаратуры шчыра, захоплена, апантана і стварыла сваю, сумленную і высакародную, літаратуру. Літаратуру ў літаратуры. Нібыта сам Бог пасля такой навалы, якую перажылі мы, злітаваўся над намі і падараваў нашаму прыгожаму пісьменству такую моцную і слаўную кагорту сапраўдных талентаў!

Мы, сіроты і партызанскія дзеці, галодныя і босыя, але багатыя душою, чыстыя і сумленныя, са шчырымі памкненнямі і асалодаю настойліва ўзяліся за працу.

Да літаратуры ў нас былі вельмі цнатлівыя і чыстыя адносіны — мы любілі яе і пакланяліся ёй. Яна была для нас сапраўдным храмам, і мы, перад тым, як увайсці ў гэтую святыню, доўга і цярпліва выціралі ногі… І ўсе мы яшчэ апантана любілі сваю Радзіму.

Мы ішлі ў літаратуру не кожны паасобку, а менавіта пакаленнем — плячо ў плячо. Таму і радаваліся не толькі сваім поспехам, але і поспехам сяброў і паплечнікаў…»

Так атрымалася, што мая гутарка з Янкам Сіпаковым, змешчаная ў № 1 часопіса «Роднае слова» за 2011 год, стала яго апошнім інтэрв’ю. 7 сакавіка, напярэдадні свята, ён тэлефанаваў мне, віншаваў, пытаўся пра нашы рэдакцыйныя справы і — раптам…

Стоячы з супрацоўнікамі рэдакцыі каля труны, я шаптала словы ўдзячнасці і малітвы. Як шкада, што так мала часу мы былі знаёмыя з Іванам Данілавічам… Дзякуй богу, што гэтае знаёмства і сяброўства было.

Ведаеце, мама, столькі святла сыходзіла ад гэтага таленавітага чалавека, столькі дабрыні і ні з чым не параўнальнай сапраўднай беларускай інтэлігентнасці!..

Некалькі месяцаў мы яшчэ па звычцы чакалі яго званка ў рэдакцыю…

На маім рабочым стале ў кабінеце галоўнага рэдактара заўсёды знаходзіцца некалі кніг. Яны — мой абярэг на сёння, заўтра і на будучыню. Сярод іх той незабыўны «Зялёны лісток…», з якога пачыналася наша сяброўства, з памятным дарчым надпісам: *«Вельмі шаноўнай Зоі Іванаўне Падліпскай, якая так шчыра абараняла гэты вельмі дарагі мне «Зялёны лісток», — з неверагоднаю ўдзячнасцю і павагаю. З дабратою да Вас — Янка Сіпакоў».*

**Дай сілы, Бог**

О Беларусь! Рамонкам белакрылым
Ты прарасла у сэрцы назаўжды.
І дай нам, Бог, знайсці, нарэшце, сілы,
Каб вызваліць свой край з нямой бяды.

Дай годнасці,
каб уваскрэсіць слова,
Не апускаць ад сораму вачэй.
Каб не стагнала беларусаў мова
Гаротнай падчаркай сярод дзяцей.

Дай памяці,
каб не забыць навекі
Крывінак след у росах дзірвану,
Каб звацца чалавеку чалавекам
Пад шчодрым небам колеру ільну.

Дай святасці,
каб пакланіцца Храму,
Які мы зневажалі столькі год.
Малюся ў Курапатах кожнай яме,
Дзе прычашчалі смерцю мой народ.

Дай мужнасці,
сапраўднай дай адвагі
Прачнуцца ад сляпога забыцця.
Расплюшчыць вочы горкім бедалагам,
Дай сілы, Бог, а значыць — дай жыцця.

## Феномен даследчыка і летапісца

Завяршаўся 2012 год, які быў абвешчаны Годам кнігі. Ён запомніўся шматлікімі прафесійнымі і культурна-асветніцкімі мерапрыемствамі, ушанаваннем юбілеяў класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма

Танка, арганізацыяй і правядзеннем рэспубліканскіх і міжнародных кніжных выстаў, сустрэч з пісьменнікамі…

Менавіта ў гэты час, пазначаны паважлівым стаўленнем да Кнігі, павышэннем яе ролі ў грамадстве, адбылася знакавая, на маю думку, падзея не толькі ў беларускай культуры, але і ў навуцы: выйшлі ў свет і высока ацэнены грамадскасцю кнігі-летапісы, кнігі-даследаванні пра старажытныя беларускія роды пісьменніка Анатоля Статкевіча-Чабаганава.

У Год кнігі паважаны аўтар на дабрачыннай аснове падтрымаў фарміраванне фонду Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, перадаўшы каля 700 экзэмпляраў сваіх кніг. З дапамогай Нацыянальнай бібліятэкі кнігі Анатоля Статкевіча-Чабаганава распаўсюджаны ў бібліятэкі краіны і замежных дзяржаў — Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Літвы, Расіі, Украіны, Канады, Злучаных Штатаў, Англіі, Францыі і інш.

Мы пазнаёміліся з Анатолем Статкевічам-Чабаганавым і яго творчасцю ў студзені 2010 г., калі ён завітаў у рэдакцыю «Роднага слова». Анатоль Васільевіч прынёс не проста рукапісы, а папярэднюю вёрстку адразу шасці тамоў свайго даследавання, прыкладна па 600 старонак кожны! Сказаць, што мы былі здзіўлены — не сказаць нічога. Упэўнена, што такога кшталту даследавання няма не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі. І ўсё гэта плён нястомных пошукаў на працягу дваццаці гадоў. Апантана працуючы, пра публікацыі ў друку пэўны час не думаў. Галоўнае было — адшукаць неабходныя звесткі, каб за пылам гісторыі не страціць унікальнай інфармацыі пра таго ці іншага прадстаўніка старажытнага роду.

Вось яна, рэдактарская ўдача — грунтоўны матэрыял з рук самога даследчыка! А будучы лаўрэат высокіх прэмій і атрымальнік шматлікіх узнагарод за свой сапраўдны духоўны подзвіг спакойна, з ветлівай годнай усмешкай назіраў за нашай збянтэжанасцю ад убачанай упершыню ў жыцці такой фундаментальнай працы. Ён, зразумела, ведаў сапраўдную цану зробленаму.

Ужо ў красавіку таго ж года ў раздзеле «Нацыянальная і сусветная культура» пад рубрыкай «Вяртанне да вытокаў» чытачы часопіса «Роднае слова» змаглі пазнаёміцца з артыкулам «Статкевічы, Сацкевічы-Статкевічы герба «Касцеша»». Адразу адчулася жыццёвая праўда, інтэлігентная шчырасць, энергетыка радка, добрае веданне тэмы. Яно і зразумела. Аўтар распавядаў пра набалелае, перажытае ім і ягонымі продкамі. Прадстаўнікі старажытнага дваранскага роду спазналі ў жыцці горыч расчараванняў і трагедыю найвялікшых страт у пераломныя моманты гісторыі краіны.

Па сутнасці, пісьменнік паказаў праўдзівую гісторыю Айчыны ў асобах, раскрыў яе ў чалавеказнаўчым плане за пяць апошніх стагоддзяў. А гэта ўжо новы погляд на вывучэнне гісторыі, якую мы звычайна разглядаем праз прызму спосабу вытворчасці, ладу жыцця, значных падзей. Аўтар жа ідзе ад аповеду пра жыццё як звычайных людзей, якія проста жылі на гэтай зямлі, вырошчвалі хлеб, гадавалі дзяцей, марылі і спадзяваліся на лепшае, а калі трэба было абараняць Айчыну, мужна змагаліся, не шкадуючы жыцця, так і вядомых, якія пакінулі адметны след у гісторыі. Як, напрыклад, мітрапаліт Кіеўскай і ўсяе Русі Грыгорый, архімандрыт Кіева-Пячэрскай лаўры Іван, якія служылі справе духоўнасці ў XV—XVI стст., як вядомы акадэмік і грамадскі дзеяч Сцяпан Некрашэвіч, камандуючы ПДВ СССР генерал Казанкін… Кожны з герояў даследавання Анатоля Статкевіча-Чабаганава — рэальная, нявыдуманая асоба са сваім няпростым лёсам, пазначаным часам, у які давялося жыць.

Адразу захацелася больш даведацца пра наша мінулае. І пісьменнік не прымусіў ні нас, супрацоўнікаў рэдакцыі, ні чытачоў доўга чакаць. У майскім нумары часопіса «Роднае слова» за 2010 г. быў апублікаваны наступны артыкул пра старажытны род Карафа-Корбутаў. З'явіліся аўтарскія публікацыі ў «Полымі», «Нёмане». І вось ужо на працягу амаль трох гадоў у часопісе «Роднае слова» існуе пастаянная рубрыка «Вяртанне да вытокаў», дзе Анатоль Статкевіч-Чабаганаў распавядае пра шматлікія шляхецкія роды Беларусі, шчодра дзеліцца ўнікальным па сваёй сутнасці матэрыялам.

Неўзабаве адна за адной пачалі выходзіць з друку кнігі з заснаванай даследчыкам серыі «Летапіс беларускай шляхты». На беларускай мове — у «Родным слове», на рускай — у выдавецтве «Беларуская Праваслаўная Царква». Калі ўлічыць, што пісьменнік працаваў над серыяй кніг больш за дваццаць гадоў, то нічога дзіўнага тут няма. Захапляе іншае: навуковая дакладнасць, пацвярджэнне кожнага факта біяграфіі герояў твораў шматлікімі архіўнымі дакументамі, глыбіня і маштабнасць матэрыялу. Прасочаны лёсы дзясяткаў тысяч людзей! Вызначана аўтарская метадалогія даследавання, якой ужо можна навучаць паслядоўнікаў у гэтай найскладанейшай, але такой неабходнай для будучыні, для выхавання гістарычнай памяці ў новых пакаленняў.

Пры знаёмстве з героямі твораў Анатоля Статкевіча-Чабаганава міжволі захапляешся іх высакароднасцю, шляхецкай годнасцю, мужнасцю і самапавагай, здавалася б, у самых безнадзейных жыццёвых сітуацыях.

Кожны з герояў пісьменніка ўнікальны, са сваім адметным лёсам. Сэрца сціскаецца, калі чытаеш пра Аляксандру Іванаўну Карафа-Корбут (да замужжа Сацкевіч-Статкевіч), адну з васьмі сясцёр дзеда Анатоля Статкевіча-Чабаганава.

На пачатку Вялікай Айчыннай вайны Аляксандры Іванаўне было ўжо 72 гады. Два сыны і дачка пайшлі на фронт, трое сыноў — у партызаны. Праз некаторы час Аляксандру Іванаўну арыштавалі. Удзельнічаў у гэтым злачынстве і начальнік мясцовай паліцыі, былы старшыня сельсавета, які да вайны пужаў іх сям'ю раскулачваннем. Жанчыну доўга катавалі, але яна не выдала сваіх дзяцей-партызан. Праз некалькі дзён яе жывой закапалі ў зямлю…

Захапляе стойкасць духу Ганны Забэлы з роду Татураў, якая не скарылася і не змяніла веру, што прыняла ад нараджэння. Ганна Самуілаўна памерла ў 1855 г., застаючыся каталічкай…

Сярод шматлікіх герояў кніг Анатоля Статкевіча-Чабаганава — архіепіскап Полацкі Яўфімій і ігумення Полацкая Настасія, войт горада Магілёва, сакратар каралеўскі Пётр Казановіч, князі Юхневічы-Бербашы і Глінскія-Ліхадзіеўскія, пачынальнік магутнага магнацкага роду Тышкевічаў Тышка Каленікавіч…

У год святкавання 200-годдзя Айчыннай вайны 1812 г. выйшла з друку чарговая кніга Анатоля Статкевіча-Чабаганава пра старажытны магілёўскі дваранскі род Казановічаў герба «Гржымала». Яна стала значным унёскам у беларускую і расійскую культуру, своеасаблівым падарункам як да Года кнігі, абвешчанага ў Беларусі, так і да расійскага Года гісторыі.

Многія з роду Казановічаў пакінулі яскравыя старонкі ў летапісе краіны. Узгадаем шасцярых сыноў Гаўрыіла Пятровіча Казановіча, якія сталі героямі Айчыннай вайны 1812 г.

Цікава, што вобраз аднаго з прадстаўнікоў роду, Барыса Ільіча Казановіча, рускага генерала Белай гвардыі, Аляксей Талстой паказаў у рамане «Хаджэнне па пакутах», нават не змяніўшы прозвішча…

Кнігі Анатоля Статкевіча-Чабаганава адразу прыцягнулі ўвагу крытыкаў і вядомых вучоных. Надрукаваны шэраг станоўчых рэцэнзій, водгукаў у часопісах «Роднае слова», «Полымя», «Архіварыус», «Минские епархиальные ведомости», «Беларусь», у газетах «СБ — Беларусь сегодня», «ЛіМ», «Звязда», «Белорусская Нива», «Настаўніцкая газета», «Комсомольская правда» і інш.

У 2012 г. Анатоль Статкевіч-Чабаганаў стаў лаўрэатам спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва «За ўклад у вывучэнне і прапаганду духоўнай і культурнай спадчыны, стварэнне серыі гісторыка-дакументальных кніг «Я — сын Ваш», прысвечаным дваранскім родам Беларусі».

Часам за аналізам творчасці таго ці іншага пісьменніка неяк не звяртаецца ўвага на асобу аўтара. А між тым, пэўныя, здавалася б, нязначныя дэталі ці факты з біяграфіі пісьменніка могуць стаць ключавымі для разгадкі яго творчага дару.

Анатоль Статкевіч-Чабаганаў з дзяцінства ведаў пра прыналежнасць сям'і да старажытнага дваранскага роду, пра трагедыі, якія абрынуліся на сям'ю ў XX ст., і адна з іх — арышт і гібель дзеда, Міхаіла Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча. Хлопчык адчуваў усім сэрцам той бясконцы боль, што давялося перажыць бабулі, Марыі Аляксандраўне, якую з малымі дзецьмі адправілі ў высылку ў Комі-Пярмяцкую акругу. З гадамі ўсё больш умацоўвалася жаданне даведацца праўду. А даведаўшыся, Анатоль Васільевіч зрабіў усё магчымае, каб данесці гэтую праўду да людзей. І шчырае сыноўняе слова ператварылася ў магутны гімн свайму роду, а таксама яшчэ дзясяткам старажытных беларускіх родаў, стала знакавай падзеяй не толькі ў Беларусі, але і за мяжою...

Беларуская навука, думаецца, яшчэ дасць грунтоўную ацэнку даследчай дзейнасці Анатоля Статкевіча-Чабаганава. Але і цяпер ужо відавочна, што гэта — фенаменальная падзея ў культуры і гісторыі нашай краіны. Адзін чалавек, быццам парастак магутнага радаводнага дрэва, змог аднавіць, дакладна вывучыць, даследаваць і зберагчы для нашчадкаў гісторыі тысяч лёсаў далёкіх продкаў. І якім абярэгам адразу паўстае іх духоўная энергія для сучаснікаў і тых, хто яшчэ народзіцца на свет! Як мацуецца жыватворнымі сокамі магутнае радаводнае дрэва!

Вітаючы шматлікія дасягненні пісьменніка, жадаем яму цікавых адкрыццяў і плёну ў нястомных даследчых пошуках. Чакаем яго новых твораў, якія стануць яшчэ адным значным унёскам у развіццё і захаванне беларускай культуры.

Калектыў «Роднага слова» і я як галоўны рэдактар усцешаны тым, што самым непасрэдным чынам далучыліся да рэалізацыі праектаў гэтага вядомага пісьменніка, даследчыка і летапісца.

## Карані і крылы. Татаршчына — 2014

Мамачка, сёння, 3 мая 2014 г., у нашай сям'і незвычайна знакавая падзея. Мы садзім у Татаршчыне сямейны сад — яблыні, грушы, вішні, слівы, чарэшні, персікі, нектарын, абрыкосы… Пасадзілі два абляпіхавыя дрэўцы і нават некалькі кусцікаў бэзу з манькоўскага падвор'я бабулі Арыны.

Так, сад на нашай з Ларысай уласнай зямлі, якую мы сумесна купілі ў роднай вёсцы Івана Аляксандравіча, светлая яму памяць.

Адчуваеце, як гучыць? На ўласнай зямлі… Вось калі пачынаеш больш разумець мележаўскага Васіля Дзятліка з «Людзей на балоце» і цалкам пагаджаешся з Якубам Коласам: «Зямля — аснова ўсёй Айчыны». Толькі каб гэта зразумець, да гэтага трэба «дарасці» душою.

Удзельнічалі ў пасадцы сем'і брата Грышы, сястры Ларысы, Таіса з дачкой Таццянай і я з дзецьмі Ганначкай і Насцечкай. Сёстры Алена з Тамарай таксама бралі ўдзел у «пасадцы саду стагоддзя» — маральна і матэрыяльна. Ніхто не быў раўнадушны да гэтага сакральнага дзейства. Нават наша маленькая Лізавета, унучка Грышы, дачка Дзяніса і Ганны Янучкоў, завіхалася з сапраўднай невялічкай рыдлёўкай. І як толькі заўважала, што дзед ізноў нясе цяжкую каністру з вадой, каб паліць дрэўца, кідалася да яго:

— Дзед, дай дапамагу!

Рыгор Іванавіч даваў магчымасць унучцы ўзяцца за дужку і разам яны тупалі да дрэва, палівалі. Тады ён ішоў за наступнай, а Лізачка бегла да сваіх мамы з татам — трэба ж нешта і ім дапамагчы. У кожнага, хто гэта бачыў, цяплела на душы.

Усе жартавалі, радаваліся, прасілі дрэўцы, каб раслі моцнымі і вялікімі. Мы з Ларысай, як некалі бабуля Арына, бясконца прыгаворвалі: расціце, квітнейце, прыносьце плады на ўсіх долю.

…Дачнае жыццё пачалося. Усю вясну мы шчыравалі. Распрацавалі некалькі сотак зямлі. Рукамі перабралі кожны яе сантыметр, выносілі дзёран і каменне, якога тут, на Стаўбцоўшчыне, вельмі многа. І нават не стаміліся — з такой радасцю і настроем усё рабілася.

…Пасаджаныя дрэўцы, як малыя дзеці, патрабуюць догляду. Чаго толькі каштуе прынесці ад суседзяў праз дарогу па вядры вады пад кожнае (свайго калодзежа, як і святла, пакуль што няма). Але мы стараемся. І з кожным днём дрэвы робяцца ўсё мацнейшыя.

Цяжка пачынаць на новым месцы, калі там толькі адзін дзірван. Але праз некалькі месяцаў у нас ужо зелянее сад ажно на 42 дрэўцы, радуюць сваімі дарамі распрацаваныя да сантыметра некалькі сотак, адведзеныя пад агарод, ветла прымае нас і нашых дзяцей утульны невялічкі гасцявы домік, пастаўлены перад пачаткам асноўнага будаўніцтва…

Амаль кожныя выхадныя мы праводзім тут, у Татаршчыне. І зноў — праз столькі гадоў! — адчуваем той да болю родны сасновы водар, ранішні халадок на роснай траве, бачым начное зорнае неба і слухаем спеў лясных жаваранкаў, якія кожны дзень заліваюцца над нашым домікам, а некаторыя прылятаюць і садзяцца адпачыць ці паназіраць за намі на драўляныя калочкі, да якіх падвязаны нашы пладовыя дрэўцы. Якое ж цікавае жыццё на прыродзе! Часта ўспамінаем бабулю Арыну, якая таксама жыла на хутары каля лесу. Асабліва калі нясём з лесу дроўцы або распальваем на вуліцы невялічкую печку-буржуйку…

Лета 2014 года здзіўляе незвычайнай гарачынёй. Ноччу ў гасцявым доміку, абшытым вагонкай, стаіць прыемны сасновы водар, і так добра спіцца. Але раніцай, пасля дажджу, мы ўжо дружна шыбуем у «наш» лес, які называюць тут Казіна (мікратапонім), па маладыя лісічкі…

Даўно, ой, як даўно не было такога свята на душы ад яднання з роднай прыродай, ад святога адчування: мы — дома.

29 ліпеня 2014 г. у нас завяршылася яшчэ адна важная сямейная праца. Ура! Заліты падмурак пад наш новы дом з мансардаю. Самае важнае, што закладзены ён у нашай любімай Татаршчыне. І яшчэ даволі цікавы факт: да рэвалюцыі гэтая зямля (каля вёскі Татаршчына да суседняй вёскі Грызаўшчына, тэрыторыя ад самай рэчкі Воўкі і да Казіны) належала сям'і Татарыцкіх — продкам Ларысінай свекрыві Яніны Канстанцінаўны, у дзявоцтве Татарыцкай. Набылі яе ў княгіні Гагенлоэ…

30 ліпеня заключылі дамову са Стаўбцоўскім РЭС. Значыць, хутка ў нас будзе святло. Застаецца заказаць план, купіць апору і кабель, пракапаць траншэю… Можа, хто-небудзь нас і не зразумее: што ж гэтым сталічным жыхарам трэба? Няўжо рамантыкі захацелася? І рамантыкі таксама, і адчування прыналежнасці да роднай зямлі, і адчування вялікай еднасці з роднай сям'ёю.

І калі наш самы маленькі на гэты час гадавалы ўнучак Сямён Янучок памаленьку перабірае яшчэ кволымі ножкамі па траве ў нашым сямейным садзе, мы, дарослыя, адчуваем, што ўсё недарэмна. І што мары збываюцца. І што чалавека на зямлі трымаюць яго карані і вытокі. І крылы для палёту душы таксама адсюль — з радзімы.

…Чакаем буслоў і верым, што яны абавязкова паселяцца ў нас і пасябруюць з нашай вялікай і дружнай сям'ёй.

*P. S.* 30 жніўня 2014 г. завяршылі работы па ўсталяванні апоры і электралічыльніка. Ура! У нашым гасцявым доміку з'явілася святло!

**Пахне бэз**

Давала ўжо не раз сабе зарок:
Самотных вершаў думаць
больш не трэба.
А памяць, як маланка,
назнарок
Цаляе ў рыфму, рассякае
неба,
Куды гляджу з надзеяй
і тугой,
Дзе ўвечары гаюча свецяць
зоры.
Мне б развітацца з ціхаю
журбой
І адпусціць бязладнае «учора».
Няхай грымоты, і сцяною
дождж.
Сугучна думкам водная стыхія.
…Зноў пахне бэз. І ветрык
басанож
Бяжыць у верш, прасветлы
і шчаслівы.

## Сталае пачуццё

Вось і прыйшло яно, нарэшце, сталае прыгожае пачуццё. Калі дыхаеш з любым адным паветрам, калі прыхінаешся шчакою да роднага моцнага надзейнага мужчынскага пляча і адчуваеш найвялікшую, наймагутнейшую абароненасць у свеце. Калі сэрцы нашы б'юцца ў такт. І калі ты яшчэ толькі падумала, а ён ужо дакладна ведае, што ты хочаш сказаць.

Так, мама, Бог падарыў мне сустрэчу з чалавекам, да якога я ішла праз усё сваё свядомае жыццё. Ведаеце, каханне ў сталым узросце крыху іншае, як у безагляднай маладосці. Цяпер па-іншаму адчуваецца і жывецца. Цяпер цэніш кожнае імгненне, і цяпер цэняць цябе. Жывуць тваімі клопатамі, радасцямі і праблемамі. Не рамантычна абяцаюць, а робяць сапраўдныя ўчынкі. Калі і гаварыць пра каханне не трэба — кожны крок і ўздых, кожная секунда жыцця пранізана гэтым усеабдымным пачуццём. Зямным, шчырым, чалавечым.

А можа, так адбываецца таму, што ён пасланы мне Богам і лёсам. А ўсё тое, што было да гэтага, — вялікая каштоўнасць у жыцці, ды не мая.

* * *

Аберажы мяне ад звадак і нягод.
Засцеражы, накрый крылом пяшчоты.
Мелодыяй світальнаю употай
Ўдыхні жыццё у сцішаны радок.

Стань лірнікам, шчаслівым вестуном
Маіх нязбытых смелых летуценняў.
…Загадкавасцю казачных імгненняў
Вясна ваўсю шчыруе за акном.

Наш добры знак, жыццёвы абярэг —
Забыты хмель чаромхавага рання
І вечная мелодыя кахання
У абуджэнні паўнаводных рэк…

**Жаночы лёс**

Столькі святла, цеплыні і блакіту!
Сэрца спявае, радасць — наросхрыст!
Сіняя сінь — то валошкі у жыце.
Белая бель — то жыцця майго вёсны.

Куфар гадоў напалову запоўнен,
Ды не стаміліся ткаць яшчэ кросны.
Хвалі пачуццяў… Надзейны мой човен…
Зоры начамі мілуюцца ў плёсах.

Доўга да шчасця душу рыхтавала,
Кужаль свой шэры адбельвала ў росах.
Вось і кладуцца так гожа і стала
Лёсу палотны, як травы ў пракосы.

Столькі святла, цеплыні і блакіту!
Рунь збажыной стане спелай аднойчы.
Любы мой, светлым каханнем спавіты
Сноп нашай долі, як лёс мой жаночы.

## Жыццё прадаўжаецца…

Боль ад страты самага дарагога ў свеце чалавека, Вас, мама, назаўсёды пасяліўся ў сэрцах Вашых дзяцей.

Кожны раз, калі надыходзіць жнівень, думкі мае міжволі апынаюцца ў тым трывожным месяцы 1972 года. Ізноў вяртаюцца ў дзяцінства, і яскрава бачыцца кожная хвіліна таго трагічнага 24-га дня…

Але жыццё прадаўжаецца. Кожным ранкам узыходзіць сонца, дае цяпло і святло людзям. Радуюць поспехамі дзеці. Кожнага дня кліча да сябе любімая работа, маё «Роднае слова». Свежым ветрам і чыстаю расою лечыць мае душэўныя раны і трымае на свеце моцнае і светлае маё апошняе каханне. Пішуцца новыя вершы. Наталяецца душа добрай музыкай. Шануюць родныя, наша вялікая і дружная сям'я, захоўваючы ў душах нерастрачаную любоў і бязмерную ўдзячнасць да Вас. Шанцуе на добрых людзей, калег і сяброў. Радуе і дае новыя сілы для жыцця і творчасці сямейны сад… Імкнуцца галінкамі ўвысь, да святла і сонца, два маладзенькія клёнікі, пасаджаныя восенню Ларысай да майго дня нараджэння на нашым уласным падвор'і ў Татаршчыне.

Сёмага кастрычніка, мама, у мяне юбілей. Ваша маленькая Зоя стала не проста дарослаю. За плячыма цэлае паўстагоддзе складанага, але і шчаслівага жыцця!

Я распавяла Вам пра многае, а колькі яшчэ па-за радкамі маёй шчырай споведзі! Але пра гэта іншым разам.

Нізка кланяюся Вам, мама, і малю Бога за Вас.



Таццяна БУДОВІЧ-БАРАДУЛЯ

# АПАВЯДАННІ

## Дарогі і сантыменты

З Жэнькам мы пазнаёміліся пасля таго, як я выйшла замуж, а ён ажаніўся з маёй суседкай Надзейкай. Гэты рэзкі, парывісты, аскетычны весялун выклікаў ува мне нешта на мяжы сімпатыі і шкадавання. Нейкае да болю шчымлівае пачуццё агортвала маю душу, варта было яму пажартаваць са мной ці хаця б павітацца: ва ўсёй яго істоце чыталася нешта па-гамлетаўску трагічнае. Па-цыганску чорныя вочы глядзелі адчайна-пранізліва, нібыта ў апошні раз, гіпнатызуючы, пазбаўляючы волі... Я здагадвалася, што падабаюся яму. Узяўшы шлюб, Жэнька з Надзейкай пераехалі да яго ў кватэру. Бачыліся мы вельмі рэдка, на літаратурных прэзентацыях і вечарынах.

…Завяршылася паэтычная імпрэза, дзе Жэнька выступаў з новымі вершамі. У кулуарах ён паспеў добра-такі прыкласціся да чаркі — арганізатары не паскупіліся на пачастунак, а што яшчэ трэба паэту, каб сілкаваць агонь натхнення? Ля ўвахода ў павільён ён паліў цыгарэту за цыгарэтай, перакідваючыся жартамі ў кампаніі такіх жа вясёлых калег па пяры.

Госці разышліся, кампанія ўдзельнікаў радзела. Я збіралася развітацца з усімі, як раптам Жэнька паслізнуўся на нябачнай скарынцы лёду. Смешна ўзмахнуўшы рукамі, ён рэзка пахіснуўся, страціў раўнавагу і з усяго маху выцяўся брывом аб адкос акна першага паверха, ля якога стаялі курцы. Калі сцішыўся стогн роспачы, я прапанавала падвезці яго дадому на сваім аўто. Мне тое было не па дарозе, але стала страшна за яго, калі ўявіла, як ён у такім стане паедзе на грамадскім транспарце — яго пальцы нават не патраплялі на патрэбныя кнопкі мабільніка, каб выклікаць таксоўку. Яшчэ зваліцца ў які сумёт ды замерзне небарака — на ноч добра браўся мароз.

Дайшлі мы, узяўшыся пад ручкі (для бяспекі) да паркоўкі аўто, крануліся, едзем. Дарога вольная: тыя, хто спяшаўся з працы, даўно павячэралі ды кладуцца спаць — час позні. Так прыемна прыціснуць педаль акселератара,

---

***Таццяна Будовіч-Барадуля** нарадзілася 12 студзеня 1977 года ў Мінску. Скончыла гістарычны факультэт БДУ (2005) і Інстытут журналістыкі БДУ (2016). Вершы і апавяданні друкаваліся ў рэспубліканскіх выданнях, калектыўных зборніках. Аўтар кнігі паэзіі «Дуэль паглядаў» (2002) (як Таццяна Будовіч). Працуе ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча.*

калі наперадзе толькі жоўтыя вочы святлафораў, міргаючы, вынырваюць з цемры.

— Ну ты і Шумахер! Ліхач! — са здзіўленнем вымавіў Жэнька, калі, даволі небяспечна, ледзь скінуўшы хуткасць, я ўвайшла ў паварот на яго вуліцу. Ведаў бы гэты п'яны геній, што мне няма патрэбы перад ім строіцца — сама спяшаюся дадому, змерзлая і галодная.

І вось мы спыніліся перад яго пад'ездам.

— Ах, як ты файна мяне даімчала! Дазволь цябе пацалаваць!

— Толькі ў шчочку!

— Ну, дай мне што-небудзь на памяць! Падары мне тваю шапачку, калі ласка! Ты ж у машыне, не змерзнеш!

Шапачка мне яшчэ б спатрэбілася — цёплая і зручная, на любы холад, але так надакучылі нецвярозыя сантыменты, што я без вагання згадзілася на яго просьбу. Атрымаўшы «трафей», Жэнька нават праслязіўся і стаў яго абцалоўваць.

— Ты глядзі, Надзя, як знойдзе, і другое брыво табе рассячэ — для сіметрыі! — як яшчэ я магла нагадаць, што яму час сыходзіць?

Жэнька неяк сцяўся, наструніўся, паклаў шапачку ў сумку, хуценька чмокнуў мяне ў шчаку і, падзякаваўшы, выскачыў з машыны ды пашыбаваў да пад'езда.

Пасля мы доўга не бачыліся, я так і не даведалася, ці не нарабіла скандалу яму тая шапачка. Хутчэй за ўсё, меркавала я, працверазеўшы, ён выкінуў яе куды на сметнік ад граху далей. Калі паспеў, вядома.

Наступная сустрэча адбылася ў Кракаве, на паэтычным фестывалі, дзе тусавалася ледзь не ўся наша літаратурная багема. Ён прыехаў туды на некалькі дзён, спыніўся ў гатэлі. Я ж планавала не затрымлівацца, адчытацца і махнуць да цёткі ў Варшаву. Квіток на апошнюю электрычку быў набыты загадзя.

Пасля вечаровага фуршэту Жэнька ўзяўся праводзіць мяне на вакзал. Усю дарогу жартавалі, ён спрабаваў адгаварыць мяне ехаць да цёткі, абяцаў зняць нумар у яго ж гатэлі, каб мы маглі не спяшаючыся агледзець горад, нацешыцца яго гісторыяй і архітэктурай.

Да электрычкі прыйшлі загадзя. Ён замовіў дзве порцыі кавы, мы селі за столік насупраць адно аднога. Маўчалі. Ён узяў маю руку. Якія мяккія, цёплыя, пяшчотныя аказаліся ў яго далоні! Як гэта кантраставала з тым, што ён быў такі худы. А вочы — на дзіва стомленыя, бяздонныя, з нейкім ціхім, безвыходным болем.

— Застанься… — жаласна, безнадзейна вымавіў ён.

— Надзя даведаецца, усе валасы мне павырывае і ў тваёй шавялюры праполку зробіць, — кпіць не хацелася, але што заставалася яшчэ? — Ты шчаслівы, Жэнік, бо Надзейка твая — гарманічная, напоўненая нейкім вышэйшым пазітывам і радасцю існавання. А ўва мне няма ні спакою, ні гармоніі, ні радасці існавання.

— Па табе не скажаш…

— Гэта толькі звонку, у душы ж — усё наадварот.

— Як шкада, што я не магу апынуцца ўнутры тваёй душы і выправіць сітуацыю!

Кава астыла, надыходзіў час развітвацца. Да адпраўлення электрычкі заставалася дзве хвіліны. Я паднялася ў вагон, а ён, усміхнуўшыся толькі куточкамі вуснаў, знік у падземным пераходзе. Каб пазбавіцца ад думак, якія разрывалі душу на кавалкі, знайшоўшы вольнае месца, я адразу ж выцягнула з сумкі кніжку любімага пісьменніка — яна быццам знарок чакала там.

З ночы хвастаў дождж — халодны, густы. Раніцай неба аказалася настолькі шчыльна ўсцеленае ватнымі хмарамі, што падалося, быццам восень вырашыла выканаць план па вільгаці на год наперад. Бадзяцца па горадзе не выпадала (а гэта і было нагодай заехаць у госці да цёткі). Добры настрой зусім знік (а раней ён з'яўляўся фонам усіх маіх падарожжаў). Наперадзе было яшчэ некалькі вольных дзён, але я забраніравала квіток на бліжэйшы цягнік дадому і пачала збірацца. Калі надышоў час ехаць на вакзал, у дзверы пазванілі. Гэта быў чарговы цётчын кавалер, які небеспаспяхова да яе заляцаўся. Яго яна і папрасіла адвезці мяне на чыгунку. Высокі, прыгожы, ён паслухмяна ўздзеў на спіну мой заплечнік, і мы рушылі.

І вось мы ў падземным пераходзе, шукаем указальнік на платформу, з якой адыходзіць мой цягнік. Мінаем чалавека, які разгублена стаіць пасярод праходу. Я ўзіраюся ў яго. І чамусьці зусім не здзіўляюся, што гэта — Жэнька, які планаваў яшчэ некалькі дзён быць у Кракаве, але вельмі здзіўляе яго твар — як адлітая з воску безжыццёвая маска, ні ценю ніякай эмоцыі… Дзікія, няўцямныя вочы глядзяць на мяне — і скрозь мяне, нібыта я — прывід з таго свету…

## «Даруй мне, Петрык!»

Свядомасць вярталася балюча, фрагментамі. Яна кудысьці спяшалася, гнала машыну на вялікай хуткасці. Нечакана на дарозе з'явілася нешта… вялізнае, цёмнае, калматае… Лось?.. Рэзкае тармажэнне, аўто заносіць, яно моцна нахіляецца ўправа, свет закруціўся (марудна, нібы ў запаволеным кіно) і згас. І вось — няўцямныя думкі быццам прарэзвае рытмічнае «пі-і-пі-і…», і чамусьці вельмі холадна…

Расплюшчыла вочы. Пакой заліты святлом, такім яркім, нібы побач — акно на ўсю сцяну. Але ж на акне жалюзі. Тады адкуль яго столькі? Дый дзе яна? Нейкія правадкі, датчыкі, прымацаваныя да яе напаўаголенага цела, і усё белае-белае… Да яе падышоў чалавек у халаце.

— Як нашы справы? Як сябе адчуваеце? — ён нібы і не чакаў ад яе адказаў на свае пытанні. — Пашанцавала вам! Адно з двух: ці ў кашулі нарадзіліся, ці пад шчаслівай зоркай!

Раптам ён схіліўся над Янчыным тварам, уважліва пагладзеў у вочы.

— Куды ты так ляцела?! Пры такіх здарэннях чалавек — альбо труп, альбо расліна! Хочаш бацькоў у магілу раней часу загнаць?

— А… што са мной? — голас быў нейкі ахрыплы, як чужы. І ўсё балела.

— Што? Нічога страшнага! Так, пара зламаных рэбраў, трохі больш гематом, шокавы стан, а болей нічога! А, ну і зрушэнне мазгоў! Нават дзіўна, што там было чаму зрушвацца! Ты б лепш спытала, што з маці!

Трывога нарастала і зрабілася невыноснай. У маці — цукровы дыябет. Нашто ўвогуле ёй гэта паведамілі?! Хаця… ці магчыма было інакш?

— А што з маці?

— Што!? Супакоілі, як маглі. Суткі ўжо тут! Толькі як паведамілі, што ўсё ў парадку з яе дачушкай, змагла заснуць.

…Петрык! Раптам згадалася: яна спяшалася да Петрыка!!! Ён чакаў яе на дачы, яны змовіліся правесці выхадныя разам, паплаваць на возеры. Ці паведамілі яму? Дзе тэлефон!? Яна тарганулася ў пошуках сваіх рэчаў і ледзь не застагнала ад болю, што працяў грудзі.

— У вашым стане лепей не рухацца. Адляжыцеся, адпачніце, падумайце над сэнсам жыцця. Ці варта рызыкаваць ім? Усё будзе добра. Заўтра можна

будзе паціху ўставаць: марудна, павольна, вам дапаможа медсястра, маці прыйдзе.

— А сябры?

— Заўтра перавядзём вас з палаты інтэнсіўнай тэрапіі ў звычайную, тады хай прыходзяць. Вы — добры прыклад таго, як не трэба рабіць. Ім на карысць будзе.

Янка раззлавалася. За каго ён яе прымае? Не дзяўчынка ўжо! Яшчэ і здзекуецца, эскулап, вальяжна праводзячы сваімі тоўстымі пальцамі па адрослым звыш меры жываце зверху ўніз! Гэтакі мячык у белым халаце. Хацелася сказаць яму нешта ў адказ, такое ж здзеклівае, але раптоўна… слёзы так і хлынулі з вачэй. Янка павярнула твар убок, каб ён іх не бачыў, і бязгучна, роспачна, бяссільна заплакала. Але гэта не засталося незаўважаным. Доктар падышоў, быццам у глыбокім роздуме закрываючы шырокай даланёй палову твару, што цяпер ужо быў сур'ёзным і стомленым.

— Ну-ну-ну! Не варта тут балота разводзіць! Пад намі яшчэ чатыры паверхі, будзе сусветны патоп! — Ён злёгку пагладзіў яе па плячах цераз коўдру, выцер слёзы. — Даруй, дзетка, праўда, вельмі за цябе перахваляваліся. Папраўляйся, прыгажуня! — ён яшчэ раз пагладзіў яе па раскудлачаных валасах і хутка выйшаў.

Яна зноў кудысьці адплыла. Ёй стала ўжо ўсё адно: хай здзекуецца, колькі заўгодна, хіба гэта можа мець для яе хоць нейкае значэнне? Нічога, нічога ёй не хацелася. «Пі-і-пі-і-пі-і… спі-і-спі-і-спі-і…»

Але жыццё паволі вярталася ў яе маладое, моцнае цела. Назаўтра яе адлучылі ад прыбораў, паздымалі правадкі, яна ўрэшце змагла ўстаць, хоць і з падтрымкай, пераадольваючы востры боль у месцах пераломаў, і прайсціся па пакоі. Існаванне ўжо не падавалася такім нязносным, наадварот, душу яе ахінала бязмежная, ціхамірная радасць ад усведамлення таго, што ўсё абышлося адносна лёгка. Магло б быць па-іншаму. І гэта «па-іншаму» раз-пораз забірала яе думкі, недзе ў патаемным куточку душы ўяўлялася: вось яна ўжо нежывая, і што змянілася? Ну, бацькі не знаходзяць сабе месца, сяброўкі і знаёмыя ахаюць ад жаху, а… Петрык? Што з ім было б, цікава? Пэўна, смаліў бы свае цыгарэты адну за другой, ну, напіўся б раз ці два… А потым… Пазнаёміўся б з кім-небудзь іншым… Так, стоп! Нашто думаць пра чалавека ўсялякую лухту! Хіба яна не ўпэўнена ў ім? Ён — высакародны, годны, ён ніколі б так не зрабіў!.. Яна знарок рэзка ўзнялася на ложку, каб рыўком вызваліцца з дакучлівага палону, і нязносны боль перакрэсліў яшчэ больш нязносныя думкі… Нават у вачах пацямнела.

Янка адважылася пазваніць Петрыку не адразу. Новенькі мабільнік, што ёй прынесла маці, быў з пустой картай памяці. Уключыла яго толькі зараз, падышла ў роздуме да акна. Яго тэлефон Янка памятала, але вагалася: а можа, варта пачакаць, пакуль сам пазвоніць? І ўсё ж не вытрымала, унутрана настроілася, загадала сабе, каб голас быў вясёлы... Але перш, чым паспела націснуць кнопку выкліку, на экране з'явіліся знаёмыя (такія дарагія!) лічбы Петрыкавага нумара.

Янка толькі сказала, што знаходзіцца ў бальніцы, як Петрык паабяцаў прыехаць сама больш праз гадзіну. «Ну вось, пабачыць мяне такую… прыгажуню… жыццём пабітую, і кіне…» — зноў вярнуліся крамольныя думкі. І раптам у Янчынай галаве мільганула ідэя… Набрала нумар Віці, даўняга сябра, з якім неаднойчы трапляла ў рызыкоўныя прыгоды. Той заўсёды быў лёгкі на пад'ём, без роздуму згаджаўся на ўсе яе авантуры, выдумляў іх і сам. «Любіш ты выпрабоўваць лёс, Янка!» — часта казаў ён у такіх выпадках. «Ага, яшчэ пытанне, хто з нас — больш!» — адказвала яна.

* * *

Янка з нецярплівасцю пазірала ў акно сваёй палаты. Бачыла, як па паркавых алеях перад галоўным уваходам у будынак шпацыравалі пацыенты: хтосьці гуляў адзін, хтосьці — у кампаніі з наведвальнікамі. Іншыя сядзелі на лаўках, адпачывалі. Урэшце з'явілася знаёмая постаць. Петрык хуткімі крокамі набліжаўся да бальніцы. У адной руцэ ён трымаў вялізны букет чырвоных руж, у другой — нейкі пакунак. Як моцна затахкала яе сэрца! Яна прыхінулася да шыбы, нават не падумаўшы пра тое, што рызыкуе быць заўважанай, і тады яе план ляснецца. Але яна мусіла даць знак Віцю, які неадрыўна глядзеў на яе з засені дрэваў.

…Наперарэз Петрыку скіравалася постаць у белым халаце.

— Вы спадар Шпілеўскі?

Петрык настолькі быў заглыблены ў сябе, што не адразу зразумеў: звярнуліся да яго.

— Вы да пацыенткі Яны Рысь?

Петрык глядзеў на яго няўцямнымі вачыма, нічога не адказваючы.

— Я фельчар з траўматалогіі, толькі што ад яе. Ведаеце, такая справа… як тут лепш сказаць… — суразмоўца нервова церабіў падбароддзе доўгімі пальцамі, у нерашучасці пераступаючы з нагі на нагу.

— Як яна, што з ёй?

— Кепска з ёй! У яе — пералом пазваночніка са зрушэннем. Гэта — поўная нерухомасць на ўсё астатняе жыццё. У лепшым выпадку — інвалідны вазок. У горшым — толькі пасцель. Пролежні, немагчымасць самастойна нават у прыбіральню схадзіць… — раптам фельчар перайшоў на больш рашучы тон. — Хочаш парады? Бяжы! Знайдзі здаровую дзеўку, нашто табе бервяно?

Фельчар па-панібрацку паляпаў Петрыка па плячы:

— Не замаркочвайся! Гэтага дабра хапае! Не тая, дык іншая! Ты малады, здаровы мужык! Нашто табе з памперсамі звязвацца?! Усё адно абрыдне, рана ці позна.

Янка ўбачыла, як з рук Петрыка выпалі кветкі, пакунак. Потым нечакана, ледзь размахнуўшыся, ён заехаў Віцю ў сківіцу. Той апынуўся на газоне. Петрык павярнуўся да выхаду, і вось яго постаць паволі аддаляецца.

Янка не давала веры сваім вачам. Пачала ляпаць далонямі па шыбе, але яе працяў востры боль. Не ў змозе стрымацца, яна заплакала.

Увесь той дзень яна правяла ў ложку, побач ляжаў тэлефон. Слёзы не высыхалі. Ідыётка, яна ўласнымі рукамі разбурыла сваё шчасце. Давыпрабоўвалася… Праўда, яна не магла адказаць сабе, што ёй больш балюча: тое, што Петрык вырашыў расстацца з ёю праз яе «інваліднасць» ці тое, што яна так жорстка з ім абышлася. Яна магла б набраць яго, але… што скажа: маўляў, пажартавала, вяртайся, любы? А сам ён не званіў, тэлефон упарта маўчаў…

Янка глядзела, як заходзіць сонца. Чырвоныя рваныя аблокі, быццам кавалкі яе душы. Яна чула, як адчыніліся дзверы палаты, але нават не павярнула галавы. Усё ёй было абыякава. Да яе наблізіліся асцярожныя крокі, пяшчотная далонь Петрыка апусцілася на плячо. Сэрца здрыганулася і замалаціла так, што мусілі пачуць і на суседніх ложках, як падалося Яне, якая нічога нават вымавіць не здолела ад хвалявання.

Голас Петрыка дрыжаў:

— Ведаеш, калі ты ехала да мяне, у той вечар я хацеў табе нешта сказаць… Толькі не нервуйся. Мы разам усё пераадолеем. Мы ўсё будзем рабіць разам. Тваё жыццё — маё жыццё.

Ён узяў яе далонь, пяшчотна праводзячы па ёй сваімі цёплымі пальцамі. Нешта дастаў з кішэні, і — залаты пярсцёнак заблішчэў у святле вечаровага сонца. Ён прыйшоўся акурат па памеры, не больш і не менш, чым трэба.

— Ах!… — толькі і выгукнула Яна ў поўным захапленні, любуючыся, як пераліваецца ўсімі колерамі вясёлкі невялічкі каменьчык на яе пальцы. Не магла прымусіць сябе глянуць Петрыку ў вочы.

— Даруй мне, мілы, ведаеш, гэта быў не фельчар… Гэта быў мой сябра, які сказаў табе тое… Даруй мне, я проста хацела пераканацца, што… — прамармытаўшы ледзь жывым голасам, толькі зараз яна ўзняла на яго вочы і жахнулася.

Яго перасмыкнула, твар зрабіўся страшэнна бледным. Ён сутаргава глынуў паветра, узняўся і, хістаючыся, марудна выйшаў з палаты.

— Пастой! Не сыходзь! Даруй мне, дурніцы! — перасільваючы боль у грудзях, крычала Яна, але Петрык яе не чуў.

Сэрца заходзілася, аблівалася крывёй. Яне здалося: калі б з ёй насамрэч здарылася тое, пра што так артыстычна распавёў Петрыку Віця, яна не была б настолькі няшчаснай, як зараз — проста немагчыма апынуцца ў глыбейшай бездані адчаю. Толькі цяпер яна зразумела, наколькі дарагі ёй Петрык, як моцна яна яго кахае. Ці ўбачыць яна яго яшчэ хоць раз? А ён, мусіць, у той самы міг узненавідзеў яе ўсімі фібрамі сваёй душы.

Так у пакутлівым чаканні прайшоў тыдзень. Яну выпісалі, і калі яна больш-менш паправілася, зрасліся ўсе пераломы ды сышлі гузакі, пачала дзейнічаць. Тэлефон Петрыка маўчаў, таму яна выправілася да яго на кватэру. Там жылі ўжо іншыя людзі. Агульных знаёмых у іх не было, дакладнае месца працы яна не ведала. Нічога не заставалася, як гадзінамі снoўдацца па горадзе ў спадзяванні выпадкова з ім сустрэцца. Як толькі яна не звар'яцела! Слабая, прывідная надзея яшчэ жыла ў ёй: пярсцёнак застаўся ў яе, і калі Петрык вырашыў з ёй расстацца, то мусіў па яго вярнуцца, бо падобнымі падарункамі не раскідваюцца направа і налева. Але ён не вярнуўся.

Праз пару гадоў, канчаткова страціўшы ілюзіі наконт Петрыка, аднойчы ў парку Яна ўбачыла яго. Выпадкова. Ён ішоў уздоўж набярэжнай побач з жанчынай. Яе галава злёгку кранулася яго пляча, яны трымаліся за рукі сплеценымі пальцамі. За другую руку Петрыка трымаў хлопчык гадоў пяці. Яну быццам абдалі ледзяной вадой. Нейкім чужым, разважлівым чуццём дзяўчына зразумела: хлопчык не мог быць яго сынам. Столькі часу яшчэ не прайшло. Стаяла, як слуп, і пазірала ім услед невідушчымі вачыма. Тое лета было самым халодным у яе жыцці, халаднейшым за ўсе разам узятыя марозныя зімы.



Сяргей ДАВІДОВІЧ

# ЯКІМІ МЫ БЫЛІ З НАРОДЗІН?

## ЧУЖЫ БАЛЬ

Разгар вясны...
А сэрцу сумна.
Бэз закіпеў, а я панік.
Няўжо адзорыў вальнадумна
Надзей-хімер апошні міг?

Мой зорны час —
За прывід-даллю,
Не далячу туды — прабач.
Не ўдзельнік я чужога балю,
А незапрошаны глядач.

Тут шумна п’ецца,
смачна есца,
На балі гэтым — гамана.
Другім я саступаю месца,
Другім —
бо гэта іх вясна.

## НУ Й НОЧ!

Настала ноч —
і спаць пара,

---

***Давідовіч Сяргей Фёдаравіч*** *нарадзіўся 20 ліпеня 1942 года ў вёсцы Карпілаўка Лагойскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Вышэйшую школу Міністэрства ўнутраных спраў СССР (1982). Працаваў у сістэме МУС БССР, быў дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь XII склікання.*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Спасцігнуў тайну» (1991), «Люстэрка лёсу» (1992), «Нясу свой крыж» (1995), «Горкая кропля» (1997), «Зямлі святая памяць» (2010), «Званы часу» (2011) і інш., кніг прозы «Душы маёй бяссонніца» (1999), «Развод па-славянску» (2005) і інш.*

*Лаўрэат Нацыянальнай літаратурнай прэміі (2016).*

Ды летуценнікам не спіцца.
На неба край
лягла зара —
Вясёлкавая чараўніца.

Таполяў рад,
як на парад,
У цемры вырас цудам-зданню.
Змяшаўся з ноччу хор цыкад,
Ён услаўляе цемру-пані.

Ну й ноч!
Хоць выклікай на «біс» —
Любоціна, замілаванне.
Вунь зорачка
нырнула ўніз —
Эх, не паспеў
шапнуць жаданне!

## ШМАТЛІКАЕ АБЛІЧЧА

І лес прыціхлы
зразумець паспеў —
Ад восеньскай пары
нідзе не дзецца.
Злятае лісце
з задуменных дрэў —
І на душу
нябачны сум кладзецца.

То ззяе сонца,
потым — дождж ліне.
Свая, здаецца, восень —
і чужая.
Яна — то зачароўвае,
то — не,
Прываблівае восень
і пужае.

То — зрання сінь,
то вечарам туман,
То ў хату гоніць,
то — у вырай кліча.
Не, пані-восень —
не двухлікі Ян,
У восені шматлікае абліччя.

## ЧЫСЦІНЯ

Які абшар!
Які бялюткі снег!
Душа святкуе,
радуюцца вочы.
Мароз — дзівоснай казкі абярэг,
На месцы —
за парадкам пільна сочыць.

Хоць неба сінь,
а дробненькі сняжок
Аднекуль ледзь прыкметна залятае.
Лісіны след —
крыштальны ланцужок,
Узрушыў гэту бель,
па ёй пятляе.

Стаяць, зімой асветленыя дні,
І сумных думак рой,
знікае, гіне...
Як не хапае гэтай чысціні
У нашай узаемаблытаніне.

## НАШ ГАЛОЎНЫ БОЛЬ

Я скокну з поезда,
які ў тупік імчыць,
Сыду з дарогі,
што наўспят паверне.
Пасля таго прысяду адпачыць,
Як толькі ўзыдзе
жыццяпрацы зерне.

Мне давялося грызці — і не раз
За глотку зло —
й мяне яно за глотку.
Я азірнуўся у мінулы час —
Ці ўсё ўзышло,
што сеяў у ахвотку?

Адчулі вочы
слёз нязваных соль —
Не мала плехаў
мае жыццяніва.
Расчараванні —

наш галоўны боль,
Ў канцы жыцця
баліць ён асабліва.

Змагаўся з цемрай я,
адольваў страх,
Я нёс цяжар —
уласнае сумленне.
На пройдзены я азірнуўся шлях —
О як жа шмат
я не падняў камення.

Жыццё мне лёс такі наканавала —
Што б ні зрабіў і колькі —
будзе мала.

## ВЕЛІЧ

Да бярозы «сваёй» прытулю галаву,
Абдыму яе белую зграбнасць.
І здаецца, што я не дарэмна жыву,
Быццам сам уяўляю прывабнасць.

Росквіт год у яе, мне ж — няўхільна капец,
Бог разумны — ўсё важыць і дзеліць.
Я калісьці бярозку садзіў, як дубец,
Сёння ў неба ўпіраецца веліч.

А яна ж не адна — вунь іх колькі, «дубцоў».
Цэлы гай, мной пасаджаны колісь.
Я між гэтых, чысцютка-бялюткіх ствалоў
Адчуваю душы сваёй вольнасць.

Штось гамоніць ласкава мой «сад» гаваркі,
Мо на мове лістоты мне дзячыць.
Жыць і жыць ім далей з маёй лёгкай рукі —
І гады будуць чуць іх і бачыць.

## МЕНШАЕ ЗЛО

Безабаронная казуля,
Што тоіцца ў яе вачах?
Ёй вораг — іклы,
Вораг — куля,
Ёй вораг — неадступны страх.

Ёй дзень пражыць —
лічы удача,
Ёй выжыць ноч —
яшчэ адна.
Яна — то крадзецца, то скача,
То пільна слухае яна.

І раптам — воўк непадалёку,
Яна — ў лазняк, спыніла бег.
А паўз яе, з другога боку,
Ідзе павольна чалавек.

Было пакалькі часу мала,
І вельмі жудасна было,
Яна адчайна выбірала,
Якое меншае з двух зло?

Маланкай, па гаротным лёсе,
Яна імчала з лазняка
Туды, дзе меншым зло здалося —
Ад чалавека да ваўка.

## АДПЯВАННЕ

Ляжыць нябожчык у труне,
Яму нішто не дапаможа.
А поп над ім, прабачце мне,
Праз слова:
— Слава табе, Божа!

Яшчэ, калі памёр стары,
Як кажуць, іншая тут справа.
А хто ўмірае без пары —
Дзіця, юнак —
Навошта «слава»?

А адпяваюць немаўля —
І славяць Бога, Ойца, Духа.
І стыне сэрца, вяне вуха —
Святога тут — ніжэй нуля.

Упарты я, хоць трэсні ў лоб,
Я не хачу ў труне такога,
Каб нада мною нейкі поп,
За адыход мой славіў Бога.

## СУМУЮ...

Сумую па конях,
Сумую...
Збяднела жыццё без каня.
У сэрцы ўспаміны шаную,
Калі я быў з коньмі штодня.

Станоўчага ў лёсе —
не густа,
Век конскі кароткі,
прабач.
Прыеду у вёску —
і пуста,
Самотна і горка, хоць плач.

Мы жорстка
да жорсткасці крочым
ад чуласці, ад дабрыні.
Шчымліва вышукваюць вочы —
А раптам сярод гэтай ночы
Сустрэнецца хтось на кані.

## КОЛКАСЦЬ

Не рваў я ружы, не абломваў глог,
І не бадзяўся ў гушчары паўночна,
А сколаты ад галавы да ног
Употай некім, некім — відавочна.

Крутнуўся, павярнуўся і — укол,
Як кажуць, не паспеў міргнуць і вокам.
Але я й сам — далёка не анёл,
Магу кальнуць кагосьці незнарокам.

З гадамі абрастаем пакрысе
Нястрыманасцю, колкасцю паводзін.
Зрабіліся калючымі мы ўсе —
А ці ж былі мы гэткімі з народзін?



Анатоль РАЗАНОВІЧ

# ЧАКАННЕ ЖАНЧЫНЫ

*Апавяданне*

## I

— Ты хочаш пазнаёміцца з жанчынай? — спытаў у інваліда, які сядзеў у калясцы, дзябёлы, поўны мужчына гадоў сарака з нечым.

Інвалід быў худы, даўно няголены, бязногі. Пачуўшы гэта, ён нервова ўсміхнуўся.

— Цябе мае пытанне здзіўляе?

Мужчына, апрануты ў цёмна-сіні расшпілены плашч з узнятым каўняром, з-пад якога выглядаў новы, таксама цёмна-сіняга колеру касцюм, гледзячы на інваліда, сумеўся:

— Не, я проста аб гэтым не падумаў.

Яго буйны мясісты твар, заціснуты пад цяжкім падбародкам тугім вузлом паласатага гальштука, стаў незадаволены.

Інвалід спахмурнеў, ды так, што наліўся чырванню: рваны шрам, які пачынаўся каля левага вуха і цягнуўся да падбародка, напяўся. Здавалася, яшчэ імгненне, і ён сарвецца: пачне крычаць, патрабаваць да сябе ўвагі, але той маўчаў.

— Прабач, — мужчына апусціў галаву, — але я сапраўды не падумаў…

— Не падумаў? — інвалід глядзеў жорстка і прама. — Не, Рыгор, ты падумаў пра гэта. Толькі табе шкада грошай, хоць ты багаты, вельмі багаты. І ўсё ж ты прыходзіш да мяне. Да мяне — беднага. А чаму?.. Тлумачэнне простае. Таму што я твая адзіная нітачка, якая звязвае цябе з тваім мінулым, яшчэ адносна чыстым і шчырым, а значыць, і з тваім сумленнем. Парвецца гэтая нітачка — і ты загінеш, знікнеш, таму што цябе з'ядуць такія ж, як ты. А потым… Потым табе проста прыемна сюды прыходзіць, каб адчуваць сваю перавагу, каб яшчэ нехта цябе аб нечым папрасіў. Нават, калі гэта сябра… Былы сябра.

— Няпраўда.

— Праўда!

---

*__Разановіч Анатоль Іванавіч__ нарадзіўся 3 лютага 1958 года ў вёсцы Рубель Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ і Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Аўтар празаічных мастацкіх твораў і публіцыстычных матэрыялаў у беларускіх перыядычных выданнях.*

— Не трэба, Сяргей, я прашу, — ціха прагаварыў мужчына. — Я вінаваты. Ува мне сапраўды нешта змянілася, гэта так. Але павер, я не хачу гэтай змены. І ты мне тэлефануй, калі што. Я прыйду.

— Добра, — стомлена кіўнуў інвалід, — ідзі.

У апусцелай аднапакаёвай кватэры, абстаўленай старой абадранай мэбляй, інвалід застаўся адзін.

## II

Што рабіць, каля аднаго жыццё лашчыць, а другога прымушае прыніжацца і прасіць міласціну. І як так жыць — не кожны зразумее. А жыць трэба.

Інвалід, па пашпарце Сяргей Іванавіч Лагвіновіч — працоўнай кніжкі ў яго ніколі не было — з усяе сілы крутнуў колы сваёй каляскі і заехаў у маленькую куханьку. Там ён дастаў з паўпустога халадзільніка пачатую літровую бутэльку гарэлкі, адпіў пару глыткоў і ўтаропіўся ў акно без фіранак.

За акном віравала жыццё вялікага горада з каменным сэрцам: у адзін і другі бок праносіліся аўтамашыны, спяшаліся па сваіх справах мінакі, нешта абмяркоўвалі на лаўцы ў двары дома бабулькі.

Ва ўсіх было сваё жыццё, нейкая мэта, сэнс, жаданне жыць так далей, а таму ўсе яны ехалі, ішлі, нешта рабілі, аб нечым гаварылі…

Сяргею, у першыя гады як стаў інвалідам, вельмі хацелася далучыцца да гэтай бурлівай чалавечай мітусні, і калі б хто сказаў яму: «Ідзі да людзей, яны чакаюць цябе», — ён на сваёй інваліднай калясцы, здаецца, паскакаў бы ўніз па лесвічных прыступках, упаў бы ў чалавечы мурашнік і доўга ляжаў бы там, удыхаючы на поўныя грудзі гарадское паветра, у якім змяшаліся дым і гар, мужчынскі пот і таямнічыя жаночыя духі. Але яго ніхто не паклікаў і не пакліча. А ўсё таму, што ён — інвалід. А гэта азначае, што лішні сярод здаровых людзей, у якіх ёсць сіла і імкненне выбіцца наперад. Тыя людзі, з-за якіх ён быў абмежаваны, часта любілі гаварыць пра міласэрнасць, пра тое, што любяць чалавецтва. Але, на жаль, сярод гэтага чалавецтва ім не даводзілася мець справу хаця б з кімсьці адным, каго ўсе проста і дакладна называюць калекам.

## III

Ужо была ноч. Сяргей прачнуўся, і яго рука машынальна пацягнулася да бутэлькі — даймала смага, — але бутэлька была пустая.

— Дрэнь! — пачаў лаяцца Сяргей. — Дрэнь!

У бутэльку ён набраў з-пад крана халоднай вады, зрабіў некалькі глыткоў і паехаў на калясцы ў пакой. Там спыніўся каля акна, за якім у святле ліхтароў бесклапотна драмаў ягоны, Сяргееў, горад, і ў той жа час не ягоны. А ўсё таму, што за апошнія гады горад змяніўся, і не да лепшага — справа ад Сяргеевага акна, у магазіне, які пабудавалі нядаўна, ішоў начны бойкі гандаль; з чыгуначнага вакзала, што быў недалёка, чуўся гул цягнікоў; у двары суседняга дома завывала сігналізацыя раскошнага «мерседэса»; за сцяной у суседняй кватэры нешта бразнулася і адразу ж пачуўся жаночы голас:

— Ідзі адсюль!..

«Няма спакою, — раздражнёна падумаў Сяргей, — і не будзе».

Ноч раставала, нічога новага яна не прынесла. Усё гэта ўжо было шмат, вельмі шмат разоў.

«Як усё надакучыла…»

Сяргей з сумам глядзеў на горад праз шкло, вымытае дажджом, і свет за акном быў для яго амаль недасяжным.

У шматпавярхоўцы, што стаяла насупраць, святло было толькі ў адным акне. Гэтае святло было цьмяным, барвова-чырвоным. Яно не проста гарэла, а паступова разгаралася, потым цямнела і пры гэтым не мяняла свайго колеру. Святло быццам дражніла і клікала да сябе.

Сяргей доўга і ўважліва ўглядаўся ў тое акно. Пры гэтым твар яго нейкі час не мяняўся. Спачатку нерухомы, быццам прыціснуты, ён раптам ажывіўся, стаў напружаным: на лбе прыкметна акрэсліліся маршчыны, вочы расшырыліся, у іх з’явіўся бляск, які нечым нагадваў той, што бывае ў салдат, якія выконваюць сваё баявое заданне, або ў заўзятых паляўнічых у час гону на ваўкоў, лісіц, іншых драпежнікаў…

Не адводзячы вачэй ад акна, Сяргей пад’ехаў да тумбачкі, дастаў адтуль вялікі вайсковы бінокль, навёў яго на святло ў доме насупраць. Крыніца гэтага святла, начная шкляная лямпа, напоўненая густой вадкасцю, стаяла на падстаўцы каля вялікага шырокага ложка. На ложку, ледзь прыкрыўшыся тонкай коўдрай, спала маладая пара — ён і яна.

Праз лінзы бінокля Сяргей «перабраў» светлыя густыя валасы маладой жанчыны, пяшчотна пагладзіў іх, пасля чаго дыханне яго стала частым.

— Але...— вены на Сяргеевай шыі напяліся, на твары выступіў пот. — Вось яно, жыццё…

Сяргей рэзка апусціў бінокль на ногі, адрэзаныя да калень, скрыгатнуў зубамі: «Не магу…»

Ён скінуў бінокль на падлогу, моцна крутнуў правае кола каляскі і хутка паехаў да ўваходных дзвярэй.

На паветра.

## IV

На лесвічнай пляцоўцы было халаднавата і вільготна, сюды праз расчыненыя дзверы далятаў вецер.

З цяжкасцю прыкурыўшы цыгарэту, Сяргей з палёгкай выдыхнуў першую зацяжку і, адкінуўшы галаву назад, заплюшчыў вочы: захацелася забыць карціну чужога замілавання, якую толькі што бачыў украдне. Але нядоўгай была цемра, што засціла вочы. Здаецца, яна толькі насунулася на іх, і адразу ж пачала святлець, чырванець. А праз хвіліну ператварылася ў тое барвова-чырвонае святло той самай лямпы насупраць акна яго кватэры, за якім двое былі паяднаны нябачнай, салодкай і такой прывабнай для Сяргея тайнай. Тое, што ён бачыў сарамліва — салодка прыгнятала, шчымліва раздражняла: побач з гэтай прыгожай жанчынай быў не ён, Сяргей…

Думаючы пра гэта, ён нават забыўся пра цыгарэту. Магчыма, успамінаючы падгледжаную чалавечую пяшчоту, пакутуючы ад убачанага, Сяргей тут, на лесвічнай пляцоўцы і заснуў бы, што было б для яго не так і дрэнна. Але нечакана звон разбітага шкла і гучны рэзкі жаночы голас: «Дурань!», які пачуўся недзе на пятым, або шостым паверсе, ускалыхнуў ягоную свядомасць. Сяргей расплюшчыў вочы і прыслухаўся.

Зверху да яго па лесвіцы шумна, мяркуючы па хуткіх кроках, спускаліся маладыя людзі. Ён, безумоўна, быў абуты ў красоўкі, якія апускаліся на бетонныя прыступкі рэзка і шаршава, а яна — у чаравічках, абцасікі якіх стукалі

лёгка і мякка. Калі хлопец з дзяўчынай параўняліся з Сяргеем, ён адразу ж прыціснуўся каляскай да сцяны.

«Так і ёсць…»

Хлопец і дзяўчына, убачыўшы інваліда, ды яшчэ аднаго, ноччу, спачатку сумеліся, потым здзіўлена паглядзелі адно на аднаго і, абыходзячы яго каляску, на імгненне прыпыніліся, не ведаючы, што рабіць.

«На падпітку», — адразу ж вызначыў Сяргей, паглядаючы на высокага, няголенага хлопца ў акулярах, на якія спадалі светла-рудыя тлустыя валасы. Затым ён перавёў погляд на дзяўчыну, стройную, сярэдняга росту, з густа нафарбаванымі векамі, з кароткай, жорсткай прычоскай колеру пераспелай слівы.

Хлопец і дзяўчына былі апрануты ў пацёртыя джынсы, у такія ж курткі з закасанымі ледзь не па локці рукавамі.

— Добрай ночы, — заікаючыся, павітаўся хлопец.

— Прывітанне, — ледзь чутна прамовіла дзяўчына і вінавата ўсміхнулася.

Сяргей, не адказваючы на прывітанне, пахмурна паглядзеўшы на іх, пацікавіўся:

— Ёсць праблемы?

— А ты што, дапа-аможаш? — з выклікам спытаў хлопец.

— Супакойся, — бліснула на яго вачыма дзяўчына.

Сяргею гэта не спадабалася. Ягоны твар пабляднеў, на ім рэзка праявіўся рваны шрам, але Сяргей усё ж стрымаў сябе, адказаў:

— Чым магу — дапамагу.

— На бу-утэльку дасі? — выдыхнуў хлопец.

Ён злёгку пахістваўся, але не міргаючы глядзеў на інваліда. Твар хлопца, парослы рэдкай шчэццю, пакрыўся чырвонымі плямамі.

— Дам, — Сяргей адчуў, як смаліць у перасохлай глотцы. — Дам, але з адной умовай: ты, хлопча, бяжыш у начны магазін, а мы з дзяўчынай пойдзем да мяне. У мяне, калі прыйдзеш, і вып'ем.

Хлопец, паглядзеўшы на дзяўчыну, пацiснуў плячамі.

— Добра.

Інвалід выцягнуў з нагруднай кішэні сарочкі дзесяцідоларавую купюру і падаў яе хлопцу.

— Ідзі, — сказаў, і звярнуўся да дзяўчыны. — А ты — пайшлі са мной.

## V

У Сяргеевай кватэры дзяўчына адчувала сябе крыху няёмка. Ды і ён — таксама. І, каб хоць як пазбавіцца няёмкасці, Сяргей прапанаваў:

— А давайце перад святам душ пазнаёмімся. Я — Сяргей.

— А я — Насця, — назвала сваё імя дзяўчына і спытала: — У вашай кватэры курыць можна?

Сяргею не падабалася, калі жанчыны, тым больш дзяўчаты, кураць. Але гэта была не яго дзяўчына, і ўказваць ёй ён не мог, а таму кіўнуў:

— Курыце.

— Дзякуй.

— Не стойце, сядайце. — Сяргей паказаў на крэсла, што стаяла каля акна. — Цяпер я буду глядзець не ў акно, а на вас.

— Вы любіце глядзець у акно? — пацікавілася дзяўчына.

— Люблю, — прызнаўся Сяргей. — І часта гляджу, назіраю.

— За чым назіраеце?

Госця выпусціла клуб густога дыму і, як здалося Сяргею, паглядзела на яго насмешліва: яна адчувала, што гаспадар гэтай беднай, амаль жабрацкай кватэры нешта ўтойвае, кажа загадкамі, і не магла зразумець сэнсу гэтага.

— А навошта гэта вам? — спытала яна.

— Навошта? — Сяргей пачаў злаваць: у апошні час яго нервы ўсё часцей сціскаліся, як быццам скарачаліся, гатовыя разарвацца. Нават, здавалася, без усялякіх прычын. Колькі хвілін Сяргей сядзеў моўчкі, раздумваючы, што адказаць, і раптам рэзка — унутры нешта абарвалася — падаўся наперад, з болем выдыхнуў: — Таму, што я хачу ўбачыць ваша чалавечае жыццё, ад якога я адвык і якога ў мяне даўно няма… Няма!.. Я хачу ўдзельнічаць у гэтым жыцці, а не назіраць за ім. Я калека, але таксама хачу жыць. Разумееш?..

Дзяўчына, перастаўшы курыць, маўчала. Яна не ведала, што адказаць, як паводзіць сябе далей.

Стомлена апусціўшы галаву, Сяргей таксама маўчаў. Потым схапіўся за горла, пачаў расціраць яго, пакідаючы на скуры чырвоныя, быццам рваныя плямы.

Госця не чакала такой хуткай змены ў настроі гаспадара кватэры, спалохана падхапілася.

— Я пайду.

Сяргей паволі ўзняў галаву, паглядзеў на дзяўчыну. У яго вачах было столькі болю, што, здавалася, не стрымаецца, зноў закрычыць. Але ён толькі і мовіў:

— Прабачце, нервы.

Дзяўчына, быццам яе засталі за нечым кепскім, апусцілася ў крэсла. У кватэры стала ціха, і гэтая цішыня доўжылася.

— Я ўсё ж пайду.

Яна зноў паднялася.

Сяргей нічога не сказаў. На яго чырвоных ад напругі шчоках хутка засоўгаліся жаўлакі. Дзяўчына, пазіраючы на яго са шкадаваннем, з хвіліну моўчкі пастаяла, затым хутка выйшла з кватэры. Ён жа невідушчымі вачыма ўтаропіўся ў акно кватэры шматпавярховага дома насупраць. Акно было цёмным і панурым. Барвова-чырвонае святло, якое гарэла ў ім яшчэ гадзіну таму, пагасла. Дом быццам вымер, растварыўся ў начной цемры, злавесна кружачыся знікаючымі астаткамі над горадам, і нават над усім светам.

«Шкада, што мая кватэра не на высокім паверсе, — падумаў Сяргей, — можна было б адчыніць акно і — хай бы ўсё знікла бясследна…»

З цяжкім пачуццём ён пад’ехаў да акна, адчыніў яго, паглядзеў уніз. Там, метры за два ад падаконніка — Сяргей жыў на першым паверсе — чарнела зямля, над якой слаба і ледзь прыкметна пакалыхвалася мроіва тумана. «Дыхае», — зазначыў Сяргей і яму стала неяк лягчэй: у начной цемры таксама адчувалася жыццё. Ледзь улоўнае, але жыццё…

## VI

На досвітку, не распранаючыся, Сяргей абяссілена паваліўся на ложак і заснуў. Спаў ён моцна ажно да абеда. Калі прачнуўся, спякотнае летняе сонца ўжо стаяла высока. У кватэры было суха і душна.

Сяргей аблізаў патрэсканыя вусны і няўклюдна адштурхнуўшыся ад матраца, падняўся. Крыху пасядзеў, нахіліўся ўперад-узад, управа-ўлева — як лічыў, размяў пазваночнік.

Зрабіўшы на ложку зарадку, з цяжкасцю перапоўз у каляску, пад’ехаў да акна, адкрыў яго. У твар ударыла гарачае паветра.

«Нагрэлася, аднак», — падумаў Сяргей, успомніўшы, што так заўсёды казаў бацька, калі раніцой на дачы праз акно ў домік урывалася цяпло. Некалі ў дзяцінстве ён любіў ездзіць з бацькамі на дачу — маленькі ўчастак у шэсць сотак з домікам у садова-агародным таварыстве з сімвалічнай назвай «Надзея». Раніцай менавіта ён, Сяргей, адкрываў акно іхняга дачнага доміка і з захапленнем любаваўся разнастайнасцю навакольнага свету. Гэты свет убіраў у сябе шырокую, ясную, але простую карціну вясковага, і ў той жа час напаўгарадскога, любага і блізкага чалавечай прыродзе быту. Зелянелі градкі, на якіх былі пасаджаны бульба і памідоры, пасеяны агуркі і сланечнікі, што суседнічалі з акуратна складзенымі альховымі і бярозавымі дровамі каля сцяны маленькага хлеўчука. Крыху далей стаяла высокая вішня, на якую рэгулярна залазіла кацяня і сядзела там, жаласліва мяўкаючы, пакуль Сяргей не здымаў яго. Тады кацяня лашчылася, а ён пяшчотна гладзіў мяккую поўсць… А галоўнае — у суседніх дачных доміках адпачывалі добрыя і ўважлівыя суседзі, з якімі было прыемна і весела гаварыць пра ўсё, што цікавіла.

Акно зачынялася толькі позна вечарам, калі ў дом ужо ўлівалася прахалода, а з ёю залятаў камары. Праз гэтае акно маленькі Сяргей спазнаваў навакольнае жыццё, шчыра і даверліва ўспрымаючы ягоную нязлобную і даступную мудрасць.

Ці мог тады падумаць, што ўсяго праз дзесяць з нечым гадоў акно ўвогуле стане для яго, так бы мовіць, адзіным правадніком у свет людзей?.. У той свет, які асабіста для яго будзе абмяжоўвацца невялікім, напалову заасфальтаваным дваром, на якім будуць стаяць чужыя аўтамабілі і па якім з раніцы да вечара будзе праходзіць мноства амаль незнаёмых, або зусім незнаёмых яму людзей… За гэтым дваром насупраць ягонага акна будзе ўзвышацца шматпавярхоўка, з-за якой будзе толькі адна радасць — раніцаю ўзыходзіць сонца…

Успамінаючы мінулае, Сяргей глянуў на сваё сапраўднае — куксы замест ног — і зноў яму стала горка, балюча і адзінока, ды так, што захацелася закрычаць на ўсю моц: «Дапамажыце мне, людзі!» Але ён не закрычаў. Ён, Сяргей, сядзеў у сваёй інваліднай калясцы і глядзеў у акно, за якім праплывалі і знікалі малюнкі яго дзяцінства, а на іх месца лезла ў вочы сапраўдная і жорсткая рэчаіснасць, у якой для яго амаль не было месца суцяшэнню і спагадзе.

## VII

— Ты-ы чаму ся-адзіш?.. Чаму?..

Голас Сяргею здаўся знаёмым. Ён прыгледзеўся. Так і ёсць — начны знаёмы. Той стаяў перад акном і, пабліскваючы на сонцы круглымі прафесарскімі акулярамі, з насмешкай глядзеў на Сяргея.

— А ты чаму ноччу не прынёс бутэльку? — хмура спытаў Сяргей.

— Дык На-асцю па дарозе сустрэў, з ёй і выпілі, — шчыра прызнаўся хлопец. — Я зараз, па-ачакай, прынясу.

Хутка павярнуўшыся, ён накіраваўся да магазіна.

— А як цябе завуць? — услед яму крыкнуў Сяргей. — Зноў знікнеш, шукай тады цябе.

— Дзі-іма, — павярнуўшыся, адказаў хлопец і дадаў: — Сту-удэнт я, студэнт…

Праз паўгадзіны яны сядзелі ў Сяргеевай кватэры і пілі гарэлку — што было рабіць беспрацоўнаму інваліду і студэнту, які праспаў заняткі… На стале ляжала вараная каўбаса, нарэзаная тоўстымі кавалкамі, хлеб, стаяў слоік салянкі.

— Дзе но-огі стра-аціў?

Хлопец кіўнуў на кароткія кульці гаспадара кватэры.

Сяргей, з-пад ілба глянуўшы на госця, выпіў, крыху закусіў, памаўчаў, пасля чаго хмурна заўважыў:

— Табе лепш гэтага не ведаць.

— Не хочаш — не ка-ажы. — Хлопец пацiснуў плячамі і пацягнуўся да бутэлькі. — Мне чужыя тайны не патрэбны.

— Можа, табе хопіць? — Сяргею не хацелася напівацца самому, а таксама ён не хацеў, каб у яго кватэры нехта напіўся. — Малады яшчэ гарэлку піць.

— Ты ча-аго? — Хлопец пакрыўдзіўся. — Я не сла-абак. Гэта з выгляду кволы. А та-ак — ого…

— Ну, давай — ого, — Сяргей іранічна ўсміхнуўся. — Я пагляджу.

Выпіўшы чарговую шклянку, хлопец моцна ап'янеў і з цяжкасцю варочаў языком.

— Сяброўка твая дзе? — пацікавіўся Сяргей.

Яму захацелася ўбачыць дзяўчыну, яшчэ раз папрасіць прабачэння за тое, што сарваўся ноччу, сказаў грубыя словы. Сяргей хацеў проста пагаварыць, так бы мовіць, «за жыццё», расказаць пра тое, што думаў і што жадаў. Толькі без выпіўкі, цвяроза.

— Спа-адабалася? — ледзь вымавіў хлопец.

— Не ведаю яшчэ, — Сяргей выціснуў усмешку: усе пытанні, якія тычыліся жанчын, для яго, інваліда, былі пакутлівымі. — Але гэта цябе не павінна хваляваць.

— Зра-азумела.

Хлопец нагнуўся і зваліўся б з крэсла, каб не сцяна, на якую абапёрся плячом. Заплюшчыўшы вочы, ён пачаў засынаць.

— Ты чаго?

Сяргей пад'ехаў да госця. Хлопец прачнуўся, ненатуральна выпрастаўся і, амаль застыўшы ў гэтай позе, прагаварыў:

— Ты-ы-ы за-аплаці ёй і яна пры-ыйдзе.

Непрыемная здагадка кальнула Сяргея. Наліўшы сабе, ён выпіў, прыкусіў каўбасой.

— Яна… Гэтая самая? — спытаў Сяргей, баючыся пачуць сцвярджальны адказ.

— Не-а, — закруціў галавой хлопец. — Дзетдо-омаўская яна. Ня-аней у бальніцы працуе. Гро-ошай няма, па-адпрацо-оўвае, да-агляда-ае такіх, як ты. За-а та-абой та-аксама можа па-анаглядаць.

— Зразумела. — Сяргей з палёгкай уздыхнуў. Яму стала шкада дзяўчыну, але яшчэ больш шкада сябе. — Ты не мучайся, — сказаў ён хлопцу. — Табе гарэлка не ідзе. Давай, кладзіся на канапу, спі.

Хлопец, хістаючыся, паслухмяна лёг на Сяргееў ложак і адразу ж заснуў.

Сяргей пад'ехаў да акна, рэзка і шырока адштурхнуў фіранкі: па шкле стукалі рэдкія буйныя кроплі дажджу. Яны, размываючы пыл, пакідаючы брудныя сляды, паволі сцякалі ўніз. Здавалася, што нехта нябачны заглядвае ў кватэру і ціха плача.

## VIII

Вечарам Сяргей задрамаў. У нейкае імгненне ён адчуў, што нехта гладзіць яго па галаве. «Мама…» Ён усміхнуўся. Яна, гладзячы, паднімала яго з ложка. Радасны, Сяргей расплюшчыў вочы. Але побач нікога не было. Толькі над непрыбраным сталом нізка лятаў камар, а на ложку, уткнуўшыся тварам у змятую падушку, пасопваў хлопец.

Да горла Сяргею падкаціўся агідны застарэлы ком. Страпянулася і глуха, часта застукала сэрца. Дыхаць стала цяжка. Сяргей узняў галаву, моцна правёў па горле пальцамі і хутка пад'ехаў да стала. Выліў у шклянку гарэлку, што заставалася ў бутэльцы, выпіў залпам. Праз нейкі час адчуў палёгку, сэрца адпусціла. Але ў горле па-ранейшаму было цяжка. Шрам наліўся, стаў цвярдзець. Сяргей да болю сціснуў шрам пальцамі, адцягнуў яго з такой сілай, што, здавалася, яшчэ крыху — адарве ад скуры, выкіне ў акно. Але, адчуўшы невыносны і пякучы боль, расціснуў пальцы. «Праклён…»

Яму захацелася застацца аднаму, каб ніхто яго не бачыў і каб ніхто не сачыў за ім. Нават мімаходзь: Сяргей баяўся паказаць сваю слабасць.

Ён разбудзіў хлопца, які яшчэ не ацверазеў і не зусім разумеў, што адбываецца, і, нічога не тлумачачы, груба правёў яго да дзвярэй.

— Ідзі дадому, ідзі.

Застаўшыся адзін, Сяргей доўга і бязмэтна глядзеў у акно. Над шматпавярховымі бетонна-каменнымі аграмаднымі дамамі гарэў барвова-чырвоны захад. Жыццё ў горадзе замірала. Цень ад чорных крылаў ночы, што ўжо насоўваліся на вуліцы, выбіраў месца ў дварах і ляпіўся да спараных дамоўблізнят.

«Зноў», — з болем падумаў Сяргей.

Зноў наступіла бяссонная ноч, падобная на папярэднія. Нічога добрага яна не абяцала.

«Хоць бы з кім пагаварыць», — ні фізічна, ні маральна Сяргей не мог больш заставацца адзін.

Ён сумна правёў вачыма па сваім непрыбраным халасцяцкім жытле. Убачыўшы тэлефон, вырашыў: «Пазваню».

Калі станавілася вельмі цяжка ў адзіноце, Сяргей набіраў нумар «Службы даверу» і шукаў палёгкі ў шчырай размове, якая ні да чаго не абавязвала ні яго, ні таго, з кім гаварыў аб сваёй нялёгкай долі. І цяпер, набраўшы знаёмы нумар, крыху сумеўшыся, але смела — за ім жа ніхто не падглядвае — павітаўся.

— Добры дзень, — адразу ж пачуў прыемны жаночы голас. — Што ў вас?

— Душа баліць.

Сяргей невесела ўсміхнуўся.

— Не толькі ў вас аднаго, — супакоіла яго жанчына. — Расслабцеся, пачытайце што-небудзь, або паглядзіце тэлевізар.

— Разбіў я тэлевізар, — раздражнёна кінуў Сяргей.

— Тады схадзіце да суседа, або паклічце яго да сябе, — параіла жанчына.

— Зразумела…

Сяргей паклаў трубку: больш гаварыць не было пра што. Ды і які сэнс? Усё, што сказала б гэтая, напэўна, добрая і мілая жанчына са «Службы даверу», ён ведаў. І гаварыў з ёй таму, што для любога чалавека, а тым больш, калі ён калека, размова вельмі патрэбна. Але ў гэты момант Сяргею хацелася

большага — жывой, а не тэлефоннай гаворкі, шчырых адносін, разумення, і хоць маленькага, але суцяшэння.

Сяргей згараў ад жадання хоць каму расказаць пра сваю адзіноту і нікому, як яму здавалася, ужо непатрэбнае ягонае жыццё. Хацелася, каб хоць хто ўбачыў у ім жывога чалавека, супакоіў і сагрэў скалечаную душу.

Некалькі разоў нервова праехаўшы ўзад-уперад па пакоі, Сяргей спыніўся каля акна і стаў глядзець у двор. За акном было ўжо зусім цёмна. Хутаючыся ў празрыстае мроіва, гарэлі ліхтары. У шматпавярхоўцы, што ўзвышалася насупраць, свяціліся амаль усе вокны. І сярод іх выдзялялася знаёмае акно.

«Што там?..»

Сяргей узяў бінокль, навёў яго на гэтае акно, якое так прываблівала. «Цікава…»

На ложку сядзела маладая жанчына і чытала кнігу. Яе густыя валасы рассыпаліся па халаце, адна пала якога ссунулася на падлогу, агаліла круглую, доўгую, белую нагу.

Сяргей апусціў бінокль, міжволі глянуў на свае куксы і ледзь не заплакаў: ён — інвалід і ніколі не выйдзе са сваёй кватэры, не дагоніць на вуліцы гэтую жанчыну і не пазнаёміцца з ёй.

Ад таго, што жыццё такое несправядлівае, ад усведамлення свайго калецтва ў душы ўсё дрыжала. Каб хоць як супакоіцца, Сяргей узяў газету, якую ўчора пакінуў хлопец, пачаў спешна гартаць. На перадапошняй рэкламнай старонцы знайшоў рубрыку: «Пасланні для мужчын». Прачытаў: «Сімпатычная, прыгожая целам і душой жанчына, прыемная ў зносінах з мужчынамі, пазнаёміцца з мужчынам, не маладзейшым за сорак гадоў».

Адчуваючы, як у галаве стала горача, а па ўсім целе, па яго адрэзаных нагах пайшло цяпло, Сяргей узяў тэлефонную трубку і набраў нумар, надрукаваны пад гэтай абвесткай.

— Слухаю.

Голас быў ветлівы і прыемны.

— Вы можаце да мяне прыехаць? — не спытаў, а хутчэй папрасіў Сяргей, з цяжкасцю стрымліваючы дрыжыкі.

— Вядома, — шматабяцаюча прагаварыла жанчына. — Дваццаць пяць долараў за гадзіну.

Для яго, інваліда, які атрымліваў маленькую пенсію, гэта было вельмі шмат, але ён згадзіўся: яго невыносна стомленае і спакутаванае цела патрабавала суцехі.

— Прыязджайце, толькі, ведаеце… — Сяргей на хвіліну запнуўся, — я інвалід.

На другім канцы дрота стала ціха. Паўза працягвалася з паўхвіліны, потым жанчына пацікавілася:

— А што за інваліднасць?

— Няма ног, — коратка і груба адказаў Сяргей.

— Тады… А ўвогуле, я ўжо сказала колькі за гадзіну…

Ветлівы мяккі голас у трубцы не змяніўся: жанчына згадзілася прыехаць.

— Прыязджайце, — амаль умольна выдыхнуў Сяргей і назваў свой адрас. — Толькі, калі можна, праз гадзіну.

Паклаўшы трубку, ён выцер успацелы лоб, дастаў з кішэні сарочкі грошы, якія пакінуў яму Рыгор, пералічыў: дзевяноста долараў — усё, што ў яго было.

## IX

Сяргей ужо суткі ці двое не мыўся. Таму сарочку насіў брудную, памятую. Трэба было тэрмінова памыцца, прыбрацца ў кватэры.

Хвілін праз сорак, памыўшыся, пагаліўшыся, пераапрануўшыся, Сяргей сядзеў за сталом, накрытым чыстым абрусам, і чакаў «сімпатычную, прыгожую целам і душой» жанчыну.

Час ішоў марудна. Чамусьці ў думках Сяргея з’явілася параўнанне, быццам і недарэчнае, а ўсё ж: час цячэ, што замёрзлая салярка з ягонага старэнькага армейскага бронетранспарцёра, якую яны, салдаты тэрміновай службы, мянялі ў жыхароў афганскіх высакагорных аулаў, дзе не было заправак, на віно ці іншыя алкагольныя напоі…

Сяргей глянуў у акно. Яно было непрыветным. У шыбу па-ранейшаму барабаніў дождж, які ў апошні тыдзень часта пачынаўся нечакана, калі неба ледзь цямнела, таксама хутка праходзіў, каб праз нейкі час зноў адарыць горад прахалодай і свежасцю…

«Хутка, успомніце мае словы, канец свету», — Сяргей прыгадаў суседку бабку Надзю, сухую, згорбленую жанчыну, якая часам выходзіла ў двор і, ледзь клыпаючы каля ягонай кватэры, расказвала такім жа, як і сама, старым жанчынам аб сваім нялёгкім жыцці.

Успамінаў і ўсміхаўся: да яго вярнуўся добры настрой, як гэты дождж вярнуўся ў горад. Але ці надоўга застанецца такі настрой, Сяргей не ведаў.

У дзверы нясмела пастукалі. Ён ад’ехаў ад стала, напружыўся.

— Заходзьце.

На парозе з’явілася высокая стройная жанчына з шыкоўнай чорнай сумачкай і вялікім папяровым пакетам у руках.

— Добры дзень. — Яна міла ўсміхнулася і адразу ж выправіла сваё прывітанне: — Дакладней, добрай ночы.

Сяргей сумеўся: перад ім стаяла тая самая жанчына, за якой ён назіраў у бінокль.

— Вы? — разгублена сказаў ён, не ведаючы, радавацца ці абурацца: жанчына, якой ён так захапляўся, была…

Яму не хацелася нават у думках прамаўляць гэтае слова, якім называюць жанчын, што прадаюць сваё цела.

Яна, не разумеючы, што здарылася, перастала ўсміхацца і з ноткамі холаду ў голасе спытала:

— Гэта вы тэлефанавалі па аб’яве?

Сяргей пачырванеў: яму стала няёмка і сорамна за тое, што кепска падумаў пра гэтую жанчыну.

«Якое я маю права асуджаць? Я ж бачу яе першы раз так блізка…»

— Так, так, праходзьце, распранайцеся, — замітусіўся Сяргей.

Ён пад’ехаў да жанчыны, спыніўся за крок ад яе, адчуў нейкі салодкі пах. Галава крыху закружылася, кепскія думкі тут жа выветрыліся.

Узяўшы ў госці пакет, ён паставіў яго на канапу і, сочачы, як яна, не спяшаючыся, артыстычна здымае белы плашч, прапанаваў:

— Павесьце ў шафу.

— Добра. — Жанчына зноў міла ўсміхнулася. — А разуцца можна?

Сяргей толькі зараз заўважыў, што яго госця стаіць у мокрых вастраносых чаравічках на тонкіх высокіх абцасах. Яшчэ ён убачыў, што ў яе вельмі прыгожыя і стройныя ногі, якія выходзяць з кароткай скуранай чорнай спадніцы. Увогуле, жанчына была надзвычай прыгожай.

— Ну, будзем знаёміцца, — яна зрабіла крок да Сяргея. — Ірына.

— Сяргей. — Ён мітусліва і сарамліва падаў ёй руку і, затрымаўшы яе далонь у сваёй далоні, дадаў: — Да мяне рэдка хто заходзіць.

— Да мяне — таксама, — нявесела сказала Ірына.

— Не верыцца, — нібы сам сабе ціха прамовіў Сяргей.

— Гэта праўда, — уздыхнула яна. — Але так было не заўсёды.

— Значыць, ваша жыццё было іншым, — з палёгкай прагаварыў Сяргей, бо назіраючы праз бінокль за кватэрай сваёй госці, бачыў шмат з таго, што там адбывалася.

— Так, іншым.

— А калі?

— Мне абавязкова расказваць?

— Не, канешне ж… Але, даруйце, мне хочацца ведаць.

— Добра… Мае жыццё было іншым, калі я працавала ў Італіі, — прызналася жанчына. — Там я ўдзельнічала ў паказах моднай вопраткі адной папулярнай фірмы.

— Дык вы мадэль?

Сяргей надзвычай востра, можа, як рэдка калі, адчуў, як гняце яго тое, што ён фізічна непаўнавартасны. Ён сціснуўся, быццам чакаў, што зараз яго нехта плясне па твары.

— Былая, — сумна мовіла жанчына. — Не будзем успамінаць старое. Тым больш, што там засталося нямнога таго добрага і карыснага. Вы здзівіцеся, але менавіта ў Італіі мае працадаўцы навучылі мяне бачыць і цаніць прыгажосць. А яна не толькі ў яркіх фарбах, але і ў чорных, цёмна-сініх, шэрых… Галоўнае, каб усё было ў меру, гарманічна. Разумееце?

— Так.

— Павячэраем? — прапанавала госця.

Сяргей успомніў, што ў яго ў халадзільніку акрамя сырога мяса і некалькіх яек нічога няма. Жанчына заўважыла, што ён разгубіўся і, зычліва ўсміхнуўшыся, сказала:

— Я ўсё прынесла.

Яна дастала сыр, парэзаную на тонкія кавалкі, загорнутую ў цэлафан вяндліну, масла, белы хлеб, два лімоны і бутэльку брэндзі.

— Кілішкі, нож ёсць?

— Так, — Сяргей спешна кіўнуў, — на кухні.

Чаго-чаго, а што госця заявіцца да яго з вячэрай, ён не чакаў. Як, між іншым, не думаў, што яна наогул прыйдзе да яго, інваліда.

Калі жанчына, акуратна парэзаўшы хлеб і сыр, зрабіла бутэрброды, Сяргей спытаў:

— Вы адна жывяце?

Вядома, ён разумеў, што ў жанчыны па выкліку не можа быць мужа, але…

— Вам гэта цікава?

Сяргей не ведаў, што адказаць. Ён не хацеў лезці ёй у душу, але разам з тым яму хацелася ведаць пра гэтую жанчыну як мага больш. І яна, не дачакаўшыся яго адказу, расказала многае са сваёй біяграфіі.

— У мяне некалі быў муж. Італьянец. Па прафесіі — мадэльер. Ён загінуў у аўтамабільнай катастрофе. Цяпер я жыву адна. Але не заўсёды. Вы таксама не зусім адзінокі. Праўда?

Сяргей прамаўчаў: усё так. Але толькі з адной папраўкай: блізкіх адносін з жанчынамі ў яго не было ніколі па адной балючай прычыне — яго інваліднасці.

Сяргей уздыхнуў, узяў бутэльку, адкаркаваў, асцярожна наліў у кілішкі брэндзі і прапанаваў:

— Давайце, Іра, вып’ем за нашу сустрэчу.

Ён глядзеў у яе глыбокія, як яму здавалася, вочы, жадаючы ў гэту хвіліну толькі аднаго: спадабацца ёй. Хоць крышачку…

— Давайце, — жанчына падняла кілішак. — А мы з вамі ў нечым падобныя. Так?

— Напэўна…

Выпілі, крыху памаўчалі.

— Можа, яшчэ? — прапанаваў Сяргей.

— Можна і без гэтага, — задуменна прамовіла жанчына.

Яна ўстала, абышла каляску, у якой сядзеў Сяргей, раптам абняла яго ззаду, прыціснулася шчакой да яго шчакі, затым пацалавала ў шыю, у грудзі...

Ён напружыўся, куксы яго тарганукліся, шрам уздуўся і пабялеў.

— У нас, напэўна, мала часу, — прашаптала жанчына.

Сяргей, сціснуў зубы, закрыў вочы. На нейкае імгненне яму здалося, што падлога ў кватэры стала паднімацца адным канцом, і ён, разганяючыся ў сваёй інваліднай калясцы, панёсся ўніз, у бясконцую бездань, што пылала недзе наперадзе барвова-чырвоным колерам.

## X

— Так павінна было здарыцца, — сказала пад раніцу Іра, збіраючыся дадому.

— Але, — стомлена згадзіўся Сяргей. Ён быў шчаслівы. А праз хвіліну, калі Ірына пачала апранацца, занепакоена спытаў: — Ты яшчэ прыйдзеш?

— Калі пазавеш, — крыху гулліва і загадкава адказала яна. — У рэшце рэшт, мы яшчэ маладыя і наперадзе ў нас цэлае жыццё. Ці не так?

— Напэўна. — Сяргей прыўзняўся. — Дзякуй табе.

— Пакуль.

— Да сустрэчы.

Ён упершыню за некалькі апошніх дзён адпачываў не ў інваліднай калясцы, а ў сваім ложку. Гэта было так добра і ёмка, што больш нічога не хацелася. Ды і ці магло быць нешта лепшае, чым гэтая ноч, якая падаравала яму яшчэ ўчора незнаёмую і недасяжную жанчыну, здаровую і маладую. І каму? Яму, калеку…

Успамінаючы той час, калі яны былі разам, Сяргей думаў: «За што мне дадзена такое шчасце?..» Думаючы пра Іру, ён незаўважна для сябе заснуў і прачнуўся толькі апоўдні. Але не адразу: напаўрасплюшчыўшы вочы, звычна павярнуў галаву да акна. Промень сонечнага святла, што ўрываўся ў пакой між фіранкамі, адразу ж ударыў у вочы. Гэта было так нечакана, што, спалохаўшыся, Сяргей інстынктыўна адхіліўся ад промня, замёр: на імгненне здалося, што ўбачыў бліскучы прыцэл снайперскай вінтоўкі, якая цэлілася яму ў галаву.

Мінула хвіліна, другая, трэцяя. Нарэшце Сяргей ачомаўся: «Што за насланнё? Навошта?..»

Сунуўшы рукі пад коўдру, уціскаючы пальцы правёў імі па голых кукcах — балюча… «Вайна, хай будзе яна праклятая…»

Боль вярнуў Сяргея да рэальнасці: трэба было ўставаць, гатаваць сняданак: варыць кашу, яйка, заварыць чай — самае простае. Ён падняўся, сяк-

так апрануўся і, асядлаўшы сваю каляску, без усялякага жадання рассунуў цяжкія фіранкі. Пакой заліло яркае святло. У яго празрыстай, насычанай ранішняй свежасцю плыні пераліваліся чырванаватыя адценні сонца, што ўставала з-за шматпавярхоўкі насупраць акна Сяргеевай кватэры, як ніколі вабілі да сябе… «А ўсё ж добра жыць, — узрушана падумаў Сяргей, — нават калі ты калека…»

## XI

— Прывітанне! — раптам пачуў Сяргей праз акно.

Ён працёр вочы, паглядзеў праз нямытае шкло. Перад акном стаялі хлопец у акулярах і яго сяброўка Насця. Абое ў тых жа пацёртых джынсах і куртках, сарочках навыпуск.

— За-айсці мо-ожна? — спытаў хлопец.

— У мяне няма нічога выпіць, — папярэдзіў Сяргей.

— А мы-ы з раніцы не п’ём, — сказаў хлопец і ўважліва паглядзеў на сяброўку. — Во-ось вечарам — гэта іншая справа.

— Добра, заходзьце.

— Ды-ык я адзін зайду.

Хлопец накіраваўся да дзвярэй. Не заходзячы ў кватэру, праз дзверы, якія расчыніў Сяргей, сунуў яму лісток з агульнага сшытка.

— Ту-ут тэлефоны… Мой і На-асці. Звані, калі што.

— Ды мне нічога не трэба.

Сяргей паспрабаваў вярнуць лісток хлопцу, але той не ўзяў.

— Бяры. Ты-ы мужык добры. Мы-ы заўсёды табе да-апаможам. Бясплатна.

— Ну-у… — Сяргей даўно адвык ад увагі малазнаёмых яму людзей, таму не ведаў, як быць. — Дзякуй.

— Звані, — яшчэ раз сказаў хлопец, павярнуўся і пабег да сяброўкі, якая чакала яго ўнізе.

Сяргей зноў застаўся адзін у пустой кватэры. З аднаго боку, у яго з’явіліся новыя добрыя знаёмыя, нават сябры. З другога — іх быццам і не было. Не было таму, што не ён быў ім патрэбен, а яны былі патрэбны яму, і не яны запрашалі яго ў госці, а ён прасіў іх зайсці да яго, не яны былі адзінокімі, а ён, ён…

У нейкі момант нервы напружыліся, і Сяргею захацелася закрычаць ад сваёй абяздоленасці і абдзеленасці, але ён стрымаўся… Гэтыя пачуцці жылі ў ім даўно, з таго самага часу, калі ён, ачнуўшыся ў вайсковым шпіталі, не ўбачыў сваіх ног. Сяргей тады яшчэ не зразумеў усяго таго няшчасця, якое здарылася з ім, а ўжо ўбачыў слёзы маладзенькай медсястры і цяжкі, жорсткі погляд старога падпалкоўніка — ваеннага хірурга.

«Пракляцце!..»

Колькі разоў Сяргей паўтараў сам сабе гэтае слова і амаль заўсёды пачынаў думаць аб самым страшным, грахоўным — накласці на сябе рукі. Але цяпер ён пра гэта не думаў: апошнія дні і асабліва апошняя ноч змянілі яго жыццё.

«Можа, мне ажаніцца? — нечакана падумалася Сяргею. — На Іры. Яна ж сказала: «Наперадзе ў нас цэлае жыццё». Так, цэлае жыццё… Ён ухапіўся за гэтую думку. «Іры патрэбны грошы, а мне патрэбна яна. Я дастану грошы, Рыгор дасць, дасць…»

Сяргей пад'ехаў да акна і з надзеяй стаў глядзець на шматпавярховы дом насупраць. Там, у сваёй кватэры, была жанчына, без якой ён ужо не ўяўляў свайго далейшага жыцця.

## XII

Прайшоў яшчэ адзін дзень. Праляцела яшчэ адна ноч. Сяргею здавалася, што мінула вечнасць. Ён амаль не спаў і не еў, а думаў аб адным і тым жа: «Я ажанюся, маю права. Я ж жывы, жывы…» І разам з тым ён сумняваўся: у яго ж не было працы, грошай, а самае страшнае — ён быў калекам.

Пасля пакутлівага і доўгага роздуму, які раздзіраў мозг, душу і сэрца, Сяргей вырашыў выпрабаваць лёс.

«Што будзе, тое і будзе. Хіба ж упершыню…»

Ён доўга сядзеў каля тэлефона, пакуль набраў знаёмы нумар.

— Рыгор, гэта я. — Сяргею было цяжка гаварыць, ён хваляваўся. — Прыязджай да мяне. Толькі прашу цябе, зараз.

Хвілін праз дваццаць да «хрушчоўкі», у апошнім пад'ездзе якой жыў Сяргей, пад'ехаў раскошны новы джып «вольва». Хлопец, які сядзеў на пярэднім сядзенні побач з вадзіцелем, выскачыў з машыны і адкрыў заднюю правую дзверцу. З салона джыпа выкаціўся даволі шырокі мужчына. Яго сіні касцюм блішчэў на сонцы.

— Здарова! — памахаў яму з акна Сяргей. — Дзверы адчынены, заходзь.

Мужчына ўважліва паглядзеў па баках, зайшоў у пад'езд, затым у кватэру Сяргея. Павітаўшыся з гаспадаром за руку, спытаў:

— Што здарылася?

Сяргей не ведаў, з чаго пачаць размову. Маўчаў. Мужчына дастаў цыгарэты, закурыў.

— Грошы, Рыгор, патрэбны, — апускаючы вочы, глуха прагаварыў Сяргей.

— Колькі і навошта? — пацікавіўся мужчына.

— Не ведаю. — Сяргей узяў цыгарэту, некалькі разоў цыркнуў, пакуль запаліў яе, прыкурыў. — Жаніцца хачу.

— Н-да… — Рыгор дапытліва паглядзеў на Сяргея. — Гэта сур'ёзна?

Сяргею гэта пытанне не спадабалася, ён зазлаваў:

— Ты думаеш, што я не магу жаніцца, што я нікому не патрэбен?

— Супакойся і не наступай на мяне, — таксама раззлаваўся мужчына. — Мяне гэтым не возьмеш. А ўвогуле, я ж павінен ведаць куды і нашто пойдуць мае грошы.

Твар Сяргея наліўся чырванню, яго куксы быццам працяў ток.

— А я, Рыгор, нічога не пытаў, калі там, у гарах, закрыў цябе сваім целам ад душманскай гранаты. — Сяргееў голас задрыжаў. — І пра ўзнагароды, а тым больш пра твае грошы, якія ты там зарабляў, гандлюючы марыхуанай ды опіумам, не думаў.

— Не трэба, — выдыхнуў мужчына. — Я проста прывык лічыць грошы. Даруй.

Сяргей, насупіўшыся, маўчаў.

— Колькі трэба? — спытаў Рыгор і, не чакаючы адказу, дастаў з кішэні партманет, адлічыў дзесяць стодоларавых купюр, паклаў на стол. — Гэта на вясельны касцюм, пярсцёнкі і іншую дробязь. Астатняе — калі распішацеся. Вяселле зладзім, кватэру тваю давядзём да ладу.

Сяргей стаў адтаваць.

— Дзякуй, мне толькі на вяселле, больш не трэба.

— Не пераживай, — Рыгор спагадліва і вінавата ўсміхнуўся. — І не думай пра мяне так кепска. Яшчэ невядома, дзе лепш: тут, аднаму ў тваёй кватэры, або там, за тваім акном, сярод розных, вельмі розных людзей. І такіх, як ты, і такіх, як я, і такіх, як усе мы разам.

Ён абняў Сяргея, паляпаў па плячы:

— Трымайся.

— Трымаюся.

Сяргей заплюшчыў вочы: на душы раптам стала так цяжка і пуста, што ўжо нічога не хацелася. Толькі — спаць.

## XIII

Выспаўшыся, Сяргей супакоіўся. І дзіўна, яшчэ вастрэй, чым раней, адчуў сваю адзіноту. Захацелася звязаць сваё жыццё з жанчынай, якая не проста падаравала яму ноч кахання, але і дала зразумець, што ў іх роднасныя душы. А значыць, яна пацвердзіла ягоную роднасць з навакольным светам, у якім ён, як і іншыя, меў права на шчасце. Тое самае права, якое з'явілася ў яго некалі ў дзяцінстве, а потым так недарэчна і жорстка знікла на вайне, чужой і непатрэбнай яму…

Сяргей асцярожна ўзяў трубку, паволі, баючыся памыліцца, набраў Ірынін нумар. Пачуліся гудкі. Яны былі доўгімі, вельмі доўгімі. Нарэшце трубку паднялі і прагучаў ветлівы знаёмы голас:

— Я слухаю вас.

Сяргей радасна закрычаў:

— Іра, гэта я, Сяргей! Прыйдзі да мяне, прыйдзі!..

Нейкі час жанчына маўчала. Потым ці то раздражнёна, ці то заклапочана сказала:

— Добра, чакай.

У трубцы адразу ж пачуліся кароткія гудкі.

Сяргей адчуў нешта нядобрае, але часу на роздум не было. Ён пачаў ліхаманкава прыбіраць у кватэры. Аб'язджаючы пакой, зачапіўся і зваліўся з каляскі.

«Кепская прымета», — падумаў ён, але не надаў гэтаму асаблівага значэння. Сціснуўшы зубы, ухапіўся рукамі за канапу, з цяжкасцю забраўся ў каляску, пад'ехаў да акна, стаў чакаць.

Прайшло паўгадзіны, гадзіна, паўтары. Розум падказваў яму, што Ірына не прыйдзе, але душа не хацела гэтаму верыць. Душа спадзявалася і чакала.

«Напэўна, нешта здарылася», — падумалася Сяргею.

Ён ад'ехаў ад акна, дастаў з тумбачкі бінокль, навёў яго на Ірыніна акно і — скалануўся: яна была не адна. Ірына сядзела за сталом з нейкім мужчынам. Яны выпівалі і аб нечым гаварылі.

Сяргей не вытрымаў і з усяе сілы шпурнуў бінокль у акно. Яно дзынкнула, бінокль бразнуўся аб асфальт, побач рассыпаліся асколкі шкла…

З двара данёсся візглівы голас нейкай жанчыны:

— Звар'яцелі, п'яніцы праклятыя!..

Сяргей заскрыгатаў зубамі, замітусіўся ў калясцы па пакоі, не знаходзячы сабе месца. Калі праз нейкі час сяк-так супакоіўся, успомніў хлопца ў акулярах, пазваніў яму:

— Зайдзі тэрмінова!

Той неўзабаве з'явіўся.

— Што-о?

Дрыжачым пальцам Сяргей паказаў на акно жанчыны, на якой хацеў ажаніцца.

— Схадзі, пакліч… Яе завуць Ірынай. Скажы, што ў мяне ёсць грошы. Калі яна захоча, то можа паехаць у Італію.

— На-авошта?

— Гэта наша справа. Ты скажы ёй.

— До-обра.

Хлопец не спяшаўся.

— Ідзі, — папрасіў Сяргей. — Калі ласка. І па дарозе купі што-небудзь выпіць. Вось грошы…

Хлопец пайшоў. Сяргей стаў чакаць. Ён не ведаў, што будзе казаць, ды і пра што яны будуць гаварыць, калі яна прыйдзе. Але яму хацелася многае расказаць ёй, вельмі многае. Можа быць, пра ўсё сваё жыццё, ды і пра жыццё наогул. Але гаварыць яму не давялося: хлопец неўзабаве вярнуўся. Ён быў адзін. З пакетам. Сяргей ўсё зразумеў. Толькі і сказаў:

— Налівай.

— Яна мне не адчыніла, — быццам апраўдваючыся, мовіў хлопец.

— Налівай, — паўтарыў Сяргей.

Яны моўчкі пілі і не закусвалі: хлопец хутка ап'янеў, паваліўся на канапу і заснуў.

Сяргей, утаропіўшыся ў разбітае акно, нервова засмяяўся: усё, да чаго нарэшце ён прыйшоў у жыцці, растала, як чарговая ноч. Не засталося нават надзеі: ён быў адзінокім калекам. А жанчына, якую так хацеў кахаць, не хацела, ці не магла быць ягонай…

Ён так ясна ўсё гэта зразумеў, нават уявіў сябе і яе ў гэтым свеце, што старая, ужо, здавалася б, забытая думка накласці на сябе рукі, раптам зноў рэзка ўзнікла ў яго галаве, і на імгненне заглушыла ўсе астатнія пачуцці.

Не спяшаючыся, але мэтанакіравана Сяргей пад'ехаў да акна, абдзіраючы да крыві рукі аб асколкі шкла, адчыніў раму, ухапіўся за падаконнік, падцягнуўся і стаў караскацца на яго. Караскаўся ён цяжка і доўга, пакуль нарэшце грудзі перваліліся ў двор… Тады ў апошні раз падцягнуўшыся, ён перакуліўся і рынуўся да чорнай зямлі, на якой нядаўна старыя жанчыны, суседкі па пад'ездзе, пасадзілі кветкі…

Ён не чуў, як нехта звар'яцела закрычаў: «Глядзіце, глядзіце, інвалід падае!..» Не чуў, як нехта заклікаў: «Ды дапамажыце яму!..» Не чуў, як бабулька Надзя загаласіла: «Што ж гэта робіцца на свеце…»

Калі ж Сяргей ачомаўся, то ўбачыў, што вакол яго стаяць людзі: суседзі і выпадковыя прахожыя. І сярод іх была Ірына. Яна плакала…

Жыццё Сяргея ў гэты кароткі міг заканчвалася і працягвалася адначасова. Дзеля першай і адзінай у яго скалечаным жыцці жанчыны, якую ён так доўга і пакутліва чакаў.



Тамара МАЗУР

# ЛЕЦІШЧА

**1**

— Дазволь прайсці, калі ласка, —
прасіла я хлопца
па сцяжынцы да лецішча.
А ён працягваў махаць рукамі
і ціха прымаўляць:
— Дай праскакаць верабейку...

**2**

Вы бачылі як цвітуць трускаўкі
пасля прaполкі і дажджу?
Яны цалуюцца з паветрам.

Вы ведаеце, як раскрываецца душа
пасля абдымкаў і ласкавых слоў?
Яна злучаецца з вечнасцю.

**3**

Нераскрыты бутон півоні
ва ўласным агародзе
хавае ў сабе шмат больш інтрыгі,
чым самае дзівоснае
на чужым Еўрабачанні.

---

*__Мазур Тамара Міхайлаўна__ нарадзілася 30 лістапада 1964 года ў вёсцы Лазы Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыла факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1998). Жыве ў г. Скідалі, працуе ў гродзенскай рэгіянальнай газеце «Перспектива».*

*Аўтар кніг «Спакуса траўня» (1995), «Ваўкавыск — радзімка Беларусі» (2005), «Пакуль кахаю…» (2013). Вершы друкаваліся ў калектыўных зборніках, літаратурных часопісах, альманахах, перакладаліся на рускую мову.*

**4**

Кукавала зязюля…
І чым даўжэй,
тым больш салодкім
здавалася яе «ку-ку»...

Спяваў салоўка...
І чым даўжэй,
тым болей саладжавым
здавалася яго «ф’ю-ф’ю»...

Кукуй, зязюлька, на ўсё жыццё.
Спявай, салоўка, на шлюбны тэрмін.

**5**

Так хочацца шмат кахання
улетку каля Каложы.
І слухаць, як рана-рана
будзе спяваць на Яна
у Скідалі карагод.

Так хочацца мне падгледзець,
як дзесьці над чыстай Котрай,
стракозы, не знаўшы гора,
шукаюць сваю прастору,
адчуўшы, што будзе дождж.

Так хочацца мець пяшчоту
пад ластавачкі гняздзечкам,
на лузе, прыгожа скошаным,
пад ніцай вярбой раскошнай
і веліччу аблачын,

што надта падобны
на мноства солодкай ваты,
шматкамі якой частуецца
наіўны дзіцячы свет.

**6**

Бывае такая стома,
калі неба здаецца адзінай аддушынай
у яміне мітусні і хлусні,
што хоча выціснуць з мяне сокі і выплюнуць,
як страціўшую слодыч жуйку.

І тады я засцілаю жалезны ложак
у сваім агародзе каляровай капай,
вытканай адной бабуляй з роднай вёскі,
кладуся і ўглядаюся ў гэтую нябесную сінечу
праз вершаліны яблыневага квету.

І пачынаю разумець,
што яміны насамрэч няма,
што ёсць толькі зямля ў квецені і мая душа,
якая прагне ўзаемнай вернасці
ад каханага чалавека.

**7**

Прасцей за ўсё
абвінаваціць невінаватага,
абрабаваць беднага,
абылгаць сумленнага,
абдурыць разумнага.

Цяжэй за ўсё
заступіцца за невінаватага,
заплаціць беднаму,
засцерагчы сумленнага,
зразумець разумнага.

**8**

Не бойцеся, калі бура
зломіць вершаліну вашай яблыні.
Бойцеся, калі пасля яе
не застанецца ні адной галіны.
Бо нават яна адна
здольная разбудзіць сокі
ва ўцалелым ствале.
І глядзіш: прарастаюць парасткі
праз, здаецца, памерлую кару.
І ўсё таму, што ўцалела адна галіна.

**9**

Пакрыўджаная душа —
гэта не заўсёды зламаны лёс.
Але вельмі часта —
падвешанае становішча,
мост паміж сапраўдным і мінулым,

па якім шоргае тапкамі
(ззаду — наперад,
спераду — назад)
шэравокі прывід будучыні.

**10**

На скрыжаванне дарог
праліўся дождж,
нібы з касмічнага вядра
праз дзіркі ў хмарах.
І ў адначассе
зрабілася моташна
пешаходам і кіроўцам,
з-за надта мокрага святла
чырвоных светлафораў.

**11**

Нельга ўзважыць самаахвярнасць,
дарасці да Бога,
дакрануцца да вечнасці.
Бо насамрэч
няма вагі ў промняў святла,
вышыні — у прасторы,
ускрайку — у зямлі.

# АФГАНСКІЯ АПАВЯДАННІ

**Руста БАХТАРЫ**

## Я сапраўды кахаю цябе

Я ўвайшла ў дом дзядзькі, узяла Нафісу за руку і спытала:

— Ну?

Нафіса, бачачы маё нецярпенне, лагодна ўсміхнулася:

— Ну што я яшчэ магу расказаць, Лайлі-джан?

— Усё, што хочаш.

— Ужо няма чаго, ты ўсё чула, я ўсё расказала.

— Расказвай зноў. Ад самага пачатку, з першага дня, з таго моманту, як ты паехала.

Нафіса пагадзілася: ці то яе цешыла мая цікавасць і палкасць, ці то ёй таксама было прыемна зноў і зноў паўтараць тое, што яна ўжо расказвала. Я гэта адчувала і разумела, што Нафісу нашы размовы не стамляюць, што яны ёй падабаюцца.

Нафіса зноў пасміхнулася. Трэба сказаць, што ўсмешка ніколі не сыходзіла з яе твару.

— О, Лайлі-джан, каб табе хоць разочак самой пашчасціла трапіць за мяжу! Свет раптам зрабіўся б зусім іншым, усё было б новым: гарады, дамы, людзі. Усё б цябе здзіўляла і хвалявала. Здавалася б, што ты ў нейкім сне, што сапраўдны, рэальны свет знік і ты апынулася ў казачных марах. Перамены гэтыя адбываюцца так хутка, што не адважваешся даць ім веры — табе здаецца, што тут нейкая памылка і ты неўзабаве зноў сутыкнешся з бязлітаснай рэчаіснасцю. Нам усім, хто не бачыў нічога апроч Кабула, не знаёмы з іншымі народамі, так цяжка ў гэта паверыць, так цяжка! Вось у якім настроі была я, Лайлі-джан. Я трапіла ў Еўропу, але не разумела, што адбылося, не спасцігала, як усё магло так змяніцца.

Нафіса пачала гаварыць і забылася пра ўсё навокал, у тым ліку і пра сябе — яна жыла ў гэты момант успамінамі, расказваючы пра Еўропу, Парыж, Лондан і Рым.

Я чула яе шмат разоў і цяпер слухала зноў, адлятаючы ў далёкія краіны на крылах сваіх летуценняў, нібыта наяве бачыла ўсё тое, пра што гаварыла Нафіса: Эйфелеву вежу, палацы Версаля, натоўпы на вуліцах, Лондан з яго шэрымі дамамі і славутымі пляцамі.

Ужо месяц Нафіса расказвала і расказвала, а я слухала і разам з ёю гуляла па Парыжы, Лондане, Рыме. Але зараз я была асабліва ўважлівая і патрабавала не прапусціць ніводнай падрабязнасці, нават найменшай, каб нішто

не засталося забытым: ні колер будынкаў, ні шырыня вуліц, ні тамтэйшыя звычаі і норавы. Мне гэта было неабходна, каб узвесці палац свайго шчасця.

— Ну, ты задаволена? — спытала Нафіса, калі скончыла аповед.

— Цяпер досыць. Але дай божа і мне хоць раз з'ездзіць. З'ездзіць — і пабачыць іншы свет, казачны свет маіх мараў.

— Бог дасць, Лайлі-джан, — з пяшчотай у голасе прамовіла Нафіса, — бог дасць!

Калі я выйшла з дома дзядзькі, сонца ўжо села і цішыня ахінула горад. Раптам я адчула, як без дай прычыны сціснулася маё сэрца, і, магчыма, вінаватыя ў гэтым былі словы Нафісы, яе шчасце, яе радаснае, бесклапотнае жыццё… Магчыма…

Ранкам, калі я выходзіла на вуліцу, сэрца тахкала мацней, чым звычайна, хваляванне і нецярпенне абпалілі маю душу. Ніколі я не ўзгадвала імя Госпада так часта, як сёння.

А вось і вузкі, доўгі калідор юрыдычнага факультэта. Тут мне міжволі давялося здрыгануцца… Я спецыяльна прыйшла раней, бо хацела застацца на самоце і добра ўсё ўзважыць, каб не памыліцца, не даць маху, і раптам убачыла яго: ён стаяў каля лесвіцы, прыхінуўшыся да сцяны, і глядзеў на ўваходныя дзверы. Кроў раптоўна прыліла да майго твару.

Ён ніколі так рана не прыходзіў на факультэт. Мне зрабілася страшна: а ці не здарылася што, ці не ўведаў ён маёй тайны?

Нават не вітаючыся, я спытала:

— Хусайн, ты ўжо тут?

— Так, вось прыйшоў. Ты здзівілася?

— Не, чаго ж тут здзіўляцца? — І дадала проста так, каб не маўчаць: — Што ў нас сёння?

— Шмат чаго.

— Я маю на ўвазе лекцыі.

— І я пра іх гавару: гісторыя дыпламатыі, палітэканомія…

— Ах, сапраўды, я таксама ўспомніла.

Калі я наблізілася да яго, ён сказаў са сваёй заўсёднай усмешкай:

— Салям!

— Салям! — адказала я.

Як жа я разгубілася, калі не павіталася адразу! Язык мой знямеў — такога яшчэ ніколі не было.

Да пачатку лекцыі было шмат часу. Мы выйшлі ў парк — пагуляць па залацістым лужку пад не надта гарачымі гэтай парой промнямі сонца. Хусайн маўчаў, а я шукала зручнага моманту, каб загаварыць. Пра тое, што чула ад Нафісы. Магчыма, гэта было глупствам, але мне хацелася, каб Хусайн бачыў мяне з нейкага іншага боку, каб ён думаў, што я, як і ён сам, не толькі вучуся, але пабачыла свет і погляды ў мяне прагрэсіўныя — Еўропу наведала, жыла ў атачэнні еўрапейцаў, стасавалася з імі. Але ж, далібог, я ніколі не ездзіла за мяжу, нават у Кандагары не была, дзе ўжо там Еўропа з яе славутымі гарадамі…

Трэба сказаць, што Хусайн ніколі не заводзіў гаворкі ні пра што падобнае, але я сама хацела гэтага, хацела, каб ён думаў так і верыў, нібыта і я ў нейкай ступені зазнала гэта спакойнае, шчаслівае, добрае жыццё. Але дзе яна, тая салодкая рэчаіснасць? Якія падарожжы? Дзе знаёмства з чужым светам? Калі Хусайн як-небудзь дазнаецца, што ўсё маё прыўкраснае існаванне, пра якое я заўсёды так ахвотна малола языком, абмяжоўваецца старэнькім дамком у Багі-Алімардане[1], калі даведаецца, што мая павага да ўсяго новага, маё імкненне

[1] Багі-Алімардан — квартал у Кабуле.

да прагрэсу — усё гэта не больш чым звычайная пагоня за модай, і ў гэтым я, дарэчы, нічым не адрозніваюся ад іншых кабульскіх дзяўчат, — што ён скажа тады? Што ён будзе думаць пра мяне?

Лепш бы я не маніла, лепш заставалася б сама сабою, такой, якая ёсць… Божа мой, а калі Хусайн здагадаецца? Тады… Я не хацела пра гэта думаць, не ўяўляла сабе, чым могуць скончыцца гэтыя дурныя пракуды.

Аднак гульня пачалася, і яна павінна завяршыцца нечуванай ганьбай, якая пазбавіць маё жыццё прыгажосці і кахання, месца якіх зойме неадольны сум. Для сябе я пастанавіла працягваць гульню, каб як мага далей утрымаць ля сябе Хусайна, а калі ён нарэшце пачне гаварыць пра наша сумеснае жыццё, мне давядзецца «пайсці са сцэны» і адмовіцца ад каханага, а гэта значыць і ад усіх сваіх надзей і мрояў пра шчасце.

— Лайлі, — раптам парушыў маўчанне Хусайн, — сёння я хачу развітацца з няпэўнасцю.

— Развітацца? Што ты хочаш сказаць?

— А тое, што не будзем больш марнаваць час. Я гаварыў з маці, яна таксама хоча прыйсці да вас, сустрэцца з тваімі бацькамі. Падумай, Лайлі, якімі мы зробімся шчаслівымі, як нам усе будуць зайздросціць.

Я сказала «так», але сэрца маё напаўняла трывога. Я была не падрыхтавана да такіх слоў, мне цяжка было ў гэта паверыць. Хусайн ужо цяпер хоча ажаніцца? Ажаніцца са мною? Божа! Я так спадзявалася, так марыла пра гэта. І вось фартуна нарэшце павярнулася да мяне, і мой Хусайн просіць маёй рукі. Як хутка спраўдзілася маё жаданне, як нечакана шчасце вырашыла зрабіцца маім спадарожнікам! Але, на жаль, яно разаб'ецца з маёй уласнай ласкі. Чаму я ад самага пачатку не сказала Хусайну, якая я на самай справе! Ува мне ж нічога прывабнага няма! «Усё, што я табе гаварыла, было толькі марай, казкай. І ўсё дзеля таго, каб заставацца побач з табой, каб ты быў маім. А што я цяпер? Усяго толькі звычайная дзяўчына, дачка простых людзей, у якіх звычайны дом і такое ж жыццё. Усё, як у іншых людзей, якія спакойна і дабрачынна жывуць ад вечара да раніцы і ад раніцы да вечара. Яны задаволеныя, бо маюць дом з саманавым дахам і патрэсканымі сценамі, пазбаўлены неабходнасці бадзяцца ў пошуках прыстанку, хоць у іх няма ні саду, ні лапіка зямлі».

— Што ж ты маўчыш, Лайлі? — пяшчотны і ласкавы голас Хусайна збянтэжыў мяне.

— На маю думку, рана яшчэ гаварыць пра гэта. Нам трэба…

Ён не дазволіў мне дагаварыць, узяў маю руку ў свае, і я адчула іхняе цяпло.

— Прашу цябе, Лайлі. Падумай…

— Не, нельга. Я павінна…

Я паспешліва вырвала руку і пайшла прэч. Не было ў мяне сіл пярэчыць Хусайну… і страціць яго. Так нечакана… Не паспела я яшчэ дайсці да факультэта, як зноў пачула голас любага:

— Увечары я прыйду да вас. Можаш яшчэ падумаць.

Да нас? Куды ж? У наш стары, напаўразбураны дом у Багі-Алімардан? У мяне адняло язык. Мне хацелася заплакаць, падысці і сказаць хлопцу: «Я падманула цябе. Дом, у які ты хочаш прыйсці, не наш дом, а майго дзядзькі. Гэта пра яго дом я расказвала табе. І калі ты туды прыйдзеш, усе дазнаюцца пра мой падман, усе зразумеюць, якой я была дурніцай і эгаісткай. Зразумеюць гэта ўсе, але галоўнае — ты. Ты сам, што ты будзеш думаць пра мяне? Што скажаш? Пакінеш назаўсёды? За тое, што я казала няпраўду, за тое, што…»

Я не заўважыла, як апынулася на вуліцы. Як жа хутка ўсё мяняецца, як імгненна радасць і шчасце саступаюць месца бядзе і адчаю.

У рэшце рэшт, я вырашыла ў апошні раз сыграць сваю ролю і назаўжды развітацца не толькі з Хусайнам, але і з нязбытнымі марамі. Нафіса выслухала мяне і згадзілася дапамагчы — знайсці зручную прычыну і ўгаварыць маці выправіцца куды-небудзь увечары, каб у гэты час дома нікога не было: мая кузіна пабыла ў Еўропе і таму бацькі прыслухоўваліся да яе думкі. «Правільна, так і павінна быць», — такімі словамі дзядзька і яго жонка сустракалі кожную прапанову сваёй дачкі.

Змяркалася. Я зноў расхвалявалася і разгубілася.

Нафіса настойліва пераконвала мяне:

— Скажы Хусайну ўсю праўду, сястра. Скажы яму, што ты хлусіла таму, што кахала яго, таму што не хацела страціць яго. Скажы, дзеля свайго кахання скажы!

— Не скажу, — галосячы адказвала я, — і таму не ўбачу больш Хусайна. Я хачу, каб ён ніколі не здагадаўся, чаму я яго пакінула, адмовілася ад шчасця. Я напісала яму некалькі слоў, усяго толькі: «Хусайн! Я не кахаю цябе». Гэта мана, ты ж разумееш, што гэта хлусня, але ведай, дарагая Нафіса, што падманула я не наша каханне, а толькі сябе, і няхай бог забярэ мяне маладой.

Сонца яшчэ не паспела схавацца за высокай сцяной, а пачуўся ўжо гудок аўтамабіля і ля ўваходных дзвярэй зазвінеў званок. Мне зрабілася млосна, я амаль што павалілася ў крэсла, не чуючы ног, а Нафіса пабегла адчыняць.

Увайшоў Хусайн, трымаючы ў руках букет ружаў. Я разумела, што маё шчасце канчаецца, і як толькі каханы пойдзе, яно знікне разам з ім. Лепш бы Хусайн зусім не прыходзіў.

Ён спыніўся ля дзвярэй. Я ўбачыла яго твар і не магла стрымаць слёз, якія пабеглі па шчоках. Вытрымка пакінула мяне — колькі ж можа перажываць слабая дзяўчына! Колькі? Яна павінна заплакаць, павінна аслабіць тугі вузел, калі прывідны замак яе шчасця ідзе прахам і робіцца пылам, калі гінуць усе надзеі…

І я развязала вузел гора. Хусайн працягнуў рукі, я прытулілася да ягоных грудзей, схавала твар.

— Што здарылася? — гучаў яго цёплы голас. — Чаму ты плачаш?

Хлусіць ужо было нельга.

— Я казала няпраўду, Хусайн, — усхліпнула я. — Разумееш, няпраўду!

Я адчула, што ён здзівіўся.

— Няпраўду? Але навошта?

— Для таго… таму што…

Я зноў усхліпнула. Цяпер, калі я вырашыла сказаць праўду, праклятыя слёзы перашкаджалі мне.

— Хусайн, я адразу павінна была сказаць, што кахаю цябе. Клянуся, што я кахаю і…

Ён мацней прытуліў мяне да сябе, не даючы дагаварыць. Колькі любові і спагады было ў яго руках! Ён нахіліўся і ціха вымавіў:

— Чаму ж ты не запрасіла мяне ў свой дом?

Я схаладнела.

— Што ты сказаў?

— Багі-Алімардан мне больш падабаецца, Лайлі. Мне б хацелася прыйсці туды, у твой дом.

Я ўжо не разумела, што ён кажа. Мне хацелася толькі ніколі не падымаць галавы з яго пляча, каб усё жыццё заставацца ў абдымках яго моцных рук.

**Джаліль ВАДЖДЗІ**

## Хлопец, які лятае

Жыхары гэтай вёскі добра ведалі Змарака ўжо з сямі гадоў дзякуючы яго незвычайным гульням. Ён збіраў дробныя каменьчыкі і даваў ім імёны аднавяскоўцаў: маліка[1], цырульніка, сялян, пастухоў, а пасля ўявіў, што кусцікі на беразе арыка[2] зусім не кусцікі, а сады, уладкаваў пад іх шатамі ханаў і малікаў, а сялян і пастухоў прымусіў працаваць пад спякотным сонцам. Яго заняткі былі людзям да душы. Нават калі ён каго незнарок крыўдзіў, казалі: «Што можа разумець дзіця бедняка?» Яго розуму і здольнасцям шмат хто нават зайздросціў: «Каб у Маланга — ды такі сын!»

Маланг быў у вёсцы найбяднейшым з беззямельных сялян. Каб хоць як цягнуць лямку і не памерці з голаду, ён апрацоўваў зямлю ў калек, сляпых і кульгавых і быў заняты так, што не бачыў ні дня, ні ночы. Толькі калі яго скура рабілася зусім цёмнай, а ўсё цела пакрываў пот, ён разумеў, што надышла гарачая пара. Калі ад парываў халоднага ветру яго твар пачынаў сінець, ён ведаў, што гэта ўжо позняя восень.

Зямля, на якой працаваў Маланг, арашалася з кярызаў[3]. Тут ніколі не раслі фруктовыя дрэвы, і садавіну людзям замяняла морква. Калі ўвосень з палёў збіралі ўраджай, для старых і малых гэта рабілася сапраўдным святам. Варта было прайсці плугам адну баразну, як селянін крычаў быкам: «Стой!» Тыя спыняліся ля мяжы, а ён, азірнуўшыся, бачыў дзяцей, якія выстройваліся ў два ланцужкі і хуценька выбіралі моркву.

У вёсцы была завядзёнка — калі хто збіраў моркву, на дапамогу спяшаліся ўсе жыхары, а напрыканцы кожны атрымліваў у прыпол кашулі некалькі морквін.

Аднойчы ўвосень Змарак разам з іншымі дзецьмі збіраў моркву ў аднаго багатага селяніна. Раптам з захаду пачуўся моцны гул матора. Селянін спыніў быкоў пасярод поля і ўтаропіўся ў нябёсы. Ды і хлопчыкам цяпер было не да морквы — яны глядзелі туды, адкуль даносіліся гукі. Прыгледзеўшыся, селянін сказаў:

— Гэта самалёт.

Маленькі Змарак недачуў і перапытаў:

— Што гэта за малёт?

— Птушка, зробленая з жалеза, якую людзі выпускаюць у паветра, — адказаў селянін і дадаў: — Няма чаго на яго пазіраць, праца чакае. Хутчэй збірайце моркву, ужо позна.

Але малыя глядзелі на самалёт, ажно пакуль ён не схаваўся за аблокамі.

У той дзень Змарак вярнуўся дадому без морквы, затое самалёт выразна, як на фотаздымку, адбіўся ў яго памяці. Новыя думкі не давалі яму спакою. Уначы ён кепска спаў, некалькі разоў падхопліваўся: «Вось ляціць, малёт ляціць! Вой, што будзе? У яго ж крылы не варушацца!»

Маці з бацькам занепакоіліся — ці не апанаваў іх сына які злы дух. У рэшце рэшт Гульмакый сказала мужу, каб ён пакінуў усе свае справы і схадзіў да мулы з суседняга селішча па амулеты для сына.

---

[1] Малік — арабскі манаскі тытул, а таксама асоба, што мае гэты тытул.

[2] Арашальны канал, роў.

[3] Кярыз — традыцыйная падземная гідратэхнічная сістэма ў гарадах і селішчах Сярэдняй Азіі.

На наступны дзень, калі Маланг у абмен на пеўня прынёс ад мулы паперку, да яго падбег Змарак. Ён паказаў бацьку дзве звязаныя накрыж палачкі і закрычаў:

— А я сабе малёт зрабіў!

Селянін пабачыў і пачуў усё гэта і яшчэ больш засмуціўся, цяжка ўздыхнуў і прамармытаў:

— Ах, сынок, сынок! Як жа гэта ты ў мяне паддаўся злым духам? Каб толькі розум не пакінуў цябе!

А Змарак нібыта і не разумеў, што кажа бацька. Ён гойсаў, круціўся, пераймаючы гудзенне матора, і сваімі маленькімі ручкамі зноў і зноў кідаў «самалёт» у паветра, стыхію, якую ўжо цяпер імкнуўся скарыць.

Змарак па-ранейшаму з павагай рассаджваў ханаў і малікаў у цяню кустоў на нараду. Але ў пастухоў, якія пасвяць авечкі і козы, ён гуляць перастаў. Затое ўвесь час майстраваў самалёты, а пасля бег і ўзнімаў іх у паветра над сабою.

Маланг прывык да новай гульні сына і больш не турбаваўся. Ён вельмі стаміўся ад сялянскай працы, ледзь цягаў ногі і таму не хацеў, каб сын паўтарыў ягоны лёс. Вось чаму Маланг у належны час аддаў хлопчыка ў вясковую школу.

Настаўнікаў здзіўлялі здольнасці Змарака. Пачатковую школу ён скончыў першым вучнем, але ўвесь час майстраваў самалёты. Праўда, цяпер яны ўсё больш нагадвалі сапраўдныя. Пазней яго накіравалі ў горад, у школу-інтэрнат, каб працягваў вучобу. Тут ён ужо не проста майстраваў самалёты, а пачаў разважаць над тым, як можа гэткая цяжкая машына трымацца ў паветры. Фізіка дала дакладны адказ на гэта пытанне, і ягонае жаданне зрабіцца лётчыкам узмацнялася з кожным днём.

Вось хлопец атрымаў і сярэднюю адукацыю. І зноў пашанцавала Змараку — яго накіроўваюць у авіяцыйную школу.

Не варта, аднак, думаць, што жыццё яго было бесклапотным і шчаслівым. З дому прыйшла вестка, што стары і саслабелы бацька не вытрымаў цяжару непасільнай працы — захварэў і памёр за дзесяць дзён да збору ўраджаю з невялікага лапіка зямлі ў аднаго кульгавага інваліда. Ён так і не пабачыў сына, хоць вельмі спадзяваўся.

Сапраўды моцныя духам людзі заўсёды змагаюцца з жыццёвымі нягодамі і выпрабаваннямі. Змарак не мог пакінуць старую маці ў кіпцюрах голаду. Але як ніхто не можа пабудаваць палац пры адсутнасці падмурка, так і курсанту авіяшколы цяжка аднаму паправіць гаспадарку сям’і, якая не мае на што існаваць. Некалькі начэй не спаў Змарак, шукаючы выйсця.

Аднойчы на світанні, калі промні сонца ўжо рассеклі чорную заслону цемры, Змаракавы думкі ўвайшлі ў належнае рэчышча — ён вырашыў не толькі вучыцца далей, але і перакладаць артыкулы для газет, каб дапамагчы маці. Такога раскладу хлопец прытрымліваўся, пакуль не скончыў навучанне.

У Гульмакый жа было адзінае жаданне: дажыць да таго часу, калі сын зробіцца шчаслівым і паспяховым чалавекам. Дзеля гэтага яна згадзілася б трываць якія заўгодна цяжкасці, хваробы і нястачы.

Надышоў чарговы сезон збору морквы. Аднойчы старая варочала кізяк, каб ён хутчэй высах пад негарачым ужо восеньскім сонцам, як раптам з усходу пачулася гудзенне матора. У небе з’явіўся самалёт, наблізіўся да вёскі і апусціўся так нізка, што, здавалася, крыламі зачэпіць чынары. Тады зноў узняўся ўверх і зрабіў некалькі складаных фігур. Карова спалохалася, куры паразбягаліся ў розныя бакі, а конь аднаго з ханаў сарваўся з прывязі.

З самалёта выпала запіска, і вецер доўга насіў яе ў паветры, а пасля закінуў даволі далёка ад вёскі. З запіскі людзі даведаліся, што ў самалёце сядзеў Змарак — у той дзень у яго быў трэніровачны палёт.

## Мухамад Азам РАХНАВАРД ЗАР'ЯБ

### Зачараваны горад

Сваволіў пранізлівы вецер, гудзеў, кідаўся з боку ў бок, як дзікі звер, які трапіў у клетку. Пыл і смецце змяёй скручваліся на вузкіх вуліцах, воблакам узнімаліся са сцен, гойсалі па дахах і з пагрозай стукаліся ў вокны. Змрочна было ў горадзе, і дамы, ахутаныя воблакамі пылу, заціхалі, агорнутыя цемрай.

У такі дзень, апоўдні, мы перасяляліся. Бацька наш зусім знерваваўся. Збіраючы і звязваючы рэчы, мітусіўся, а калі сам не мог нешта падняць ці зашмаргнуць вяроўку, дык гучна заклікаў:

— Хай будзе пракляты гэты лёс, хай будзе пракляты…

Маці спяшалася на дапамогу і пытала:

— Што здарылася? У чым справа?

Абое пакрытыя пылам, задыханыя, завіхаліся вакол рэчаў і загадвалі нам, дзецям:

— Сачыце, каб нічога не засталося, усё забірайце…

Мой старэйшы брат, звычайна паўсонны, гойсаў, як апантаны, сюды-туды, пасля спыняўся, азіраўся па баках і, прытуліўшыся да сцяны, імгненна засынаў. Брат мой быў крыху дурнаваты і рабіў ідыёцкія ўчынкі. Яны з бацькам заўсёды касавурыліся адзін на аднаго, нібыта лютыя ворагі, гатовыя адразу счапіцца. Бацька ніколі не называў яго інакш як «дармаед», ды і брат імкнуўся як мага меней размаўляць са старым.

У той дзень санлівасць брата асабліва раздражняла бацьку, і ён некалькі разоў крыкнуў:

— Дармаед, ты што блытаешся пад нагамі? Ідзі, гуляй у свае карты!

Брат моўчкі глядзеў яму проста ў вочы.

Мой малодшы брат, чуючы такія крыкі, кідаў усё і спяшаўся да бацькі — ён быў перакананы, што паміж бацькам і старэйшым братам абавязкова адбудзецца бойка, і не жадаў прапусціць відовішча. Малы меў вясёлы нораў, любіў пажартаваць і пасмяяцца з сябе і з іншых, часам жа рагатаў так, што валіўся на падлогу і курчыўся ад смеху. У такія моманты старэйшы брат тупа і сонна глядзеў на яго і казаў:

— Ненармальны гэты хлопец, ненармальны…

Малодшы ж брат, насмяяўшыся, яшчэ некаторы час ляжаў на падлозе і пільна ўглядаўся ў столь проста перад сабой, нібыта бачыў там нешта незвычайнае.

Бацька падчас такіх прыпадкаў смеху са злосцю і скрухай хітаў галавой і звычайна гаварыў:

— Лячыць трэба было б гэтага хлопца, лячыць…

Мой бацька быў чалавекам нервовым, меў хворае сэрца. І колькі доктар ні гаварыў, што хваляванні загубяць яго, варта было каму-небудзь не пагадзіцца з яго думкай ці запярэчыць з-за найменшай дробязі, бацька прымружваў вочы, рот яго крывіўся, на твары з'яўляліся зморшчыны і ён лямантаваў:

— Божухна! Што я зрабіў?!

І пасля сіпатым голасам дадаваў:

— Хай будзе пракляты гэты лёс, хай будзе пракляты…

У такія моманты мой малодшы брат, не ведаю чаму, пачынаў рагатаць. Ён закрываў твар падушкай, цела яго ўздрыгвала. Бацька зусім шалеў і шпурляў у яго ўсё, што траплялася пад руку:

— Ах ты, грэх маці!

Мая трохгадовая сястрычка, як спалоханае кацянё, натапырвала вушы, з жахам глядзячы на бацьку, і пачынала румзаць.

Бацька пазіраў на яе і зноў немым голасам крычаў:

— Хай будзе пракляты гэты лёс, хай будзе пракляты…

У пакоі пачыналіся вэрхал і мітусня.

Таропка ўваходзіла маці ў чорнай хустцы на галаве:

— Ну, што зноў здарылася? У чым справа?

Замест адказу нязграбны і кволы, маленькага росту бацька пачынаў галасіць. Тады, узнімаючы рукі ўгору, нібыта звяртаючыся да кагосьці, хто сядзеў на даху, пытаў:

— Што я зрабіў?! Што я зрабіў?!

Але з даху яму ніхто не адказваў.

Мы былі бяздомныя. Ва ўсякім разе, так заўсёды казаў бацька. Калі ён хацеў падкрэсліць нашу галечу і бездапаможнасць, ён скрушліва круціў галавой і паўтараў:

— Мы ж бяздомныя, што мы можам зрабіць?

Дом, у якім мы жылі, наша сям’я арандавала за трыццаць тысяч афгані[1]. Гэтыя трыццаць тысяч былі цэнтрам прыцягнення бацькавых думак — пра што б ён ні гаварыў, усё круцілася вакол гэтых грошай. І ў сне ён узгадваў іх, і ў час сняданку ці вячэры, і ў абед яны яго турбавалі, і нават са старэйшым братам заводзіў гаворку пра грошы. Часам, калі быў у гуморы, бацька, лежачы на ложку з закінутымі за галаву рукамі, пачынаў разважаць:

— Трыццаць тысяч — гэта не абы-што. За гэтыя трыццаць тысяч прыдбалі б зямлі, а яшчэ дваццаць тысяч — і апрацавалі б яе як след. Усяго толькі дваццаць тысяч…

Штодзень бацька прымаў новае рашэнне ў дачыненні да гэтых трыццаці тысяч. Раніцай, прачнуўшыся, ён казаў маці:

— Я сёе-тое прыдумаў наконт грошай.

— Якіх грошай?

Бацька, відавочна злуючыся, адказваў:

— Якіх грошай! Я гавару пра трыццаць тысяч!

— А… Ну, што ты прыдумаў?

— Я думаю, мы перадамо іх каму-небудзь, хто пусціць іх у абарачэнне. Такі спосаб найлепшы. А нам на месяц хопіць і паўтары тысячы. Ну як?

Маці, не разумеючы гэтых планаў, пагаджалася:

— Ты слушна кажаш. Сапраўды, так і трэба.

Аднак ужо ўвечары, гледзячы ў нейкую нябачную кропку і не заўважаючы нічога вакол, бацька выносіў прысуд:

— Не, не трэба нашы трыццаць тысяч нікому аддаваць. Хай усё будзе так, як ёсць.

— Чаму? — пыталася маці.

— Ці можна ў наш час каму давяраць? — тлумачыў бацька. — Скажы, ці можна?

---

[1] Афгані — грашовая адзінка Афганістана (адпавядае дзвюм капейкам).

Маці ўздыхала і адмоўна круціла галавой:

— Не.

Але ўжо на наступную раніцу ён з глыбакадумным выглядам, нібы раскрываючы нейкую таямніцу, абвяшчаў маці:

— А што, калі на гэтыя трыццаць тысяч мы адкрыем краму для нашага дармаеда?

Маці, безумоўна, з радасцю пагаджалася:

— Вельмі добра. Павінен жа хлопец знайсці сабе занятак нарэшце. Калі ты адкрыеш для яго краму, ён і бадзяцца кіне.

І абое пачыналі абмяркоўваць, дзе будзе тая крама і як яна будзе выглядаць. Калі ўсе дэталі былі прыведзены ў адпаведнасць адна з адной, бацька раптам зноў мяняў сваё рашэнне:

— Не… На маю думку, лепш гэтыя трыццаць тысяч не чапаць.

Маці ў адчаі пытала:

— Як? Хіба…

Бацька мяняўся з твару, бялеў, а тады перарываў маці:

— Гэта нешта нечуванае! Ты хочаш, каб гэты дармаед прайграў грошы ў карты? Ну, скажы, хіба карцёжніку можна давяраць?

Маці змаўкала, а бацька пачынаў абдумваць новыя планы наконт «сваіх грошай».

Ніводзін з яго планаў так і не ажыццявіўся, калі да нас з'явіўся домаўладальнік. Ён сказаў, што хоча адрамантаваць дом і здаваць яго ў арэнду за большыя грошы, а мы павінны адгэтуль з'ехаць, і, паколькі тэрмін арэнды яшчэ не скончыўся, паклаў перад бацькам трыццаць тысяч. Бацька вырашыў арандаваць іншы дом і выправіўся на пошукі.

Вярнуўся ён стомлены і спакутаваны і сказаў:

— Сёння я дом не арандаваў.

На наступны дзень ён быў яшчэ больш стомлены і хмурна гыркнуў:

— Не знайшоў.

На трэці дзень, як толькі ступіў на парог, адразу ж закрычаў:

— Гэты горад зачараваны, зачараваны!

Ён не памятаў сябе ад гневу. Маці спалохана паглядзела на бацьку, а ён наблізіўся да яе і, гледзячы вялікімі вачыма, спытаў:

— Ведаеш, колькі каштуе зняць дом?

Тады трохі памаўчаў і выгукнуў:

— Паўтара лака[1], паўтара лака!

У той вечар размаўляць з бацькам было немагчыма. Ён сварыўся, увесь час павышаў голас. У яго знік апетыт, ён нічога не мог есці. Калі ж нарэшце, стомлены, лёг спаць, дык і ў сне паўтараў:

— Гэты горад зачараваны, гэты горад зачараваны…

Раніцай нам давялося арандаваць першы, які трапіўся, танны дом, у які мы і пераязджалі ў той самы пахмурны дзень.

У нашым новым доме было два пакоі. Вокны мелі пад'ёмныя шыбы і глядзелі ў двор. Пры кожным парыве ветру шкло звінела і бразгатала, а ў шчыліны набіваўся пыл.

Да самага вечара бацькі завіхаліся ля нашых рэчаў, а калі нарэшце скончылі, бацька, у брудзе, увесь пакрыты пылам, спытаў:

— А дзе дзеўся дармаед?

---

[1] Лак — сто тысяч.

Маці недачула і не адказала. Тады бацька раздражнёна павысіў тон:

— Куды пайшоў дармаед?

Маці адгукнулася:

— Не ведаю. Гадзіну таму ён быў тут.

Бацька маланкай кінуўся да дзвярэй і выбег. Праз хвіліну, засопшыся, ён вярнуўся і сказаў:

— Няма, яго нідзе няма.

Маці, як найтужэй завязваючы хустку на галаве, спытала:

— А навошта ён табе патрэбен? Хай…

Але бацька перарваў яе:

— Дзе ты пакінула трыццаць тысяч?

Маці збялела:

— У куфры замкнуты… пад ложкам.

Бацька нахіліўся і з цяжкасцю выцягнуў з-пад ложка жалезную скрыню. Замок быў зламаны. На нейкі час у бацькі адняло мову, і ён толькі страшна варочаў вачыма, пасля раз’юшана закрычаў:

— Бачыце, вы бачыце?!

Рыўком падняў века і пачаў выкідваць адтуль матчыны рэчы. Грошай не было. Ён падняўся, падышоў да акна і, нібыта звяртаючыся да кагосьці на вуліцы, крыкнуў:

— Скраў! Дармаед скраў трыццаць тысяч…

Пасля павярнуўся да маці:

— Ты добра памятаеш, што паклала іх сюды?

Маці, усхваляваная гэтым здарэннем, адказала:

— Так, ты ж сам паклаў іх сюды… І ключ узяў.

Бацька прытуліўся да сцяны, прысеў на кукішкі, утаропіўся ў паветра і раптам адчайна заплакаў:

— Што ж мы будзем рабіць? Мы, бяздомныя… — і змоўк, апусціўшы галаву на калені.

Пасля трохі ачомаўся і загаварыў:

— Было трыццаць тысяч… Калі б былі яшчэ дваццаць тысяч, мы маглі б спадзявацца, што калі-небудзь зможам жыць усе разам, пад уласным дахам. А цяпер гэтыя трыццаць тысяч страчаны, прайграны… І больш не вернуцца. Божа, Божа! Што ж мы будзем рабіць?

Ён паглядзеў на маю сястрычку. Устаў, узяў яе на рукі і пачаў цалаваць, прыгаворваючы:

— Што ж вы будзеце рабіць? Вы, бяздомныя… Вы загінеце…

Мой малодшы брат, назіраючы за гэтай сцэнай, жудасна зарагатаў, яго галава схілілася на грудзі. Бацька павярнуўся да яго. Мы чакалі, што ён схопіць ручку, якая ляжала побач, і шпурне ў сына. Але ён не зрабіў гэтага, а падышоў да яго, прытуліў да сваіх грудзей, пацалаваў яго валасы і прамармытаў:

— Небарака… Бедны мой хлопчык… Што вы будзеце рабіць у гэтым горадзе, у гэтым зачараваным горадзе?

Раптам ён кінуўся да акна, расчыніў яго і закрычаў:

— Хай будзе пракляты гэты горад, зачараваны горад!

Ён азірнуўся і, гледзячы на нас, пачаў смяяцца:

— Гэтыя трыццаць тысяч наш дармаед прайграў… Наш няшчасны дармаед… Трыццаць тысяч… А калі б яны і не зніклі, які толк ад іх у гэтым горадзе, у гэтым зачараваным горадзе?

Бацька зноў пачаў рагатаць. Раптам твар яго скрывіўся, быццам ён глынуў нешта кіслае. Стары прыціснуў руку да грудзей, вохнуў і паваліўся на падлогу.

Маці падбегла да яго:

— Што, што здарылася?

Але бацька не адказваў. На ягоным твары ўжо не было ні пакуты, ні стомы — ён быў спакойны, як дзіця, якое ў сне забылася на ўсе свае засмучэнні.

Маці да крыві параздзірала сабе пазногцямі шчокі і толькі наважылася загаласіць, як звонку пачуліся цяжкія крокі. Праз імгненне ў дзвярах з'явіўся радасны і вясёлы старэйшы брат. Твар яго ззяў ад задавальнення, якога хлопец і не хаваў. Ён убачыў бацьку, які ляжаў на падлозе, і ціха спытаў:

— Спіць?

Яму ніхто не адказаў. Тады ён закрычаў:

— Пабудзіце яго… Ён казаў: калі б у нас было яшчэ дваццаць тысяч, мы купілі б дом… Я прынёс восемдзесят тысяч… восемдзесят тысяч…

Ён размахваў стосам грошай і паўтараў:

— Восемдзесят тысяч… восемдзесят тысяч…

Пасля, здзіўляючыся з нашага маўчання, падышоў бліжэй, зірнуў бацьку ў твар і ўсё зразумеў. Вочы яго напоўніліся слязьмі, грошы выслізнулі з рук. Мне падалося, што на бацькавым твары прамільгнула ледзь прыкметная ўсмешка — можа, ён усміхаўся гэтаму зачараванаму гораду…

**Саід Іхсанула ХЭЙР**

## Дзве жонкі

Мой бацька і бацька Акбара былі роднымі братамі, а маці нашы — роднымі сёстрамі. З гэтай прычыны мы, дзеці, сябравалі паміж сабой мацней, чым з дзецьмі іншых сваякоў. Я ў сваёй сям'і была старэйшай дачкой, Акбар жа ў сваёй — старэйшым сынам. Мой бацька быў маладзейшы за свайго брата — бацьку Акбара.

Бацькі нашы мелі агульную гаспадарку, і з маленства я памятала, што двор у нас таксама быў агульны, а ежа гатавалася ў адным катле. На той час паміж нашымі сем'ямі не было ніякіх непаразуменняў, не кажучы ўжо пра сваркі. Сёстры — мая маці і маці Акбара — вельмі любілі адна адну, і дзякуючы ім паміж нашымі дамамі панавалі мір і згода. Мы ж з Акбарам заўсёды гулялі разам і былі вельмі адданыя адно аднаму. Безумоўна, тады мы яшчэ не ведалі, што бацькі заручылі нас. Акбар надзвычай любіў мяне і заўсёды дзяліўся са мной цацкамі і цукеркамі. Калі ж і здараліся паміж намі невялікія непаразуменні, ён заўсёды першым імкнуўся памірыцца і суцешыць. Дзіцячыя дабрыню і спагаду Акбара я не забыла дагэтуль, аднак пазней, у гады расстання, гэтыя ўспаміны прынеслі мне многа пакут.

Той час і тое жыццё можна было б, бадай што, назваць райскімі, ва ўсякім разе, такімі яны падаюцца мне цяпер. Бацька і дзядзька працавалі, не ведаючы стомы, і ўсё заробленае было ў іх агульным. У тыя дні, калі збіралі ўраджай, яны вярталіся з поля вясёлыя і ніколі не скардзіліся на лёс. На ўсім нібы ляжала пячатка боскага блаславення, і ўсе мы, асабліва я і Акбар, пачуваліся шчаслівымі і не ведалі гора.

Так праходзілі нашы дзіцячыя гады, і вось нарэшце мы з Акбарам зрабіліся надта дарослымі, каб працягваць ранейшыя гульні. Я займалася хатнімі справамі — дапамагала маці і цётцы, — і гэта праца не здавалася мне цяжкай. Акбар жа рабіў у полі разам з мужчынамі. Мы па-ранейшаму кахалі адно аднаго, але цяпер ужо саромеліся сямейнікаў і хавалі свае пачуцці. Маці і цётка вучылі мяне ўсяму таму, што павінна ведаць жанчына і будучая гаспадыня.

Бацька ж мой так палюбіў Акбара, што часцяком паўтараў:

— Падумаць толькі, Акбар, якім ты працавітым хлопцам выгадаваўся! А мы, гледзячы, як ты ў маленстве ўсё з дзяўчынкамі гуляў, баяліся, што цяжкая праца будзе табе не па сілах. Бач ты, якім у дзяцінстве быў лайдаком і якім цяпер зрабіўся працаўніком!

Так міналі месяцы і гады, пакуль мне не споўнілася трынаццаць, а Акбару пятнаццаць гадоў. І хоць Акбар быў старэйшы за мяне на два гады, ён выдаваўся маім аднагодкам — дзяўчат пачынаюць лічыць дарослымі раней, чым юнакоў. Людзі казалі, што па ўзросце мы не пара, але мы не зважалі на такія размовы, і каханне наша год ад году рабілася мацнейшым, як каханне Ляйлы і Мяджнуна ці Фархада і Шырын[1].

Але шчасце не бывае працяглым: я яшчэ не паспела зрабіцца жонкай Акбара, як нашы бацькі пасварыліся. Калі людзі спрабуюць памірыць сваякоў ці сяброў, якія варагуюць, дык звычайна кажуць ім: «Нічога не паробіш, і родныя браты часам не ладзяць». Якраз гэта і адбылося ў нашай сям'і. Мой бацька і дзядзька так незалюбілі адзін аднаго, што, нягледзячы на ўзаемную схільнасць нашых маці, мы з Акбарам рассталіся на доўгі час. Нашы родныя больш не вялі разам гаспадарку, да таго ж мой бацька не хацеў болей жыць у адным двары з братам, і мы перасяліліся ў лядашчую хаціну на самай ускраіне вёскі. Мы з маці па першым часе вельмі пакутавалі. Прамінула амаль два гады, перш чым бацька змог пазычыць грошай і пабудаваць на сваёй дзялянцы невялікі дом.

Маці пераехала ў новы дом і зрабілася трохі весялейшай, але разлука з любай сястрой і пляменнікамі па-ранейшаму засмучала яе, а я не магла забыць Акбара. Увесь гэты час нас з маці не пакідала надзея, што не сёння-заўтра браты паміраццa, але не пражылі мы ў новым доме і два месяцы, як па вёсцы пачала гуляць чутка, што бацька Акбара хоча ажаніць свайго сына з іншай дзяўчынай.

Прайшло яшчэ колькі часу, і высветлілася, што гэта праўда: Акбара заручылі з дачкой яшчэ адной маёй цёткі. Усе ведалі, што дзядзька зладзіў тыя заручыны толькі для таго, каб пакрыўдзіць маіх бацькоў — тыя і праўда балюча перажывалі новую бяду. Не раз бацька і маці гаварылі, што такое здараецца — браты і сёстры сварацца, а пасля мірацца, але старэйшы брат, відаць, не жадае мірыцца, затаіў зло ў сэрцы.

Пагаворвалі, што ў сварцы больш вінаваты мой бацька. Калі маці наракала аднойчы на бацьку Акбара і сваю сястру, вясковыя кабеты сказалі ёй:

— Бацькі Акбара спачатку і не думалі ажаніць яго з іншай, ды надта ж пакрыўдзіўся бацька Акбара, што малодшы брат нават не паспрабаваў памірыцца з ім, не падумаў, што мір і згода ў сям'і жаданыя для Алаха. І як гэта без яго, старэйшага брата, дазволу твой муж пабудаваў сабе дом на іх агульнай, непадзельнай зямлі, хоць не меў права рабіць гэтага. Бацька Акбара пачува-

[1] Ляйла і Мяджнун, Фархад і Шырын — вобразы закаханых, якія сімвалізуюць у класічнай паэзіі Блізкага і Сярэдняга Усходу вернасць і сілу пачуццяў.

ецца зняважаным, таму і хоча ажаніць сына: маўляў, «калі малодшы брат так робіць, дык я, старэйшы, павінен яго правучыць».

Пасля заручынаў майго любага так казалі ўсе на вёсцы. Сяя-тая з жанчын спрабавала мяне суцешыць. Але я слухала, не ўзнімаючы вачэй, і ад сораму не магла вымавіць ніводнага слова.

Прамінуў яшчэ год, і вось па вёсцы разнесліся гукі бубна. Яшчэ дні дватры нявеста развітвалася з вясковымі дзяўчатамі — сваімі сяброўкамі, а тады паклікалі музыкаў і згулялі вяселле.

Прыкладна ў гэты ж час прыйшла да нас мая цётка, маці Акбаравай нявесты, і пачала прабачацца перад бацькам. Што толькі яна яму не гаварыла!

— Дачцэ маёй, відаць, наканавана выйсці за Акбара, і што б ні здарылася, ты на мяне за гэта зла не трымай і сэрца сваё дарэмна не развярэджвай. Старэйшы брат не хоча варагаваць з табою, і я вось выбачаюся. Ты павінен дараваць мне і з братам памірыцца. Варажнеча і сваркі нічога добрага не прынясуць, вы ж браты. Раней людзі зайздросцілі той згодзе і паразуменню, што былі паміж вамі, не давайце ж і цяпер сваім ворагам радавацца, не засмучайце сяброў. Усе гэтыя тры гады я праз вашу зваду проста як у агні гарэла. Не рабі глупстваў, браток, паслухай мяне! Мы з братам старэйшыя за цябе, ты мусіш паважаць нас.

Падчас гэтай размовы я ціхенька сядзела ў кутку і толькі ўпотай пазірала на бацьку і на цётку. Было зразумела, што цётчыны словы не толькі не супакойвалі бацьку, а, наадварот, гнявілі яго яшчэ больш. Ён доўга не мог загаварыць. Нарэшце цярпенне яго скончылася.

— Слухай, жанчына! Ёсць такая прымаўка: «Вочы вачэй саромеюцца». Але цяпер яна, відаць, састарэла, цяпер шмат у каго ў вачах сораму няма. Вось хоць бы і ты. Калі б у цябе было сумленне, хіба ты змагла бы глядзець мне ў вочы, без цырымоніі з’явіцца ў мой дом і, не саромеючыся ні родных, ні людзей, аддаць сваю дачку за хлопца, калі ўся вёска ведала, што ў яго ўжо ёсць сужэнка?..

Аднак цётку бацькавы словы зусім не збянтэжылі.

— Як ты адважваешся так гаварыць са мною? — перарвала яна. — Я старэйшая за цябе, да таго ж знаходжуся ў тваім доме. Добры гаспадар ніколі не скажа госцю гэткіх зняважлівых і крыўдных слоў.

Яны доўга спрачаліся. Нарэшце цётка раззлавалася і пайшла, пакрыўджаная. Навокал разносіліся гукі музыкі, песень, людзі радаваліся — уся вёска гуляла на вяселлі Акбара. Толькі мяне і маіх бацькоў гэтыя гукі ранілі, як удары нажа.

Так працягвалася тры дні. На чацвёрты дзень сваякі нявесты з танцамі і спевамі, пад стрэлы з ружжаў і крыкі вясковых хлопчыкаў адвялі нявесту ў дом дзядзькі, у той двор, дзе раней жылі мы. Ад засмучэння і перажыванняў мой бацька захварэў, і пакуль ляжаў хворы, надумаўся аддаць мяне замуж. Але не за Акбара, безумоўна. Гэтая думка, відаць, яму была да душы — так ён за яе ўхапіўся. Але маці не згаджалася з ім і гаварыла:

— Не трэба, не рабі гэтага. Хоць ты і пасварыўся з братам, але няма ў афганцаў такой завядзёнкі — аддаваць ужо заручаную дзяўчыну замуж за іншага. Тады ўвесь наш род напаткае вялікае гора.

Сэрца маё сціскалася ад думкі, што бацька і на самай справе можа здзейсніць свой намер. Надта бедавала я ў той час і неаднойчы маліла Госпада, каб ён пашкадаваў мяне, каб памякчэла бацькава сэрца і не здзейсніў ён грэшнага ўчынку. Нарэшце чуткі пра маё замужжа дапялі да дзядзькавых вушэй. Яго

сям'я адразу занепакоілася, бо калі б я, сужэнка Акбара, пайшла за іншага, гэта было б вялікай ганьбай для ўсёй нашай сям'і.

Калі мой бацька трохі паздаравеў, дзядзька вырашыў, відаць, што адкладаць перамовы пра маё вяселле больш нельга, прыйшоў пацікавіцца бацькавым здароўем і паводзіў сябе так, нібы паміж імі ніякай звады ніколі не было. Ён сядзеў ля бацькавага ложка, а бацька ўсё адварочваўся ад яго і гаварыў:

— Брат, я ж пакуль што яшчэ жывы. Вось памру, тады і прыходзь, зрабі ласку.

Але дзядзька не крыўдаваў, абдымаў бацьку і пераконваў яго, што, маўляў, адбылося тое, чаму наканавана было адбыцца, што нельга варагаваць да Страшнага суда і самы час больш не злавацца.

Так яны і паміраліся. Праз некалькі дзён прыйшлі іншыя нашы сваякі, і ўсе казалі, што яны радуюцца прымірэнню братоў. Надта радаваліся і мая маці з цёткай, якія нарэшце сустрэліся пасля доўгага расстання. Толькі мы з Акбарам яшчэ не бачыліся, і я не ведала, радасць ці гора чакае мяне ў будучым.

Дзядзька хацеў як найхутчэй згуляць маё вяселле з Акбарам, хоць гэта было і нялёгка для яго — ён яшчэ не разлічыўся з пазыкамі пасля першага вяселля. Таму дзядзька сказаў бацьку, што, маўляў, на старыя крыўды трэба забывацца, што гаворка ідзе пра захаванне сямейнага гонару і афганскіх традыцый, і паколькі ў яго, дзядзькі, не хапае сродкаў на шматлюднае вяселле, дык можна зрабіць яго больш сціплым. Бацька адказаў, што ён не патрабуе, каб вяселле яго дачкі было больш пышным за першае Акбарава вяселле, але ні ў якім разе не можа пагадзіцца, каб яно было горшым. У крайнім выпадку хай брат не сплачвае яму выкупу за нявесту, але пачастунак і ўсё іншае павінна быць такім самым. Дачка ж у яго не ўдава, каб аддаваць яе замуж ціха і сціпла. І хай Акбар больш не думае жаніцца — трэба быць прыстойным чалавекам і паважаць жонку, і без таго глыбока пакрыўджаную.

Хочаш не хочаш, а дзядзьку давялося пазычыць грошай у суседняй вёсцы, але ж вяселле ён мне зрабіў добрае, як і трэба згодна са звычаем. І вось прывялі мяне ў дом мужа.

У першы ж вечар, як я выйшла з пакоя для маладых, адразу ўбачыла той двор, што пакінула тры з паловай гады таму, двор, дзе прайшло маё дзяцінства, двор, з якім былі звязаны найдаражэйшыя ўспаміны. Бясспрэчна, я радавалася, што звадкі паміж нашымі сем'ямі так ці інакш уладжаны і я дасягнула мэты свайго жыцця — зрабілася жонкай Акбара. І ўсё ж, нягледзячы на ўсё маё каханне да яго, пачувацца шчаслівай я не магла. Акбар быў не толькі маім, усё жыццё мне наканавана было дзяліць яго з іншай жанчынай. Ды і сама гэта жанчына, Халіма, хоць і даводзілася мне стрыечнай сястрой і ў дзяцінстве мы вельмі сябравалі, цяпер паводзіла сябе так, быццам я была зусім чужой у гэтым доме.

Не пражыла я тут і некалькі дзён, калі зразумела, што Акбар зусім мяне не кахае, а ўсім сэрцам адданы сваёй першай жонцы. Новае жыццё павярнулася да мяне новым горам, новымі перажываннямі. Але, як бы там ні было, я паранейшаму кахала Акбара, хоць цяпер ён быў да мяне абыякавым і ўжо ніколі не глядзеў на мяне так, як той Акбар, якога я ведала ў юнацтве. Я цярпела, але кожны дзень усё больш пераконваў мяне ў тым, што ўсе мары, якія я песціла раней, развеяліся, як прыдарожны пыл. Калі б не суцяшэнне і добрае стаўленне свякрухі, я наўрад ці вытрымала. Да таго ж дзядзька нядобра да мяне ставіўся: кожны раз, калі да яго прыходзіў хто з крэдытораў, ён надта злаваўся, а злосць зрываў на мне. Першыя чатыры-пяць месяцаў я ўсё ж не магла

паскардзіцца на Акбара і Халіму: калі яны і даймалі мяне, дык толькі позіркамі, усмешкамі, абыякавасцю. Але неўзабаве справа дайшла да лаянкі і нават да пабояў. А напрыканцы года я адчула, што ў мяне будзе дзіця. Мае бацькі не забываліся пра мяне: маці ўвесь час наведвала, распытвала пра жыццё-быццё, а бацька раз у месяц забіраў мяне дамоў.

У доме свёкра я амаль не знаходзіла падтрымкі. Свякроўка не адважвалася непасрэдна ўмешвацца і толькі моўчкі назірала за хітрыкамі Халімы. Цяпер, калі я чакала дзіця, Халіма надта злавалася, бясконца імкнулася пасварыцца са мною, а пасля пачала нават біцца. Акбара яна ўвесь час падбухторвала, гаварыла, што я, маўляў, у іх не да кампаніі, што я зрабілася сварлівай і невыноснай, што ён павінен узяць развод, каб яны з ім маглі жыць спакойна. Акбар адказваў, што і сам быў бы рады пазбавіцца ад мяне, аднак жа не ў звычаі ў афганцаў выганяць з дому дачку роднага дзядзькі.

У прызначаны тэрмін Алах падараваў мне прыгожага, здаровага сына, які зрабіўся маім суцяшэннем. Кажуць, што жонка, якая нарадзіла сына, — самая любая ў мусульман. Але і нараджэнне сына не змагло павярнуць сэрца Акбара да мяне. Ён заставаўся па-ранейшаму абыякавым, зусім не звяртаў увагі на мяне, думаў і клапаціўся заўсёды толькі пра Халіму. Наш маленькі сынок гадаваўся гарэзам і быў такім добрым і прыгожым, што нават чужыя людзі маглі расчуліцца, гледзячы на яго. Бабуля толькі тое і рабіла, што гуляла з ім, ды і свёкар пасля нараджэння ўнука зрабіўся ласкавейшы да мяне. Але Акбару было ўсё роўна. Халіма была для яго такой дарагой, што ён нават да бацькоў не выказваў належнай павагі з-за таго, што яны надта любілі ўнука і былі на маім баку. Нарэшце Акбар зусім пасварыўся з бацькамі і перасяліўся разам з Халімой у дом яе бацькі, кінуў мяне адну з маленькім сынам.

Жыццё ішло сваім парадкам. Халіме Алах так і не даў дзяцей, а я, з яе ласкі, засталася з сынам дажываць свой век у бацькоўскім доме ўдавой пры жывым мужы.

***З пушту. Пераклад Ірыны КАЧАТКОВАЙ.***

**Юлія АЛЕЙЧАНКА**

# САВЕЦКІЯ ПАЭМЫ ЯНКІ КУПАЛЫ: МЕТР І СЭНС

Асэнсоўваючы творчасць многіх таленавітых пісьменнікаў XX стагоддзя з пазіцый сучаснасці, літаратуразнаўцы нязменна сутыкаюцца з пытаннем, наколькі арганічнай была іх творчасць у гады савецкай улады, наколькі творца дазваляў сабе кампраміснае мысленне, як пераасэнсоўваў няпростую грамадскую сітуацыю, у якой апынуліся яго сучаснікі. Агульнавядома, як пакутліва перажывалі дадзены перыяд класікі беларускай літаратуры. Выключэннем, безумоўна, не быў і Янка Купала. Сутыкнуўшыся з усталяваннем новых парадкаў, ён прымаў Кастрычніцкую рэвалюцыю з дэмакратычных пазіцый, але балюча ўспрымаў бяздумнае разбурэнне, паступовую дэвальвацыю нацыянальных, адраджэнскіх ідэй, схематызм асобы «савецкага чалавека». Паказальным з’яўляецца той факт, што на працягу 1916—1917 гг. Янка Купала не напісаў ніводнага верша…

«У 20-я гады Беларусь, як вядома, надоўга ператварылася ў сацыяльна-эксперыментальны палігон па будаўніцтву так званага новага грамадства. У духоўным сэнсе сутнасць гэтага будаўніцтва зводзілася к таму, каб як найхутчэй адрачыся ад усяго нацыянальнага. Нараджэнне і фарміраванне новай пралетарскай культуры на Беларусі павінны былі адбыцца адначасова з разбурэннем культуры нацыянальнай, з адмаўленнем ад спадчыны. На першы план на доўгі час выйшла барацьба з “праклятым мінулым”», — заўважае Уладзімір Гніламёдаў [4, с. 173]. Горка-саркастычна гучаць радкі Янкі Купалы 1924 г.:

Мне Бацькаўшчынай цэлы свет,
Ад родных ніў я адвярнуся…
Адно… не збыў яшчэ ўсіх бед:
Мне сняцца сны аб Беларусі! [6, т. 4, с. 124].

І гэта пры тым, што Янка Купала абсалютна не адмаўляецца ад грамадскай актыўнасці: працуе намеснікам загадчыка літаратурна-выдавецкага аддзела Народнага Камісарыята асветы БССР па ўкладанні і апрацоўцы беларускай тэрміналогіі, уваходзіць у склад навукова-рэдакцыйнай камісіі Наркамасветы, рэдагуе часопіс «Вольны сцяг», плённа працуе ў часопісе «Полымя». Аднак менавіта такі асабісты досвед і дапамагае паэту ўбачыць тыя пралікі і свядомыя ўчынкі ўлады, што ніяк не стасаваліся з яго патрыятычнымі ідэямі. Псіхалагічнае ўздзеянне, цэнзурныя санкцыі, допыты даводзяць Янку Купалу да спробы самагубства. «Адкрыты ліст», думаецца, быў адзіным шанцам у дадзенай сітуацыі захаваць жыццё паэта і магчымасць тварыць, хай сабе і ў нечым і кампрамісна. Безумоўна, творы, прысвечаныя будаўніцтву савецкай рэчаіснасці, прайграюць у вобразнай аб’ёмнасці творам шчырым, «пражытым». Аднак нават плакатнае, кан’юнктурнае геніяльны паэт не можа ствараць бяздарна і схематычна. Паэмы, напісаныя ў савецкі перыяд, не губляюць характэрнай для Янкі Купалы шырыні ахопу падзей, нацыянальнай, каларытнай вобразнасці, шчыльнай сувязі з беларускай гісторыяй. Што, канешне, не адмаўляе неабходнасці «шукаць іх прычынныя сувязі з новай эпохай, а таксама з узмацненнем тых тэндэнцый, што выразна выявіліся ў суседніх літаратурах» [2, с. 75].

Такім быў асноўны эмацыйны, мысленчы пасыл удумлівага паэта. Аднак разглядаць савецкую ліра-эпіку Янкі Купалы, як, зрэшты, усю вершаваную

спадчыну песняра, немагчыма без акрэслення цеснай сувязі паміж зместам і формай. Сучаснае вершазнаўства цалкам прымае гістарычную сувязь зместавых і фармальных элементаў паэтычнага выказвання. Можна з упэўненасцю гаварыць пра метр як асаблівы механізм культурнай памяці. Менавіта такой пазіцыі прытрымліваўся М. Гаспараў у сваім даследаванні «Метр і сэнс» [3]. Прыроду сувязі паміж сэнсам і метрам аўтар называе гістарычнай. Кожны метр, на яго думку, мае «семантычны арэал» (сукупнасць усіх семантычных афарбовак дадзенага памеру, якія складваліся з цягам часу ў рамках пэўнай літаратурнай традыцыі). Тэрмін «семантычная афарбоўка», наадварот, выкарыстоўваецца як адпаведнік пэўнай тэмы, жанру, як індывідуальная тэматычная або жанравая варыяцыя. Трэба адзначыць, што маецца ў наяўнасці не толькі семантычны арэал метра. Да асобнай страфы, рыфмы і г. д. названы тэрмін таксама цалкам стасуецца. Іншымі словамі, у паэтычным радку ўсе элементы працуюць на стварэнне непаўторнага сэнсавага напаўнення, выяўлення індывідуальных аўтарскіх перажыванняў, выкліканых асабістымі матывамі, уплывам сацыяльнага і культурнага асяроддзя. Але ў той жа час яны падкрэсліваюць і гістарычную пераемнасць у рамках літаратурнай традыцыі. Менавіта такі шлях «семантызацыі», адмаўлення ад грубага фармалізму пры разглядзе рытма-метрычнай асаблівасці творчасці паэта мы лічым найбольш перспектыўным і прыдатным для нашага даследавання.

Падрабязна разгледзім у гэтым ключы адзін з найбольш метрычна і рытмічна разнастайных твораў названага шэрагу — паэму «Безназоўнае» (1924). Гэта першая паэма Янкі Купалы савецкага часу, у многім пераломная і наватарская як для самога паэта, так і для тагачаснага стану развіцця літаратуры. Янка Купала асэнсоўвае падзеі Грамадзянскай вайны, рэвалюцыі, нацыянальнага будаўніцтва. Бясспрэчна, што рашэнне ўрада аб пашырэнні тэрытарыяльных межаў БССР стала своеасаблівым штуршком для нараджэння ў Янкі Купалы, чуйнага да ўсіх сацыяльна-гістарычных падзей Беларусі, падобнай задумы. М. Піятуховіч пісаў пра асаблівасці арганізацыі паэмы наступнае: «Ацэньваючы агульныя вынікі Кастрычніцкай рэвалюцыі, Янка Купала ўзвышаецца да гістарычнага погляду, добра разумеючы, што гэта рэвалюцыя выяўляе сабой новы этап у сусветнай гісторыі» [9, с. 110]. Галоўнай каштоўнасцю паэмы з'яўляецца «гістарызм светаадчування» [2, с. 95], калі паэтычнае мысленне паўстае глабальным, перадае думкі і настроі шырокіх народных мас. Прычым робіцца гэта ў глыбока алегарычнай, сімвалічнай форме. Як і ў грамадзянскай лірыцы Янкі Купалы, так і ў паэме «Безназоўнае», выяўляецца цікавая тэндэнцыя да выкарыстання народна-песеннай стылістыкі для ўзмацнення грамадзянскага гучання. Асабістыя перажыванні цесна павязаны з агульнымі, што ў нечым збліжае твор Янкі Купалы з паэмай А. Блока «Дванаццаць».

Форма лірычнага выказвання ў паэме Янкі Купалы вельмі лагічная і прадуманая. Кожная з дзесяці частак твора, што адлюстроўваюць розныя этапы сацыяльна-гістарычнага развіцця краіны, напісана ў асобным рытма-метрычным ключы. Гэта значыць, што дадзены твор з'яўляецца ці не самым яскравым у творчай спадчыне Янкі Купалы прыкладам «рытмічнай кампазіцыі». Заканамерна, што «пералом ад памеру да памеру суправаджаецца пераломам у змесце» [5, с. 26].

Першая частка, своеасаблівы запеў, выяўляе чаргаванне ўнутры страфы трохстопнага амфібрахія з двухстопным дактылем (Ам3Д2Ам3Д2). Трэба адзначыць, што Янка Купала і раней часта выкарыстоўваў чаргаванне разнастопных радкоў дзеля стварэння дынамікі, рытмічнай напружанасці. Аднак на пачатку яго творчага шляху гэта, у асноўным, адбывалася ў межах аднаго вершаванага памеру. Напрыклад, у першым зборніку Янкі Купалы «Жалейка» (1908) дамінуе харэй з рэгулярным чаргаваннем чатырох- і трохстопных радкоў (Х4343), які складае 17,1 % ад агульнай колькасці радкоў зборніка. Дадзены вершаваны памер генетычна ўзыходзіць да народнага каламыйкавага верша. Што да першай часткі паэмы «Безназоўнае», то і тут мы выразна адчуваем водгулле народных інтанацый. Трохскладовыя памеры беларускай сілаба-тонікі — выразны працяг традыцый ананімных гутарак і казанняў. Сімволіка гэтай часткі таксама характэрная для фальклору (народныя вобразы буры, нябесных свяціл, чырвоных кветак).

А ўдалае выкарыстанне ў першай частцы паэмы анжамбемана і ўнутрырадковых паўз яшчэ больш падкрэслівае імклівасць нарастання людской нязгоды з існуючым грамадскім ладам:

Скаваная сіла паўстала
Бурай... навалай...
Надзелі чырвоныя кветкі
Нашы палеткі [6, т. 6., с. 120].

Другая частка твора, што апісвае «будаўніцтва на іншы склад і лад» — ямбічная. Функцыі купалаўскага ямба — даволі розныя. Сустракаецца ён і ў значнай частцы грамадзянскай лірыкі паэта, і ў рамантычных, філасофскіх паэмах «Магіла льва», «Яна і я». У гэтым, безумоўна, адчуваецца пераемнасць Янкам Купалам класічных літаратурных традыцый. Менавіта ямбам напісаны паэмы «Шыльёнскі вязень» Джорджа Байрана і «Мцыры» Міхаіла Лермантава. Але трохстопны ямб другой часткі «Безназоўнага» цікава «аркестраваны» чаргаваннем дактылічных і мужчынскіх рыфм:

Масты старыя спалены —
Старыя ланцугі;
Паложаны падваліны
Пад новыя сцягі [6, т. 6, с. 120].

Зноў тая ж імклівасць і вялікая энергія радка, але ўжо створаная іншымі сродкамі. Дарэчы, дэманструючы ўпэўненае асваенне шырокай палітры сілаба-танічных памераў, Янка Купала выкарыстоўвае ў паэме і чатырохстопны (дзявятая частка) і пяцістопны (дзясятая частка) ямбы. Апошні, дарэчы, з'яўляецца вельмі рэдкім для беларускай літаратуры памерам. А ў Янкі Купалы ён выдатна гучыць у радках паэм «Яна і я» і «Безназоўнае».

Тая ж разнастайнасць у стопнасці і рыфме ў харэі «Безназоўнага», якім напісаны сёмая (Х4х3Х4х3) і восьмая (Х5454) часткі паэмы. Уздым лірычнага настрою, паказ народнай перамогі і веры ў лепшую будучыню ўдала адлюстроўваецца пры дапамозе частых выклічнікаў, зваротаў:

— Вы, — хтось кажа асцярожна, —
Не ўсе ў грамадзе...
— Гэй, дарогу, лях вяльможны!
Беларусь ідзе [6, т. 6, с. 126].

Не змог Янка Купала абысціся ў падкрэслена народнай па духу паэме і без літаратурнага танічнага верша, які «паяднаў асноўныя прыкметы сілаба-танічнага і народнага верша ў яго інтанацыйна-сказавай разнавіднасці (т. зв. былінны верш»)» [10, с. 14]. У паэме «Безназоўнае» — дзве яго разнавіднасці: двухакцэнтны шасціскладовік і двухакцэнтны васьміскладовік. Што цікава, у кожным з выпадкаў (у трэцяй і шостай частцы паэмы) бачым апісанне застольнага «балявання». Толькі калі спачатку балююць ворагі, што павінны панесці расплату за гэтакі пачастунак, то пазней паэт пераходзіць да карціны «вясельнай бяседы» маладой Беларусі:

Беларусь на куце
Ў хаце сваёй села, —
Чарка мёду ў руцэ,
Пазірае смела [6, т. 6, с. 124].

Такім чынам, паэму «Безназоўнае», без перавелічэння, можна лічыць важкім дасягненнем купалаўскага вершавання. Ён тонка, інтуітыўна адлюстроўвае тэматычныя і настраёвыя змены пры дапамозе заканамерных змен рытма-метрычнага малюнка. Гэта ўнікальны па разнастайнасці твор, кожная частка якога дэманструе асобны вершаваны памер (двухскладовыя і трохскладовыя сілаба-танічныя памеры і памеры літаратурнага танічнага верша). Вельмі багатая і палітра асноўных і дапаможных рытмастваральных сродкаў. У дадзеным выпадку маем справу з яскравым прыкладам рытмічнага вядзення тэмы, своеасаблівай рытма-метрычнай

семантызацыяй, калі кожны элемент формы знаходзіцца ў гарманічным суладдзі са зместам твора.

Нельга скласці ўражанне аб савецкім перыядзе творчасці Янкі Купалы і без паэм «З угодкавых настрояў», «Над ракой Арэсай», «Барысаў», «Тарасова доля». Даволі розныя ў плане семантычнага напаўнення, вершаванай арганізацыі, яны таксама ў многім дапамагаюць зразумець псіхалогію творчасці паэта ў няпросты гістарычны час.

Дарэчы, паэма «З угодкавых настрояў» (1927) мае ўжо на пачатку даволі выразны для чытача маркёр — падзагаловак «Да дзесяцігоддзя Кастрычніцкай рэвалюцыі», які дадаткова падкрэслівае «мэту» яе напісання. Не дзіўна, што на сучасным этапе з'явілася катэгарычнае вызначэнне яе як «дзяжурнай, пазначанай штучным пафасам вершаванкі» [1, с. 197]. М. Лазарук, аналізуючы жанравае вызначэнне «З угодкавых настрояў», заўважае: «Твор лірыка-публіцыстычны, па структуры нагадвае цыкл вершаў на тэму рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны. Адзінства тэмы, храналагічнае апісанне падзей, якія ўтвараюць своеасаблівы сюжэтны стрыжань твора, даюць падставу разглядаць яго як паэму» [7, с. 232]. Такая не вельмі шчыльная сувязь кампазіцыйных частак між сабой — прадказальная. Яны нагадваюць народныя песні з асобным сюжэтам і сродкамі выразнасці. Падкрэсленая экспрэсіўнасць, «святочнасць» ствараецца пры дапамозе яшчэ больш стракатага арсенала выяўленых сродкаў, чым у паэме «Безназоўнае». Звяртаюць на сябе ўвагу традыцыйныя фальклорныя вобразы: «Паласкаліся ў росах чырвоных разоры», «Дзе сякуць, там лятуць шчэпкі проч», «Запалялася сонца аб сонца агніста», «Уцякала за ночкаю ночка за горы». Уводзяцца ў тэкст і рэмінісцэнцыі з песні «Ад тайгі да брытанскіх марэй», народных прыказак («Дзе прапала кароўка за ноч — прападай і вяроўка») і нават са «Слова аб палку Ігаравым» («Іржуць коні, калёсы скрыпяць ад Дону да Бугу»). Нярэдка сустракаюцца ў частках паэмы паўторы асобных строф, што выразна нагадваюць песенныя прыпевы:

Зацымбалілі цымбалы,
Забубнелі бубны,
Як вярталіся з паходу,
З бойкі вельмі труднай [6, т. 6, с. 132].

Дынаміку ўзмацняюць і ўнутрырадковыя пераносы:

Рассыпаліся прыскам палацы
І вежы,
Гудам водгулле-рэха ляцела
За межы [6, т. 6, с. 131].

На тое ж працуе чаргаванне розных тыпаў сумежнай рыфмоўкі:

На дзясятыя угодкі,
Хоць ноч доўга, дзень кароткі,
Разважае ўвесь народ,
Які выйшаў умалот [6, т. 6, с. 133].

Звяртаецца Янка Купала і да ўлюбёнага на больш раннім этапе творчага развіцця чаргавання ў межах страфы разнастопнага харэя (Х4343), народжанага з народнай каламыйкі:

Не забылі добры людзі
Ваяка за долю,
Што злажыў сваю галоўку,
Як травінку ў полі [6, т. 6, с. 132].

Таксама маем у творы прыклады чыстага чатырохстопнага харэя. Выкарыстанне яго ў паэме «З угодкавых настрояў», думаецца, таксама не выпадковае. «Спецыфіка 4-ст. харэя — гэта яго сувязь з песняй: яна прасочваецца ў сілабатанічным харэі і яго сілабічных аналагах розных еўрапейскіх моў і, відаць, тлумачыцца тым, што песня для дакладнасці рытму аддае перавагу памеру з моцным

месцам на першым складзе, без затакта, г. зн. харэй, а не ямб», — сцвярджаў М. Гаспараў [3, с. 193]. Янка Купала і раней выкарыстоўваў дадзены памер у падобнай сэнсаўтваральнай функцыі. Згадаем хаця б вершы цыкла «Песні вайны», якія выразна нагадваюць народныя галашэнні. Народна-песенная вобразнасць, настраёвасць і ў адпаведных радках паэмы «З угодкавых настрояў»:

Не елася, не спалася,
Куды там падвяселіцца,
Як гэта раскілзалася
Чырвоная мяцеліца [6, т. 6, с. 130].

Арганічна глядзяцца і прыклады літаратурнага танічнага верша, двухакцэнтнага шасціскладовіка ў своеасаблівым запеве аб «воклічы па хатах».

Як бачым, добра ўсвядоміўшы ідэю багатых выразных магчымасцей «рытмічнага вядзення тэмы», метрычных пераломаў у межах буйных твораў, Янка Купала працягвае і далей гэтую традыцыю.

Вельмі падобным пафасам, наборам выяўленчых сродкаў, эмацыйным пасылам і паэмы «Над ракой Арэсай» (1933), «Барысаў» (1934). Цалкам зразумела, што яны — прадукт сваёй эпохі, якая вымагала ад пісьменніка дакладнага следавання партыйна-ідэалагічным патрабаванням. Аналізуючы тэндэнцыі літаратурнага працэсу нашай краіны сярэдзіны мінулага стагоддзя, У. Гніламёдаў адзначае: «Адна з самых распаўсюджаных і ўхвальных зверху формаў паэтычнага асваення рэчаіснасці 30-х гадоў — непасрэдны водгук на падзеі, адлюстраванне жывой канкрэтыкі сацыяльна-грамадскіх працэсаў. Звычайна гэта былі творы ілюстрацыйнага плана, адзначаныя публіцыстычнасцю і дакументалізмам. Яны ствараліся ў форме лірычнага дзённіка ці рэпартажу, вытворнага нарыса або замалёўкі працоўных будняў» [4, с. 201]. Такім «лірычным рэпартажам» можна назваць і паэму «Над ракой Арэсай». Паэтычны аповед заснаваны на рэальных фактах жыцця камуны, што займалася асушэннем Мар'інага балота ў Любанскім раёне. Пакідае Янка Купала ў творы і рэальныя прозвішчы дзейных асоб. Аднак не ўсё так адназначна ў ліра-эпічнай плыні: канкрэтныя назіранні за працай людзей суправаджаюцца характэрнымі для Янкі Купалы гістарычнымі абагульненнямі, фальклорнымі алюзіямі. Але ўсё ж моцна адчуваецца як бы наўмысная спрошчанасць вобразнай сістэмы, некаторая штучнасць нават у апісанні традыцыйнага жыцця палешукоў (што, здавалася б, наадварот, адкрывае шырокія магчымасці для стварэння каларытных вобразаў):

Скукуе зязюля
Адвечнае ку-ку,
Паліча бабуля,
Ці шмат яшчэ мукаў [6, т. 6, с. 136].

Спрошчаная і схема рыфмоўкі ў раздзеле «Замест уступу», напісанага кароткімі радкамі трохстопнага харэя:

А не чуў я песні
Пра жыццё камуны,
Слаўных камунараў,
З сваёй справы думных [6, т. 6, с. 134].

Водгулле народных гутарак чуецца ў трохстопных радках, наступнага раздзела «Аб мінулым», што перарываюць імклівую плынь «запеву». А далей — ізноў адчуванне вялікай энергіі змешанай формы харэя ў апісанні зладжанага змагання з прыродай. Дадаткова рытм працы падкрэсліваецца ўнутрырадковым чляненнем, радамі аднародных членаў:

Безлік хлопцаў-звадыяк,
Дзядзькаў барадатых,—
Пілы вострыя ў руках,
Тапары, лапаты [6, т. 6, с. 137].

Тая ж рытмічная разнастайнасць і ў паэме «Барысаў» (1934), таксама прысвечанай «працоўным подзвігам». На гэты раз — рабочых і калгаснікаў Барысаўшчыны, якія праявілі ініцыятыву ўзвесці помнік У. І. Леніну. Ад апісання павольнай плыні ракі Бярозы (радкі ўсечанага пяцістопнага ямба з анафарычнымі паўторамі) паэт пераходзіць да апісання актыўнай стваральнай працы (радкі трохстопнага і змешанага харэя, часам даўжынёй у некалькі слоў). Рэзкае змяненне рытмічнага малюнка спрацоўвае на сэнсавае выдзяленне фіналу твора, які падкрэслівае пафас дзяржаўнага абнаўлення.

Асабняком стаіць у шэрагу названых паэм савецкага перыяду паэма «Тарасова доля» (1939), прысвечаная памяці Тараса Шаўчэнкі. Быццам бы і падкрэсліваючы плакатную ідэю «дружбы народаў», Янка Купала ўкладае ў твор шмат асабістага, цёплага, сардэчнага. «Мастацкі змест “Тарасовай долі” зарыентаваны не столькі на дакладнае апісанне жыцця і дзейнасці Тараса Шаўчэнкі, колькі на пранікнёнае суперажыванне яго лёсу. Біяграфічныя факты служаць імпульсамі, што актывізуюць лірычны роздум аўтара, глыбокія разважанні як аб долі Кабзара, так і аб долі яго народа», — зазначаў М. Лазарук [8, с. 589]. Нядзіўна, што паэма актуалізуе традыцыю наследавання народнага каламыйкавага верша, добра вядомага і Тарасу Шаўчэнку, і Янку Купалу: «Шаўчэнка і Купала, запазычваючы ў народна-песеннай творчасці сілабічны ў сваёй аснове леонінскі верш (каламыйкавы), не спакусіліся, аднак, лёгкасцю звычайнага пераймання. Наадварот, яны зрабілі яго рытмічна больш разнастайным, эўфанічна багацейшым, у выніку чаго ён стаў выключна экспрэсіўным і дынамічным, надзвычай меладычным і інтанацыйна гнуткім», — канстатуе І. Ралько [11, с. 107]. Напрыклад, у творчасці Т. Шаўчэнкі знаходзім наступны прыклад творчай інтэрпрэтацыі фальклорнай структуры традыцыйнай каламыйкі:

Вітер в гаї не гуляє —
Вночі спочіває;
Прокинеться — тихесенько
В осоки питає [12, с. 164].

У Янкі Купалы падобны тып вершаванай арганізацыі мае багатыя рытмаўтваральныя магчымасці, аблягчае страфічную будову верша, дапамагае пазбегнуць манатоннасці інтанацый:

Ходзіць гоман па Ўкраіне
У святочных шатах...
Гаманіць Дняпро са стэпам
Аб вялікім святу [6, т. 6, с. 171].

«Беларускі савецкі эпас нарадзіўся на теравале дзвюх эпох, рэзка абазначаных на календары чалавечай гісторыі», — трапна адзначаў М. Арочка [2, с. 44]. На жаль, без ахвяр прайсці гэты цяжкі перавал удалося не кожнаму пісьменніку. Схематызм, штучны пафас — даніна часу, даніна патрабаванням сацыялістычнага рэалізму. «Босыя на вогнішчы» М. Чарота, «Кругі», «І пурпуровых ветразей узвівы», «Штурмуйце будучыні аванпосты» У. Дубоўкі… У шэраг твораў «эпасу рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва» ўпісаны і паэмы Янкі Купалы. Разглядаючы іх з пазіцый сучаснасці, можна адзначыць некаторую спрошчанасць і абстрактнасць вобразнай сістэмы. Аднак да трафарэтнасці і клішэ паэт не зніжаўся ніколі. Савецкія паэмы Янкі Купалы раскрываюць шырокі гістарычны кантэкст, дэманструюць добрае веданне паэтам фальклору беларускага народа. Удала карыстаецца Янка Купала і рытмічным вядзеннем тэмы. Паэмы названага перыяду — добрыя прыклады рытма-метрычнай семантызацыі. Яны ўнікальныя па разнастайнасці рытмічнага малюнка ў межах аднаго твора. Усе, акрамя паэмы «Тарасова доля», поліметрычныя. Дасканалае развіццё двухскладовых і трохскладовых памераў беларускай сілаба-тонікі, а таксама літаратурнага танічнага верша, разуменне арганічнай сувязі паміж метрам і сэнсам — вялікая заслуга Янкі Купалы-лірыка.

## Спіс літаратуры:

1. Арлоў, У. А. Дзесяць вякоў беларускай гісторыі (862 — 1918): Падзеі. Даты. Ілюстрацыі / У. А. Арлоў, Г. М. Сагановіч. — Вільня: Наша будучыня, 2002. — 221 с.
2. Арочка, М. М. Беларуская савецкая паэма / М. М. Арочка. — Мінск: Навука і тэхніка, 1979. — 333 с.
3. Гаспаров, М. Л. Метр и смысл: об одном механизме культурной памяти / М. Л. Гаспаров. — М.: РГГУ, 2000. — 297 с.
4. Гніламёдаў, У. В. Янка Купала: Жыццё і творчасць / У. В. Гніламёдаў. — Мінск: Беларус. навука, 2002. — 237 с.
5. Дуброўскі, А. У. Паэтыка Рыгора Барадуліна: рытмічная арганізацыя верша / А. У. Дуброўскі. — Мінск: Рэйплац, 2006. — 128 с.
6. Купала, Я. Поўны збор твораў: у 9 т. — Мінск: Маст. Літ., 1995—2003.
7. Лазарук, М. А. «З угодкавых настрояў» / М. А. Лазарук // Янка Купала: энцыкл. даведнік / рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) і інш. — Мінск: БелСЭ, 1986. — 727 с.
8. Лазарук, М. А. «Тарасова доля» / М. А. Лазарук // Янка Купала: энцыкл. даведнік / рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) і інш. — Мінск: БелСЭ, 1986. — 727 с.
9. Піятуховіч, М. Асноўныя этапы развіцця лірыкі Янкі Купалы / М. Піятуховіч // Янка Купала ў літаратурнай крытыцы / пад рэд. З. Жылуновіча, М. Байкова. — Мінск: Белар. дзярж. выд-ва, 1928. — 259 с.
10. Рагойша, В. П. Літаратуразнаўчы слоўнік: тэрміны і паняцці / В. П. Рагойша. — Мінск: Нар. асвета, 2009. — 303 с.
11. Ралько, І. Д. Беларускі верш. Старонкі гісторыі і тэорыі / І. Д. Ралько. — Мінск: Выш. школа, 1969. — 232 с.
12. Шевченко, Т. Г. Повне збірання творів: в 12 т. / Т. Г. Шевченко. — Київ: Наук. думка, 2001. — Т. 2: Поэзія 1847—1861. — 784 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 28 красавіка 2017 года.

## Рэзюмэ

## Юлія АЛЕЙЧАНКА
## Савецкія паэмы Янкі Купалы: метр і сэнс

УДК 821.161.3

У артыкуле разглядаюцца зместавыя і фармальныя дамінанты ліра-эпікі Янкі Купалы савецкага часу. Аналізуюцца рытма-метрычныя асаблівасці паэм «Безназоўнае» (1924), «З угодкавых настрояў» (1927), «Над ракой Арэсай» (1933), «Барысаў» (1934), «Тарасова доля» (1939). Акрэсліваецца характар сувязі вершаванага метра і сэнсу.

**Ключавыя словы:** Янка Купала, паэма, метр, семантычны арэал метра, рытм, рытмічная кампазіцыя.

## Summary

## Yuliya ALEICHANKA
## Soviet poems of Yanka Kupala: metre and meaning

The article deals with sense and formal dominants of Yanka Kupala lyric-epic works of Soviet period. It gives a detailed analysis of rhythmic-metrical features of poems «Bjeznazownaje» (1924), «Z ugodkavyh nastrojaw» (1927), «Nad rakoj Aresaj» (1933), «Barysaw» (1934), «Tarasova dolja» (1939). The author describes the nature of relation between verse metre and meaning.

**Keywords:** Yanka Kupala, poem, metre, semantic association, rhythm, rhythmic composition.

**Нурыех ГАРБАНІ ЭБРАХІМІ**

# НА ШЛЯХУ ДА СВАЙГО ЎЗВЫШША:
## дзейнасць іранскага літаратурна-мастацкага часопіса «Бахара» ў новай культурнай сітуацыі

Тры тысячы гадоў існавання іранскай літаратуры звязаны з войнамі і перамяшчэннем народаў. Перш чым аформіцца ў межах сучаснай дзяржавы, Іран то разрастаўся да памераў гіганцкай імперыі, то распадаўся на халіфаты. Як і беларусы, іранцы нястомна змагаліся за сваю нацыянальную тоеснасць, і ў эпоху арабскіх заваёваў, якія пачаліся ў VIII стагоддзі, імкнуліся перадусім захаваць святая святых — мову фарсі. Іранскі народ выжыў таму, што яго ратавалі мова, культура, літаратура, яны ацалялі і ажыўлялі яго, як гэта ўмеў рабіць знакаміты персідскі лекар Ібн Сіна.

За тысячу гадоў да нашай эры, у часы, калі іранскія жывёлаводы насялялі тэрыторыю ад Гіндукуша да вусця Дона і ад Урала да Персідскае затокі, нарадзілася іранская Кніга кніг — «Авеста», энцыклапедыя зараастрызму, якая нароўні з «Бібліяй» і «Каранам» фарміравала аблічча будучай цывілізацыі.

Класічны ўздым іранскай літаратуры звязаны з імёнамі Фірдоўсі, Рудакі, Амара Хаяма, Румі, Нізамі, Хафіза і сотнямі іншых аўтараў, якія стварылі сапраўднае ўзвышша іранскай літаратуры, якое здзівіла Еўропу, асабліва за часамі Асветніцтва, калі Іаган Вольфганг Гётэ напісаў свой знакаміты цыкл вершаў «Усходні дыван». Іранская літаратурная класіка натхняла беларускіх літаратараў і перакладчыкаў — Максіма Багдановіча, Пімена Панчанку, Рыгора Барадуліна. Прыгадаем цыкл верашаў «Іранскі дзённік» (1944) Пімена Панчанкі, у якім культурная мінуўшчына Ірана спалучылася з бурлівым жыццём Тэгерана за часамі Другой сусветнай вайны.

Хваля войн і рэвалюцый, якая ахапіла палітычнае жыццё Ірана ў XX стагоддзі, на пэўны час запаволіла развіццё найноўшай іранскай літаратуры, якая няраз трапляла пад прэс жорсткай цэнзуры, забаронаў, абмежаванняў або звычайнай недаацэнкі яе ролі ў развіцці грамадства. Істотныя змены адбыліся пасля ісламскай рэвалюцыі (1979 г.), як у самой літаратуры, так і ў звязанай з ёю журналістыцы. Сучасная іранская літаратура і журналістыка робяцца больш разнастайнымі, мяняюцца іх формы і стылі, але больш значныя перамены адбываюцца на ўзроўні зместу. Узмацняецца маральны, каштоўнасны характар творчасці. Іранскія аўтары звяртаюцца да актуальных праблем сучаснасці, імкнуцца, як гэта рабілі старажытныя майстры, уплываць на грамадскую думку, быць уладарамі новых ідэй. Яны ўсведамляюць, што жывуць у глабалізаваным грамадстве, у культурнай прасторы якога пашырана масавая культура, і імкнуцца проціпаставіць ёй творы, пазбаўленыя банальнасці і пустаты. Адзіным спосабам перамогі ў гэтай сітуацыі аўтары бачаць паварот да класікі, да традыцыйных каштоўнасцей, якія вытрымалі праверку часам.

Да такога павароту пісьменнікаў у многім змусілі новыя палітычныя выпрабаванні.

У 1980—1988 гг., калі адбыўся ваенны канфлікт паміж Іранам і Іракам, у літаратуру Ірана ўвайшла тэма «святой абароны». На працягу значнага часу мастацкае пісьменства набыло змагарскі, абарончы характар. Значную частку літаратурнай прасторы занялі творы, напісаныя на тэму ісламскай рэвалюцыі і «святой абароны».

Так або інакш, у літаратурна-мастацкіх выданнях Ірана канца XX — пачатку XXI стагоддзя дамінуе маральна-этычная тэматыка, якая мае выразную рэлігійную аснову. Неадменнымі канстантамі з'яўляюцца такія паняцці, як «вера ў Бога», «вера ў Судны дзень», «выкананне законаў і правілаў Бога і яго прарока Мухамеда», «вера ў уваскрэсенне». У творах уздымаюцца пытанні выхавання і адпрацоўваюцца базавыя мадэлі грамадскіх паводзінаў — узаемадапамога, супрацоўніцтва, сямейныя каштоўнасці, працавітасць, павага да правоў іншых, выкананне грамадскіх правілаў і законаў. Гэта не замінала іранскай літаратуры і журналістыцы ў апошнія гады рухацца ў класічным кірунку.

Першы погляд на сучасную літаратуру і журналістыку дазваляе канстатаваць іх колькасны рост. Сучаснае насельніцтва Ірана складае 79 мільёнаў чалавек, удзельная вага людзей творчых прафесій таксама немалая. Выходзіць больш за 60 літаратурна-мастацкіх выданняў, якія прызначаюцца пераважна для шырокай чытацкай аўдыторыі. Яны вылучаюцца канкрэтным чытацкім адрасам, мэтавым прызначэннем і выконваюць пэўныя сацыяльныя функцыі.

Новую культурную сітуацыю, у якой развіваюцца сучасныя літаратурна-мастацкія іранскія СМІ, можна вызначыць наступным чынам: пранікненне ў інфармацыйную прастору элементаў масавай культуры, рэгуляванне дзейнасці СМІ з боку ўлады і неабходнасць пошуку нязмушанага развіцця літаратуры і звязанай з ёю прэсы ў бок мадэрнізацыі і аднаўлення нацыянальнай класічнай традыцыі.

На фоне выданняў, якія арыентуюцца на высокія наклады і іншыя колькасныя параметры, вылучаецца недзяржаўны літаратурна-мастацкі часопіс «Бахара», які выходзіць раз на два месяцы, карыстаецца вялікім аўтарытэтам, выдаецца на працягу 19 гадоў і налічвае ў сваім архіве больш за 100 нумароў. Да ісламскай рэвалюцыі папярэднікамі «Бахары» былі літаратурна-мастацкія часопісы «Сохан», «Ягма» и «Аяндэх», якія дзякуючы сваёй актыўнасці занялі ў літаратурным жыцці краіны дастаткова высокія пазіцыі. Гэтыя часопісы імкнуліся, з аднаго боку, захаваць традыцыі старажытнаіранскай літаратуры і культуры, а з іншага, спрыяць мадэрнізацыі сучаснай персідскай літаратуры. На жаль, пасля рэвалюцыі гэтыя выданні спынілі сваё існаванне, але з'явіўся часопіс «Бахара», які стаўся іх паслядоўнікам. Яго з'яўленне было выклікана патрэбамі тых пісьменнікаў і літаратурных крытыкаў, якія былі зацікаўлены ў якасным росце іранскай літаратуры і пераадоленні яе ізаляцыі ў кантэксце сусветнай літаратуры. Як мы ведаем, у літаратурным працэсе Беларусі сярэдзіны 1920-х гадоў таксама быў момант, калі асобныя прадстаўнікі масавай літаратурнай суполкі «Маладняк» адчулі неабходнасць у пераходзе колькасці ў якасць, арганізавалі новую суполку — «Узвышша» (1926), часопіс з аднайменнай назвай і паабяцалі стварыць літаратуру, якой здзівіліся б вякі і народы.

Выданне часопіса «Бахара» пачалося летам 1998 г. пад рэдакцый Алі Дэхбашы. Дагэтуль, з 1990 г., ён узначальваў культурна-мастацкі часопіс «Келк». Гэтае выданне было надзвычай папулярнае сярод усходазнаўцаў і па сваёй культуралагічнай, інтэлектуальнай скіраванасці падобнае да часопіса «Бахара».

Горад Бухара, які даў назву часопісу, знаходзіцца на тэрыторыі сучаснага Узбекістана. Ён надзелены найстаражытнейшай гісторыяй, гэта горад-музей, які калісьці належаў Персідскай імперыі і выгадаваў цэлую плеяду навукоўцаў, паэтаў. Назва часопіса нагадвае пра карані іранскай гісторыі, культуры, мастацтва і вызначае класікацэнтрычны кірунак выдання. Само слова «Бахара» ў старажытнаіранскай літаратуры ўжывалася як сінонім уздыму навук і мастацтваў.

На жаль, сёння часопіс моцна залежыць ад эканамічнай сітуацыі і пакутуе з-за адсутнасці дзяржаўнай падтрымкі, матэрыяльных цяжкасцей, з-за чаго выходзіць нерэгулярна. Як у свой час беларуская «Наша ніва», «Бахара» шукае фундатараў, друкуе рэкламу, спадзяецца на падтрымку чытачоў. Паміж публікацыямі сустракаюцца аб'явы, у якіх рэдактар просіць аўдыторыю своечасова аплачваць падпіску. Невыпадкова ў 37 нумары часопіса ў раздзеле «Слова рэдактара» з'явілася рубрыка «Сумны аповед», у якой Дэхбашы Алі скардзіўся на праблемы з

выданнем часопіса. На першай паласе кожнага нумара змяшчаецца рэклама, якая, у адрозненне ад астатняй часткі часопіса, друкуецца ў колеры, чым і прыцягвае да сябе ўвагу.

На сучасным этапе тэмп развіцця большасці друкаваных выданняў абумоўлены дынамікай змены інфармацыйнай прасторы, але і візуальны вобраз выдання адыгрывае таксама значную ролю. Часопіс «Бахара» не мае кідкага візуальнага вобраза, бо ўвага рэдактара і аўтараў засяроджваецца на змесце. Усе публікацыі, графічныя выявы і фатаграфіі вытрыманы ў чорна-белым колеры. Уплыў знешняй формы, візуальных сродкаў і колеравых рашэнняў, якія маглі б прыцягнуць увагу аўдыторыі, наўмысна мінімалізаваныя і не падкрэсліваюць камерцыйную перавагу перыядычнага выдання перад іншымі. Павышэнне кантраснасці акцэнтных элементаў — загалоўкаў, ілюстрацый — не выходзяць за межы агульнапрынятых стандартаў. Вокладка кожнага нумара мае свой колер, але гэта не больш чым фон. На каляровым фоне прадстаўлена чорна-белая фатаграфія героя нумара — выбітнага іранскага пісьменніка, што таксама адпавядае візуальнай канцэпцыі нумара.

Манаграфічная кампазіцыя нумара, дзе дамінуе постаць значнай літаратурнай асобы, у нечым нагадвае аблічча беларускага часопіса «Крыніца» 1990-х гадоў.

«Бахара» змяшчае эксклюзіўную інфармацыю па іраністыцы, літаратуры, мастацтве як роднай краіны, так і іншых краін свету. Дамінантай нумара з'яўляецца літаратурная крытыка, але змяшчаюцца ў ім і матэрыялы, разнастайныя паводле жанру і тэматыкі. Прэзентуюцца новыя літаратурныя — айчынныя і замежныя — выданні, друкуюцца рэпартажы, жыццёвыя гісторыі, нарысы, літаратурныя партрэты, разнастайныя літаратуразнаўчыя і культуралагічныя артыкулы, гістарычныя дакументы, вершаваныя творы, анатацыі, бібліяграфічныя матэрыялы, фотаздымкі. Найбольш сталымі аўтарамі часопіса з'яўляюцца вядомыя іранскія пісьменнікі, літаратуразнаўцы, крытыкі, такія, як Ірадж Афшар (даследчык у галіне культуры і літаратуры), Шафіі Кадкані (пісьменнік і літаратуразнаўца), Даруш Шайган (філосаф), Алі Дэхбашы (літаратуразнаўца і журналіст), Джале Амузагар (даследчык старажытных моў) ды іншыя.

Сярод іншых літаратурна-мастацкіх выданняў «Бахара» вылучаецца вялікім аб'ёмам і колькасцю рубрык. Кожны нумар падобны да кнігі і адпавядае вобразнаму вызначэнню «тоўсты часопіс». Павелічэнне аб'ёму выдання, пашырэнне блока матэрыялаў літаратурна-мастацкай тэматыкі не замінае часопісу аператыўна адгукацца на актуальныя падзеі літаратурнага і культурнага жыцця краіны. Алі Дэхбашы сам рыхтуе падрабязную інфармацыю пра літаратурныя канферэнцыі і іншыя мерапрыемствы. Чытачы знаёмяцца з творчасцю сучасных пісьменнікаў, інтэрпрэтацыяй твораў забытых або напаўзабытых майстроў. Не цураецца часопіс раней забароненых тэм. Прыкладам таму служыць матэрыял: «Доктар Яхсан Нарагі на фоне сацыялогіі і сучаснай гісторыі Ірана», у якім даказваецца, што пісьменнік, навукоўца, які адкрыў сацыялагічны факультэт у Тэгеранскім універсітэце, які быў незаслужана асуджаны за сувязь з шахам, пазней апраўданы і сёння заслугоўвае поўнай рэабілітацыі і ўшанавання (№ 91, 2013 г.). Вядома, што такога кшталту рэабілітацыі беларускіх пісьменнікаў, навукоўцаў мелі масавы характар пасля завяршэння сталінскай эпохі і паўплывалі на змест літаратурна-мастацкіх СМІ Беларусі, асабліва часопіса «Полымя», у якім друкаваліся раней забароненыя творы М. Гарэцкага, А. Мрыя, К. Крапівы ды іншых.

Такім чынам, часопіс «Бахара» мае ў сваёй дзейнасці выразны папулярызатарскі і асветніцкі аспект.

Рэдактар і яго калегі распрацавалі арыгінальную рубрыку «Ноч памяці», якая прысвячаецца выбітным дзеячам іранскай і замежнай літаратуры, чые партрэты, як ужо адзначалася вышэй, выносяцца на вокладку часопіса. Гэтая рубрыка займае палову кожнага нумара, і ў яе патрапілі ўжо такія постаці, як Рабіндранат Тагор, Гюнтэр Грас, Восіп Мандэльштам, Пэтэр Хандке, Умберта Эка, Ханна Арэндт, Вірджынія Вулф, Хушанг Эбтэхаж, Бахрам Бейзаі ды іншыя. Паводле арыгінальнай задумы, цэлую ноч пісьменнікі, выдаўцы, рэдактары, крытыкі, навукоўцы

праводзяць у роздуме над творчасцю і жыццём той або іншай выбітнай асобы, вынікам чаго робяцца разнастайныя даклады, паведамленні, артыкулы, выказванні. Вядома, у нумары публікуюцца і творы яго героя. Напрыклад, 120 старонак аднаго з апошніх нумароў часопіса (№ 109, 2016 г.) было прысвечана спадчыне Абдул-Рахіма Джафары, заснавальніка і былога дырэктара прыватнага выдавецтва «Амір Кабір», якое з'яўляецца адным з найбуйнейшых у Іране і на Блізкім Усходзе. Гэты раздзел уключае ў сябе такія матэрыялы, як «З успамінаў пра жыццё майго бацькі», «У чаканні світанку», «Гастон Галімар быў у Іране», «Чым займаўся Джафары», «Геній Абдул-Рахіма Джафары», «Абдул-Рахім Джафары ў аналах ЮНЕСКА», «Асобы і падзеі ва ўспамінах пра Джафары» ды іншыя.

З іншых вядомых сучасных іранскіх пісьменнікаў, якія патрапілі ў ганаровую рубрыку, можна адзначыць такіх, як Махамед Алі Джамалзадэх (1892—1997), празаік і перакладчык. Ён стаў заснавальнікам новага іранскага апавядання і пісьменнікам, якога лічаць першым рэалістам Ірана. Зборнік апавяданняў «Жылі-былі», выдадзены ў Берліне, з'яўляецца яго галоўнай кнігай. Абдул-Хусейн Зарынкуб (1923—1999) — знакаміты літаратуразнаўца, гісторык і літаратурны крытык. Ён з'яўляецца аўтарам шматлікіх прац па гісторыі ісламу, багаслоўя і схаластыкі, суфізму і гісторыі навук. Такія яго кнігі, як «Вялікія адкрыцці і дасягненні чалавецтва», «Каштоўнасці суфійскай спадчыны» і «Ісламская цывілізацыя» былі перакладзены на шматлікія мовы, у тым ліку і на рускую. Абдулах Анвар (1925) — вядомы перакладчык. Ён перастварыў на фарсі «Творчую эвалюцыю» французскага філосафа Анры Бергсона, «Філасофскія працы» аўстрыйскага філосафа і логіка Людвіга Вітгенштэйна і шмат якія іншыя.

На сучасным этапе абмену інфармацыяй, нягледзячы на канкурэнцыю друкаваных выданняў з электроннымі часопісамі і высакахуткаснымі сайтамі, часопіс «Бахара» рэгулярна выдаецца раз на два месяцы і мае сваю сталую чытацкую аўдыторыю. За 18 гадоў існавання часопіс здолеў паглынуць значны сегмент рынку літаратурна-мастацкага друку і высока ўзняў планку якасных характарыстык зместу сваіх матэрыялаў.

Разнастайныя публікацыі развіваюць у чытачоў глыбокае разуменне літаратуры і мастацтва, прасочваюць уплыў гістарычных падзей і рэлігійных ідэй на развіццё літаратуры, а таксама паказваюць уплыў старажытнай культуры Ірана на сучасную літаратурную сітуацыю.

Напрыклад, у артыкуле «Некалькі пытанняў пра паэзію Хафіза» (№ 109, 2016 г.) аўтар Махамед Рэза Шафіі Кадкані (паэт, літаратуразнаўца) разглядае паняцце «віно» ў паэзіі і культуры Ірана, у творчасці Хафіза, Амара Хаяма і Сібака Нэйшбуры, класікаў старажытнай іранскай літаратуры. У паэтычных зборніках Сібака Нэйшбуры — «Хамары» і «Асрары» — паняцце «віно» сустракаецца нават часцей, чым у вершах Амара Хаяма і Хафіза. Паэт апавядае пра звычаі, звязаныя з ужываннем віна, яго перавагах і заганах, пра ўжыванне віна ў медыцынскіх мэтах, дае практычныя парады (віно не рэкамендуецца прымаць адначасна з ежай, бо гэта перашкаджае добраму яго засваенню). Паняцце «віно» ў творчасці кожнага з паэтаў мае пераноснае значэнне, ужываецца як сімвал глыбокай, усепаглынальнай, містычнай любові да Бога, у якой душа чалавека можа патануць.

Шырока прадстаўлены ў часопісе партрэтны нарыс, пра перавагі якога слушна разважае даследчык журналістыкі А.Тэртычны: «Сутнасць публікацыі дадзенага тыпу заключаецца ў тым, каб даць аўдыторыі пэўнае ўяўленне пра героя выступлення. Вырашаючы гэту задачу, журналіст, як правіла, у першую чаргу імкнецца раскрыць самае галоўнае — паказаць, якія каштоўнасці адстойвае гэты герой, у чым бачыць сэнс свайго існавання [1, с. 251]. Напрыклад, партрэтны нарыс «Марзбан Парвіз маімі вачыма» Алі Дэхбашы прысвяціў перакладной творчасці названага пісьменніка. У артыкуле аналізуюцца версіі п'ес Оскара Уайльда «Ідэальны муж» (1895) і «Жанчына, не вартая ўвагі» (1893), якія Марзбан Парвіз пераклаў адпаведна ў 1956 г. і 1964 г. Майстар перастварыў два з чатырнаццаці тамоў «Гісторыі цывілізацыі» Уільяма Джэймса Дзюранта і іншыя творы, пра што распавядаецца ў сотым нумары часопіса за 2014 г.

Яшчэ адзін прыклад. Партрэтны нарыс «Фрыдрых Рукерт і свет персідскай мовы» прысвечаны нямецкаму паэту, перакладчыку і іраністу. Аўтар Алі Дэхбашы даводзіць, што пераклады Фрыдрыхам Рукертам іранскіх твораў на нямецкую мову сталі прычынай сапраўднага буму цікавасці да фарсі ў Германіі (№ 91, 2012 г.).

У часопісе друкуюцца такія вядомыя іранскія рэпарцёры, як Таранэх Маскуб, Хамід Расі, Аскар Бахрамі, Алі Тарафдары ды іншыя. С. Гурэвіч адзначае, што «задача любога рэпарцёра заключаецца перш за ўсё ў тым, каб даць аўдыторыі магчымасць убачыць апісаную падзею вачыма відавочца (рэпарцёра), г. зн. стварыць эфект прысутнасці» [2, с. 87]. Яскравым прыкладам такога эфекту з'яўляецца рэпартаж Алі Махамеда Тарафдары «Сем міністраў і сем мудрацоў (параўнальна-гістарычны аналіз твора «Сіндбад-намэ»)» (№ 103, 2014 г.), прысвечаныаднайменнай трохдзённай навуковай канферэнцыі, якая праводзілася ў Жэнеўскім універсітэце ў лістападзе 2014 г. Таранэх Маскуб у рэпартажы «Памятная ноч Наджаф Дарабандары» разважае пра творчасць сучаснага іранскага пісьменніка і перакладчыка (№ 100, 2014 г.). Такім чынам, рэпартаж на старонках «Бахары» можа разглядацца не толькі як інфармацыйны, але і літаратурна-крытычны жанр.

У часопісе шырока прадстаўлены артыкулы па літаратуры, лінгвістыцы, гісторыі і развіцці цывілізацыі. Аўтарамі з'яўляюцца такія вядомыя іранскія пісьменнікі і літаратуразнаўцы, як Махамед Рэза Шафіі Кадкані, Абдул-Хусейн Азаранг, Турадж Дараі, Даруш Шайган ды інш. Прыкладам, артыкул «Вера і правілы зораастрызму ў "Шахнамэ" Фірдоусі» з'яўляецца рэцэнзіяй на кнігу «Паняцце зораастрызму паводле "Шахнамэ" і Заратустры, вера і правілы». Кніга, якую напісаў доктар Колсум Газанфары ў 1979 г., была апублікавана ў Германіі на англійскай мове. Артыкул знаёміць аўдыторыю з зараджэннем зораастрызму ў Іране на падставе паэмы «Шахнамэ» (№ 100, 2014 г.).

Лінгвістычны артыкул «Мова і канцэпцыя камунікацыі» (№ 103, 2014 г.) тлумачыць асновы паняцця канцэнтрацыі камунікацыі і паказвае яе сувязь з мовай. У артыкуле «Прынцыпы казачнага аповеду ў персідскай літаратуры» Махамед Рэза Шафіі Кадкані, абапіраючыся на старажытную іранскую літаратуру, сцвярджае, што практыка расказвання казак цягам гадоў была вядомая пісьменнікам і навукоўцам, яе перадавалі з пакалення ў пакаленне, але раней ніхто не разглядаў яе як навуку. Аўтар звязвае гэтую практыку з канцэпцыяй fiction therapy, якая стала папулярнай на Захадзе толькі ў другой палове XX стагоддзя (№ 91, 2012 г.).

Даследчык Н. Маслава адзначае, што «падарожны нарыс, як і некаторыя іншыя журналісцкія жанры, належыць да найбольш ранніх формаў тэкстаў, якія пазначылі станаўленне журналістыкі. Відавочна, гэта тлумачыцца тым, што падобная да падарожнага нарыса форма адлюстравання рэчаіснасці была ледзьве не першай у мастацкай літаратуры» [3, с. 256]. Маецца на ўвазе такі жанр старажытнай літаратуры, як хаджэнне, пашыраны ў іранскай, беларускай ды іншых літаратурах свету. Водгаласам гэтага жанру стаўся матэрыял «Падарожжа ў Канаду» (№ 109, 2016 г.), пераклад якога ажыццявіў Алі Дэхбашы.

Некаторыя матэрыялы прысвячаюцца памяці творчых асоб, іранскіх і замежных пісьменнікаў, літаратуразнаўцаў, якія нядаўна сышлі з жыцця. Яны нагадваюць пра творчыя здзяйсненні памерлых, з'яўляюцца своеасаблівымі некралогамі або эпітафіямі і займаюць значную частку кожнага нумара.

Апавяданне, хаця і рэдка, але сустракаецца на старонках «Бахары». Каб такое адбылося, трэба, каб твор стаў сапраўднай і значнай літаратурнай падзеяй, служыў яркай падсветкай да творчасці таго або іншага аўтара. Так сталася з апавяданнем «Смажаная гусь», напісаным іранскім пісьменнікам і перакладчыкам Махамедам Алі Джамалзадэхам (№ 103, 2014 г.).

Апавяданне напісана на сучасную тэму, хаця шчыльна звязана з іранскім фальклорам, казкай, а таксама з традыцыяй спецыфічнага персідскага гумару. Напярэдадні Новага года, паводле іранскіх традыцый, стараннія супрацоўнікі фірмаў атрымліваюць павышэнні па службе, прэміі. Так адбываецца і з нашым героем. Атрымаўшы надбаўку, ён запрашае ўсіх сваіх калег на святочную вячэру, усе ахвотна адгукаюцца на запрашэнне.

Дома герой распавёў сваёй маладой жонцы пра запрашэнне. Паколькі яны толькі нядаўна пабраліся, у доме была нястача, не хапала посуду, іншага начыння. Гаспадар прапанаваў пазычыць посуд у суседзяў, але жонка заўважыла, што гэта благая прыкмета — пазычаць посуд для першых гасцей у суседзяў, бо дзіця можа нарадзіцца мёртвым. Доўга яны думалі, што рабіць, і вырашылі падзяліць гасцей на групы, запрасіўшы на розныя дні. Напярэдадні Новага года гаспадыня пачала гатаваць святочную вячэру. Раптам да герояў наведаўся іх далёкі сваяк Мустафа. Ён быў даўгалыгі, неахайны, размаўляў грубым голасам. Гаспадар спахмурнеў і ўсё раздумваў, як бы гэта хутчэй пазбавіцца ад неспадзяванага госця. Тут і маладая жонка загаласіла, што гасцей будзе процьма, а галоўная страва — смажаная гусь — на ўсіх адна. Гаспадар задумаўся, хацеў нават бегчы ў краму, каб штось прыкупіць, але на Новы год у Іране, як і ў Еўропе, крамы зачыняюцца. Тут дапамог сам Мустафа, які паабяцаў, што будзе сядзець разам з гасцямі за святочным сталом. Гаспадары пададуць на стол розныя закускі, садавіну, арэхі, а калі настане чарга для смажанай гусі Мустафа скажа, што ўжо добра пад'еў і адмовіцца ад пачастунку. Тады й госці пасаромеюцца есці, і гусь застанецца на заўтра. Маладыя апранулі Мустафу ў новы касцюм, хораша прыбралі, прычасалі, і ён стаў выглядаць як гжэчны кавалер.

Пры гасцях Мустафа паводзіў сябе годна, забаўляў прысутных байкамі пра краіны, у якіх нібыта пабываў, нават чытаў вершы, якія ён нібыта напісаў, і прысвоіў сабе псеўданім Майстра. Гаспадары самі дзівіліся, што не разгледзелі таленту ў такім нягеглым сваяку. Надышоў час падаваць на стол галоўную страву — смажаную гусь. Яе ўрачыста прынесла гаспадыня. Мустафа пачаў гучна дзякаваць гаспадарам і крычаць, што ён так добра пад'еў, што кавалачак не палезе яму ў горла. Госці яго падтрымалі. Колькі гаспадар і гаспадыня ні прасілі яго, колькі ні кланяліся, Мустафа мужна трымаўся. І тут гаспадыня абвесціла, што гусь наладаваная фаршам, самым што ні ёсць заморскім цымусам. Тады Мустафа здаўся і пакаштаваў кавалачак гусі. Следам за ім госці накінуліся на страву бы коршакі. Ад гусі засталіся хіба што абгрызеныя да бляску костачкі. Тут азваўся тэлефон — новая група сваякоў збіралася ў госці. «Эх, Мустафа, мы ж дамаўляліся», — з дакорам прамовіў гаспадар. «Нашто ж вы яго фаршыравалі і мяне ўгаворвалі», — разважліва адказаў Мустафа. Чалавек пакрыўдзіўся, развярнуўся ды пайшоў, несучы на сабе гаспадароў касцюм.

На тым і скончылася гэтая гісторыя, якая ўвабрала ў сябе як старадаўнія іранскія рэаліі, жыццёвыя і казачныя, так і сучасны побыт. Беларусы, як і іранцы, праводзілі жыццё паміж працай і святам, багаццем і нястачай, маюць аналагічныя сюжэты як ва ўласным казачным фальклоры, так і ў літаратуры новага часу. Варта прыгадаць хаця б сціплыя гастранамічныя вобразы апавядання Змітрака Бядулі «Пяць лыжак заціркі».

«Бахара» памятае ранейшы культурны арэал Персіі і час ад часу звяртаецца да літаратурнага жыцця краін, якія мелі з Іранам агульную гісторыю. У часопісе былі змешчаны матэрыялы «Таджыкскія кнігі і выданні» (№ 91, 2012 г.) і «"Торкестан", першая газета на фарсі ў Асманскай імперыі» (№ 97, 2011 г.), якія паведамляюць пра друкаваныя выданні, літаратурнае і культурнае жыццё замежных краін. Гэтыя матэрыялы напісаны ў жанры агляду. У іх не толькі канстатуюцца культурныя падзеі, але і даецца ацэнка тым або іншым з'явам, змяшчаюцца фрагменты тэкстаў з каментарыямі аглядальніка.

Часопіс скарыстоўвае і жанр інтэрв'ю, які дазваляе ў дыялагічнай форме распавесці пра тую або іншую творчую праблему. Як правіла, суразмоўцам абіраецца асоба, вядомая ў літаратурным свеце. Асабліва цікавыя інтэрв'ю, прысвечаныя дзейнасці іранскага выдавецтва «Амір Кабір» і яго дырэктара Абдул-Рахіма Джафары. Журналісты Сірус Алінеджад і Масуд Бехнавар, якія надрукавалі інтэрв'ю «Буду працягваць працаваць у "Амір Кабір", таму што я не памыліўся» і «Мне хочаццаператварыць "Амір Кабір" у ісламскі слоўнік сяброўства» (№ 109, 2016 г.), выявілі міратворчы, талерантны характар выдання, а таксама пацвердзілі магчымасці гэтага жанру ў галіне літаратурнай крытыкі.

Апошні раздзел часопіса звычайна займаюць водгукі на айчынныя і замежныя выданні, рэцэнзіі на кніжныя навінкі. Прыкладам можа служыць рэцэнзія Сімы Салтані, крытыка, паэткі, на кнігу «Шахрэ Даругха» («Горад хлусні»), напісаную Рамітай Наваі, журналісткай, якая працяглы час жыве і працуе ў Англіі. Яна вярнулася на радзіму на тры гады, першы год працавала карэспандэнтам англійскай газеты «Таймс», якая з 1981 г. друкавалася і ў Іране. Змест аднаго з яе артыкулаў не спадабаўся цэнзуры, і Міністэрства культуры і ісламскага развіцця забараніла ёй друкавацца. За апошнія два гады жыцця ў Іране Салтані сустракалася і гутарыла з рознымі людзьмі ў Тэгеране і на падставе іх вусных аповедаў напісала сваю першую кнігу «Шахрэ Даругха», якая, між іншым, паводле тэхнікі стварэння нагадвае творы беларускай пісьменніцы Святланай Алексіевіч.

Сіма Салтані пачынае рэцэнзію са сцвярджэння, што кніга, магчыма, і не заслугоўвае падрабязнага абмеркавання на старонках такога элітарнага выдання, як «Бахара», бо належыць да масавай, разлічанай на танную сенсацыю літаратуры, але яна набыла папулярнасць, шырока абмяркоўваецца, асабліва ў асяроддзі студэнцкай моладзі. Таму Салтані вырашыла выказаць уласнае меркаванне пра кнігу. Крытык звяртае ўвагу на прызнанне пісьменніцы ў тым, што яна, іранка па паходжанні, не хацела зняславіць усіх сваіх суайчыннікаў і назваць іх хлусамі, але, жывучы ў Тэгеране, яна заўважыла, што гараджане часта бываюць няшчырыя, асабліва ў ацэнцы закрытага палітычнага жыцця ў Іране. Сіма Салтані выказвае меркаванне, што пісьменніца знаёмілася са старажытнай гісторыяй і культурай Ірана толькі з рэсурсаў інтэрнэту і таму ведае яе недастаткова. Ёй балюча чуць такія словы пра суайчыннікаў. Яны настройваюць адных іранцаў супраць іншых. Крытык шкадуе, што ў кнізе не адлюстравалася мудрасць іранскага народа, няма глыбіні погляду і ацэнак, а ёсць толькі наіўнае, разлічанае на танную сенсацыю, імкненне сцвердзіць беспадстаўную думку пра тое, што Тэгеран — горад хлусаў. Крытык выказвае сваю ўпэўненасць у тым, што нельга меркаваць пра ўвесь народ толькі па асобных выказваннях, не ведаючы гэтага народа (№ 100, 2014 г.). Такім чынам, рэцэнзент дастаткова аргументавана, без залішняй катэгарычнасці, у адпаведнасці са стратэгіяй выдання, выказвае сваю думку пра кнігу.

Фарзанех Гуджлу, якая выступае ў якасці крытыка і перакладчыка з англійскай мовы, адрэцэнзавала кнігу Летыцыі Нанкэт (Leatitia Nanquette) «Арыенталістыка супраць вестэрнізацыі: літаратурная і культурная карціна Францыі і Ірана ад часоў іранскай рэвалюцыі». У кнізе, паводле думкі рэцэнзента, адзначаны ўзаемаўплыў культур Ірана і Францыі з далёкіх часоў, прычым ён выявіўся ў літаратурах абедзвюх краін. Крытык адзначае плён такога ўзаемадзеяння, канстатуе імкненне пісьменнікаў дзвюх краін тварыць сур'ёзную літаратуру, будаваць сваё культурнае «ўзвышша», якое магло б прыўзняцца над масавым густам, агульнапрынятымі стэрэатыпамі. Узаемазацікаўленасці пісьменнікаў дзвюх краін не замінае вялікая розніца паміж іх культурамі і традыцыямі, лічаць аўтар кнігі і рэцэнзент.

«Бахара» працягвае літаратурную дзейнасць ранейшых выданняў, якія працавалі да іранскай рэвалюцыі, імкнуліся падтрымаць высокі ўзровень літаратурнай і літаратурна-крытычнай дзейнасці, стварыць своеасаблівае літаратурнае ўзвышша, забяспечанае традыцыямі старажытнаперсідскай літаратуры і, такім чынам, заняў сваю экалагічную нішу ў літаратурным працэсе сучаснага Ірана. Часопіс не толькі прапагандуе і мадэрнізуе, адаптуе да сучаснага ўзроўню ўспрымання старажытную іранскую літаратуру і культуру, але развівае і сучасную персідскую літаратуру, знаёміць чытачоў з найлепшымі здабыткамі сусветнай літаратуры шляхам перакладаў і кампетэнтных каментароў. Імкненне часопіса «Бахара» дасягнуць вяршыняў творчасці, стварыць элітарны ўзровень пісьма можна параўнаць з інтэнцыямі заснавальнікаў беларускага часопіса «Узвышша», якія дэкларавалі сваё жаданне стварыць літаратуру, якой здзівяцца вякі і народы. Грунтоўнасць, традыцыяналізм, акадэмічную вытрыманасць тэкстаў, якія змяшчаюцца ў «Бахары», можна параўнаць з профілем беларускага часопіса «Полымя», на старонках якога друкуецца гэты артыкул.

## Спіс літаратуры:

1. Тертычный, А. А. Жанры периодической печати: учеб. пособие для вузов / А. А.Тертычный. — М.: Аспект пресс, 2000. — 312 с.

2. Гуревич, С. М. Репортаж в газете / С. М. Гуревич. Цыт. па кн.: Тертычный, А. А. Жанры периодической печати: учеб. пособие для вузов / А. А.Тертычный. — М.: Аспект пресс, 2000. — 312 с.

3. Маслова, Н. М. Путевые заметки публицистическая форма / Н. М. Маслова. — М.: Изд-во МГУ, 1977. — 115 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 2 лютага 2017 года.

## Рэзюмэ

**Нурыех ГАРБАНІ ЭБРАХІМІ**

### На шляху да свайго ўзвышша: дзейнасць іранскага літаратурна-мастацкага часопіса «Бахара» ў новай культурнай сітуацыі

У артыкуле аналізуецца дзейнасць сучаснага літаратурна-мастацкага іранскага часопіса «Бахара». Змест выдання разглядаецца на фоне старажытнай культурнай традыцыі Ірана, драматычнай гісторыі краіны, сучаснай літаратурнай сітуацыі. Паказваюцца тэматычнае і жанравае багацце часопіса, літаратурна-крытычны профіль выдання. Спецыфіка «Бахары» заключаецца ў арыентацыі на якасць творчасці, выхаванне мастацкага густу чытача, што дазваляе параўнаць яго з некаторымі беларускімі выданнямі — «Узвышша», «Полымя» ды іншымі.

**Ключавыя словы:** Іран, «Бахара», літаратурна-мастацкі часопіс, культурная традыцыя, тэматычная і жанравая разнастайнасць, арыентацыя на якасць творчасці, мастацкі густ.

## Summary

**Nourieh GHORBANY EBRAHIMY**

### On the way to the rise and the activities of the Iranian literary and art magazine «Bukhara» in a new cultural situation

The article discusses the activities of a contemporary Iranian literary and art magazine «Bukhara». The content of the periodical is analyzed against the background of the ancient cultural tradition of Iran, the dramatic history of the country, and contemporary literary situation. The thematic and genre diversity of the magazine, the literary and critical profile of the periodical are depicted. The specifics of the magazine «Bukhara» is in its orientation on work quality, the education of the literary taste of the reader, which allows us to compare it to some Belarusian magazines, «Uzvyshsha», «Polymia» and some others.

**Keywords:** Iran, «Bukhara», literary and art magazine, cultural tradition, thematic and genre diversity, orientation on work quality, literary taste.

**Зінаіда ДРАЗДОВА**

# ДУША БЕЛАРУСА Ў ГУТАРКАХ І ВЕРШАХ УЛАДЗІСЛАВА СЫРАКОМЛІ

Як справядліва заўважаў вядомы даследчык Уладзімір Мархель, так гістарычна склалася, што літаратурная спадчына нашага земляка Уладзіслава Сыракомлі, належыць і палякам, і беларусам: «Уся яго творчасць, звязаная з Беларуссю праз тэматыку і фальклор, праз выяўленне мясцовага генатыпу, — піша Мархель, — нібы назапашвае энергію, каб вось-вось адрадзіцца ў форме беларускай мовы і трапіць, як хацеў ён таго сам, пад стрэхі "братоў у капоце і братоў у сярмязе"».

Вялікае (і можна сказаць асноўнае) месца ў паэтычнай спадчыне Сыракомлі займае народная гутарка — жанр, які ўяўляе сабой вершаванае апавяданне, часам досыць аб'ёмнае, заснаванае на мясцовым паданні, легендзе або на нейкім незвычайным здарэнні — былі з далёкай або нядаўняй мінуўшчыны. У гутарцы выразна выяўляўся вобраз аўтара-апавядальніка, які даваў маральную ацэнку героям і падзеям, выказваў свае сімпатыі і антыпатыі. Першай, напісанай ім народнай гутаркай (і першым друкаваным творам), была гутарка «Паштальён» (1844).

Сюжэт яе ўзяты Сыракомлем з жыцця. У карчме ў Міры паэт пачуў сумную гісторыю старога фурмана-паштальёна аб тым, як ён страціў каханую дзяўчыну. Споведзь старога ўразіла паэта трагічнасцю, глыбінёй перажывання героя, несуцешнасцю яго болю праз многія-многія гады. У маладосці герой быў веселуном, любіў пагуляць, узяць чарку, пажартаваць з паненкамі, але кахаў адну вясковую дзяўчыну, кахаў моцна і горача. Неяк апоўначы ўзімку пісар загадаў яму тэрмінова везці пошту. Фурман пусціўся ў дарогу, была страшная завіруха і бездарожжа. І вось, калі ён ад'ехаў вярсты на дзве-тры, ён раптам пачуў голас, які клікаў на дапамогу. Загадкавы голас невядомай душы, якая гінула ў завею, нагадаў яму пра каханую. Героя апанаваў страх і ён не спыніўся, а хутчэй пагнаў каня. Увесь час яго гняло нядобрае прадчуванне, чаканне бяды, трымцела сэрца. Вяртаючыся дасвеццем назад, паштар з жахам убачыў каля дарогі скасцянелы труп жанчыны, замецены снежнаю бурай:

Я снежную намець абтрос з яе шыі
І труп падцягнуў да дарогі...
Абцёр ёй аблічча… Была, гэта, брат...
Дай чарку, не маю больш змогі…

*(Пер. Максіма Лужаніна.)*

Паштальён не называе, што гэта была за жанчына, але інтанацыя яго голасу яскрава гаворыць сама за сябе.

Мінулі дзясяткі гадоў, і твор Сыракомлі, перакладзены на рускую мову, стаў вядомай песняй «Когда я на почте служил ямщиком...»

Гутарка «Паштальён» напісана ў час уздыму ў польскай дый рускай літаратуры антыпрыгонніцкіх настрояў. Мархель у кнізе «Прысутнасць былога» (Мн., 1997), гаворачы аб першапублікацыі Сыракомлевага «Паштальёна», заўважае, што ў гутарцы віна фурмана, які не выратоўвае ў завею чалавека, пераносілася на абставіны, антыгуманнасць феадальных парадкаў: за несвоечасовую дастаўку пакета фурман быў бы пакараны («пісар... дзвесце нагаек адлічыць»).

Аднак Сыракомля знімае пазней гэты радок, тым самым ускладваючы адказнасць за трагічны выпадак не на грамадскія ўмовы, а на самога чалавека. Трэба было спыніцца, дапамагчы таму, каго напаткала бяда ў начную завею, і чалавек не загінуў бы (а ім аказалася фурманава каханая). І сам паштальён праз усё жыццё праносіць гэту сваю віну, якая не дае яму спакою і ў старасці. Не боязь пакарання, а недахоп міласэрнасці і любові ў душы фурмана прадвызначылі трагедыю.

Драматычную споведзь героя ўяўляе і гутарка «Хадыка». Дзеянне ў ёй адбываецца ў Слуцку. Інтрыгуючыя сюжэты Сыракомля чэрпаў з жыцця беларускіх сялян або дробнай шарачковай шляхты, ад імя якіх і вялося апавяданне. Гутарка «Хадыка» ўзнаўляе пачутае ад бацькі Адама Плуга палескае паданне пра асочніка звяроў, які ў гарачцы крыўды забіў лоўчага і тры дзясяткі гадоў хаваўся ў пушчы. Паданне абрастае дэталямі і падрабязнасцямі, аўтар-апавядальнік імкнецца глыбока пранікнуць ва ўнутраны свет героя, даследаваць яго паводзіны ў гэтай выключна цяжкай сітуацыі. Дзеянне ў гутарцы адбываецца ў Слуцку. Вось пачатак твора:

Зайгралі трубы, і пад замак слуцкі
За хмарай хмара сунецца народу.
Над мужыком і шляхтай суд па-людску
Там правіць дзедзіч, слуцкі ваявода.
І ён, паводле княжых паўнамоцтваў,
Узброены і літасцю, і мечам
Тых пакарае, тых ушчуне моцна,
А калі трэба, вызваліць бясспрэчна [3, с. 104].
*(Пер. Яўгеніі Пфляўмбаўм.)*

Нельга не заўважыць блізкасць сюжэта гутаркі «Хадыка» да жыційнай літаратуры. Некаторыя з жыцій святых свяціцеля Дзмітрыя Растоўскага расказваюць аб разбойніках, сэрцаў якіх аднойчы дакранулася Божая ласка, і астатнюю частку жыцця яны пражылі ў посце, малітве і пакаянні, ачышчаючы сваю душу і сэрца (жыція прападобнага Маісея Мурына, прападобнага Давіда). Пра подзвіг глыбокага хрысціянскага пакаяння былога атамана разбойнікаў расказвае вядомая пакуль яшчэ вузкаму колу чытачоў паэма ананімнага аўтара, знойдзеная ў архіве Жыровіцкага манастыра «Стагоддзяў жырандоля», над перакладам якой з рускай мовы натхнёна працаваў ужо будучы хворым таленавіты паэт Алег Лойка.

Хрысціянін-каталік паводле веравызнання, У. Сыракомля і герояў сваіх гутарак бачыць хрысціянамі-каталікамі. Нялёгкім было жыццё Хадыкі ў цёмнай непралазнай пушчы. Пакуль меў порах, здабываў звера ці птушку, а скончыўся порах — жывіўся карою, часта галадаў і жыў у скрусе:

Праз гушчар прадзіраўся, ўцякаў ад пагоні.
Ці ў галлё зледзянелае вецер зазвоніць,
Ці зарыпае снег, ці на штосьці наскочу,
Ці на дубе крыламі сава залапоча, —
Скрозь здаецца пагоня, бо гнала сумленне.
Гналі думкі мяне з нейкім страхам звярыным.

Як бачым, найбольш цярпеў герой Сыракомлі ад дакору сумлення, унутранага пажару, запаленага здзейсненым ім смяротным грахом — забойствам чалавека:

Глупства суд чалавечы! У сэрцы глыбока
Горшы суд… Там сумленне адно валадарыць.

Сумленне — голас Бога ў душы чалавека, ад якога нікуды не схаваешся. Гэту ісціну і спасцігае Хадыка, застаўшыся сам-насам з уласным сумленнем:

Ад людзей-то затоішся ў нетры глыбока,
А ў сумлення ўсё роўна ты навідавоку, —
Не схавацца нідзе!

Сыракомля глядзіць на чалавека і свет шмат у чым з хрысціянскіх пазіцый. У адзінокім, бязлюдным жыцці Хадыкі ўвесь час прысутнічае чорт, які то раіць яму павесіцца, нават абяцае падшукаць для гэтай мэты асіну, то заклікае выходзіць на дарогу і здабываць хлеб несумленным шляхам, шляхам разбою і грабяжу. Герой бароніцца ад нячысціка малітваю, хоць малітва не заўсёды ідзе:

Я не знаходзіў смеласці і сілы
Ні памаліцца, ні перажагнацца,
Ні проста зірк падняць да небасхілу.
...Не зразумець, паны, вам, як забойца
Маліцца можа, калі ціснe скруха,
Хоць чорт шапоча: «Што святая Тройца!
Не паніжайся прад вышэйшым духам.
Патрэбна горда ставіцца да Бога…»

Звернем увагу на тое, што і паштар, і асочнік звяроў не шукаюць апраўдання сваім страшным учынкам, лічаць сябе злачынцамі, строга і патрабавальна ставяцца да сябе, зусім не імкнуцца схавацца за ідэю аб вызначальнай ролі абставін. Хадыка пакорліва нясе свой крыж, пераадольваючы неймаверныя цяжкасці пустэльнага жыцця, жорсткія нападкі з боку дэманаў, суд уласнага сумлення, лічачы ўсё гэта пакараннем за сваё злачынства:

...Так да самай вясны пад нябеснаю столлю
Голад, холад, сумленне і чорта адольваў.

Д'ябал усё настойлівей нашэптвае пра безнадзейнасць становішча героя, пра неміласэрнасць Бога, прыводзіць у адчай:

...Ды здаецца, што чорт выглядае з балота
І нібыта рагоча, якоча ў чаротах,
Страшыць даўняю кроўю, раз'юшана клепле:
«Як бы ты ні хрысціўся, сустрэнемся ў пекле».

І аднойчы спакутаваны Хадыка ледзь не схіліўся на ўгаворы нячысціка павесіцца, ледзьве не паддаўся яго настойлівай прапанове пазбавіцца мук шляхам самазабойства, вырашыўшы пашукаць «галіны, каб цела ўтрымала». Але падняўшы галаву ўгару, герой Сыракомлі заўважыў пчаліны рой. Гэта было як знак Божай літасці, Божай прысутнасці. І Хадыка пранікаецца думкай аб працы па наладжванні пчэльніка:

Не! Я думаць аб смерці пакуль пачакаю,
Пчол спярша абяру і зраблю ім дамоўку.

Жыццё былога асочніка звяроў набывае сэнс. Працаю ўсмак ён ратуецца ад дэманаў, ад чорных думак, натхняецца жаданнем прынесці карысць людзям, узрадаваць іх. Ён рашуча і канчаткова адхіляе д'ябла і выбірае Бога, цешыць сябе радасцю стваральнай працы:

Што я варты без працы? Бадзяцца павінен,
Загніваецца сэрца ад думак паганых.
Крыж пастаўлю над багнай пры шумнай асіне,
Будзе Богу пашана і піка шайтану.
А калі ў галадоўлі і сцюжах загіну,
Нехта, косці знайшоўшы, заплача выпадкам,
Не канечне заплача, бо спадкі пакіну,
Цэлы пчэльнік... Бяры на здароўечка, братка.

Паэт даводзіць, што сэнс чалавечага жыцця заключаецца не ў клопаце пра самога сябе, а пра бліжняга, у любові да Бога і да сабе падобнага. Герой Сыракомлі на цэлыя тры дзесяцігоддзі выпаў з грамадскага жыцця, але сумуе па людзях,

па зносінах з імі, зведаўшы не тэарэтычна, а практычна біблійскую ісціну «ня добра быць чалавеку аднаму». Душа яго, змучаная адзінокім блуканнем па пакутах, шукае людзей, рвецца да іх:

З якім бы шчасцем і з якою ўцехай
З людзьмі б я гаварыў і гаварыў без зморы!

Хадыка выходзіць да людзей на суд, расказвае праўдзівую гісторыю свайго жыцця, просіць пакарання за ўчыненае ім забойства. Споведзь пустэльніка, які ўжо адбыў цяжкае пакаранне гаротным блуканнем у пушчы, пакаранне ўласным сумленнем, кранула князя-ваяводу. Аўтар-апавядальнік пакідае свайго героя ў гэты няпросты момант, не паведамляючы чытачу, які прысуд вынес яму ўзрушаны Радзівіл, робячы толькі лаканічную рэмарку аб завяршэнні яго жыцця, спасылаючыся на чуткі:

Не ведаю, які быў дзень той судны,
Ды званары са Слуцка мне казалі,
Што ў кляштары памёр стары прыблудны,
Якога быццам бы Хадыкам звалі.

Такім чынам, астатак жыцця, як і можна было б здагадацца, герой дажывае ў кляштары, паспяхова прайшоўшы школу барацьбы святла з цемрай ва ўласным сэрцы, выбраўшы дабро і стаўшы воінам Хрыстовым.

Надзвычай надзённа гучаць сёння многія гутаркі і вершы Сыракомлі, напрыклад, «Жменя пшаніцы», «Акраец хлеба: Гавэнда з наднёманскіх палёў». У апошняй пад імем Лагоды выведзены бацька паэта, якога выселіў з Тулёнкі сусед-арандатар Вітгенштэйн. Паны Лагода і Забора і з'яўляюцца цэнтральнымі героямі гутаркі «Акраец хлеба». Гэта людзі рознай, палярнай маральнасці. Аб першым яго падданыя гавораць з любоўю і ўдзячнасцю:

І добры наш пан хай жа будзе здаровы.
Нездарма ж здаўна носіць імя Лагода.
Лагоднае, шчырае сэрца ў старога:
У крыўду ніколі не дасць ён нікога.
*(Пер. Кастуся Цвіркі.)*

Пан Лагода — хрысціянін. Ва ўсіх сваіх справах ён спадзяецца не на свае сілы, а на Бога, малітваю просіць Божае благаславенне, думае аб тым, як дапамагчы людзям. Ён асвячае ў царкве зерне для пасеву, з малітваю працуе на полі, за ўсё ўзносіць хвалу Усявышняму, і сабраны ўраджай служыць здароўю тых, хто ўжывае прыгатаваныя з яго стравы.

Пан Забора не верыць у Бога, зневажае падданых, якія, у адрозненне ад падданых Лагоды, пакутуюць ад яго пастаянных здзекаў і ўціску, ходзяць худыя і галодныя, сыплючы праклёны за прычыненыя ім крыўды. Ён занадта прывязаны да зямнога, бачачы ў ім задачу і мэту жыцця. У яго адно жаданне — прыдбаць багацце любой цаной. З насмешкай ставіцца да пана Лагоды, які шукаў не выгады і багацця, а славы Божай і карысці бліжняга, адчувае сваю перавагу над ім:

А глянь, што ў мяне за ўраджай на выгодзе
Без пацераў тых, без вады той свянцонай!
Трымаўся даўнейшых ён звычаяў стала,
А поле араў тут нядбала, я ж бачыў.

І «бязбожны», «пракляты» хлеб Заборы прыносіць з сабой у хаты, як сведчыць аўтар гутаркі, «смерць, сваркі, хваробы». У карчме ён чуе шэраг гісторый аб няшчасцях, якія адбываюцца ў людзей ад хлеба Заборы. Дзяўчына, якой на вяселле Забора даў жыта, сканала ў дзень шлюбу. Сям'ю, якая ўзяла ў Заборы хлеб, спасцігла няшчасце. Пачаліся сваркі, грызня, крыкі, нязгода:

— О, праўда — у хлебе Заборы таіцца
Няшчасце, — прамовіў так хлопец з чупрынай.

Сваімі творамі У. Сыракомля даводзіў, што чалавек — істота, надзеленая бессмяротнай душой і тленным целам, што ніводная са спраў, якія ён рабіў на зямлі, не знікае без следу. Душа адыходзіць у вечнасць, а цела аддаецца зямлі. І зямля рэагуе на маральнасць або амаральнасць чалавека, які ляжыць у ёй. І ўсё жывое, што расце на зямлі, адчувае дабрыню або нянавісць чалавека, якога схавала магіла. У вершы «Хвоя» апавядаецца пра сасну, якая хутка ўзрастала на вясковых могілках, убіралася ў сілу, глыбей запускала карэнне ў зямлю, але перад самай зімою пачала сохнуць. На пытанне ветру, што з ёю сталася, ці не стукнуў яе гром, ці не стачылі чэрві, ці не мала сокаў у зямлі, або, можа, карэнне прыціснуў камень, хвоя адказала, што з ёю адбылося няшчасце, яна ўрасла ў дамавіну чалавека ліхога:

Дамавіна сапрэла,
Труп сатлеў яшчэ болей
Яму ў сэрца карэнне
Я ўпусціла міжволі.
І працяў да жывога
Мяне холад мярцвячы —
Чалавек той нікога
Не любіў, не іначай,
Бо агідныя сокі
Даў цвінтарнай хваіне.
Ува мне дзесь глыбока
Яд засеў з той хвіліны.
З ядам смерці ўсяродку...
(*Пер. Уладзіміра Мархеля.*)

У творчасці Сыракомлі духоўная вартасць чалавека выпрабоўваецца яго адносінамі да Радзімы. Гутарка «Жменя пшаніцы» расказвае аб мудрым, добрым, але састарэлым войце Сцяпане, які прапануе народу абраць наступніка. Устрывожаны люд не хоча адпускаць Сцяпана, але пасля вырашае выбраць на пасаду войта аднаго з яго сыноў. Усе тры сыны пасылаюцца за мяжу; двое з іх, прыехаўшы, захапляюцца замежжам, яго культурай, а трэці рады вяртанню на любімую Айчыну, па якой вельмі сумаваў, прывозіць мяшок добрай пшаніцы, каб развесці яе ў роднай старонцы. Такім чынам, войтам становіцца той, хто па-сапраўднаму дбае пра свой народ. Тэма любові і пашаны да роднага краю і яго людзей раскрываецца і ў старажаўнерскай гутарцы «Гетман польны» з эпіграфам «Бо калі дома львамі бязлітаснымі будзеце, у часе грозным станеце, як авечкі ў рэзніцы. П. Скарга». Уназваным творы расказваецца аб тым, як сурова караюцца самім лёсам тыя, хто ў цяжкі для народа час, час наступлення ворагаў, глуміцца над ім. «Вяльможны гетман польнай булавы» разам са шляхтай рабаваў уласны народ так, што чуўся ёкат і плач. Таму татары, прыйшоўшы, падумалі, што гэта іх Сулейман дае тут жаху народу і ім няма чаго тут рабіць. І яны рушылі на замак гетмана, які хутка ўбачыў, як ён пылае ў агні пажару. Кінуўся ратаваць свой двор, але пакуль прыехаў, ад замка «засталіся адны галоўні». І тут пачуў ён вестку аб тым, што жонку забралі ў палон:

Заплакаў горка слязьмі няславы
Вяльможны гетман польнай булавы.
(*Пер. Уладзіміра Дубоўкі.*)

У гутарках і вершах У. Сыракомлі моцна гучыць любоў да роднага краю, роднага дому, роднага народа, да айчыннай гісторыі, паказана хараство і веліч беларуса, яго мудрасць і дабрыня, працавітасць і сумленнасць, цярплівасць і набожнасць.

**Зіновій ПРЫГОДЗІЧ**

# КРЫНІЦЫ ПРЫДЗВІННЯ

*Са студэнцкіх гадоў запалі мне ў душу пранікнёныя бураўкінскія радкі:*

*Не шукайце красы за морамі,*
*Узбярэжжаў з крыштальнымі зорамі,*
*Прыязджайце да нас на Полаччыну,*
*Пахадзіце яе прасторамі.*

*Мы тады, у шасцідзясятыя гады мінулага стагоддзя, яшчэ мала ведалі і пра Полацк, і пра Полаччыну. Але, апяяная паэтам, яна вабіла мяне, зачароўвала загадкавымі, таямнічымі імёнамі: Сафійскі сабор, Георгій (так тады пісалася яго імя) Скарына, Сімяон Полацкі... Пра Еўфрасінню Полацкую ўзгадвалася паўшэптам, а каб гаварыць публічна — барані бог! Цемрашалка, рэлігійная фанатка!*

*Але як вядома, няма больш прыцягальнай сілы, чым забарона. Паступова з розных, афіцыйных і неафіцыйных крыніц мы даведваліся пра Полацк. І маё жаданне пабываць у гэтым легендарным горадзе рабілася ўсё больш акрэсленым, усё больш моцным.*

*На жаль, так складваліся жыццёвыя абставіны, што толкам наведацца на Полаччыну не ўдавалася. Тройчы прыязджаў сюды, аднак кожным разам усё на нейкія ўрачыстыя мерапрыемствы. А ў шматлікім, тлумным людскім вадавароце, канешне ж, многага не ўбачыш, не пачуеш. Знаёмства было знешняе, шапачнае.*

*Але аднойчы я сказаў сабе: «Колькі можна? Як не сорамна? Час адкрываць Полаччыну!» І я стаў збірацца ў дарогу.*

## Бацька гарадоў беларускіх

У Полацку ёсць адно ціхае, малапрыкметнае месца, якое не дужа дапытлівымі турыстамі звычайна абмінаецца, але якое мае надзвычай важнае гістарычнае значэнне. Гэта — так званы Чырвоны мост цераз раку Палата, а непадалёку ад яго сціплая стэла з надпісам «Гарадзішча. Помнік археалогіі ІХ стагоддзя».

Вось тут, на беразе гэтай рэчкі, і вырасла першае невялікае пасяленне, якое, на думку археолагаў, заснавалі папярэднікі славян — балты. Напачатку гэта было тыповае для таго часу гарадзішча з драўлянымі пабудовамі, ахоўным земляным валам і ровам з вадою. У цэнтры размяшчаўся дзядзінец, дзе жылі людзі заможныя, высакароднага звання, ускраіны ж насялялі рамеснікі, бедната.

Паступова да балтаў далучыліся крывічы — прадстаўнікі шматлікага, уплывовага племя славян. Яны і сталі асноўнымі жыхарамі тутэйшага гарадзішча, якое паступова ператварылася ў горад і займела назву Палатэск, Палтэск, Полацк (па асацыяцыі з ракой Палата), а яго жыхары сталі называцца палачанамі.

Першае ўпамінанне пра Полацк як сталіцу крывічоў знаходзім у летапісе «Аповесць мінулых гадоў» і датавана яно 862 годам. Але сучасныя археолагі лічаць, што горад быў заснаваны намнога раней. Можа, нават на некалькі ста-

годдзяў, таму што падчас раскопак на Верхнім замку была знойдзена кераміка, вырабленая не пазней чым у V стагоддзі. Да таго часу можна аднесці і згадку ісландскай сагі аб узяцці Полацка гунамі на чале з Атылам.

А ў другой палове IX стагоддзя Полацк меў ужо пяць тысяч жыхароў — крыху меней, чым у Кіеве і Ноўгарадзе, аднак значна больш, чым у любым усходнеславянскім горадзе. Полацкія дружыны неаднаразова адпраўляліся ў баявыя паходы на суседнія землі і нават хадзілі на далёкі Царград-Канстанцінопаль, сталіцу Візантыйскай імперыі. І ўжо зусім неверагодны факт: Полацк мы знаходзім у пераліку гарадоў, якім Царград плаціў даніну!

Старажытны Полацк імкнууся жыць незалежна і будаваць сваю самастойную дзяржаву. Канешне, гэта дужа не падабалася кіеўскім і наўгародскім князям. Яны ўсяляк — і зброяй, і хітрасцю — спрабавалі ўзяць палачан пад сваю ўладу. Толькі беспаспяхова.

На саюз з Полацкім княствам мог разлічваць толькі той, хто ажэніцца з Рагвалодаваю дачкой Рагнедай. Наўгародскі князь Уладзімір заслаў у Полацк сватоў, але Рагнеда ім адмовіла. Зняважаны і разгневаны Уладзімір, сабраўшы вялізнае войска, рушыў на Полацк. Пасля доўгай аблогі горад удалося захапіць. Наўгародскі валадар пры гэтым учыніў страшнае злачынства: князя Рагвалода, яго жонку і дзяцей забіў, а Рагнеду гвалтам прымусіў стаць сваёй жонкай.

Што і як было далей — шырока вядома. За спробу забіць Уладзіміра Рагнеда разам з сямігадовым сынам Ізяславам была саслана ў крывіцка-дрыгавіцкае памежжа, у маленькае, згубленае ў лясах драўлянае паселішча, якое пазней назавуць Заслаўем. Лёсы дачкі Рагвалода і яго ўнука склаліся па-рознаму. Рагнеду без яе згоды саслалі ў манастыр і пастрыглі ў манахіні. Пад імем чарніцы Анастасіі яна ў адзіночнай келлі правяла цэлых дваццаць гадоў, а пасля смерці была пахавана ў Заслаўі.

Ізяслава ж у свой час вывезлі ў Полацк і нібыта нават блаславілі на княжанне. Але аб яго дзяржаўнай дзейнасці нічога не вядома. Адзінае, аб чым паведамляюць летапісы, гэта тое, што ён быў першым з усходнеславянскіх князёў вялікім кніжнікам. Менавіта Ізяслаў увёў у Полацку пісьменнасць і навучанне грамаце. А яшчэ ён застанецца ў гісторыі як князь, які аднавіў у старажытнай крывіцкай сталіцы полацкую дынастыю. Пачынаючы з яго, усе нашчадкі Рагвалода нязменна называлі сябе Рагвалодавічамі, а не Рурыкавічамі, як князі суседніх зямель.

На жаль, у гісторыі Рагвалодавічаў ёсць надзвычай трагічная старонка. У 1000 годзе памірае Рагнеда, у 1001 — Ізяслаў, у 1003 — яго сын Усяслаў. Раптоўныя, загадкавыя смерці наводзяць на пэўны роздум. Прынамсі аб тым, што гэта не было выпадковасцю. Што за гэтым стаіць злачынная палітыка Кіева. Відаць, доўгія рукі былі ў князя Уладзіміра, занадта вялікім быў яго страх перад адраджэннем Полацка.

На шчасце, застаўся жывым малодшы сын Ізяслава — Брачыслаў. Ён жа і заняў полацкі прастол. Пасля смерці Брачыслава ў 1044 годзе княжацкі трон заняў яго сын Усяслаў — самы знакаміты з полацкіх князёў, якога за бліскучыя баявыя перамогі празвалі Чарадзеем. А яшчэ, магчыма, за тое, што ён, як сведчаць шматлікія легенды і паданні, мог абярнуцца шэрым воўкам, ясным сокалам альбо турам і за адну ноч з Полацка апынуцца ў Кіеве.

Шмат бітваў правёў Усяслаў Чарадзей. Адна з самых вядомых — бітва на Нямізе, якая адбылася ў 1067 годзе і надзвычай яскрава апісана ў «Слове пра паход Ігаравы». Бітва была жорсткай і крывапралітнай. Не будзем апісваць усе баявыя паходы Усяслава, яго ратныя перамогі і важныя мірныя справы — усё гэта зноў-такі добра вядома. Зазначым адно: за час яго кіравання Полацкім княствам яно дасягнула найвышэйшай славы і магутнасці. Па сцвярджэнні пісьменніка і гісторыка Уладзіміра Арлова, тэрыторыя княства раўнялася такім тадышнім еўрапейскім дзяржавам, як герцагства Баварскае альбо каралеўства Партугальскае. Акрамя сталіцы яно налічвала васямнаццаць гарадоў: Віцебск, Браслаў, Заслаўе, Усвят, Копысь, Менск, Орша, Лукомль, Лагойск, Друцк, Галатычэск, Барысаў, Стрэжаў, Некалач, Емянец, Одрск, Гарадзец і Крывіч-горад, які пазней стане

называцца Вільняй. Улада Полацка распасціралася на ніжняе Падзвінне да самага Балтыйскага, альбо як яго тады называлі, Варажскага мора. Сімвалам гэтай магутнасці і незалежнасці, а таксама ўвасабленнем адзінства і аднадушнасці ўсіх жыхароў княства стаў пабудаваны па загадзе Усяслава велічны, адзін з трох на славянскіх землях Сафійскі сабор.

А яшчэ Уладзімір Арлоў звяртае ўвагу на адзін унікальны і, можна сказаць, знамянальны факт: нідзе ў ранняй гісторыі ўсходніх славян (і не толькі ў іх) мы не знойдзем прыкладу, каб два князі — бацька і сын — кіравалі краінай цэлае стагоддзе. З 1001 па 1044 год у Полацку княжыў Брачыслаў, а пасля смерці, да 1101-га — Усяслаў Брачыслававіч. І гэта быў, бадай, самы паспяховы, самы лепшы, можна сказаць, залаты час для Полацкага княства, Полацкай дзяржаўнасці.

А цяпер хачу даць слова майму дасведчанаму гіду, паэту Навуму Гальпяровічу (ён — былы полацкі малец, а цяпер ганаровы грамадзянін Полацка і Наваполацка — пагадзіўся стаць маім спадарожнікам): «Пасля смерці Усяслава наступіў перыяд феадальнай раздробленасці. Князі-браты ваявалі адзін з адным, захоплівалі землі, рабавалі просты люд. Але Полацк працягваў лічыцца галоўным горадам у паўночнай частцы славянскіх земляў.

Варта асобна сказаць пра полацкае веча — сход палачан для абмеркавання важных дзяржаўных і грамадскіх спраў. Веча ажыццяўляла вышэйшы суд і нават кантралявала дзейнасць князя, вырашала пытанні вайны і міру. Пра полацкае веча ёсць згадкі ў многіх летапісах. З іх вынікае, што рашэнні, прынятыя ў галоўным горадзе, распаўсюджваліся і на падпарадкаваныя яму гарады.

З канца XII стагоддзя на арэну барацьбы за полацкія землі выйшлі крыжакі — нямецкія рыцары. Палачане першымі з усходніх славян пацярпелі ад іх крывавых набегаў. Тэўтонскае войска дзесяцігоддзямі намагалася заваяваць землі Полацкага княства.

У другой палове XIII стагоддзя Полацк увайшоў у склад Вялікага Княства Літоўскага як аўтаномія, з асобнымі прывілеямі, а пасля 1307 года — канчаткова. І што вельмі важна: на працягу гэтага і наступнага стагоддзяў Полацкая зямля неаднойчы падвяргалася набегам крыжакоў, але сам горад ніводнага разу не быў узяты».

У словах Навума Гальпяровіча я адчуў непрыхаваны гонар за сваіх далёкіх і славутых продкаў. Што ж, зразумець яго, карэннага палачаніна, няцяжка. Бо гэтае высокае пачуццё адчуваем і ўсе мы, сучасныя нашчадкі тых, хто ствараў і мацаваў нашу старажытную дзяржаўнасць.

Але каб закончыць кароткі агляд багатай і шматвяковай полацкай гісторыі, перагорнем яшчэ некаторыя, найбольш значныя яе старонкі.

Хіба можна абмінуць увагай удзел полацкіх ваяроў у найвялікшай бітве Сярэднявечча ў 1410 годзе. Пад Грунвальдам у смяртэльнай сутычцы сышліся дзве вялізныя сілы: лепшае ў Еўропе, узброенае да зубоў войска Тэўтонскага ордэна і аб'яднаныя палкі-харугвы Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы. Усяго ў бітве ўдзельнічала каля ста тысяч воінаў. Адну з самых вялікіх харугваў — не менш за паўтары тысячы ратнікаў — выставіў Полацк. Узначальваў гэты полк ваявода Іван Няміра, які асабіста і яго падначалены паказалі ўзоры мужнасці і гераізму.

У 1498 годзе Полацк атрымаў Магдэбургскае права. З таго часу ў горадзе гаспадаром стаў магістрат. Ён вяршыў суд, збіраў падаткі, сачыў за парадкам на рынках. У магістраце засядала гарадская дума, якая складалася з дваццаці чатырох радцаў на чале з чатырма бурмістрамі.

Разам з Магдэбургскім правам Полацк атрымаў і свой першы герб: трохмачтавы карабель з разгорнутымі ветразямі ў блакітным полі на сярэбранай вадзе. Гэты герб і сёння з'яўляецца афіцыйным гербам горада.

На працягу XIV—XV стагоддзяў Полацк заставаўся буйнейшым горадам Вялікага Княства Літоўскага. Заходняя Дзвіна была важным гандлёвым шляхам, які звязваў Полаччыну з многімі еўрапейскімі гарадамі. На вялізных стругах і чаўнах полацкія купцы дастаўлялі свае тавары ў Рыгу, Гданьск і ажно ў скандынаўскія парты.

Асобную, як гераічную, так і трагічную, старонку займае так званая Полацкая вайна. Пачалося ўсё з таго, што ў 1558 годзе маскоўскае войска ўварвалася ў Лівонію, захапіла Нарву і Тарту. Па дапамогу лівонскі магістр звярнуўся да Вялікага Княства Літоўскага. Баявыя палкі гетмана Радзівіла Рыжага рушылі на выручку лівонцам. Вайна Лівонская ператварылася ў Літоўскую. Царскія ваяводы спусташалі землі ВКЛ, неслі яго жыхарам смерць і пакуты.

Напачатку 1563 года Іван Грозны павёў свае палкі з Мажайска на Вялікія Лукі, а адтуль ляснымі дарогамі на Полацк. Вайна Літоўская стала Полацкай. І неўзабаве на цэлых шаснаццаць гадоў Полацк аказаўся пад уладаю маскоўскага цара. Але заўсёды марыў зноўку набыць самастойнасць і незалежнасць. Гэтая мара збылася, калі вялікім князем літоўскім стаў Стэфан Баторый.

З часоў Лівонскай вайны ў гісторыі Полацка яшчэ здараліся ўзлёты, але вярнуць сабе былое багацце і веліч ён ужо ніколі не змог. Яго палітычнае і эканамічнае значэнне ў Вялікім Княстве Літоўскім паступова змяншаецца. Хоць па-ранейшаму ён застаецца буйнейшым культурным і адукацыйным цэнтрам. А неўзабаве горад наогул апынуўся ў іншай дзяржаве — Рэчы Паспалітай. Нягледзячы на захаванне вялікай самастойнасці, у Полацку адбываюцца значныя змены. Стэфан Баторый запрасіў сюды манахаў-езуітаў і шчодра надзяліў іх маёмасцю. Быў аднаўлены Верхні замак, наноў адбудаваны Вялікі пасад. Горад атрымаў права на два штогадовыя кірмашы, на якіх гандлявалі без пошліны. Дзякуючы каралеўскаму прывілею жыхары мелі ўласныя лазні. А яшчэ палачан перавялі са старога юліянскага на грыгарыянскі каляндар, па якім ужо жыла ўся Еўропа.

Не менш значныя і не менш трагічныя падзеі адбываліся на Полацкай зямлі і ў наступныя стагоддзі. Летам 1654 года трыццацітысячная маскоўская армія зноў падышла да Полацка. Большасць палачан — хто на пароме, хто ўплаў — пераправіліся цераз Дзвіну і пакінулі горад. Засталіся толькі абаронцы, якія ўступілі з захопнікамі ў адчайную бітву. Аднак сілы былі занадта няроўныя, і пасля шматгадзіннай сечы гарнізон вымушаны быў здацца.

Абрадаваны лёгкай перамогай, цар Аляксей Міхайлавіч напачатку дазволіў палачанам гандляваць без пошліны, судзіць вінаватых сваім судом і на тры гады вызваліў іх ад падаткаў. А Богаяўленскаму манастыру падараваў усе вёскі, якія раней каралеўскай уладай былі перададзены каталікам. І быў настолькі ўпэўнены ў лаяльнасці тутэйшых жыхароў, што на адной з папер нават учыніў пыхлівую рэзалюцыю: «Царская вялікасць ніколі Полацкага ваяводства не ўступіць».

У ліпені 1656 года цар нарэшце заявіўся ў Полацк асабіста. Праваслаўнае духавенства з меркантыльных меркаванняў арганізавала яму ўрачыстую сустрэчу. Ігумен Богаяўленскага манастыра Ігнат Іяўлевіч сказаў квяцістую вітальную прамову. Прамова «прасветламу» спадабалася, і манастырская брацыя атрымала новыя падарункі. Праваслаўным былі вернуты Спаская царква і Сафійскі сабор.

Але далёка не ўсё было так ідылічна. За межамі Полацка тварыліся жахлівыя рэчы. Тактыка спаленай зямлі ажыццяўлялася адначасова з прымусовым перасяленнем у Масковію. Усяго трапіла ў палон каля трохсот тысяч беларусаў. І найперш былі вывезены таленавітыя, высакакласныя майстры амаль шасцідзесяці спецыяльнасцей. Сярод іх палачане: шабельнік Рыгор Іваноў, чаканшчык Іван Андрэеў, каўчэжных спраў майстар Сымон Якаўлеў, срэбранікі Сцяпан Астаф’еў, Васіль Грыгор’еў, Мікіта Сямёнаў, Іван і Фёдар Палачанінавы… У Маскве працавалі таксама полацкія ювеліры Сцяпан Мандыкін, Міхаіл Якаўлеў, Іван Пракоп’еў, ганчар Кузьма Савельеў, збройнікі Анісімка Мікалаеў і Рыгор Стасюкоў.

У выніку ваенных дзеянняў і шматлікіх гвалтоўных перасяленняў Полаччына страціла практычна палову насельніцтва. У тры разы скарацілася колькасць гаспадарак. У самім Полацку ацалела ўсяго каля ста дамоў з больш чым паўтары тысячы.

Руска-польская вайна, якая доўжылася амаль трынаццаць гадоў і якая прынесла Полацкай зямлі такія жахлівыя разбурэнні, скончылася ў 1667 годзе перамір’ем, падпісаным у вёсцы Андрусава, што пад Смаленскам. Заваяваную Масковіяй паўночна-ўсходнюю частку Вялікага Княства Літоўскага — Віцебшчыну, Полаччыну цар Аляксей Міхайлавіч вярнуў Рэчы Паспалітай.

На жаль, мірнае жыццё на тутэйшых землях панавала нядоўга. Пачалася так званая Паўночная вайна. Яна перапыніла аднаўленне Полаччыны, разбуранай папярэднімі ліхалеццямі. Не было спакою на Полацкай зямлі і ў наступныя гады. Здараліся рэлігійныя сутычкі паміж праваслаўнымі, каталікамі і ўніятамі, успыхвалі народныя хваляванні і нават паўстанні супраць магнатаў-прыгнятальнікаў. І нарэшце напрыканцы XVIII стагоддзя два драматычныя раздзелы Рэчы Паспалітай, у выніку якіх спачатку правабярэжная частка Полацка, а пасля і левабярэжная ўвайшлі ў склад Расійскай імперыі. У 1776 годзе, паводле ўказа Кацярыны II, была створана Полацкая губерня, а праз два гады яна атрымала назву Полацкае намесніцтва.

У 1796 годзе ў выніку аб'яднання Магілёўскага і Полацкага намесніцтва з'явілася Беларуская губерня з цэнтрам у Віцебску. З таго часу Полацк стаў лічыцца павятовым горадам. Але нягледзячы на паніжэнне статусу, горад тым не менш славіўся сваёй архітэктурай і асветніцкімі традыцыямі.

Адной з найбольш значных сярод навучальных устаноў на тэрыторыі Беларусі таго часу быў Полацкі езуіцкі калегіум. Гэта своеасаблівы міні-горад у горадзе. Уявіце сабе: акрамя навучальных карпусоў і інтэрнатаў на тэрыторыі калегіума знаходзіліся піваварня, медаварня, сукня, красільня,васкабойня, свячны завод, кузня, слясарня, шавецкая, сталярная і такарная майстэрні, дзве стайні, амбары, склады, каморы.

У калегіуме на даволі высокім узроўні выкладаліся розныя мовы, паэтыка і рыторыка, мастацкія дысцыпліны. Асабліва славіліся кафедры архітэктуры, матэматыкі і астраноміі. Працаваў музей (у якім была вялікая калекцыя манет і больш за чатыры тысячы экспанатаў з бронзы), а таксама карцінная галерэя. Друкарня выдавала падручнікі і рэлігійную літаратуру на польскай, лацінскай, рускай, французскай, нямецкай мовах. Шырокай папулярнасцю карысталася бібліятэка, якая мела дзясяткі тысяч тамоў на розных мовах і якая лічылася адной з багацейшых не толькі ў Полацку, але, бадай, і ва ўсёй Віцебскай губерні.

Выключную ролю ў развіцці калегіума адыграў адзін з кіраўнікоў ордэна езуітаў, прафесар Габрыель Грубер — асоба знакамітая не толькі ў полацкай гісторыі, але адметная і ў гісторыі сусветнай. Ён выкладаў матэматыку, механіку, фізіку, маляванне і архітэктуру. Здаецца, немагчыма знайсці такую галіну навукі і мастацтва, у якой прырода не надзяліла б прафесара талентам. Матэматык, гісторык, хімік, музыкант, медык… Выдатна ведаў латынь, італьянскую, французскую, нямецкую, польскую, рускую і старабеларускую мовы.

Не без дапамогі і непасрэднага ўдзелу Грубера кабінеты і аўдыторыі калегіума былі абсталяваны ўсім неабходным для заняткаў. Частку прыбораў прывезлі з-за мяжы, а большасць вырабілі ў полацкіх майстэрнях. Пры гэтым аўтарам шматлікіх вынаходстваў з'яўляўся сам Грубер. У астранамічнай зале, напрыклад, меўся суперсучасны тэлескоп даўжынёю болей за два з паловай метры. Калекцыю мінералагічнага кабінета складалі алмазы, рубіны, смарагды, сапфіры, гранаты, тапазы, а таксама залатыя, плацінавыя і сярэбраныя самародкі. У фізічным кабінеце стаялі тры электрычныя машыны, электрафор.

А створаны Груберам музей па тыпе кунсткамеры стаў царствам сапраўдных цудаў. Скажам, падышоўшы да ўвогнутага люстэрка, уманціраванага ў акно, можна было ўбачыць самога сябе на крыжы над званіцай базыліянскага манастыра. Па залах раз'язджаў у калясцы Купідон, а ў лаўцы гандляваў купец-робат. Але галоўным дзівам была вялізная чалавечая галава, якая ўмела гаварыць на розных мовах. Ёй можна было задаваць пытанні і галава тут жа адказвала — гучна, выразна, з дасканалым веданнем прадмета.

Шыкоўную калекцыю мела карцінная галерэя калегіума, створаная таксама Габрыелем Груберам. Наведвальнікі былі ў захапленні ад цудоўных палотнаў Рубенса, дыхтоўных копій Рафаэля і Тыцыяна, соцень выдатных скульптур і дзвюх тысяч гравюр вядомых майстроў.

У 1802 годзе айца Габрыеля абралі генералам ордэна езуітаў. Ён пераехаў у Санкт-Пецярбург, заснаваў там калегіум і стаў яго рэктарам. Гэта выклікала

ў праваслаўнай сталіцы неадназначную, калі не сказаць варожую рэакцыю. І, мусіць, невыпадкова аднойчы пецярбургская рэзідэнцыя Таварыства Ісуса загарэлася і езуіцкі генерал задыхнуўся ў дыме. Яго прах прывезлі ў Полацк і пахавалі ў падзямеллі Спаскага храма.

Памёр чалавек, але не памерла яго справа, яго даўняя задума. А задума заключалася ў тым, каб ператварыць Полацкі калегіум у другі пасля Віленскага ўніверсітэт на землях былога Вялікага Княства. Гэты план паспяхова ажыццявіў пераемнік Грубера Тадэвуш Бржазоўскі. Яго стараннямі і з дазволу імператара Аляксандра І у 1812 годзе на базе калегіума была створана Полацкая езуіцкая акадэмія — першая вышэйшая навучальная ўстанова на тэрыторыі сучаснай Беларусі.

Тут, як, дарэчы, і ў калегіуме, вучыліся і працавалі выкладчыкамі многія выдатныя людзі, якія набылі вядомасць ва ўсёй Еўропе. Усеагульную павагу ў студэнцтва меў філосаф і знакаміты паэт-лацініст Мацей Казімір Сарбеўскі, выкладчык рыторыкі і бліскучы знаўца гэтай навукі Сігізмунд Лауксмін (які пазней стане настаўнікам Сімяона Полацкага ў Вільні), вядомы аратар Казімір Каяловіч, аўтар падручніка грэчаскай мовы Максім Вайцахоўскі, прафесар архітэктуры Андрэй Жаброўскі, выкладчык астраноміі Марцін Пачобут-Адляніцкі — вучоны-энцыклапедыст, будучы рэктар Віленскага ўніверсітэта, член Каралеўскага астранамічнага таварыства ў Лондане, член-карэспандэнт Парыжскай акадэміі навук.

З полацкіх аўдыторый пачыналі свой шлях гісторык, археолаг і этнограф Канстанцін Тышкевіч, астраном і філосаф Якуб Накцыяновіч, палітык і вядомы прамоўца Тадэвуш Корсак. Выхаванцамі акадэміі былі таксама мастак Валенцій Ванькові, пісьменнік і фальклярыст Ян Баршчэўскі, кнігай якога «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» мы зачытваемся да гэтага часу.

Акрамя акадэміі ў Полацку працавалі таксама праваслаўная духоўная семінарыя, галоўнае народнае вучылішча, уніяцкая семінарыя. Нягледзячы на розны статус, рознае веравызнанне, у гэтых навучальных установах панаваў дух дэмакратызму і вольнасці. Царскія ўлады хутка разгледзелі небяспеку і прынялі рашучыя меры…

Значная і надзвычай важная старонка Полацкага летапісу — гісторыя кадэцкага корпуса. Адкрыццё новай навучальнай установы адбылося 25 чэрвеня 1835 года. У гэты дзень кадэтамі сталі пяцьдзясят чатыры хлопчыкі са шляхецкіх сем’яў узростам ад дванаццаці да чатырнаццаці гадоў. Іх адукацыя, мякка кажучы, пакідала жадаць лепшага. Многія не ведалі не толькі французскай, нямецкай моў, але з цяжкасцю разбіралі і рускі тэкст. Выхаванцаў падзялілі на тры класы. Аднак усе абавязкова павінны былі акрамя ваенных дысцыплін вывучаць Закон Божы, замежныя мовы, арыфметыку, алгебру, геаграфію, чыстапісанне і маляванне. Адзнакі выстаўляліся па дванаццацібальнай сістэме.

Цягам часу кадэцкі корпус (а існаваў ён больш за семдзесят пяць гадоў) стаў адной з лепшых устаноў такога тыпу ў Расіі. Аб чым сведчыць і такі факт. Малодшы сын вялікага князя Канстанціна Канстанцінавіча Алег выбраў для навучання менавіта Полацкі кадэцкі корпус. І, між іншым, скончыў вучобу з выдатнымі адзнакамі, служыў у кавалерыі і на самым пачатку Першай сусветнай вайны актыўна ўдзельнічаў у баях, быў смяротна паранены. Загінуў як герой.

Кадэцкі корпус па праве можа ганарыцца сваімі выхаванцамі. Многія ўдзельнічалі ў Крымскай руска-турэцкай вайне. Шасцёра з іх сталі георгіеўскімі кавалерамі. Сапраўдным героем абароны Порт-Артура падчас вайны з Японіяй стаў генерал Раман Кандраценка — адзін з самых таленавітых расійскіх военачальнікаў. Яго імем названа вуліца ў цяперашнім Полацку.

Выпускнікамі кадэцкага корпуса былі заснавальнік расійскай феналогіі, натхнёны летапісец прыроды і, дарэчы, палачанін па нараджэнні Дзмітрый Кайгародаў; сакратар Расійскай акадэміі навук, аўтар кніг пра вайну 1812 года і Крымскую кампанію Мікалай Дубровін; гісторыкі браты Сямеўскія; буйныя вучоныя браты Кірпічовы; пісьменнікі Уладзімір Тунашэнскі (ягоная п’еса «Губернская Клеапатра» часта ставілася на сталічных і правінцыйных сцэнах),

а таксама Аляксандр Сцяпанаў, чыім раманам «Порт-Артур» зачытваліся многія пакаленні ў Савецкім Саюзе; бліскучы піяніст і таленавіты кампазітар, блізкі сябар Сяргея Рахманінава і Яна Сібеліуса, беларус дваранскага паходжання Ян Тарасевіч; археолаг і гісторык, заснавальнік Слонімскага гісторыка-краязнаўчага музея, унук паўстанца 1863 года, сын удзельніка севастопальскай абароны Іосіф Стаброўскі. Аднак калі пачалася Першая сусветная вайна кадэцкі корпус давялося расфарміраваць.

Дзве сусветныя вайны, якія разбуральна-смяротным валам пракаціліся па Полацкай зямлі, прынеслі краю незлічоныя страты. Аднак на пачатку 50-х гадоў у горадзе ўжо працавалі ўсе даваенныя заводы і фабрыкі, актыўна вялося будаўніцтва жылых дамоў, грамадскіх, адміністрацыйных і культурна-асветніцкіх устаноў.

На гэтым свой невялічкі экскурс у гісторыю Полацка і закончым. Нам засталося толькі зрабіць кароткае падарожжа па славутых мясцінах сучаснага горада. І я зноў хачу даць слова Навуму Гальпяровічу.

— Свой шлях, — ахвотна ўключаецца ў ролю гіда Навум Якаўлевіч, — мы пачнём ад знакамітай Сафійкі. А потым перамесцімся вышэй па цячэнні Палаты, туды, дзе размешчана яшчэ адна святыня Полацка — Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр. Гісторыя яго такая. Як вядома, унучка Усяслава Чарадзея Прадслава патаемна ад бацькоў вельмі рана прыняла пострыг і стала манашкай пад імем Еўфрасінні. З гэтага часу яна цалкам прысвяціла сябе кнігам. Чытала духоўную літаратуру, навуковыя трактаты, шматлікія летапісы і хронікі. Стала адной з самых адукаваных жанчын свайго часу.

Але праславілася Еўфрасіння не толькі гэтым. Пражыўшы некалькі гадоў у манастыры, яна, каб быць бліжэй да знакамітай бібліятэкі, з дазволу полацкага епіскапа пасялілася ў Сафійскім саборы. І менавіта тут, у келлі-галубніцы, пачала пісаць кнігі. Дарэчы, працэс гэты быў надзвычай складаным і марудным. Пісалі на пергаменце, літарамі вялікімі і без нахілу, старанна выводзячы кожную рысачку, кожны завіток. Перапісчыку мала было добра ведаць грамату, ён павінен быў яшчэ валодаць мастацкімі здольнасцямі, бо ўсе пачатковыя літары і назвы раздзелаў упрыгожваліся адмысловым арнаментам. Пісалі звычайна не на стале, а на далоні левай рукі. І трэба было гадзінамі сядзець нерухома, напружваючы зрок і стаіўшы дыханне. Такая цяжкая праца — пад сілу далёка не кожнаму мужчыне. І тое, што за яе ўзялася маладая жанчына — ужо гэта подзвіг. Еўфрасіння перапісала дзясяткі каштоўных кніг: Святое Пісанне і сачыненні айцоў царквы, пацерыкі і жыцці, візантыйскія хронікі і старонкі Полацкага летапісу, папулярныя тады зборнікі афарызмаў. Частка гэтых кніг папаўняла бібліятэкі, частка ішла на продаж, а выручаныя грошы раздавалі беднякам.

Аднойчы Еўфрасінні прысніўся такі сон. Ангел узяў яе за руку і адвёў за дзве вярсты ад горада ў Сяльцо, дзе на беразе Палаты стаяла драўляная цэркаўка, і сказаў: «Тут належыць быць табе!» Еўфрасіння перасялілася ў Сяльцо і заснавала там жаночы манастыр. А праз нейкі час непадалёку, пры царкве Багародзіцы, стварыла яшчэ і мужчынскі манастыр. Адкрыла пры іх скрыпторыі — майстэрні па перапісцы кніг, іканапісную майстэрню, а таксама пачатковыя школкі, у якіх юных палачан навучалі грамаце.

Акрамя таго наша выдатная асветніца на ахвяраванні вернікаў замест драўлянай цэркаўкі пабудавала новую, мураваную, якая сёння вядомая пад імем Спаса-Праабражэнскай. Узводзілі яе па праекце полацкага манаха, геніяльнага дойліда Іаана. Менавіта для гэтага храма Еўфрасіння заказала яшчэ аднаму выдатнаму полацкаму майстру, ювеліру Лазару Богшы святы шасціканцовы крыж, пра драматычны лёс якога можна пісаць захапляльны дэтэктыў.

Мы з Навумам Гальпяровічам перабіраемся на правы бераг Заходняй Дзвіны. Менавіта тут, на Ніжне-Пакроўскай вуліцы знаходзіцца яшчэ адно славутае месца Полацка, якое ніяк нельга абмінуць. Гэта — тэрыторыя былога Свята-Богаяўленскага манастыра. Заснаваны ён быў у 1582 годзе і складаўся з аднайменнага сабора і жылога корпуса.

Сабор некалькі разоў перабудоўваўся. Яго каменны будынак, які захаваўся да нашых дзён, быў узведзены ў 1761—1777 гадах. У савецкі час храм зачынілі і пераабсталявалі пад спартыўную залу. Адзін час тут месцілася гарадская карцінная галерэя. А ў 1991 годзе сабор вярнулі праваслаўным вернікам, яму нададзены статус кафедральнага, і цяпер тут рэгулярна праходзяць богаслужэнні. Здаецца, нічога асаблівага, калі б не адна акалічнасць: тут пэўны час жыў і працаваў Сімяон Полацкі. Знакаміты беларускі і рускі пісьменнік, асветнік, філосаф.

З Ніжне-Пакроўскай вуліцы мы падняліся ўверх, да плошчы Свабоды. Спыніўшыся тут, Навум Якаўлевіч з лёгкім сумам сказаў:

— Калі працягваць аповед пра полацкія храмы, то ў горадзе мог бы быць яшчэ адзін выдатны помнік архітэктуры. Гэта — сабор святога Стэфана. Мог бы, але гісторыя, на вялікі жаль, распарадзілася іначай. Сабор будавалі сем гадоў, з 1738 па 1745-ы. Аздоблены ў стылі позняга барока, з дзвюма высокімі вежамі параднага фасада храм меў велічны і надзвычай прыгожы знешні выгляд. Яшчэ больш шыкоўным быў інтэр’ер, над якім побач з нашымі майстрамі працавалі лепшыя мастакі і скульптары з Італіі на працягу дваццаці гадоў.

Аднак лёс сабора склаўся трагічна. Пасля таго, як у 1820 годзе царскія ўлады за палітычную ненадзейнасць зачынілі езуіцкую акадэмію, такая ж доля ў 1830-м напаткала і піярскі калегіум. Па той жа прычыне. Уся маёмасць езуітаў перайшла ў распараджэнне казны. Што тычыцца храма святога Стэфана, то яго спешна пераабсталявалі і перайменавалі ў Мікалаеўскі сабор. Вельмі шмат каштоўнага царкоўнага начыння вывезлі ў Варшаву. Унікальны арган быў дэманціраваны і адпраўлены ў Вільню, у Святаянскі сабор, дзе ён, дарэчы, знаходзіцца і цяпер.

Яшчэ далей пайшлі савецкія ўлады. У 1936 годзе сабор падкарацілі, разабраўшы два верхнія ярусы званіцы. Самі званы знялі яшчэ раней. Знішчылі ўнікальны старадаўні гадзіннік работы віленскага майстра Густава Мундзі. А восенню 1963 года храм увогуле ўзарвалі і на яго месцы паставілі нехлямяжы дзевяціпавярховы жылы дом, які ў Полацку з’едліва празвалі «домам з вушамі».

На шчасце, у новай, незалежнай Беларусі да гістарычнай спадчыны сталі адносіцца больш адказна. Толькі за апошнія два дзесяцігоддзі ў горадзе ўстаноўлены велічныя помнікі выдатным людзям Полаччыны — Усяславу Чарадзею, Андрэю Полацкаму, Еўфрасінні Полацкай, Францыску Скарыне, Сімяону Полацкаму…

За гады незалежнасці горад стаў адметным культурным і духоўным цэнтрам рэспублікі. Створаны і плённа працуе Нацыянальны полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік. Ён складаецца з адзінаццаці структурных падраздзяленняў. Гэта — Музей беларускага кнігадрукавання, Музей-бібліятэка Сімяона Полацкага, Краязнаўчы музей, Прыродна-экалагічны музей, Музей традыцыйнага ткацтва Паазер’я, Мастацкая галерэя, Музей баявой славы, Дзіцячы музей і іншыя.

Палачане ганарацца тым, што іх горад афіцыйна прызнаны геаграфічным цэнтрам Еўропы. Пра гэта сведчыць спецыяльны знак, устаноўлены на адной з галоўных вуліц. А яшчэ ў Полацку ёсць унікальны, адзіны ў свеце помнік. Гэта помнік літары «Ў». Як даніна вялікай пашаны да роднай мовы, глыбокай павагі да радзімы першага беларускага кнігадрукара, высокага піетэту да старажытнай, багатай на таленты Полацкай зямлі. І невыпадкова Полацк называюць бацькам гарадоў беларускіх. Адсюль пачалася наша гісторыя, наша дзяржаўнасць і нават, як сказаў паэт, адсюль пачаўся свет.

## Таямніцы адкрываюцца дапытлівым

З самай раніцы едзем у Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт. Там нас чакае надзвычай цікавы чалвек, адзін з самых дасведчаных знаўцаў полацкай даўніны, вядомы археолаг Дзяніс Дук.

Яго біяграфія пакуль што кароткая. І звязана з адной мясцінай — з Полаччынай. Тут ён нарадзіўся, тут скончыў універсітэт і ў гэтым жа ўніверсітэце застаўся

працаваць на кафедры гісторыі і сацыялогіі. Спачатку шараговым выкладчыкам, пасля — загадчыкам кафедры айчыннай і ўсеагульнай гісторыі. З 2013 года Дук — прарэктар па вучэбнай рабоце. І ўвесь час актыўна займаўся навуковай дзейнасцю. Абараніў кандыдацкую, а неўзабаве (у трыццаць чатыры гады!) і доктарскую дысертацыю. Стаў адным з самых маладых у краіне доктарам гістарычных навук, прафесарам. Мае больш за сто навуковых і навукова-метадычных публікацый, тры манаграфіі.

Галоўны прадмет яго навуковых інтарэсаў і галоўнае захапленне жыцця — археалагічнае даследаванне Полацка і тэрыторый былой Полацкай зямлі. Вынікам гэтай працы сталі кнігі «Археалагічныя комплексы пасадаў Полацка IX—XVIII стагоддзяў», «Полацк і палачане (IX—XVIII стагоддзі)», «Полацк XVI—XVIII стагоддзяў: нарысы тапаграфіі, гісторыі матэрыяльнай культуры арганізацыі жыццёвай прасторы насельніцтва беларускага горада» і іншыя.

Напярэдадні сазваніліся з Дзянісам Уладзіміравічам і ён паабяцаў, што знойдзе вольнае акенца ў сваім шчыльным графіку заняткаў для таго, каб сустрэцца.

Падымаемся на другі паверх галоўнага ўніверсітэцкага корпуса, знаходзім патрэбны нам кабінет. Яго гаспадар — высокі, хударлявы, усмешлівы мужчына — прыязна нас сустракае. З Навумам Гальпяровічам яны знаёмыя даўно, таму могуць дазволіць сабе і абняцца. Са мною Дзяніс Уладзіміравіч вітаецца, моцна паціснуўшы руку і дапытліва зірнуўшы ў вочы: маўляў, чым буду карысны? Выказваем жаданне паслухаць яго аповед пра старажытны Полацк, пра вынікі апошніх раскопак і наогул пра тое, чым жыве полацкая школа археолагаў.

— О, гэта сур’ёзна, — усміхаецца Дук і запрашае нас прысесці за стол, які стаіць крыху ўбаку ад рабочага стала. Я ўключаю дыктафон, і наша гутарка пачынаецца.

*— Дык колькі ўсё-такі Полацку гадоў? Даводзілася чытаць, што пасля вашых раскопак на полацкім гарадзішчы, была зроблена сенсацыйная выснова: горад старэйшы за афіцыйную дату амаль на сто гадоў. І гэты факт беларуская навука не аспрэчвае.*

— Так, сапраўды падчас раскопак мы знайшлі артэфакты, якія пацвярджаюць, што славяне-крывічы заснавалі Полацк як буйны адміністрацыйны цэнтр акругі намнога раней, чым 862 год. Археалагічна пацверджаная дата — 780 год.

Але гэта не мае вялікага значэння. І было б нават няправільна зараз мяняць афіцыйна ўстаноўленую дату. Чаму? Таму што для гісторыкаў прыярытэтнымі з’яўляюцца летапісныя звесткі. Археалагічныя ж артэфакты могуць іх толькі пацвярджаць альбо абвяргаць. На сённяшні дзень у самых старажытных летапісных зводах упамінаецца менавітая гэтая дата — 862 год. Дарэчы, доўгі час і яна ставілася пад сумненне. Выказваліся думкі, што гэтая дата не мае ніякага дачынення да рэальнага Полацка. Але мы, археолагі, даказалі, што горад тут існаваў не толькі ў 862 годзе, але і намнога раней.

Іншых надзейных крыніц пакуль што няма. Вельмі важным і надзвычай цікавым дакументам мог бы быць Полацкі летапіс. На жаль, у складаных гістарычных варунках ён згубіўся. Праўда, ёсць надзея, што калі-небудзь мы яго знойдзем і, магчыма, многія факты ацэнім па-іншаму.

Даказаным, прабачце, што паўтаруся, з’яўляецца і той факт, што Полацк заснавалі не балты, не скандынавы, а славяне. Яны ж заснавалі і Рурыкава гарадзішча — прадцечу Ноўгарада. У IX стагоддзі Ноўгарада яшчэ не было. І атрымоўваецца, што з усіх гарадоў, якія заснавалі славяне, Полацк — самы старажытны.

Скандынаваў у нашым горадзе было значна менш, чым у Ноўгарадзе, у старажытным Ізборску, у Ладазе. Там пласт скандынаўскай культуры сапраўды даволі высокі. У Полацку адваротная карціна. Скандынаваў мы тут не заўважаем. Мы бачым славян, якія заснавалі горад. Скандынавы з’яўляюцца значна пазней. Я не кажу, што іх тут не было. Яны былі, але іх роля была іншай.

І, мусіць, нездарма нашы продкі, славяне, запрасілі на пасад першага князя Рагвалода. Ён не паходзіў з дынастыі Рурыкавічаў. Гэта быў асобны род. Можна

сказаць, што на Русі ўтварыліся дзве самастойныя галіны — дынастыя Рагвалодавічаў і дынастыя Рурыкавічаў. Нават дынастычна яны не былі звязаны. Гэта сведчыць пра тое, што мясцовыя плямёны самі вырашалі свой лёс. Яны самі маглі запрасіць гаспадара са Скандынавіі, а не з роду Рурыка, не з нашчадкаў яго князёў. І гэта адметна.

*— Дзяніс Уладзіміравіч, а чаму вы кажаце, што будзе няправільным мяняць афіцыйную дату заснавання Полацка? Кіеў жа з дапамогай археалагічных дадзеных намнога павялічыў свой узрост.*

— Я не згодзен з вамі. Гэта вельмі няўдалы прыклад. Не так даўно я быў у Кіеве на навуковай канферэнцыі і гэтую праблему адчуў вельмі выразна. Справа ў тым, што за дату заснавання ўкраінскай сталіцы іхні вучоны Пётр Талочка ў якасці кропкі адліку ўзяў V стагоддзе. Але гэта было яшчэ ў сямідзясятыя гады мінулага стагоддзя. А сёння ўжо самі археолагі прызнаюць, што памыліліся па меншай меры на сто гадоў.

Ведаеце, ёсць даціроўка абсалютная і адносная. Абсалютная — гэта калі маем дакладную дату, месяц, год. Адносная — калі можам сказаць, што тое ці іншае пасяленне існавала ў межах пэўнага часавага інтэрвалу. Дык вось тая дата, якая атрымана па Кіеве, з’яўляецца адноснай і ўжо адкарэкціравана на сто гадоў. Больш дакладна, зыходзячы з археалагічных артэфактаў, вучоныя сказаць не могуць. Але мы маем летапісныя звесткі, калі княжыў Дзір. І Кіеў быў тады сельскім пасяленнем вельмі нязначным.

Падкрэслю яшчэ раз: на сённяшні дзень ёсць адназначны прыярытэт. Гэта — прыярытэт пісьмовых крыніц. Што тычыцца Полацка, то нашы археалагічныя знаходкі засведчылі, што ён быў вялікім горадам задоўга да 862 года, калі ўпершыню ўпамінаецца ў летапісах. Больш за тое, радыёвугляродны аналіз прадметаў, знойдзеных на старажытным полацкім гарадзішчы, доказвае, што на гэтым месцы яшчэ ў VII стагоддзі да нашай эры існавала пасяленне. І ўжо тады яно мела назву Полацк — ад назвы ракі Палата, на беразе якой было заснавана.

Усё гэта, безумоўна, важна, цікава. Але, паверце, не дужа істотна. У дадзеным выпадку істотны пацверджаны археалагічна факт першага пісьмовага ўпамінання Полацка як горада і кім ён быў заснаваны. Як істотна і тое, што Полацк — адзін з самых старажытных славянскіх гарадоў.

*— Вы сказалі, што ёсць надзея Полацкі летапіс расшукаць...*

— Ёсць. І яна не беспадстаўная. Гэта надзея цепліцца, таму што сказана: «рукапісы не гараць». Апошнім Полацкі летапіс чытаў расійскі гісторык Васілій Тацішчаў. І гэта быў спіс Яропкіна, які працаваў з Тацішчавым. Значыць, было некалькі спісаў, і не можа быць, каб ніводзін з іх не адшукаўся. А пакуль гісторыкі робяць своеасаблівую рэканструкцыю з розных летапісаў, якія захаваліся да нашых дзён. Выбіраюцца тыя фрагменты тэкстаў, якія маглі сюды трапіць з Полацкага летапісу. Такая спроба робіцца.

Мы шмат пра гісторыю Полацка ведаем з Наўгародскіх летапісаў. Гэтыя звесткі траплялі, як правіла, тады, калі полацкія князі канфліктавалі з наўгародскімі. А пра ўнутранае жыццё палачан мы там практычна нічога не знойдзем, таму што ні наўгародцаў, ні кіяўлян гэта не цікавіла.

Вось, дарэчы, вельмі добры прыклад новых гістарычных крыніц. Летась была выдадзена кніга «Спасская церковь Ефросиньевского монастыря Полоцка и ее фрески». Кніга стала для нас вельмі багатай крыніцай. З яе мы даведаліся, якімі кнігамі карысталася Еўфрасіння, адкуль яна іх збірала для сваёй бібліятэкі. Аказваецца, яна замаўляла іх як з Канстанцінопаля, так і з Рыма. Наша асветніца роўна паважалася як заходняй царквой, так і ўсходняй.

З гэтай жа кнігі мы даведваемся шмат новага, цікавага аб фрэсках Спаскай царквы. Некалькі стагоддзяў яны былі схаваныя пад двума слаямі жывапісу, які таксама мае пэўную каштоўнасць. Таму перад расійскімі рэстаўратарамі стаяла надзвычай складаная задача: раскрыць фрэскі, не пашкодзіўшы жывапіс. Сучасныя тэхналогіі, а таксама выключнае майстэрства рэстаўратараў дазволілі гэта зрабіць.

Унікальная, ювелірная праца яшчэ працягваецца, але ўжо можна зрабіць важныя высновы. Па-першае, фрэскі выкананы паводле канцэпцыі самой Еўфрасінні. І самае цікавае, як асветніца асабіста замаўляла пэўныя сюжэты, напрыклад, уласцівыя для заходнехрысціянскай традыцыі. Гэта была жанчына, якая ламала ўсе стэрэатыпы, выходзіла за межы ўстаноўленых канонаў. І для таго, каб данесці нейкія сюжэты да сваіх суайчыннікаў, яна брала сюжэты больш шырокія і тым самым праводзіла своеасаблівы экуменізм. Напрыклад, па яе меркаванні, Вацлаў Чэшскі такі ж самы святы, як у нас святыя Барыс і Глеб. Па-другое, Спаская царква — адзіны ва Усходняй Еўропе аб'ект, дзе фрэскі захаваліся ад падлогі да купала. Прычым аўтарам тэкстаў пад імі з'яўляецца таксама Еўфрасіння. Вось чаму наша царква павінна быць абвешчана аб'ектам нулявой (самай значнай!) катэгорыі ў культурнай спадчыне ЮНЕСКА.

*— Дзяніс Уладзіміравіч, пэўны час таму ў друку прамільгнула паведамленне аб тым, што ў Ноўгарадзе пры раскопках знойдзена пячатка Еўфрасінні Полацкай. А нядаўна такую ж пячатку раскапалі і ў нас, на тэрыторыі Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра.*

— Не, гэта зусім розныя артэфакты. Пячатка, знойдзеная ў Ноўгарадзе і якую прыпісвалі Еўфрасінні Полацкай, ёй не належыць. Хоць там і ёсць адпаведны надпіс з імем Еўфрасінні. Першым у гэтым усумніўся доктар гістарычных навук Маёраў, бо ў напісанні імені ёсць істотнае адрозненне, і выказаў меркаванне, што гэта магла быць пячатка Еўфрасінні Галіцкай — таксама вядомай асветніцы XII стагоддзя.

І тут мы знаходзім сваю пячатку, якая, на думку спецыялістаў, несумненна належыць нашай асветніцы. Супадае надпіс на крыжы: не Еўфрасіння, а Офрусіння, менавіта такім было яе нарачэнне. І ў жыцці яна звалася гэтак. Такім чынам пастаўлена апошняя кропка ў той палеміцы, якая была разгорнута вакол наўгародскай пячаткі.

Важнасць нашай знаходкі ў тым, што гэта першая атрыбутаваная пячатка, якая належыла Еўфрасінні Полацкай. Яна сведчыць аб ролі Еўфрасінні не толькі як царкоўнай дзяячкі, але і як палітычнага лідара. Полацкая была ўнікальнай асобай, якая арганічна спалучала ў сабе абедзве гэтыя якасці. Па сутнасці, яна была блізкай да князя, епіскапа, і ў пэўныя моманты магла дзейнічаць ад іх імя. Значыць, мела права весці перапіску з «сильными мира сего». Еўфрасіння ўласнаручна падпісвала розныя пісьмы, дакументы і змацоўвала іх сваёй пячаткай. Як бачыце, яна і тут ламае стэрэатыпы.

Крыху пазней на раскопках знайшлі яшчэ адну пячатку. Па сваім тыпе яна належыць да епіскапскіх пячатак. Хоць устанавіць канкрэтнага ўладальніка пакуль не ўдалося. Але гэта не так ужо і істотна. Ужо тое, што на дастаткова невялікай плошчы знойдзены такія ўнікальныя артэфакты сведчыць аб тым, што ў манастыры актыўна вялася дзелавая перапіска і што ён ужо ў XII стагоддзі быў не толькі буйным духоўным і культурным, але і значным грамадска-палітычным цэнтрам.

*— Колькі слоў пра яшчэ адну рэліквію Спаса-Праабражэнскай царквы: жамчужыну ювелірнага мастацтва, напрастольны Крыж-рэліквацый, створаны выдатным майстрам Лазарам Богшам. Семдзесят пяць гадоў таму гэты Крыж бясследна знік з прыфрантавога Магілёва. Яго спрабавалі шукаць у Нямеччыне, у амерыканскіх фондах, у сховішчах Ватыкана, у расійскіх музеях. Марна. Як вы думаеце, ці знойдзецца калі-небудзь наша нацыянальная святыня?*

— Знойдзецца, канешне. На маю думку, ён у Расіі. Немцы вельмі педантычная нацыя. Такога кшталту каштоўнасць яны не маглі не занатаваць. І ў іх ужо даўно ўсё знайшлося б. Тым больш, што была цэлая праграма рэпарацыі — вяртання нарабаваных каштоўнасцей.

Канешне, Крыж у Расіі. Думка беларускага гісторыка Сяргея Тарасава аб тым, што ён можа быць у Сергіевым пасадзе, мае права на існаванне. Нядаўна ў нас была навуковая канферэнцыя, на якой вучоны выступіў з гэтай канцэпцыяй. Прысутнічалі гісторыкі, мастацтвазнаўцы — як беларускія, так і замежныя, і ніхто з іх не запярэчыў. Тарасаў абгрунтаваў сваю канцэпцыю даволі доказна.

Коратка змест яе такі. Калі напачатку вайны праваслаўная царква пайшла насустрач дзяржаве, пачала маліцца за перамогу савецкай зброі, то і дзяржава павінна была нечым адплаціць. А чым? Усё, што было канфіскавана ў царквы, даўно занесена ў дзяржаўныя сховішчы альбо ў фонды музеяў. Адтуль штонебудзь узяць і вярнуць царкве было нерэальна. Заставалася аддаць тое, што яшчэ не ўлічана. Такімі няўлічанымі маглі быць вывезеныя з магілёўскага музея каштоўнасці, у тым ліку і Крыж Еўфрасінні Полацкай.

Нагадаю таксама, што ў свой час у газеце «СБ. Беларусь сегодня» быў апублікаваны артыкул нашага вядома вучонага-даследчыка Адама Мальдзіса, у якім прыводзілася прызнанне Панцеляймона Панамарэнкі. Беларускі партыйны кіраўнік сцвярджаў, што бачыў Крыж Еўфрасінні Полацкай у Маскве на ўласныя вочы. Значыць, вывезеныя з Магілёва каштоўнасці паспяхова трапілі ў сталіцу. А вось куды яны дзеліся пасля — невядома. Некалі ўсплывуць. Яшчэ не прыйшоў час.

*— Ёсць яшчэ адно пытанне, якое, думаецца, цікавіць многіх. Як вядома, маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч, захапіўшы Полацк, абышоўся і з горадам, і з палачанамі даволі жорстка. Значная частка пабудоў была спалена, а дзясяткі тысяч жыхароў прымусова вывезены ў Масковію і сталі халопамі рускіх памешчыкаў. І вось у гэты самы час знакаміты сын Полацкай зямлі, наш вялікі патрыёт Сімяон Полацкі добраахвотна прымае рашэнне выехаць у Маскву, служыць цару. Як такое магло стацца?*

— Вы падыходзіце да пытання даволі спрошчана. Сітуацыя была не такая адназначная. Па-першае, Аляксей Міхайлавіч шчыра верыў, што ён прынёс палачанам свабоду, вызваліў іх ад уціску польскіх магнатаў. Гэта вера падмацоўвалася тым, што ў Полацку яго сустракалі з помпаю. Рамеснікі рабілі адмысловыя вырабы і ўрачыста дарылі цару. Шкляры зрабілі шыкоўны набор шклянак з ініцыяламі Аляксея Міхайлавіча. І ніякіх ідэалагічных штампаў не было. Іншая, сярэднявечная ментальнасць людзей.

Хацелася верыць у лепшае.

І сапраўды, на першым часе жыхарам Полацка было дазволена жыць у сваіх дамах па-ранейшаму, гандляваць без усялякіх пошлін, акрамя таго іх на тры гады вызвалілі ад падаткаў. А Богаяўленскаму манастыру вярнулі ўсе вёскі, якія раней загадам караля былі перададзены католікам. Таму для большасці палачан царскія войскі не ўспрымаліся як захопнікі. Гэта была для іх абсалютна легітымная ўлада. І яны працягвалі вырашаць усе свае надзённыя праблемы як і дагэтуль. Любая вайна выклікае ў простага чалавека адно жаданне — выжыць. Мяшчане не ваявалі. Ваявала шляхта, гэта быў яе абавязак. А ў простых людзей і пры Магдэбургскім праве былі зямныя клопаты.

Па-другое, Сімяон Полацкі быў чалавек кніжны, чалавек творчы. І ў часы ліхалецця натуральна, што ён з’ехаў у Маскву, дзе былі для яго зусім іншыя магчымасці і дзе сам цар адносіўся да яго з вялікай павагаю. Яму патрэбен быў мецэнат, пад апекай якога ён мог бы служыць сваёй музе. Менавіта музе, а не цару.

Не трэба забываць і тое, што на радзіме да гэтага часу абставіны памяняліся да горшага. Не было ўжо ігумена Іяўлевіча, настаўніка і заступніка Сімяона. А новы епіскап полацкі Каліст адносіўся да яго адкрыта варожа. Аднойчы за нейкую правіннасць прызначыў яму зняважлівае пакаранне — працу ў хляве, а пасля па ілжывым даносе наогул пасадзіў у турму. Праўда, праз два тыдні Сімяона ўсё ж выпусцілі, але горкая крыўда ў яго засталася. І гэта стала апошняй кропляй, якая перапоўніла чашу цярпення. І хто ведае, калі б не ад’езд у Маскву, ці змог бы ён выканаць галоўную справу свайго жыцця…

*— Дзяніс Уладзіміравіч, а раскажыце крыху пра галоўную справу свайго жыцця. З чаго вы пачыналі раскопкі? На якім этапе гэтая справа цяпер? І якія ў полацкіх раскопкаў перспектывы?*

— Ну, перспектывы бязмежныя. Мы, па вялікім рахунку, да сапраўдных раскопкаў у Полацку толькі прыступілі. Да нядаўняга часу яны праводзіліся спарадычна і мелі кропкавы характар — вывучаліся асобныя гістарычныя аб’екты. А з 2008 года, калі была прынята комплексная праграма развіцця горада, пачала-

ся праца пастаянна дзеючай археалагічнай экспедыцыі па вывучэнні Полацкай зямлі.

Раскопкі праводзяцца штогадова. І праводзяцца яны мясцовымі сіламі. Спачатку гэта быў я адзін. Пасля, калі мяне прызначылі загадчыкам кафедры, я адбіраў лепшых выпускнікоў і пакідаў на кафедры ў якасці выкладчыкаў. І цяпер у нас, у Полацку, ёсць ужо пяць высокакваліфікаваных археолагаў, якія маюць ліцэнзію і выдатна ведаюць, што і як рабіць. Так што калі гаварыць пра справу майго жыцця, то я лічу, што мая місія выканана: у нас створана свая археалагічная школа.

*— Але ж, спадзяюся, гэта не значыць, што вы больш раскопкамі займацца не будзеце?*

— Ні ў якім разе. Я не толькі вызначаю галоўныя аб'екты археалагічных даследаванняў, але і непасрэдна курырую раскопкі. От якраз у гэтыя дні на Верхнім замку праводзіць раскопкі мой вучань Аляксей Коц. Да нас ён прыйшоў валанцёрам, калі быў яшчэ ў шостым ці сёмым класе. Апантаны археалогіяй, ён паступіў ва ўніверсітэт, застаўся на кафедры і цяпер піша кандыдацкую дысертацыю.

Дарэчы, да Коца на Верхнім замку ніхто ніякіх раскопак не рабіў. Спадзяюся, што наша праца тут дазволіць праліць святло на тое, якое месца меў усё-такі Верхні замак у жыцці горада. Яму прыпісваюць розныя функцыі, а дакладных фактаў у нас няма. І толькі археолагі могуць расставіць усе кропкі над «і» і паказаць, ад якога часу Верхні замак стаў фартэцыяй Полацка.

Аляксей Леанідавіч са сваімі памочнікамі якраз і заняўся гэтай справай. Яны ўжо раскапалі да трох метраў у глыбіню (а ўсяго культурны слой там дасягае больш за шэсць метраў) і дайшлі да вала XVI стагоддзя. Таго вала, які служыў надзейнай абаронай падчас Лівонскай вайны. Знайшлі фактычна цэлую пабудову — драўляны зруб, які захаваўся на ўзроўні трох вянцоў. А вянцы там па трыццаць сантыметраў, масіўныя бярвенні, якія можна хоць зараз выкарыстоўваць паўторна — настолькі яны выдатна захаваліся. Што важна: захаваліся таксама элементы ўнутранай прасторы — дошкі падлогі, некаторыя драўляныя вырабы.

На якім этапе мы знаходзімся? Цяжка вызначыць, гэта працэс перманентны. Магу толькі сказаць, што на ключавыя пытанні гісторыі Полацка мы ў прынцыпе ўжо адказалі. Мы ведаем, калі быў заснаваны горад, як ён развіваўся, якая была логіка яго развіцця. Але застаецца яшчэ вельмі шмат неразгаданых таямніц. Кожнае адкрыццё нараджае новыя загадкі. Чым больш мы капаем, тым больш ўзнікае пытанняў. І гэта ўжо справа наступных пакаленняў, справа маіх вучняў. Таямніцы, як вядома, адкрываюцца дапытлівым, настойлівым. І я веру, што яны абавязкова адкрыюцца, бо мы ведаем куды ідзём, ведаем што рабіць.

*— Калі ласка, крыху падрабязней пра гэта.*

— Пачну здалёк. У сямідзясятыя гады мінулага стагоддзя выйшла кніга Георгія Штыхава «Старажытны Полацк». І адразу пасыпаліся рэцэнзіі вельмі аўтарытэтных расійскіх вучоных, якія сказалі, што кніга выдатная, але ў ёй ідзе гаворка пра Полацк XI—XIII стагоддзяў. А вось доказаў, што горад існаваў у IX стагоддзі, няма. Таму, маўляў, можна казаць пра Полацк толькі часоў Рагвалода, калі Уладзімір захапіў горад. Што было раней — выклікае вялікае сумненне.

І доўгі час мы не маглі знайсці адказ на пытанне, ці сапраўды існаваў Полацк як горад у IX стагоддзі і якая была роля скандынаваў у гэтым працэсе. І тут высвятляем (гэта ўжо падчас маіх раскопак), што Полацк сапраўды існаваў задоўга да летапіснага ўпамінання. На гарадзішчы мы знайшлі неаспрэчныя матэрыяльныя сведчанні. У прыватнасці, куфічныя дырхемы — сярэбраныя манеты арабскага халіфата, якія былі адчаканены не пазней 818 года і трапілі ў Полацк у 820—830-я гады.

З гэтым нарэшце пагадзіліся і нашы маскоўскія калегі. Яны сказалі: так, Полацк у IX стагоддзі існаваў, з гэтым прыйдзецца змірыцца, але ён быў другарадным, нават трэцярадным правінцыйным горадам. І малазаўважным, таму што тут не было скандынаваў. На думку маскоўскіх вучоных, калі няма скандынаваў, то няма і горада. Бо славяне, маўляў, гарады не засноўвалі.

Але славяне не засноўвалі гарады ў Наўгародскай зямлі, а Полацкая зямля дае іншы прыклад. Нашы археолагі пераканаўча даказалі: калі на месца пасялення балтаў у IV стагоддзі прыйшлі славяне — менавіта тады і пачаліся кардынальныя перамены. Непрыкметнае радавое пасяленне ператварылася ў гарадзішча, а праз нейкі час стала і горадам. Знойдзеныя рэшткі металічных і керамічных вырабаў, прадметаў быту яскрава сведчаць аб тым, што ўжо напрыканцы VIII стагоддзя Полацк быў развітым гандлёвым і рамесніцкім цэнтрам рэгіёна.

Археалагічна мы даказалі факт, які ніхто абвергнуць не можа: у XI стагоддзі плошча Полацка пераважала ўсе вядомыя на той час гарады і складала 200 гектараў. Для параўнання: Кіеў займаў 120 гектараў, а Ноўгарад — і таго менш, усяго 60 гектараў. І яшчэ адна важная акалічнасць. Калі ў Кіеве горад умацоўваецца пераважна з цэглы і каменя, то палачане ішлі традыцыйным шляхам — будавалі з дрэва. Яны не ўмацоўвалі сцены горада, як гэта рабілі кіяўляне, а пашыралі сваю ўладу ў Ніжнім Падзвінні, засноўвалі тут Герцыке і Кукейнос.

І дзяржаўнасць таксама пачынаецца ад славян, бо менавіта яны не скарысталіся дапамогай існуючай на той час дынастыі, а запрасілі свайго ўласнага князя. І дынастыя полацкіх князёў — гэта Рагвалодавы ўнукі. Яны сябе не атаясамлялі з Рурыкавічамі. Яны ніколі не прэтэндавалі на ўладу ў Кіеве, таму што дынастычна не мелі на гэта права. Вось чаму Усяслаў, які ў выніку народнага паўстання быў пастаўлены там на княжанне, пракняжыў зусім кароткі час, выдатна ўсведамляючы ненадзейнасць, ненатуральнасць свайго становішча.

Такім чынам, Полацк прадстаўляе асобны шлях развіцця дзяржаўнасці на тэрыторыі Усходняй Еўропы. Скандынавы былі пры двары полацкага князя, але князь не робіць на іх стаўку. Ён цалкам абапіраецца на мясцовую дружыну.

А якая ж была роля ў скандынаваў? Вольга Мікалаеўна Ляўко, мая калега з Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук, не так даўно паднесла сюрпрыз, якога беларуская навука даўно чакала. Яна адкрыла класічнае скандынаўскае паселішча на тэрыторыі Беларусі — комплекс археалагічных помнікаў каля вёскі Кардон. І гэта была чыста скандынаўская фартэцыя, якая складалася з некалькіх селішчаў і гарадзішча. Знаходзіўся Кардон паміж Полацкам і Віцебскам, якраз пасярэдзіне воднага шляху. Там была пераважна скандынаўская матэрыяльная культура.

Што гэта азначае? Толькі тое, што з часу, калі на Полацкую зямлю прыйшоў княжыць Рагвалод, ён з дапамогай скандынаваў, з якімі знайшоў кампраміс, заключыў адпаведны дагавор, ажыццяўляў кантроль над заходнедзвінскім водным шляхам. Праз той гарнізон, што стаяў на тэрыторыі Кардона.

Гэта вельмі важнае адкрыццё. Яно паказвае, што тэрыторыя тагачаснай Беларусі не была ізалявана ад тых працэсаў, якія адбываліся на Наўгародчыне, у Кіеўскай зямлі, і што скандынавы адыгрывалі на Полаччыне ролю мужных ваяроў, якія служылі таму ці іншаму князю. Рурыкавічы не мелі тут пераважнай улады і вялікага ўплыву на ўнутраныя справы Полацкай зямлі. І ўся далейшая гісторыя пацвярджае той факт, што Полацк з сярэдзіны XII стагоддзя развіваўся як адасобленая, самастойная дзяржава і заклаў асновы дзяржаўнага ладу, які ў многім захоўваўся нават тады, калі Полацкая зямля ўвайшла ў склад Вялікага Княства Літоўскага, а пасля — у склад Рэчы Паспалітай. Так што дзяржаўнасць Беларусі ўзнікла не на пустым месцы, яна фактычна сягае ў глыб вякоў.

— *Калі размова зайшла пра адкрыцці, то хацелася б, каб вы пракаментавалі вынікі раскопкаў каля Спаскай царквы…*

— О, гэтыя раскопкі сапраўды прынеслі нам сенсацыйныя адкрыцці. Справа ў тым, што калісьці існавала полацкая школа дойлідаў. Гэта была адна з самых яскравых школ на Русі. Яна мела ўласныя традыцыі, уласныя напрацоўкі і вельмі цікавыя дасягненні. На жаль, з мураваных храмаў XII стагоддзя на сённяшні дзень захавалася толькі Спаская царква ды Сафійскі сабор на ўзроўні падмуркаў. Усе астатнія храмы разбураны, засталіся толькі рэшткі падмуркаў, дзякуючы якім і вызначаны месцы колішніх пабудоў.

А Спаская царква захавалася цалкам, але каля яе ніколі ніхто не рабіў ніякіх раскопак. Лічылася, што пабудова дайшла да нас у тым выглядзе, у якім яна існа-

вала калісьці. Ну, можа, трохі нешта змянілі ў XVIII стагоддзі. Невялікія дадатковыя аб'ёмы з'явіліся крыху пазней, у XIX стагоддзі. А так усё аўтэнтычнае.

І тут у 2015 годзе пачынаюцца раскопкі. Іх рабілі нашы археолагі сумесна са спецыялістамі Эрмітажа, спецыялістамі яшчэ старой, выбітнай савецкай школы. І адразу — сенсацыя! Мы ўбачылі, што царква захавалася зусім не такой, якой яна была пры Еўфрасінні. Застаўся некранутым толькі асноўны аб'ём. Аказваецца, у гэтай царкве існавалі калісьці галерэі. Ды і наверша ў мінулыя гады было значна рэканструявана.

*— А якім чынам гэта ўстанавілі?*

— Мы раскапалі падмуркі, і не толькі асноўнай пабудовы, але і неіснуючай цяпер галерэі. Я больш чым упэўнены, што калі б зняць тынкоўку са сцен храма, то ўбачылі б і сляды прымыкання да іх гэтай галерэі. А яшчэ мы знайшлі пахавальныя крыпты. Гэта ж была царква пахавальная, у чым і заключалася яе часткове прызначэнне.

Адсюль выснова: калі мы да нядаўняга часу нічога не ведалі пра царкву, якая захавалася, то што ведаем пра полацкую школу дойлідства? Тыя храмы, якія калісьці існавалі і руіны якіх мы знаходзім у зямлі, археолагі толькі адкрылі і зафіксавалі іх. А якія гэта былі храмы? Хто іх будаваў? Адкуль прыязджалі дойліды? Мы гэтага не ведаем.

Маем толькі пэўныя звесткі пра дойліда Іаана, які пабудаваў Спаскую царкву. Пры гэтым трэба зрабіць адно невялічкае тлумачэнне. Сёння ёсць паняцце «архітэктар» — гэта значыць, чалавек, які робіць праект. І ёсць паняцце «дойлід» — чалавек, які будуе па праекце. На той час існавала толькі паняцце «дойлід», якое спалучала ў сабе функцыі і архітэктара, і будаўніка.

Менавіта такім быў Іаан. Як архітэктар ён прыдумаў такое аблічча храма, якое нідзе раней на Русі не існавала. А як будаўнік ён здолеў зрабіць так, што храм, пабудаваны па яго праекце, выстаяў больш за 800 гадоў. Канешне, гэта быў крыжова-купальны храм у каноне візантыйскіх традыцый. Аднак пры яго будаўніцтве Іаан прымяніў наватарскія рашэнні, якія нідзе раней не выкарыстоўваліся. Гэта было прыдумана тут, у Полацку. Як гэта было прыдумана? Дзе ён мог падгледзець свае ідэі? Гэта было яго ўласнае рашэнне ці Іаана натхніла Еўфрасіння, у якой ён, канешне ж, пытаўся, якім бы яна хацела бачыць будучы храм?

Цікава, што Еўфрасіння не наняла арцель будаўнікоў, якія пабудавалі ўжо не адзін храм і не сказала ім: будуйце так, як вы ўмееце. А ўзяла інака з манастыра, каб ён зрабіў нешта новае, арыгінальнае, адметнае. І той зрабіў. А каб ажыццявіць прыдуманае, трэба было вынайсці і новую тэхналогію альбо дзесьці яе падгледзець. Але гісторыкі архітэктуры аднадушна сцвярджаюць, што яны не ведаюць, дзе можна было б такое падгледзець. Такога ў прынцыпе нідзе няма.

А ў Полацку такіх храмаў было дзесяць. І калі раскапаем хаця б частку з іх, то зможам не толькі пераканаўча даказаць, што полацкая школа дойлідства існавала, але і адказаць на вельмі цікавыя пытанні: адкуль і як гэты феномен узнік тут, у Полацку.

*— А вось тая мадэль Сафійскага сабора, якая змешчана ў храме, адпавядае традыцыям полацкай школы?*

— Цяжка сказаць. Гэта ж усяго толькі прыблізная рэканструкцыя, зробленая зыходзячы з тых дадзеных, якія былі атрыманы ў 80-я гады мінулага стагоддзя. І калі б мы сёння правялі раскопкі ў Сафійскім саборы з выкарыстаннем сучасных тэхналогій, якія былі прыменены на раскопках Спаскай царквы, то, паверце, гэта мадэль была б значна перагледжана.

*— Так што раскопкі Сафійскага сабора…*

— …яшчэ наперадзе.

*— Што яшчэ з важных гістарычных аб'ектаў плануецца раскапаць, даследаваць?*

— Такіх аб'ектаў шмат. Вось, напрыклад, забудова Верхняга замка, пра які мы ўжо гаварылі. Падчас далейшых раскопак, несумненна, знойдзем там пабу-

довы і XII, і XIII, і XVII стагоддзяў. Гэта ўнікальны аб’ект. На яго аснове можна зрабіць музей пад адкрытым небам.

*— А ці не зашкодзіць гэта старажытным пабудовам?*

— Прабачце, я сказаў не зусім карэктна. Не пад адкрытым небам, а пад шкляным навесам. Як у Тураве. Такую ж музеефікацыю можна зрабіць і з рэшткаў вялікага храма Бельчыцкага манастыра. Гэтаму нішто не замінае. І ў нас быў бы створаны яшчэ адзін выдатны турыстычны аб’ект.

На Верхнім замку ўжо настаў час правесці нармальную прарэзку вала і паглядзець, як тут усё будавалася, калі гэта тэрыторыя стала замкам. Бо мы мяркуем (ёсць такая гіпотэза, і даволі слушная), што спачатку гэта быў сакральны аб’ект. У дахрысціянскія часы тут магло быць капішча. І толькі пазней, калі Полацк прыняў хрысціянства, на гэтым месцы пабудавалі Сафійскі сабор. Лічылася, што вакол замка існавала крапасная сцяна, а сам замак быў галоўнай фартэцыяй. Аднак усе раскопкі і ўсе даследаванні, якія тут праводзіліся, а таксама пісьмовыя крыніцы сведчаць, што першыя ўмацаванні ў Верхнім замку з’явіліся толькі ў 1307 годзе, гэта значыць пасля ўваходу Полацка ў склад Вялікага Княства Літоўскага.

А што было дагэтуль? Вельмі цікава дазнацца, ці былі там старажытныя ўмацаванні? Я схільны думаць, што былі. Але на сённяшні дзень у нас няма ніякіх сведчанняў аб гэтым. Праўда, такіх велізарных валоў, якія мы бачылі на Менцы, на Свіслачы, у Віцебску, такіх фартэцый на Верхнім замку мы не знайшлі. Але гэта не значыць, што тут наогул ніякіх умацаванняў не было.

*— Як вядома, на Полаччыне шмат курганоў. Ці ўяўляюць яны інтарэс для археолагаў?*

— Несумненна. Але справа ў тым, што многія з іх ужо ўскрыты так званымі чорнымі капальнікамі. І гэта — бяда. Мы не паспяваем за імі.

*— Ёсць жа закон...*

— Закон ёсць. Галоўнае, каб ён працаваў. Цяпер што тычыцца інтарэсу. Адзін з маіх калег Віктар Чараўко займаецца даследаваннем сельскіх могілак XIV—XVII стагоддзяў. Гэта быў якраз той час, калі беларускі этнас толькі афармляўся, але мы пра гэты час вельмі мала ведаем. Хоць бы пра тыя ж пахавальныя традыцыі. А гэта ж і атрапалагічны ўклад насельніцтва, і ўмовы жыцця людзей, і многае іншае. Дык вось цяпер ускрываем гэты пласт культуры і робім нямала адкрыццяў.

У прыватнасці, думалі, што ставіць на магілах не толькі крыжы, але і камяні з надпісамі — гэта традыцыя скандынаваў. Аказалася, не. Так рабілі нашы сяляне, беларусы.

Падчас адной з экспедыцый мы раскапалі ў вёсцы Туржэц магілу сярэдзіны XVIII стагоддзя — і дзіву даліся, як нашы продкі хавалі памерлых. Яны рабілі дамавіну з выступам пад галаву. Далей пасля пахавання ставілі на магілу драўляны зруб. Праз некаторы час спальвалі яго. І толькі выканаўшы ўсе гэтыя абрады, уладкоўвалі на магіле каменную агароджу, ставілі ў галаве вялізны камень з высечанай выявай.

Такая традыцыя дажыла амаль да савецкіх часоў. Адзін з нашых этнолагаў у Докшыцкім раёне запісаў аповед дзевяностагадовай бабулі, якая з дзяцінства памятае, як у яе вёсцы хавалі памерлых. Сапраўды, спачатку рабілі зруб. Праз год яго спальвалі, і толькі пасля гэтага ставілі крыж. Цікава? Цікава!

*— Колькі слоў пра Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт. Ці лічыце вы яго пераемнікам тых навучальных устаноў, якія існавалі пры езуітах?*

— Так, гэта быў напачатку калегіум, які пасля пераўтварылі ў акадэмію з правамі ўніверсітэта. На жаль, гэты пласт гісторыі мала даследаваны. Мы да яго толькі-толькі падыходзім. Але каб падысці да яго ўшчыльную, патрэбна карпатлівая праца ў архівах Ватыкана, Кракава, Прагі. Там, дзе захаваліся звесткі пра дзейнасць Полацкага калегіума. Усе дакументы — там. Разам з тым адсутнасць

неабходнай дакументальнай базы не перашкаджае нам лічыць наш універсітэт пераемнікам таго калегіума, той акадэміі, якія існавалі тут калісьці. Гэта адлюстравана на нашым гербе, прасочваецца ў нашай адукацыйнай палітыцы. Хаця афіцыйнай датай адкрыцця лічыцца 1968 год. Хутка будзем святкаваць яго пяцідзесяцігоддзе.

Наш універсітэт класічнага тыпу. Мы рыхтуем спецыялістаў як тэхнічнага профілю, так і гуманітарнага. На сённяшні дзень працуе дзевяць факультэтаў. Раней праводзілі набор студэнтаў па 43 спецыяльнасцях, цяпер — па 33. Усё дыктуе рэальнасць, патрабаванні часу. Адкрываюцца спецыяльнасці новыя, а некаторыя закрываюцца. Кан’юнктуру вызначае попыт работадаўцаў. Гэта — жыццё.

Усяго ва ўніверсітэце навучаецца каля 14 тысяч студэнтаў. Інтэрнатамі забяспечаны ўсе іншагароднія. На кафедрах працуе 450 выкладчыкаў, з іх 18 чалавек маюць ступень доктара навук і 150 — кандыдата навук. Мы сёння самая буйная навучальная ўстанова на Віцебшчыне з вялікім спектрам спецыяльнасцей тэхнічнага і гуманітарнага кола.

*— Як вы ацэньваеце сённяшняе пакаленне студэнтаў?*

— Заўсёды кажу, што студэнты ў нас самыя лепшыя. Мы працуем на рэгіён і таму набіраем у асноўным юнакоў і дзяўчат мясцовых. На маю думку, іх вызначае нейкая асаблівая полацкая ментальнасць. Яны ведаюць свае карані і ганарацца імі. Не імкнуцца з’ехаць у іншыя гарады, а з ахвотаю застаюцца працаваць на роднай зямлі.

*— Акрамя таго, яны займаюцца ў крыху іншых умовах, чым даводзілася вучыцца вам…*

— Безумоўна! У гады маёй вучобы нам востра не хапала магчымасцей пошуку і апрацоўкі інфармацыі. Таго, што сёння так лёгка і проста прадастаўляецца электроннымі рэсурсамі. Таму сённяшняе пакаленне студэнтаў у гэтым плане — шчаслівыя людзі.

З другога боку, мноства інфармацыі часта расхалоджвае і прытупляе жаданне неабходную інфармацыю шукаць і скрупулёзна апрацоўваць. Нам у свой час, каб напісаць курсавую работу, часам неабходна было ехаць у Мінск і не адзін дзень працаваць у Нацыянальнай бібліятэцы.

А сённяшняя матэрыяльная база ўніверсітэта дазваляе студэнтам любую навуковую працу выконваць на месцы. Дарэчы, з нашымі магчымасцямі можа параўнацца далёка не кожная навучальная ўстанова краіны. І гэта сапраўднае дасягненне, якім неабходна не проста ганарыцца, але і актыўна выкарыстоўваць.

***Працяг у наступным нумары.***

**Вера МІЦКЕВІЧ**

# МЯСТЭЧКА НОВЫ СВЕРЖАНЬ: ДА КАГО ЗАВІТВАЛІ Ў ГОСЦІ ЯКУБ КОЛАС І ЯНКА КУПАЛА

Сёлета адзначаецца 135-годдзе з дня нараджэння беларускіх песняроў Якуба Коласа і Янкі Купалы. Жыццё і творчасць волатаў беларускага слова — невычэрпная крыніца даследчыцкай працы. Шмат цікавай інфармацыі захоўваюць архівы. Прапануем невялікае падарожжа ў Коласаўскі край, маляўнічую Стаўбцоўшчыну і менавіта ў мястэчка Новы Свержань, якое з любоўю апісана як Панямонь у трылогіі Якуба Коласа «На ростанях».

Новы Свержань вядомы з першай паловы XV ст. Вялікі князь ВКЛ Вітаўт у 1428 г. перадаў паселішча сваёй жонцы Ульяне. Пазней двор Свержань — уласнасць маршалка ВКЛ Яна Літавора Храптовіча, яго дачок. Мястэчка знаходзіцца на левым беразе ракі Нёман. На правым, на ўзвышшы было паселішча (Замак, Замак Чартарыйскага), побач праходзіла даўняя галоўная дарога, г. зв. гасцінец, Кацярынінскі тракт. Мястэчка Новы Свержань у 1571—1582 гг. набыў па частках Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка. У 1588 г. ён заснаваў тут каталіцкі Петрапаўлаўскі касцёл у готыка-рэнесансным стылі з вежай-званіцай на галоўным фасадзе. Праз два гады — праваслаўную Успенскую царкву, якая пэўны час была ўніяцкай з базыльянскім кляштарам. Петрапаўлаўскі касцёл і Успенская царква размешчаны на галоўнай рынкавай плошчы мястэчка і з'яўляюцца яе дамінантамі. Абодва храмы маюць незвычайную асаблівасць: іх алтарныя часткі арыентаваны на поўдзень [2, с. 71—73].

Якуб Колас бываў у Новым Свержані, любіў гэта мястэчка — можам меркаваць, невыпадкова. Існуе версія, што менавіта ва Успенскай царкве ахрысцілі немаўлятка Кастуся позняй восенню 1882 г. Хроснай маці была жонка акінчыцкага ляснічага Канстанціна Сянкевіча — Хрысціна, рымска-каталіцкага веравызнання. На жаль, пацвердзіць гэту версію немагчыма, у 1890 г. у царкве адбыўся моцны пажар, верагодна, згарэлі і метрычныя кнігі, дагэтуль яны не выяўлены ў архівах.

Мястэчка апісана класікам у трылогіі «На ростанях»: «*Самымі высокімі будынкамі ў Панямоні былі — царква, касцёл і сінагога. Царква і касцёл стаялі ў цэнтры мястэчка і на самым высокім месцы, сінагога тулілася на задворках, воддаль. Калі Лабановіч яшчэ ў дзяцінстве першы раз пабачыў панямонскі касцёл здалёку, то сваёю формаю гэты будынак нагадаў малому Андрэю вялікага сядзячага ката з задраным угору носам. Так гэтае першае ўражанне назаўсёды і засталося ў памяці*» [5, т. 14, с. 170]. У Новы Свержань, бойкае гандлёвае мястэчка, малы Кастусь не раз прыходзіў ці прыязджаў з Альбуці разам з бацькам і дзядзькам Антосем у кузню, на рынак. Праз «*мястэчка вельмі выдатнае*» ішоў шлях Кастуся-семінарыста. У Міцкевіча-настаўніка тут было шмат сяброў. Летам 1912 г. Якуб Колас і Янка Купала заходзілі ў Новы Свержань да мясцовага ксяндза, адтуль Колас праводзіў Янку Купалу на чыгуначную станцыю ў Стоўбцы.

Згадваецца мястэчка ў артыкулах, паэме «Новая зямля», але найбольш — у коласаўскай трылогіі. *«Старадаўняе мястэчка»* і жыццё панямонскай інтэлігенцыі канца XIX — пачатку XX ст. выразна апісаны ў першай частцы аповесці



*Новасвержанскі касцёл. Пачатак XX стагоддзя.*

«У глыбі Палесся». Сярод «*розных выдатных будынкаў і ўстаноў*» узгадваюцца храмы, дзве школы, два млыны, кузня, цагляная лазня і камяніца. Пра добрых, мілых і далікатных панямонцаў Колас з гумарам адзначае, як яны выказваюць сваё здзіўленне: «*Ва! Ва! Брыток ты мой*», вымаўляючы ў слове «браток» замест літары «а» літару «ы».

Нас жа цікавіць асоба ксяндза. У «Хронiцы панямонскага жыцця» ў навінах па воласці чытаем: «*Каталіцкае насельніцтва воласці, адміністрацыя князя Радзівіла, дробныя арандатары, а таксама і шляхта робяць захады да адчынення ў Панямоні касцёла, зачыненага з 1863 года. Як нам удалося даведацца, касцёл будзе адчынены; ужо назначаны ксёндз Кісля*» [5, т. 13, с. 234].

Прататыпам Кіслі быў ксёндз Андрэй Францавіч Свікля, дастаткова каларытная фігура. Петрапаўлаўскі касцёл у Новым Свержані быў зачынены амаль на 40 гадоў у 1860-я. На пачатку 1902 г. касцёл адчынілі. Магілёўскім архіепіскапам Мітрапалітам Баляславам Клапатоўскім на вакантную пасаду настаяцеля Свержанскага касцёла была прапанавана кандыдатура ксяндза Андрэя Свіклі.

Андрэй Францавіч Свікля (прыблізна 1862 года нараджэння) паходзіў з сялян Зальмуйжскай воласці Люцынскага павета Віцебскай губерні (цяпер — Латвія). У 1881 г. скончыў курс Рэжыцкага гарадскога вучылішча (сучасны г. Рэзэкне), у 1886 г. вытрымаў экзамен пры Пскоўскай губернскай класічнай гімназіі і паступіў у Магілёўскую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю (знаходзілася ў Санкт-Пецярбургу), якую скончыў у 1891 г. Служыў іерэем у г. Коўна, вікарным Варклянскага касцёла, настаяцелем Пашмуцыёўскага касцёла Люцынскага павета Віцебскай губерні. З 1 красавіка 1902 г. Андрэй Свікля — настаяцель Свержанскага касцёла [9, арк. 3 адв., 4]. Гэтаму назначэнню папярэднічала перапіска Мітрапаліта з канцылярыяй Мінскага губернатара, у сваю чаргу канцылярыі Мінскага губернатара з Віцебскім губернатарам наконт атрымання звестак аб паводзінах, маральных якасцях і палітычнай добранадзейнасці ксяндза.

Мінскі губернатар М. М. Трубяцкой дае згоду на назначэнне А. Свіклі на пасаду настаяцеля Свержанскага касцёла «з умовай весці набажэнства і выкладаць духоўныя адпра́вы народу толькі на лацінскай мове» [8, арк. 1—4]. Амаль адначасова Мінскі губернатар прадпісвае павятоваму спраўніку сачыць за дакладным выкананнем загадаў ксяндзом Свіклем і даносіць у розных выпадках.

Ужо ў траўні 1902 г. у рапарце спраўнік паведамляе, што ксёндз Андрэй Свікля пасля абедні прамаўляў народу ў касцёле на польскай мове, каб прыхаджане збіралі ахвяраванні на куплю арга́на і некаторых касцельных рэчаў. Праз месяц у наступным рапарце спраўнік даносіць, што ксёндз А. Свікля казаў пропаведзь на польскай мове, пры гэтым нагадаў народу аб працяглым часе закрыцця Свержанскага касцёла і сам заплакаў [8, арк. 10—11]. Асуджэнне ўчынку ксяндза, што ён не карыстаецца выключна лацінскай мовай і дазваляе казаць пропаведзі, гучыць у чарнавіку ліста Мінскага губернатара да Мітрапаліта. На якой мове вёў багаслужэнні ксёндз Свікля, становіцца зразумелым з наступнага ўрыўка памянёнага чарнавіка: «…абмежаванні тлумачэнняў катэхізіса і евангелля па-беларуску, на мове і дыялекце мясцовага каталіцкага насельніцтва, якім у вясковага насельніцтва Мінскай губерні, безумоўна, з’яўляецца беларускі» [8, арк. 12].

Беларускай мовай у побыце карысталіся не толькі сяляне. У гістарычным архіве мы натрапілі на цікавы дакумент. Цёзка па прозвішчы Якуба Коласа, Мальвіна Феліксаўна Міцкевіч, сялянка Слуцкага павета, падавала Мінскаму губернатару прашэнне аб набыцці фальварка. У рапарце Слуцкага павятовага спраўніка ў канцылярыю губернатара ад 21 красавіка 1894 г. пазначана, што «сама Міцкевіч і яе бацькі паходзяць з карэнных сялян, але муж яе Станіслаў Міцкевіч з дваран Слуцкага павета, веравызнання рымска-каталіцкага і ў хатнім побыце вядуць размову на беларускім дыялекце» [7].

У верасні 1902 г. ксёндз Андрэй Свікля атрымаў яшчэ адну пасаду — назначэнне Наднёманскім дэканам. На гэтай пасадзе ён заставаўся да 19 красавіка 1908 г. Мяняліся мінскія губернатары (М. М. Трубяцкой, А. А. Мусін-Пушкін, П. Р. Курлоў, Я. Я. Эрдэлі), але абмежаванняў і рознага роду даносаў і рапартаў не станавілася меней. Напрыклад, на просьбу Наднёманскага дэкана дазволіць яму карыстацца на працягу 1904 г. стойлавымі коньмі губернатарам было адмоўлена.

Ксёндз Андрэй Свікля ў святарскіх справах займаў актыўную пазіцыю. Летам 1905 г. ледзь не дайшло да бойкі на Стаўбцоўскіх могілках. Ксёндз А. Свікля правёў службу ў могільнікавай капліцы, якая стаяла шмат гадоў незачыненая і без усякага прыгляду. Гэтыя дзеянні ксяндза выклікалі абурэнне мясцовага праваслаўнага святара Фёдара Сулкоўскага. У перапісцы з канцылярыяй губернатара ксёндз А. Свікля прасіў апытаць па гэтай справе стаўпецкіх прыхаджан, як каталікоў, так і праваслаўных, якія ведалі, што гэта капліца ад вякоў належала рымска-каталіцкаму прыходу і службы па абрадах праваслаўя ў ёй ніколі не праводзіліся. Аднак у спешным парадку капліцу перарабілі ў праваслаўны храм і асвяцілі.

У 1907 г. ксёндз А. Свікля павянчаў у касцёле двараніна засценка Акінчыцы Аляксандра Антонавіча Акінчыца праваслаўнага веравызнання з дзяўчынай рымска-каталіцкага веравызнання. Гэты факт патрапіў у перапіску пракурора Мінскага акруговага суда з губернатарам. Па тагачасных законах такі шлюб лічыўся несапраўдным, пакуль не адбывалася вянчанне і па праваслаўным абрадзе.

З фармулярнага спіса ксяндза Андрэя Свіклі вядома, што ў 1910 г. ён быў аштрафаваны на 200 рублёў за невыкананне правілаў пры пераходзе прыхаджан з праваслаўя ў каталіцтва, а таксама на 5 рублёў за навучанне дзяцей катэхізісу і малітвам по-польску, г. зн. па-беларуску. У 1913 г. найвышэйшым Маніфестам усё было даравана [9, арк. 4]. 19 красавіка 1908 г. ксёндз Андрэй Свікля быў звольнены з пасад Наднёманскага дэкана і настаяцеля Свержанскага касцёла і пераведзены ў родныя мясціны настаяцелем Балцінаўскага касцёла Люцынскага павета, дзе служыў і ў 1915 г.

У 1908 г. настаяцелем Нова-Свержанскага касцёла быў прызначаны ксёндз Ксаверый Ясінскі. Па інфармацыі памятных кніжак Мінскай губерні ён праслужыў у Новым Свержані да 1917 г. У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі (НГАБ) захаваліся два фармулярныя спісы 1889 і 1895 гг. аб службе ксяндза

К. Ясінскага. Ксаверый, сын Яраслава Іосіфа Ясінскага, паходзіў з сялян, на 1896 г. меў 30 гадоў. Вучыўся ў «Шавельскай класічнай гімназіі ўсім выкладаемым там прадметам з 1877 па 1883 гг. У 1883 г. паступіў у рымска-каталіцкую духоўную семінарыю ў Санкт-Пецярбургу. У 1888 г. 23 кастрычніка Магілёўскім Р. К. Мітрапалітам Гінтаўтам пасвячоны ў іерэі» [10, арк. 5 адв., 6].

Далей пазначаны месцы службы ксяндза К. Ясінскага: вікарый Ляндскаранскага касцёла, настаяцель Прэльскага касцёла (абодва — у Віцебскай губерні), затым непрацяглы час быў настаяцелем Караліпчавіцкага касцёла Мінскай губерні, зноў перамешчаны ў Прэльскі касцёл. У верасні 1895 г. ксяндза К. Ясінскага назначылі адміністратарам Вародзькаўскага філіяльнага касцёла ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губерні. Вядома, што перад прызначэннем у Новы Свержань Ксаверый Ясінскі служыў настаяцелем Рунданскага касцёла (Віцебская губерня).

Прозвішча *Ясінскі* сярод каталіцкіх святароў было даволі распаўсюджаным. У тых жа касцёлах у Рунданах, Прэлі, Каралішчавічах служыў настаяцелем Данііл Адамавіч Ясінскі [10, арк. 3—4]. З дваран паходзіў ураджэнец Гродзенскай губерні і павета ксёндз Якаў Мацвеевіч Ясінскі [10, арк. 1—2, 9—10].

У якасці невялікага адступлення прывядзём цікавы факт з біяграфіі Фелікса Эдмундавіча Дзяржынскага. Па ўспамінах яго сястры Ядвігі, ксёндз Ясінскі не раіў Феліксу (у той час юнак вучыўся ў першай Віленскай мужчынскай гімназіі і хацеў стаць ксяндзом) пастугіаць у рымска-каталіцкую духоўную семінарыю, паколькі знаходзіў маладога чалавека занадта вясёлым, какетлівым і ўлюблівым [4, с. 18].

У 1912 г., калі настаяцелем Нова-Свержанскага касцёла служыў ксёндз Ксаверый Ясінскі, адбылася знакавая падзея ў жыцці Якуба Коласа і Янкі Купалы. Яны ўпершыню сустрэліся. Гэта адбылося на Стаўбцоўшчыне, хутары Смольня, у родных мясцінах Коласа. Завочна паэты былі знаёмы з 1907 г. па публікацыях у «Нашай ніве». Яны прыглядаліся, рэдагавалі адзін аднаго, узаемаўзбагачаліся, зрэдку перапісваліся. Знаёмства 30-гадовых творцаў перарасло ў шчырае сяброўства. Зразумела, яно не было бязвоблачным, існаваў дух суперніцтва, па-рознаму складваліся абставіны жыцця, але гэта істотна не паўплывала на жыццёва-творчыя стасункі, бо Якуб Колас і Янка Купала сталі «падвойнай зоркай» у беларускай літаратуры (выказванне Міхася Шавыркіна).

Пра першую сустрэчу песняроў нямала сказана-напісана. На жаль, многія даследчыкі, у тым ліку і аўтарка гэтых радкоў, не пазбеглі памылкі ў дачыненні да асобы ксяндза Петрапаўлаўскага касцёла ў Новым Свержані, да якога Якуб Колас і Янка Купала завіталі ў госці на наступны дзень пасля сустрэчы ў Смольні. Доўгі час лічылася, што ксяндзом заставаўся вышэйзгаданы Андрэй Свікля [1, с. 128]. Па іншай версіі гучала імя беларускага святара-паэта Аляксандра Астрамовіча, вядомага пад псеўданімам Андрэй Зязюля [3, с. 38, 41—42]. Менавіта да ксяндза А. Астрамовіча збіраўся паехаць Янка Купала пасля падарожжа да Якуба Коласа, пра што пісаў у лісце да Б. І. Эпімаха-Шыпілы ад 26 ліпеня 1912 г. з Акопаў: «*У суботу еду ў Стоўбцы да Коласа, а стуль да кс. Астрамовіча і дамоў*» [6, с. 231]. У той час ксёндз А. Астрамовіч (А. Зязюля) служыў у Анопалі пад Менскам.

Цяпер нам дакладна вядома, што Якуб Колас і Янка Купала ў Новым Свержані праведалі ксяндза Ксаверыя Ясінскага, які спачуваў беларускаму адраджэнню [5, т. 18, с. 103—104]. З упэўненасцю можна сказаць, што менавіта пра Ксаверыя Ясінскага пісаў Якуб Колас у рэдакцыю газеты «Наша ніва» ў пастскрыптуме ліста ад 2 чэрвеня 1912 г.: «*Надрукуйце што-небудзь, бо мяне ўжо прабіраў за гультайства наш свержанскі ксёндз*» [5, т. 18, с. 16].

Як склаўся лёс свержанскага ксяндза Ксаверыя Ясінскага пасля 1917 г. аўтару, на жаль, невядома. Але з гісторыі таго зменліва-трагічнага часу няцяжка здагадацца, якія выпрабаванні чакалі служыцеляў веры.

Пасля Другой сусветнай вайны Петрапаўлаўскі касцёл у Новым Свержані быў зачынены. Амаль паўстагоддзя доўжылася забыццё, а варварскія дзеянні нанеслі непапраўныя страты. У 1990 г. касцёл рэстаўравалі і наноў асвяцілі. Дзеючыя храмы-дамінанты сучаснай вёскі Новы Свержань — Петрапаўлаўскі касцёл і Успенская царква — сведкі бурнай гісторыі краіны, мястэчка і эпізодаў жыцця песняроў Беларусі.

## Літаратура:

1. Атрашкевіч, В. І. Аб прататыпах трылогіі Якуба Коласа «На ростанях» / В. І. Атрашкевіч // Пытанні тэксталогіі беларускай літаратуры; рэд. С. А. Андраюк. — Мінск: Навука і тэхніка, 1980. — 192 с.

2. Габрусь, Т. В. Мураваныя харалы: сакральная архітэктура беларускага барока / Т. В. Габрусь. — Мінск: Ураджай, 2001. — 286 с.

3. Галоўка, С. Падказанае Нёманам / С. Галоўка. — Мінск: Дзярж. прадпрыемства «Дом прэсы», 1996. — 96 с. — (Бібліятэка часопіса «Маладосць»).

4. Дзержинский, Ф. «Я Вас люблю…»: Письма Феликса Дзержинского Маргарите Николаевой / Ф. Дзержинский. — М.: Кучково поле, 2007. — 224 с.

5. Колас, Я. Збор твораў: у 20 т. / Я. Колас. — Мінск: Белар. навука, 2007 — 2012.

6. Купала, Я. Поўны збор твораў: у 9 т. / Я. Купала. — Мінск: Маст. літ., 2003. — Т. 9, кн. 1. — 685 с.

7. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ). — Ф. 295. — Воп. 1. — Адз. зах. 5903. — Арк. 2.

8. НГАБ. — Ф. 295. — Воп. 1. — Адз. зах. 7287.

9. НГАБ. — Ф. 1781. — Воп. 25. — Адз. зах. 271.

10. НГАБ. — Ф. 1781. — Воп.25. — Адз. зах. 301.

Мікола БЕРЛЕЖ

# УВОДЗІНЫ Ў ВЯЛІКУЮ ТЭМУ




*Вітаўт КІПЕЛЬ*

**БЕЛАРУСЫ Ў ЗША**
*Мінск: Кнігазбор, 2017.*

Чытачы пачатку 1990-х гг., напэўна, трымаюць у памяці прыкметную кнігу Вітаўта Кіпеля «Беларусы ў ЗША», якая выйшла ў Мінску ў выдавецтве «Полымя». Зараз «Кнігазбор» падарыў нам новае, істотна дапрацаванае выданне ранейшай грунтоўнай працы. Ужо з першых старонак кнігі разумееш вартасці, маштаб самой тэмы, наспелую неабходнасць яе дэталёвай распрацоўкі. Вось што, у прыватнасці, піша аўтар: «З прычыны неспрыяльнага збегу гістарычных акалічнасцяў, тэрміналагічнае невыразнасці ды імперскіх памкненняў суседзяў раннія беларускія імігранты — беларусы-ліцвіны — праз нязначную сваю колькасць заставаліся незаўважнымі. Бальшыня ж масавае беларускае іміграцыі была залучана ў бюракратычную катэгорыю "рускіх" у шырокім сэнсе гэтага паняцця. Гэтая бірка мацавалася да іх, як толькі яны ўпершыню пераступалі парогі адміністрацыйных установаў Расійскае імперыі. Ніхто не пытаўся ў іх думкі што да іхнага самавызначэння, а самі яны былі не ў стане запярэчыць. Нават калі ў іх пыталіся, яны не маглі выразна адказаць з прычыны палітычнага і гістарычнага няведання, або і проста абыякавасці да свае мінуўшчыны, да свае этнічнае тоеснасці. Толькі адно мелі яны на думцы — патрапіць у зямлю абяцаную. Для рэгістратараў і статыстыкаў сялянеіміграны з Беларусі сталіся "рускімі".

Па прыбыцці на амерыканскую зямлю іх сустракалі ды зноў жа рэгістравалі як "рускіх". Дзясяткі тысяч прыязджалі…»

Праца Вітаўта Кіпеля ўзорна структуравана. Пачатак — згадка пра гістарыяграфію пытання: раздзел «Беларуская іміграцыя ў даследаваннях, публікацыях і статыстычных крыніцах». Далей аўтар зазірае ў вытокі — «Хвалі і прычыны эміграцыі з Беларусі». І следам — паэтапны разгляд тэмы з пункту гледжання як гістарычных аспектаў, так і ў кантэксце тых жыццёвых, грамадскіх клопатаў, якімі якраз і жылі тыя, хто ступіў на амерыканскую зямлю ў розныя часіны. З першых раздзелаў кнігі: «Рассяленне і ўладкаванне на працу»; «Першыя кантакты з арганізацыямі і пачаткі нацыянальнае свядомасці»; «Узнікненне і развіццё беларускіх арганізацый»; «Беларускія масы ў міжваенным перыядзе»; «Дзейнасць беларусаў у часе Другое сусветнае вайны» і інш.

Асаблівую цікавасць выклікае знаёмства са старонкамі, прысвечанымі літаратурнаму, культурна-асветніцкаму жыццю беларусаў у эміграцыі, выданню газет і часопісаў, а таксама кнігавыдавецкай справе. З 1950 па 1975 г. у ЗША дзейнічала літаратурнае згурта-

ванне «Шыпшына», заснаванае яшчэ ў Нямеччыне 5 студзеня 1945 г. Выдаваўся часопіс «Шыпшына». Асобная тэма гаворкі — Беларускі інстытут навукі і мастацтва (заснаваны ў 1952 г.), які з 1982 года ўзначальвае спадар Вітаўт Кіпель. З 1993 г. да БІНіМа далучыліся новапрыбылыя эмігранты — Алена Юрэвіч, Навум Кацнельсон, Лявон Юрэвіч, з прыездам якіх «распачалася новая, вельмі творчая старонка ў гісторыі БІНіМа і важная для культурнага поступу дзейнасці эміграцыі». У 1953—1969 гг. інстытут выдаваў бюлетэнь «Абежнік». У 1954—1963 гг. — літаратурны часопіс «Конадні». А з 1952 г. — навуковы гадавік «Запісы». Існаваў і Саюз беларускіх журналістаў, які спыніў сваю дзейнасць на пачатку 2000-х гадоў. Была і такая грамадская арганізацыя — Беларуска-амерыканскі навукова-літаратурны клуб. Заснаваў яе прафесар Уладзімір Сядура-Глыбінны. Пасля смерці заснавальніка загадала доўга жыць і гэтая грамадская супольнасць. Працавалі ў ЗША і беларускія бібліятэкі.

Падрабязна асвятляе В. Кіпель беларускую выдавецкую справу. Расказвае пра заснаваную ў 1952 г. у штаце Нью-Ёрк Друкарска-выдавецкую суполку імя Францішка Скарыны. Пазней яна пераўтварылася ў Друкарска-выдавецкую суполку «Пагоня». Сярод заснавальнікаў — Юрка Станкевіч, Віктар Васілеўскі, Уладзімір Дунец, Кастусь Калоша, Вячка Станкевіч. Дзейнасць суполкі спынілася ў 1990-я гг. у сувязі з выездам Ю. Станкевіча ў Прагу. 20 лістапада 1949 года быў заснаваны Беларускі выдавецкі фонд. Ім апекаваліся Міхась Тулейка, Міхась Міцкевіч, Лявон Трусевіч, Наталля Арсеннева. Вядомасць мела і Беларускае выдавецкае таварыства Міколы Прускага (узнікла на пачатку 1950-х гг.; зачынілася са смерцю Міколы Прускага ў 2014 г.). Былі выдавецтвы «Заранка», «Родны край» і інш. Вялікі ўнёсак у культурныя справы беларусаў у ЗША робіць селішча «Полацак», дзе ў 1990 г. быў збудаваны вялікі грамадскі цэнтр. А пачатак гэтай справе паклалі Сяргей Карніловіч і Кастусь Калоша.

Сярод герояў кнігі — пісьменнікі, публіцысты, журналісты. Падрабязную ўвагу В. Кіпель звяртае на беларускі друк. Першая беларуская газета ў ЗША з'явілася 27 жніўня 1950 г. — «Беларуская Трыбуна». Галоўным рэдактарам быў Язэп Лешчанка (вядомы беларускі паэт Міхась Кавыль). 20 верасня таго ж года пачала выдавацца газета «Беларус». Вельмі важная акалічнасць заключаецца ў тым, што перыядычнае выданне мела сваё выдавецтва. Менавіта газета «Беларус» выпусціла ў свет нямала кніг, у тым ліку — і пісьменнікаў з Беларусі: «Спадчыну» Янкі Купалы (1955), кнігі Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Лукаша Калюгі, Андрэя Мрыя. Выходзіць у ЗША і часопіс «Беларуская Думка». З 1955 г. выдаваўся «Летапіс беларускае эміграцыі». Ад 1990 г. было выдадзена 43 нумары часопіса «Полацак». Ёсць і беларускія англамоўныя выданні.

На эміграцыі былі выдадзены і распаўсюджаны тысячы і тысячы беларускіх кніг. І гэта пры тым, што «…да Другое сусветнае вайны амерыканскія беларусы не выдалі ніводнае кнігі. Усё, чым можна было б пахваліцца — невялічкія праграмкі розных вечарынаў…» Іншая сітуацыя склалася ў пасляваенны час… Наклад асобных выданняў даходзіў да 2—3 тысяч асобнікаў. З мастацкай літаратуры можна згадаць зборнікі прозы, паэзіі, публіцыстыкі, аўтарамі якіх з'яўляюцца М. Сяднёў, Я. Юхнавец, Ч. Будзька, Н. Арсеннева, М. Кавыль і інш. Часам выдаваліся кнігі аўтараў з Беларусі — у прыватнасці, аповесць Васіля Быкава «Мёртвым не баліць» (1991).

Цікавасць уяўляюць і тыя старонкі, дзе Вітаўт Кіпель расказвае пра беларускую тэму ў амерыканскай літаратуры, робіць агляд амерыканскай тэмы ў беларускай літаратуры. Аўтар згадвае і такі абсяг, як пераклады на беларускую мову амерыканскай мастацкай літаратуры.

В. Кіпель зазначае, што перавыданне з'явілася на свет у многім дзякуючы яго першым і галоўным памагатым — даследчыкам гісторыі эміграцыі Лявону Юрэвічу і Наталлі Гардзіенцы. Дарэчы, артыкулам Н. Гардзіенкі як дадаткам і завяршаецца манаграфія В. Кіпеля — «Вывучэнне гісторыі і сучаснасці беларускай эміграцыі ў ЗША (1993—2016 гг.)». Несумненна, справа аўтара «Беларусаў у ЗША» прадаўжаецца. І рэалізоўваюць гэты клопат вартыя старэйшага калегі даследчыкі.

Мікола ТРУС

# СЛАВАЦКІ ПАДАРУНАК




JANKA KUPALA

**KTOŽE TO TAM IDE!**

*Bratislava: Spolok slovenskэch spisovateľov, 2017.*

Паводле біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі» (1994, т. 3) рэпрэзентацыя твораў Янкі Купалы ў Славакіі бярэ пачатак у 1981 г. — з выхадам «Анталогіі савецкай паэзіі XX стагоддзя». Такая фіксацыя, адзначым адразу, не адпавядае сапраўднасці. Відавочна, што на час выхаду грунтоўнага даведачнага выдання праца па выяўленні і сістэматызацыі матэрыялу праведзена не была. Тым больш каштоўнай у гэтай сувязі ўяўляецца нам невялікі даведнік «Беларуская літаратура ў Славакіі пасля 1945 г.», падрыхтаваны Йозэфам Шэлепцам (славацк. Jozef Šelepec) і выдадзены невялікім накладам у Прэшаве ў 1999 г. Паводле яго, два вершы Янкі Купалы ў перакладзе Мілаша Крно (Miloš Krno) — «Ja — kolchoznica» («Я — калгасніца»), «Pieseň» («Песня») — выйшлі ў Браціславе ў 1947 г. у «Выбраным сучаснай паэзіі савецкіх народаў».

Можам меркаваць, што выданне шаноўнага славацкага калегі падагульняе, а не падводзіць рысу пад выяўленнем невядомых перакладаў твораў беларускага песняра, у тым ліку да 1945 г. Разам з тым, фактаграфія выдання наглядна дэманструе агульную праблему прадстаўленасці нацыянальнай класікі за мяжой. Абраныя для перакладу творы адпавядалі тагачаснай грамадска-палітычнай парадыгме краін «народнай дэмакратыі», але яны — без належнага папаўнення, абнаўлення мастацкай рэцэпцыі — могуць закансерваваць бачанне спадчыны беларускіх паэтаў як тыпова савецкіх, партыйна заангажаваных, а таму нецікавых для сучаснага чытача. А гэта ж класіка, падмурак нацыянальнай ідэнтычнасці, ідэйная і маральна-эстэтычная аснова нацыятворчасці і дзяржаўнага будаўніцтва. Да таго ж — залаты літаратурны запас вышэйшай пробы, патэнцыйна здольны стаць арганічна «канвертуемым» у сённяшніх (еўрапейскіх, сусветных) мастацкіх запытах шырокай чытацкай аўдыторыі, патрабавальных і крытычна настроеных інтэлектуалаў замежжа.

Зборнік перакладных вершаў Янкі Купалы «А хто там ідзе?» падрыхтаваны і выдадзены ў Браціславе пад эгідай Саюза славацкіх пісьменікаў спецыяльна да 135-годдзя з дня нараджэння класіка беларускай літара-

туры. Менавіта гэтае выданне можа стаць вехавым у замежнай Купаліяне, паколькі створана ў актуальным рэчышчы пазбаўлення ад стэрэатыпаў, абнаўлення гуманітарнай свядомасці і міжкультурнага дыялогу.

Ініцыятарам падрыхтоўчай працы і выхаду вершаў Янкі Купалы ў перакладзе на славацкую мову быў Мар’ян Серватка, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Славацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь ў 2008—2013 гг.; ён ажыццявіў падбор твораў, выступіў як аўтар прадмовы «Малая лабараторыя дыялогу культур» і перакладчык. Асноўныя вектары сваёй дзейнасці падчас дыпламатычнай місіі ў Мінску М. Серватка абгрунтаваў наступным чынам: «Нам хацелася, каб нас лепш ведалі, каб пра нас пісалі, каб мы зблізілі народы, якія маюць падобную складаную гісторыю і насуперак геаграфічнай аддаленасці маюць вельмі блізкія мовы з сотнямі аднолькавых слоў і назваў».

Беларускі бок у кнізе парытэтна прадставіла Алена Ляшковіч, дырэктар Купалавага музея ў Мінску, аўтар пасляслоўя — экскурсу ў жыццёвы і творчы шлях класіка беларускай літаратуры.

Над перакладамі таксама працавалі вядомыя літаратары — Яраслаў Рэзнік (Jaroslav Rezník) і Сяргей Макара (Sergej Makara). Сярод тых, хто аказваў дапамогу, кансультаваў славацкіх калег, — Вікторыя Ляшук, знаны беларускі руплівец на ніве філалогіі і мастацкага перакладу.

Зачынны верш «А хто там ідзе?» у перакладзе М. Серваткі стаў адмысловым эпіграфам, камертонам, даў назву ўсяму зборніку, куды ўвайшлі 37 класічных твораў беларускага песняра, прадстаўленых у трох тэматычных раздзелах, якія ачолелі купалаўскія загалоўкі і паэтычныя радкі: «A keď sa niekto spýta» («А калі нехта спытаецца»), «Sťa sama cárovná» («Як сама царыца»), «Matka a syn» («Маці і сын»). Славацкія чытачы маюць магчымасць пазнаёміцца з шэдэўрамі беларускай класікі — вершамі «Мая малітва», «Спадчына», «Я не паэта…», «Родныя песні», «Явар і каліна», «Яшчэ прыйдзе вясна», «З кутка жаданняў» ды інш.

Выданне годна афармлена стараннямі мастака Мілана Сенкі (Milan Senko), аўтара вокладкі і графічнага дызайну, які выкарыстаў у якасці ілюстрацый рэпрадукцыі беларускай выяўленчай Купаліяны з фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.

Прэзентацыя першага асобнага выдання твораў беларускага песняра ў Славакіі адбылася 27 чэрвеня 2017 г. у мінскай гасподзе паэта, у прысутнасці вядомых купалазнаўцаў, славацкіх і беларускіх інтэлектуалаў, журналістаў айчынных СМІ.

Арцём ЛАГОДА

## ЯК СКАРЫНА ПАДКАЗАЎ... КАЗАЦКУЮ РЭСПУБЛІКУ




*Григорий* АНДРЕЕВЕЦ

**ДВЕ БИТВЫ ДРЕВНЕЙ РУСИ**
**Историческое эссе**

*Гомель: ОАО «Полеспечать», 2017.*

Да месца такое параўнанне: даследчыкі — гэта свайго роду разведчыкі. Здавалася б, яно нечаканае, тым не менш вельмі праўдзівае. Асабліва, калі гаворка пра тых, хто высвятляе, вывучае нейкае важнае пытанне, тэму. А то і даўнюю падзею, ці нават пэўны факт з жыцця ці дзейнасці нейкага знакамітага чалавека. Калі даследчык валодае вялікай эрудыцыяй, высокай навуковай інтуіцыяй, ён можа прыйсці ў сваіх памкненнях да зусім нечаканых вывадаў, а то часам і выказаць такое меркаванне, якое пры пачатковай сваёй нечаканасці і неверагоднасці пасля пацвердзіцца.

Менавіта так адбылося і з пісьменнікам, журналістам Рыгорам Андрэяўцом, калі ён працаваў над кнігай «Жыццё Францыска Скарыны». Яна, дарэчы, выйшла яшчэ ў 2004 годзе ў Гомелі. Тады Рыгор Мікалаевіч прыйшоў да высновы, што знакаміты першадрукар і асветнік мог бываць у Францыі. Гэта многіх скарыназнаўцаў дый увогуле тых, хто займаецца гістарычнымі даследаваннямі, вельмі здзівіла, бо ў падобнае не верылася. Францыя быццам ніяк не ўпісвалася ў біяграфію Скарыны. Ды час усё паставіў на сваё месца. Р. Андрэявец не памыліўся, выказаўшы такую смелую гіпотэзу. Рыгор Мікалаевіч прыгадвае: «Пры сустрэчы з прафесарам Адамам Мальдзісам ён спытаў мяне:

— І як гэта вы выйшлі на паездку Францыска Скарыны ў Францыю? Нядаўна атрымана дакументальнае пацвярджэнне таму, што ён там быў. Але ваша кніга з'явілася ў друку раней».

Гэты эпізод прыведзены ў новай кнізе даследчыка «Две битвы Древней Руси». На першы погляд, ён знаходзіцца як бы ў баку ад той праблематыкі, да якой гэтым разам звярнуўся Р. Андрэявец. Яго, як відаць з назвы, зацікавілі дзве знакамітыя летапісныя бітвы — 984 і 1016 гадоў. Адбываліся яны на паўднёвым усходзе цяперашняй Беларусі. У чытача гатова ўзнікнуць заканамернае пытанне: а прычым тут Скарына? Сапраўды, ад гэтых падзей яго «аддзяляе» не адно стагоддзе. Тым не менш Скарына згадваецца невыпадкова, бо гэта і ён «дапамог» Рыгору Мікалаевічу выказаць меркаванне, што ў IX—X стагоддзях у міжрэччы Дняпра і Прыпяці існавала невялікая казацкая рэспубліка, а з ёй звязаны і падзеі, пра якія расказваецца ў кнізе «Две битвы Древней Руси».

Чытач ужо не хавае свайго здзіўлення: якая яшчэ казацкая рэспубліка? Дый у тыя часы! Толькі не трэба забываць, што немагчымае нярэдка становіцца магчымым. А «дапамога» Скарыны такая. Даследчык у сваіх развагах пра існаванне даўняй казацкай рэспублікі ішоў тым жа шляхам, як і тады, калі выказаў меркаванне аб тым, што слаўны сын Полацка наведваўся ў Францыю. Калі ж быць яшчэ больш канкрэтным, то дапамог той жа падыход, якім Р. Андрэявец карыстаўся, даследуючы дзейнасць Скарыны: «Кругі ад каменя, кінутага ў ваду, заўсёды даходзяць да берага. Тычыцца гэта не толькі тэхнічнага вынаходніцтва і прасоўвання кнігадрукавання, а і любой іншай прыроднай з’явы, а таксама многіх гістарычных сітуацый».

Пішучы пра Скарыну, даследчык узяў старую карту Еўропы і «пачаў адзначаць паралельнымі лініямі тыя гарады і краіны, дзе ў 15 і першай палове 16 стагоддзя было заўважана выданне першых кніг. […] Паралельныя лініі, нанесеныя [… ] на карту, былі падобныя на ластавак, якія ляцелі ў розныя бакі і неслі людзям святло ведаў». Адна з ліній і «прывяла» Р. Андрэяўца ў Францыю. Скарына, наколькі вядома, пасля атрымання ў Падуі звання доктара медыцынскіх навук, непрацяглы час займаўся гандлёвай дзейнасцю. Так ён і трапіў у Францыю. Гэткім жа метадам Р. Андрэявец пачаў шукаць і месца знаходжання магчымай першай казацкай рэспублікі. А ўжо адштурхоўваючыся ад яе, і расказаў пра дзве бітвы даўняй Русі.

Кніга Р. Андрэяўца па сваім змесце навукова-даследчыцкая. Узнаўляючы пэўныя падзеі, а асобныя з іх і рэканструюючы, ён, у прыватнасці, спасылаецца на працы гісторыкаў С. Платонава (на жаль, сёння напаўзабытага), Б. Рыбакова, сучасных навукоўцаў, у тым ліку і беларускіх. Гэта дазваляе яму стварыць шырокую панараму тагачасных падзей, некаторыя з якіх быццам знаходзяцца і крыху ў баку ад тэмы даследавання, але, тым не менш, лепш зразумеўшы іх, можна глыбей спасцігнуць і тое асноўнае, чаму ўдзяляецца ў кнізе галоўная ўвага.

Істотна і тое, што Р. Андрэявец у асобных выпадках смела ламае стэрэатыпы. Так, па-свойму ставіцца да князя Святаполка, які ўвайшоў у гісторыю як Акаянны, паколькі прызваў наёмнікаў, забіўшых яго канкурэнтаў на ўладу — сваіх братоў, сыноў князя Уладзіміра, — Барыса, Глеба і Святаслава. Аднак, як кажуць, давярай, у дадзеным выпадку «Аповесці мінулых гадоў», а і правярай.

Дарэчы, надаючы вялікае значэнне гэтаму пісьмоваму літаратурнаму помніку, аўтар кнігі «Две битвы Древней Руси» з непрыхаванай іроніяй зазначае: «Галоўны ідэалагічны орган тагачаснай старажытнарускай дзяржавы не проста замоўчвае аб невыгодных фактах, а і скажае гэтыя падзеі». Як прыклад, прыводзіцца тое, што адбылося са Святаполкам: «Пад цэнзурай Яраслава Мудрага гэты орган закляйміў ганьбай на вякі яго ідэалагічнага праціўніка Святаполка I, назваўшы яго Акаянным, спісаўшы на Святаполка чужыя злачынствы і чужыя грахі». Р. Андрэявец па-свойму вытлумачвае тое, што адбывалася. Падобны падыход не можа не зацікавіць, бо выказваецца, па-сучаснаму кажучы, альтэрнатыўная думка.

Аднак, хоць кніга «Две битвы Древней Руси» і навукова-даследчыцкая, у ёй строга не вытрымана тая схема, якой звычайна карыстаюцца ў падобных выданнях. Наадварот, гаворка вядзецца свабодна, раскавана, нязмушана. Нямала адступленняў, сярод якіх і лірычных. Р. Андрэявец з замілаваннем піша пра зямлю свайго маленства Лоеўшчыну, якую закранулі і важныя даўнія падзеі, пра якія ён расказвае. Згадвае сваіх родных, сяброў, знаёмых. Але ўсё гэта не на шкоду дакладнасці і выверанасці гістарычных ацэнак.

Хоць, безумоўна, што з ягонымі вывадамі і абагульненнямі пагодзяцца не ўсе. У некага будзе свой погляд на падзеі, якія тады адбываліся. Нехта засумняваецца ў магчымасці існавання першай казацкай рэспублікі. Камунебудзь падасца, што часам даследчык

празмерна катэгарычны, адстойваючы ўласны пункт гледжання. Толькі гэта яскравае сведчанне таму, што кніга ўдалася. Яна абуджае думку чытача, робячы з яго зацікаўленага, няхай і завочнага, субяседніка.

Не магу не сказаць і пра тое, што «Две битвы Древней Руси» — чарговы значны ўнёсак у даследаванне ўзаемасувязей паміж двума братнімі народамі — беларускім і рускім. Гэта, канешне, калі глядзець на ўсё з вышыні сённяшняга дня. Калі ж зірнуць у глыбіню стагоддзяў, дык, безумоўна, такіх назваў не было і ў паміне. Ды толькі не ў гэтым сутнасць. Не важна, як называліся тыя, хто жыў на землях, якія цяпер насяляюць беларусы і рускія, яны ўсё адно жылі сумесна. Не ўсё, праўда, гладка складвалася ў іхніх узаемаадносінах. Не толькі былі мір і згода, аднак гэта адбываўся заканамерны гістарычны працэс. Даследаваць яго глыбока, усебакова, шмат у чым па-новаму, як гэта і робіць Р. Андрэявец, значыць, у пэўнай ступені набліжацца да таго, што патрапляе пад вызначэнні — хто мы, адкуль мы.

Гэтай праблематыкай, дарэчы, прасякнута і кніга Рыгора Мікалаевіча «Невядомая Беларусь», у якой упершыню прасочваецца выхад беларусаў у Расію на працягу тысячы гадоў, а гэта, па падліках Р. Андрэяўца, звыш 10 мільёнаў чалавек. Атрымліваецца цэлая краіна. Праўда, «Невядомая Беларусь» яшчэ на падыходзе да чытача, але, несмуненна, і яна будзе запатрабавана.

Упэўнена асэнсоўвае Р. Андрэявец і нядаўняе мінулае. Таксама з пункту гледжання кантактаў беларусаў і рускіх. У прыватнасці, у кнізе «Резидент Генерального штаба» ён першым расказаў пра чалавека ўнікальнага лёсу, ураджэнца Беларусі Івана Коласа. У гады вайны І. Колас быў адным з арганізатараў партызанскага руху на Палессі, потым з’яўляўся разведчыкам, напісаў некалькі кніг. За мужнасць і геразім у гады Вялікай Айчыннай вайны яму было прысвоена ганаровае званне Герой Расійскай Федэрацыі. Кнігі ж «Русская нива», «Белорусы в России» і «Две Родины» — ужо самая блізкая нам сучаснасць. У іх расказваецца пра тых беларусаў, якія не проста жывуць у Расіі, а, дзякуючы сваёй плённай дзейнасці, уваходзяць у эліту братняй краіны.

Тым самым у Р. Андрэяўца ўжо ёсць цэлая бібліятэчка, прасякнутая, калі можна так сказаць, скразным зместам. Усё ж зводзіцца да таго, у нечым паўтаруся, што ў нас у многім агульная гісторыя. Мы не толькі не павінны адмаўляць гэта, а імкнуцца яшчэ глыбей, лепш даследаваць тое, што пойдзе толькі на агульную карысць. Калі ж гэта робіцца шмат у чым па-наватарску, з прыцягненнем не толькі малавядомых фактаў, а нават і такіх, якія дагэтуль у шырокі ўжытак не ўведзены, дык асабліва пахвальна. Таму і хочацца зноў і зноў далучацца да кнігі Р. Андрэяўца «Две битвы Древней Руси», каб удыхнуць у сябе паветра сівой даўніны. Каторы раз адчуць, што, лепш ведаючы схаванае ў напластаваннях стагоддзяў, а то і паспрабаваўшы знайсці нават самыя маленькія крупінкі, здавалася б, згубленага незваротна, лягчэй узірацца ў дзень заўтрашні. Гэта ж не сакрэт, што будучыня пачынаецца не толькі з дня сённяшняга. Свайго роду вытокі яе і ў мінулым.

Юлія АЛЕЙЧАНКА

# СЛОВЫ І РУЖЫ



*Янка КУПАЛА*

**РАСЦВІЛА НЕПАГАСЛАЙ ЗАРОЙ**
**Уклад. В. ШНІПА**

*Мн.: Мастацкая літаратура, 2016.*

Заўсёды цікава, якім паўстаюць перад вачыма ў нас, людзей XXI стагоддзя, класікі айчыннай літаратуры. Спадзяюся, што не заўсёды выключна «бронзавымі». А людзьмі з цікавай, часам надта няпростай, біяграфіяй, выпрацаванай жыццёвым вопытам творчай манерай, светапоглядам. Шляхетны (хоць родам са збяднелай сям'і), элегантны, прагны да радасцей жыцця, ашчадны да слова ў простай размове і такі квяцісты ў лірыцы, Янка Купала — наш сапраўдны сімвал і «трэнд». Асоба, таямніцы лёсу якога, пэўна, ніколі не перастануць хваляваць людзей па ўсім свеце. Бо годна пазірае Іван Луцэвіч і на наведвальнікаў Араў-Парку непалёк ад Манхетэна, і на жыхароў і гасцей ізраільскага Ашдода…

У 2003 годзе скончана выданне дзевяцітомнага збору твораў паэта, што ўключае вершы, паэмы, пераклады, лісты, выступленні… На сённяшні дзень — асноўнай крыніцы як для даследчыкаў, так і для аматараў творчасці. Аднак кнігі дарагога сэрцу, выбранага працягваюць выходзіць… Адна з апошніх, з лірычнай назвай «Расцвіла непагаслай зарой», была прэзентавана выдавецтвам «Мастацкая літаратура». Даволі невялікі зборнік уключае творы розных гадоў, якія з'яўляюцца ў нашай свядомасці, напэўна, самымі прадстаўнічымі, выгодна дэманструюць этапы творчага развіцця Янкі Купалы, тэмы, якія хвалявалі яго ў розныя перыяды існавання нашай краіны. Каб скласці такую, трэба добра ведаць усю спадчыну паэта. Каб не прапусціць — не прагледзець знакавых радкоў. Сімвалічна, што адкрываюць кнігу словы Купалавай малітвы за кожнага з нас:

Я буду маліцца і сэрцам, і думамі,
Распетаю буду маліцца душой,
Каб чорныя долі з мяцеліцаў шумамі
Ўжо больш не шалелі над роднай зямлёй.

Побач і добра вядомыя многім — «Я не паэта», «Роднае слова», «Маладая Беларусь», «Прарок», «Не шукай», «Свайму народу», «Спадчына»… Змяшчае выданне і паэмы «Курган», «Бандароўна», «Магіла льва», «Яна і я», «Безназоўнае». А таксама — драматычныя творы, што доўгія дзесяцігоддзі не сыходзяць з тэатральнай сцэны — п'есы «Паўлінка», «Раскіданае гняздо».

Па-філасофску думаючы пра будучыню, Янка Купала пісаў:

І прыйдзе новых пакаленняў
На наша месца грамада
Судзіці суд, ці мы сумленна
Жыццё прайшлі, ці чарада.

Хочацца верыць, што сёння мы справядліва ацанілі творчыя набыткі песняра ў развіцці айчыннай мовы, літаратуры ды нацыянальнага адраджэння ўвогуле. Але шмат чаго яшчэ не зроблена… Вечна малады юбіляр, Янка Купала чакае яшчэ сваіх новых даследчыкаў.




*Ганна СЕВЯРЫНЕЦ*

**ДЗЕНЬ СВЯТОГА ПАТРЫКА**

*Мн.: Регистр, 2017.*

Гэтая кніга не для ўсіх. Скажам шчыра: чытач, які жадае простага «жыццёвага», ды, пажадана, лінейнага сюжэта знойдзе для сябе няшмат. Хаця і пабытавыя падрабязнасці ў кнізе ёсць, і гісторыя кахання… Вось толькі гісторыя няпростая: яна не толькі і не столькі пра адносіны Марыны Дамейкі і Багдана Сямёнава, колькі пра закаханасць лірычнай гераіні ва Уладзіміра Дубоўку, Максіма Багдановіча, Уладзіміра Караткевіча, Анатоля Сыса, Міхася Стральцова… Закаханасць на мяжы экзальтацыі ў рамантычныя, трагічныя вобразы, а не звычайная вывераная любоў да іх твораў літаратуразнаўцы ці бессістэмная — аматара: «…Менавіта таму Марына потым, у аспірантуры, і надалей, у навуковым жыцці, заўсёды адмаўлялася пісаць навуковыя тэксты розных жанраў па творчасці Багдановіча. Хіба што нарысы для беларускамоўных падлеткавых выданняў, пакуль яшчэ яны існавалі. Дзіцячае каханне, першае і адзінае на ўсё жыццё, сапраўднае, у якім не было ні расчараванняў, ні крыўдаў, ні непаразуменняў, каханне ўзаемнае, бо для каго ж ён напісаў усе свае вершы, як не для яе, самай удзячнай і самай пільнай чытачкі. Што, скажаце, не бывае такога ў жыцці? Яшчэ як бывае. Толькі нехта фанатычна кахае Курта Кабейна, Джыма Морысана ды Фрэдзі Мерк'юры. А хтосьці — Багдановіча… Хто ведаў калі філалагінь-першакурсніц — пацвердзіць.

Але ж «Дзень святога Патрыка» — кніга для даволі шырокага кола інтэлектуалаў, запісаных у групу (штучную ці не?) «захавальнікаў беларушчыны». Сапраўды, вельмі цяжка абысці твор з такой злабадзённай праблематыкай. Адна яна — ужо заяўка на поспех (які аўтар кнігі і займела, стаўшы пераможцай чацвёртага сезона літаратурнага конкурсу «Першая глава»). Прызнанне беларускай мовы мёртвай, захаванне яе ў спецыяльным архіве — катастрафічныя падзеі, якія, на жаль, могуць стаць явай… «Гэта крыху далей за сёння. Але, канешне, гэта такі час прыдуманы, бо будзем спадзявацца, што ніколі не паўстане такой сітуацыі, калі нехта будзе павінны кансерваваць памерлую мову і памерлую літаратуру. Але час у рамане — недзе праз пяць год ад нашага сённяшняга часу», — кажа сама Ганна Севярынец пра хранатоп твора.

Дзень святога Патрыка — ірландскае культурна-рэлігійнае свята, дзень памяці нябеснага ахоўніка Ірландыі. У творы, перадусім, — сімвал нацыянальнай ідэнтычнасці, гонару, тое нязменнае, што завуць апірышчам душы. Чаму іншым народам удалося захаваць сваё і нават распаўсюдзіць па свеце, а мы так не можам? Лірычная гераіня Ганны Севярынец пакутліва шукае адказы на гэтыя няпростыя пытанні. Але сама вырашаць праблемы не спяшаецца. Навошта дзяліцца з вялікім светам тым, што сапраўды любіш? Няхай яно будзе толькі тваім… Таму і пачувае сябе добра Марына Дамейка ў сценах архіваў, таму і хавае-кансервуе старанна сваіх каханых герояў, іх сакавітую мову. Каб толькі ёй належалі. Нездарма атрымлівае ад Сямёнава пагардлівую мянушку «павучыха». Ці не ў гэтым — галоўны намёк Ганны Севярынец, ці не гэта мадэль беларуса ў мініяцюры? Таго, што аддана любіць, але роднае рэкламаваць не здольны?

Але акрамя стрыжнявой тэмы прываблiваюць у творы і «смачныя падрабязнасці». Абяззбройвае жаночае, інтымнае. Пра тое, як нагадвае зубны боль пакутлівае каханне, пра тое, як хаваюцца «моцныя і незалежныя» пад маскай псеўдаінтэлектуальнасці ў сацыяльных сетках,

пра тое, як уплываюць дзіцячыя ўражанні на дарослае жыццё.

У творы — два выразна акрэсленыя (нават з дапамогай розных шрыфтоў) планы. Гісторыя эксперта міжнароднай камісіі Дамейкі і эсэ-нарысы лірычнай гераіні, што нечакана ўрываюцца ў тканіну дзеяння. Але, па сутнасці, яны — пра адно і тое ж. У фінале чытач добра зразумее, што да чаго…

Гэтая кніга не для ўсіх. Але для тых, хто здольны атрымліваць задавальненне ад разгадвання аўтарскіх таямніц. Хто думае пра Беларусь сённяшнюю і заўтрашнюю.




*Анхела ЭСПІНОСА РУІС*

**POMME DE CIEL**

*Мн.: Кнігазбор, 2017.*

Заўсёды з цікавасцю чытаю публіцыстычную калонку Анхелы ў часопісе «Маладосць». Безумоўна, прываблівае ўжо сама экзотыка сітуацыі: беларускамоўная іспанка разняволена разважае пра рэаліі нашай краіны, псіхалогію людзей. Шчыра, абаяльна, а галоўнае — праўдзіва: «… мне цікава, як выглядае свет, дзе я ніколі не цягала коўдру праўды. Дзе я, як шмат хто, прывыкла да халодных ног і не паглядзела ў люстэрка, дзе я навучылася хадзіць у масцы і гаварыць тое, што трэба. Дзе я захапляюся прыгажосцю Венецыі, а не гляджу людзям у вочы нават мімалётна. Таму мяне цікавіць квантавая фізіка ў гэтым свеце. І гэта праўда». Відавочна, што гэтак жа шчыра піша Анхела і вершы. Сёння маем шчасце трымаць у руках і яе паэтычную кнігу — «Pomme de ciel».

Элегантна афармленая, кніга гэтак жа элегантна прадстаўлена кампазіцыйна. Кожны яе раздзел, асобны акт у паэтычнай імпрэзе, мае аўтарскае тлумачэнне: «Вясна і яе жарсці: аб тым, як прырода і каханне прачынаюцца адначасова», «Час, які пажырае каханне: аб тым, што не заўсёды залежыць ад нас», і г.д. Увогуле, кніга «Pomme de ciel», нягледзячы на шалёны тэмперамент кожнага радка, складзена вельмі лагічна і прадумана. Гэта — кніга перазоваў асабістага і Сусветнага, беларускага і іспанскага. Прысвячэнні Міхасю Стральцову і Беларусі, багдановічаўская зорка Венера побач з постаццю Гарсіі Лоркі, прыгодамі Дон Кіхота, іспанскімі «інкрустацыямі» ў беларускі тэкст — вельмі цікавае спалучэнне. Аднак ёсць у вершах Анхелы Эспіносы Руіс і маштабнае, агульначалавечае, тое, што зразумела абсалютна кожнаму безадносна да нацыянальнасці. Закаханыя чуюць, як спяваюць дрэвы, а новая іпастась першароднай Евы ідзе па апалай лістоце парку…

Лейтматыў, цэнтральны вобраз паэтычнай кнігі — чырвоная ружа, «кветка крыві сакральная і грэшная». Сімвал абвостраных пачуццяў лірычнай гераіні, якая можа вольна дыхаць, адчуваць, рызыкаваць толькі там, дзе «і смерць, і надзея, і кроў». Дэманструючы памежную пачуццёвасць, заўсёды рызыкуеш збіцца на штучны пафас, а часам і схематызм… Калі-нікалі, але здараецца гэта і з безумоўна адоранай паэтэсай:

Знайшліся паловы, настане быццё,
Да пекла хай спусціцца лесвіца.
Хай будзе каханне, хай будзе жыццё,
А мо, прыгажосць не спатрэбіцца.

Але шмат у Анхелы і вельмі ўдалых вобразаў: «лістападаўска-марскія вочы», «мой асабісты млечны шлях», «язмін апошняй ночы»… Працуе маладая паэтэса і над формай. Ёсць у кнізе «Pomme de ciel» даволі ўдалыя санеты, асобны раздзел змяшчае нізку трыялетаў. Ёмістыя і верлібры зборніка.

Безумоўна, сэрца кожнага беларуса падкупляе, калі дзяўчына з Андалусіі называе Мінск «легендарным месцам маіх мараў». Але не толькі з-за гэтага варта пазнаёміцца з паэзіяй Анхелы Эспіносы Руіс. Рамантычнай, містычнай, чароўнай... Народжаная на скрыжаванні розных культур, моў, ментальных кодаў, яна спалучае ў сабе паўднёвы тэмперамент і беларускую разважлівасць. Кажуць, што ад змяшаных шлюбаў нараджаюцца прыгожыя дзеці. Амаль тое ж — і з вершамі.

Анатоль РУБЛЁЎ

# ХАРАКТАР

## I

Так павялося ўжо, што ў кожнага чалавека свая дарога ў жыцці. У прамым і пераносным сэнсе. Толькі не кожны ідзе па ёй прама, упэўнена, ведаючы, куды, да чаго, навошта.

Генеральны дырэктар адкрытага акцыянернага таварыства «Дарожнабудаўнічы трэст № 3» горада Магілёва Рыгор Сямёнавіч Цімафееў свой жыццёвы арыенцір вызначыў яшчэ ў дзяцінстве. Дарога для яго стала спачатку праваднікам у шырокую краіну ведаў, а потым і ў сваю будучыню.

— Нарадзіўся я ў вёсцы Гулідаўка Горацкага раёна Магілёўскай вобласці, — расказвае ён пра сябе. — Скончыўшы пачатковую школу, чатыры класы, хадзіў пешшу за дзевяць кіламетраў у сярэднюю дзесяцігадовую школу, што была ў вёсцы Цімохаўка. Бывала, ездзіў на ровары. Самі разумееце, што ў такім раннім узросце гэта нялёгка. Асабліва ўвосень, калі ветрана, ідзе дождж, а яшчэ ўзімку, калі мароз пад трыццаць градусаў, слізка. Практычна кожны дзень падымаўся ў пяць-шэсць гадзін раніцы, каб паспець на першы ўрок, хоць вельмі хацелася яшчэ паспаць. Але нічога, імкненне да ведаў і дарога ў школу выпрацоўвалі ўва мне мужчынскі характар.

— Менавіта цяжкасці гартуюць чалавека, — напамінае Рыгор Сямёнавіч. — І ўсё ж галоўнае — цяжкасці, як і складанасці, даюць нам цвёрдую ўпэўненасць у тым, што ўсё можна пераадолець. Трэба толькі захацець, паставіць перад сабой канкрэтную, ясную мэту, штодня дамагацца істотных і бачных вынікаў. Нездарма ж кажуць: «Будзе і на маёй вуліцы свята». Рана ці позна, але такое свята наступіць. І не абавязкова ў нейкім матэрыяльным увасабленні, а ў духоўным, асабістым, што часцей за ўсё і адбываецца.

Азіраючыся назад, Рыгор Цімафееў разумее: дзяцінства ўжо само па сабе свята. Жаданае і радаснае. Бо тады былі жывыя і яшчэ маладыя бацькі: маці — Пелагея Фядотаўна і бацька — Сямён Емяльянавіч. Праўда, асаблівага здароўя ў іх не назіралася. Маці з раніцы да позняга вечара займалася то хатняй гаспадаркай, то працавала ў калгасе, а бацьку, удзельніка трох войнаў — фінскай, польскай і Вялікай Айчыннай, дарэчы сказаць, цудам выжыўшага, практычна ўсё жыццё мучылі баявыя раненні і прафесійныя хваробы.

— Такое было жыццё, — заўважае Рыгор Сямёнавіч. — Людзі яшчэ толькі ўладкоўваліся пасля страшнай, разбуральнай вайны. Усё рабілі сваімі рукамі, абдумвалі сваёй галавой, пры гэтым часта прымалі нестандартныя рашэнні, якія дапамагалі выканаць тую ці іншую працу больш эфектыўна, хутчэй. Такіх прыкладаў шмат. Іх кожны з нас можа прывесці дзясяткі...

Яркі прыклад у дадзеным выпадку — гэта газавыя бляшанкі, якія выраблялі Рыгор і яго сябры, калі хадзілі ў школу. Гэтыя бляшанкі школьнікі называлі «кадзіламі». Служылі «кадзілы» замест ліхтароў. Уяўлялі яны з сябе звычайныя кансервавыя бляшанкі, якія набівалі анучамі, пасля чаго залівалі іх газай або саляркай. Потым іх дзеці падпальвалі і свяцілі сабе пад ногі. Ішлі, як правіла, па сцежцы, след у след, каб не збіцца з шляху.



— Не так святло «кадзілаў» нам дапамагала ісці па разбітай дарозе ў школу, колькі з ім было весялей і спакайней, — усміхаецца Рыгор Цімафееў. — Дарога была амаль глухая, што хочаш магло здарыцца...

Зрэшты, Рыгор Сямёнавіч верыў у свой лёс. Тады яшчэ падсвядома, інтуітыўна, але з упэўненасцю сваёй неабходнасці ў нашым свеце, праявы сваіх здольнасцей, абавязковасці працягу роду Цімафеевых. Дзіцячая вера абапіралася на традыцыі, звычаі, павер'і, размовы бацькоў, сваякоў, школьных настаўнікаў аб сваёй зямлі, малой радзіме, сучаснасці і будучыні, ад якой усе чакалі чагосьці лепшага і большага.

Чакаў і Цімафееў. Толькі не пасіўна, седзячы на канапе ці лежачы на печы, як у народных казках, а з усёй сваёй тагачаснай актыўнасцю і набіраючай сілу энергіяй.

## II

У 1969 годзе Рыгор Сямёнавіч паступіў у знакамітую Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію, якая знаходзіцца ў горадзе Горкі. Сваёй спецыяльнасцю выбраў гідрамеліярацыю. Вучоба стала новай і прадуктыўнай крыніцай ведаў у жыцці Цімафеева, цяпер ужо прафесійных. Завіравалі цікавыя знаёмствы, гутаркі, высновы, планы, якія хацелася хутчэй ажыццявіць.

— Мы, студэнты таго ўжо даўняга часу, аналізавалі жыццё ва ўсіх яго праявах, — успамінае Рыгор Сямёнавіч. — Але пры гэтым сваё меркаванне нярэдка трымалі пры сабе. Справа не ў тым, што баяліся, а проста прытрымліваліся ідэалагічных штампаў, маўляў, у нас усё і ўсюды добра. Хоць разумелі, што гэта, мякка кажучы, не зусім так. Значыць, нам, маладым, трэба было выправіць тое, што патрабавала паляпшэння, удасканалення, далейшага развіцця.

Сказаўшы пра гэта, Рыгор Цімафееў змаўкае. Напэўна, думае пра мінулае, а можа, разважае пра сённяшняе, параўноўваючы, што было і што ёсць. Потым па-філасофску працягвае:

— Чалавек заўсёды задаволены і незадаволены адначасова. Яго задавальняе зробленае, але ён у душы бунтуе з-за таго, што яшчэ не зрабіў. Яму ўсё хочацца выканаць хутчэй, лепш. Чаму кажуць, што сённяшняй моладзі трэба ўсё і адразу? А таму, што гэта і ёсць чалавечая сутнасць. Яе аснова — максімалізм.

Згадзіцеся, гэтая рыса асабліва ярка і нават дакучліва праяўляецца ў юнацтве, маладосці. І гэта добра. Ва ўсякім разе, за першыя дзевяць гадоў практычнай работы Рыгор Сямёнавіч прайшоў шлях, які многія яго калегі пераадольвалі дзесяцігоддзямі. Пачаўшы з майстра, а потым стаўшы прарабам у Шклоўскай ПМК № 31 Міністэрства меліярацыі і воднай гаспадаркі БССР, Рыгор Цімафееў у 1978 годзе ўзначаліў Клічаўскую ПМК № 79 трэста «Магілёўвадбуд». А гэта не толькі факт, які тады падкрэсліваў вялікую працаздольнасць, прафесіяналізм Рыгора Сямёнавіча, але і характэрны паказчык даверу яму з боку мясцовых улад. Значыць, чалавек адбыўся. Ён варты высокай пасады ў сілу сваіх асабістых якасцей, якія складваюцца з ведаў, патрабавальнасці, адказнасці, прынцыповасці, настойлівасці, цвёр-

дасці, жаданне быць наперадзе. Менавіта наперадзе.

— Любая праца, а тым больш адказная пасада патрабуюць сур'ёзнага падыходу да даручанай справы, — кажа Рыгор Цімафееў. — Але ўсё роўна чалавеку, які выконвае чыесьці ўказанні, прасцей, чым кіраўніку, які дае гэтыя ўказанні. У першую чаргу, псіхалагічна. Гэта мне прыйшлося выпрабаваць на сабе, перажыць.

Меліярацыя — праца вельмі цяжкая і, як гэта ні парадаксальна, няўдзячная. Мала таго, што меліяратарам трэба ў літаральным сэнсе гэтага слова капацца ў гразі, дык яшчэ час ад часу даводзіцца выслухоўваць непрыемныя словы пра шкоду меліярацыйных работ ад шматлікіх аматараў «натуральнай» прыроды. Бываюць і абразы. Прычым яны з'яўляюцца на старонках друкаваных выданняў, гучаць па радыё і з экранаў тэлевізараў.

— Асабіста я да ўсяго прывык, — сумна гаворыць Рыгор Сямёнавіч. І тут жа дадае: — Не ўсё ў меліярацыі ў пару маёй маладосці было добра, не ўсё рабілася так, як гэта патрабавалася. Але, тым не менш, зроблена ў гэтым напрамку нямала. Паглядзіце на землі нашай Магілёўскай вобласці. Яны сёння дагледжаныя, засеяныя, даюць вялікія ўраджаі сельскагаспадарчых культур. А яшчэ дваццаць, трыццаць гадоў таму велізарныя тэрыторыі былі проста забалочаныя. Меліярацыя дала ім жыццё. Да прыкладу, мы ў ПМК № 79 першымі ў вобласці пачалі будаваць польдэрныя сістэмы, у выніку чаго выйшлі пераможцамі ў рэспубліканскім спаборніцтве. Памятаю, мне нават прыйшлося выступаць на пашыранай калегіі Мінводгаса БССР, у якой браў удзел міністр воднай гаспадаркі СССР, а таксама першы сакратар кампартыі нашай рэспублікі Пётр Міронавіч Машэраў. Гэта было для мяне грандыёзнай жыццёвай падзеяй. У тым сэнсе, што ў маёй асобе ўлады ўбачылі кіраўніка, які вядзе за сабой людзей, сваіх падначаленых. І не толькі вядзе, а дамагаецца істотных вынікаў. Пётр Міронавіч паціснуў мне руку і сказаў цёплыя словы на дарогу: «Ну, малайчына, сынок, давай, далей старайся». Мне тады было ўсяго 27 гадоў...

Такое пачуць прыемна.

## III

Наступіла гарбачоўская перабудова. Набірала сілу славутая галоснасць. Мінулае падвяргалася крытыцы, а цяперашняе прымалася ў штыкі. Усе хацелі перамен, але мала хто ведаў, куды ісці, з кім. Былая шырокая дарога, па якой савецкія людзі дружна крочылі да камунізму, разбівалася на мноства няроўных сцяжынак. Цімафееву трэба было зноў выбіраць свой шлях. А што браць за аснову?..

— Гэта была цяжкая задача, — хмурнее Рыгор Сямёнавіч. — Але я — чалавек каманды. Для мяне галоўнае не палітыка, не цёплае крэсла ва ўтульным кабінеце, а штодзённая праца. Гэта ў вярхах у тыя гады быў разброд у думках і справах, а мы, мясцовыя кіраўнікі, нізавыя звёны, сумленна і мэтанакіравана выконвалі канкрэтныя даручэнні — займаліся меліярацыяй, арашэннем, будаўніцтвам. Адным словам, як гэта ні пафасна гучыць, тварылі. І хацелі тварыць больш і лепш. Да таго ж, як памятаеце, была прынятая і дзейнічала «Харчовая праграма». Людзі яе ўспрымалі з энтузіязмам, бо яна давала магчымасць эфектыўна працаваць не толькі на дзяржаву, але і на сябе. Мы на прадпрыемстве збудавалі цяпліцу, пачалі вырошчваць агуркі, памідоры. Думалі пашыраць сваю падсобную гаспадарку. База была добрая — памяшканні, тэхніка, людзі. Усяго каля 350 чалавек. Але, як гаворыцца, не ўсё тое шчасце, якое табе абяцаюць і за якое ты хапаешся. Савецкі Саюз абрынуўся, і многія перспектыўныя планы засталіся на паперы. Праўда, жыццё на месцы стаяць не хацела і не магло. А жыццё — гэта, у тым ліку, і ўсе мы.

Перамены ў дзяржаве адбіліся і на лёсе Цімафеева. У 1985 годзе яго прызначылі намеснікам старшыні Клічаўскага райвыканкама па будаўніцтве. Нельга сказаць, што гэта была зусім

іншая сфера ў параўнанні з той, якой займаўся Рыгор Сямёнавіч да гэтага прызначэння. Але ўсё ж тут былі свае нюансы і асаблівасці. Як у непасрэднай справе, так і ў падыходах да гэтай справы. Цяпер Рыгор Цімафееў адказваў за працу ўсіх будаўнічых арганізацый раёна. А гэта ўжо іншы ўзровень, дадатковыя магчымасці, канкрэтныя і важкія паўнамоцтвы.

— Маштаб маіх службовых паўнамоцтваў быў даволі шырокі, — прызнаецца Рыгор Сямёнавіч. — Я шчыльна займаўся сельскім і гарадскім будаўніцтвам. Гэта жыллё, сацыяльныя аб'екты, вытворчыя памяшканні. Карацей кажучы, усё тое, што было жыццёва важна і неабходна нашым людзям.

Людзі бачылі ў Цімафееве чалавека, які цвёрда стаіць на зямлі і імкнецца на ёй стварыць тыя ўмовы, якія агучыў малады, у параўнанні са сваімі папярэднікамі, Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў і яго каманда: «Кожнай сям'і — асобную кватэру!» На жаль, не атрымалася. Але расла ўпэўненасць, што гэта неабходнасць, патрэбнасць, нарэшце, абароненасць.

— Беларусы — разумныя, працавітыя і цярплівыя людзі, — цвёрда заяўляе Рыгор Цімафееў. — Прайшоўшы столькі найцяжкіх, крывавых выпрабаванняў, — ваенных, рэвалюцыйных, сацыяльных, — наш народ заслужыў жыць спакойна, шчасліва, заможна.

Выпрабаванні кранулі літаральна ўсе савецкія сем'і. Так, стрыечны дзядзька бацькі Рыгора Сямёнавіча, па мерках таго часу, з'яўляўся кулаком. Гаворачы ж па-іншаму, гэта быў чалавек, які працаваў на зямлі, не пакладаючы рук з ранку да ночы. Меў чацвёра сыноў. Яго і ўсю сям'ю раскулачылі і выслалі ў Магадан.

Маральна былі раздушаны ўсе сваякі. Дзед, яго дзеці, бацька Цімафеева пасля гэтага жылі ў падспудным страху: «А калі і нас сашлюць?..» Барацьба палітычная вылівалася ў эканамічнае супрацьстаянне, а эканоміка пранікала ў кожную асабістую гаспадарку. Асабліва гэта тычылася сельскай мясцовасці. Рыгор Сямёнавіч пра гэта ніколі не забывае.

У 1992 годзе Р. Цімафееву прапанавалі ўзначаліць ДБУ № 16, якое знаходзіцца ў Бабруйску. Спачатку ён не хацеў сыходзіць з райвыканкама, але потым згадзіўся.

— Раздрай, які быў у краіне, а таксама рознагалосіца паміж раённымі партыйнымі і выканаўчымі структурамі мяне нервавала, — кажа Рыгор Сямёнавіч. — З-за гэтага пачала знікаць цікавасць да самой працы, сваіх працоўных абавязкаў.

ДБУ № 16, якое ўваходзіла ў Дарожна-будаўнічы трэст № 3, была адной з самых магутных у Магілёўскай вобласці арганізацый, якая, на жаль, таксама не пазбегла крызісу.

— Углыбіўшыся ў справы прадпрыемства, я ўзяўся за галаву, — прызнаецца Цімафееў. — Неабходна было неадкладна шукаць новыя заказы, каб утрымаць калектыў, не даць яму рассыпацца на дробныя групы, якія б самі шукалі заробкі.

Рыгору Сямёнавічу ўдалося справіцца з амаль невырашальнай у той перыяд задачай — забяспечыць калектыў нармальнай работай. ДБУ № 16 будавала дарогу ў абыход Бабруйска, трасу на Мінск, працавала па многіх іншых стратэгічна важных напрамках. У выніку, прайшло зусім мала часу і ў будупраўленні справы пайшлі ў гару. Работнікі ДБУ № 16 здабылі ўпэўненасць і перспектыву.

## IV

1996 год — новая веха на жыццёвым шляху Р. Цімафеева. Яго прызначаюць кіраўніком, потым дырэктарам, а праз некалькі месяцаў Генеральным дырэктарам адкрытага акцыянернага таварыства «Дарожна-будаўнічы трэст № 3» горада Магілёва дэпартамента «Белаўтадар» Міністэрства транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь.

— Сітуацыя паўтарылася, — успамінае Рыгор Сямёнавіч. — Быццам я зноў апынуўся ў ДБУ № 16. Толькі зараз па развале мая новая гаспадарка знаходзілася ў больш жудасным стане. Вельмі трывожыла цяжкае фінанса-

вае становішча. Што было мне і маім памочнікам рабіць? Зноў давялося ўзяцца за пошук заказаў, любой іншай працы, каб хаця застацца на плаву.

Рыгор Цімафееў мужна і з упартасцю пацягнуў свой воз. Не ў яго правілах здавацца. Да таго ж яго падтрымаў старшыня Камітэта па аўтамабільных дарогах пры Міністэрстве архітэктуры і будаўніцтва Мінін, паабяцаўшы дапамагчы. І дапамог. Як і варта было чакаць, удача калектыву ДБТ № 3 усміхнулася.

— Наш калектыў тады пабудаваў некалькі найважнейшых аб'ектаў, — распавядае Рыгор Сямёнавіч. — Гэта аўтадарогі «Паўночны абход горада Магілёва з мостам праз раку Днепр», «Абход горада Касцюковічы», аўтамабільныя трасы па іншых напрамках. Пачалі актыўна заключаць дамовы на будаўніцтва аб'ектаў у Расіі, Украіне. У прыватнасці, у Плісецку. Браліся за, здавалася б, неўласцівыя нам аб'ёмы работ. І гэта, лічу, правільна. Калі ёсць база, людзі, то трэба ўсё і ўсіх задзейнічаць. У рэшце рэшт, у гэтым і заключаецца галоўная роля любога кіраўніка ў любым калектыве. У гэтым я перакананы, і сваё перакананне, скажу прама, ператвараю ў канкрэтныя, якія прыносяць прыбытак, справы. Сёння мы, напрыклад, займаемся водаправодам і каналізацыяй, усталёўваем супрацьшумавыя экраны ў населеных пунктах, займаемся вытворчасцю тратуарнай пліткі, металаканструкцый, нават будуем лініі электраперадач на сваіх аб'ектах, нарошчваем магутнасці іншых падсобных промыслаў. Галоўнае, каб работы былі выкананы якасна і ў тэрмін. А ў нас з гэтым строга. Узяліся — выконваем. Сумленна выконваем.

Гэта не проста, а часцей за ўсё — вельмі і вельмі цяжка. Але такі ўжо калектыў адкрытага акцыянернага таварыства «Дарожна-будаўнічы трэст № 3» горада Магілёва і яго кіраўнік — Р. Цімафееў.

Нібы здагадаўшыся аб гэтых думках, ён з усмешкай ківае:

— Характар...

Так, характар і яшчэ раз характар вядзе па дарозе лёсу і жыцця Рыгора Сямёнавіча. І ён ідзе туды, дзе патрэбен, дзе яго паважаюць і чакаюць, дзе патрабуюцца яго майстэрства і вопыт, дзе ён і толькі ён зможа ажыццявіць планы, закладзеныя ў праграму развіцця горада, раёна, вобласці, а калі трэба, то і рэспублікі. І гэта не высокія словы, а самая сапраўдная рэчаіснасць. Прасцей кажучы, працоўныя будні, якія ёсць у кожнага кіраўніка. Праўда, не кожны можа цягнуць такі груз, які цягне Рыгор Цімафееў. Сведчанне таму — падзякі, граматы і ўзнагароды, сярод якіх — ордэн Пашаны, уручаны вясной гэтага года Рыгору Сямёнавічу Прэзідэнтам. А гэта і прызнанне, і гонар, і давер Цімафееву як кіраўніку з вялікім вопытам і ўпэўненнасцю ў тым, што яго справа — адна з лепшых і надзейных для развіцця нашай краіны і нашага грамадства.

Тут трэба падкрэсліць, што вельмі многае залежыць ад зладжанасці калектыву, каманды, кіраўнікоў дарожна-будаўнічых упраўленняў. Усе яны — высокапрафесійныя арганізатары дарожнага будаўніцтва, якое актыўна вядзе адкрытае акцыянернае таварыства «Дарожна-будаўнічы трэст № 3» горада Магілёва.

Ісці па сваёй жыццёвай дарозе і будаваць дарогі, пераадольваючы разнастайныя перашкоды, дапамагае Рыгору Сямёнавічу і яго сям'я: жонка — Лідзія Васільеўна, дочкі — Лілія і Наталля. Яны бяруць прыклад з мужа і бацькі, а ён вучыцца ў іх быць дабрэй і памяркоўней да недахопаў і чалавечай недасканаласці, якія маюць месца ў нашым паўсядзённым жыцці і працы.

— Цярпенне і праца ўсё пераадолеюць, — любіць паўтараць Рыгор Цімафееў.

А ён умее трываць і працаваць. У меліярацыі Рыгор Сямёнавіч прапрацаваў 12 гадоў, а ў дарожным будаўніцтве ўжо 24. Цалкам дастаткова, каб быць верным сваім прынцыпам і смела працягваць свой жыццёвы, прафесійны і службовы шлях далей.

16 +

АДРАС РЭДАКЦЫІ
Юрыдычны адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэл.: галоўнага рэдактара — 263-80-12,
намесніка галоўнага рэдактара — 319-79-85,
аддзелаў прозы,
крытыкі і літаратуразнаўства — 224-66-74,
аддзела паэзіі — 263-80-12.
polymya@bk.ru

*Падпісныя індэксы:*

*00471 — індывідуальны льготны*
*для настаўнікаў*

*74985 — індывідуальны*

*749852 — ведамасны*

*00727 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 9 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп’ютарная вёрстка
*С. І. СТАРАВЕРАВА*

Стыльрэдактар
*М. М. ГІЛЕВІЧ*

Падпісана да друку 13.07.2017 г. Фармат $70 \times 108^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,4. Ул.-выд. арк. 14,99. Тыраж 1437 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.

*Часопіс уключаны ў Пералік навуковых выданняў ВАК Рэспублікі Беларусь*
*для друкавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў па філалагічных навуках (літаратуразнаўства)*